**Алесь Бельскі**

# Свет ад травы да зор

## Беларуская паэзія: сістэма вобразаў прыроды, паэтыка пейзажу

*Дапаможнік для настаўнікаў*
*Рэкамендаваны Навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Мінск
«Народная асвета»
1998

УДК 882.6-1.09(072.3)
ББК 83.3(4Беи)я721
Б 44

Рэцэнзенты: кандыдат філалагічных навук М. П. Кенька,
настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 1 г. Мінска
В. В. Ашмян.

Бельскі А. І.

Свет ад травы да зор: Беларуская паэзія: сістэма вобразаў прыроды, паэтыка пейзажу: Дапам. для настаўнікаў.— Мн.: Нар. асвета, 1998.— 223 с.

ISBN 985-03-0922-9.

Беларуская паэзія, акрамя іншага, уяўляе цікавую, змястоўную кнігу Прыроды, арыгінальнае прачытанне якой і прапануецца ў гэтай кнізе. Аўтар раскрывае эстэтыка-філасофскі, духоўны і экалагічны змест пейзажнай лірыкі, паказвае, што пейзаж — актыўны сродак унутранага самавыяўлення і мастацкага светапазнання. Разглядаюцца вобразы прыроды, якія складаюць аснову нацыянальнай паэтычнай свядомасці. Кніга будзе карыснай пры вывучэнні пейзажнай лірыкі ў творчасці нашых класікаў і вядомых сучасных паэтаў, а таксама для правядзення пазакласных мерапрыемстваў: экалагічных гутарак, святаў, прысвечаных порам года, і інш.

Разлічана на настаўнікаў сярэдніх школ і ліцэяў, вучняў старэйшых класаў і студэнтаў, а таксама аматараў паэтычнага слова, усіх тых, хто любіць родную прыроду.

УДК 882.6-1.09(072.3)
ББК 83.3(4Беи)я721
ISBN 985-03-0922-9

# «І СЭРЦУ АБ КРАСЕ ПРЫРОДЫ ГАВАРЫЦЕ!»

Духоўны свет беларуса немагчыма ўявіць без пачуцця роднай прыроды. У гэтым сэнсе пейзажны жывапіс нашых паэтаў з'яўляецца крыніцай эстэтычных адносінаў да свету, асновай для выхавання глыбокай экалагічнай культуры. Старонкі паэзіі, прысвечаныя порам года, лесу, полю, рацэ і іншым вобразам прыроды, багатыя на эмоцыі і фарбы, мудрыя назіранні і філасофскія высновы. Сваімі пейзажнымі малюнкамі і вобразамі беларускае паэтычнае мастацтва будзе прыцягальна-вабным, хвалюючым і запамінальным «чуткаму сэрцу, душы» (Я. Купала).

Хацелася б, каб радкі з паэтычнай кнігі роднай прыроды як мага часцей гучалі на ўроках роднай мовы і літаратуры, на ўроках прыродазнаўства і выяўленчага мастацтва, факультатыўных занятках. Зварот да пейзажнай, натурфіласофскай, а таксама грамадзянска-публіцыстычнай паэзіі, што выступае ў абарону прыроды, будзе вельмі дарэчы падчас экалагічных гутарак, у гуртках аматараў паэзіі і сяброў прыроды, на вечарынах, прысвечаных беларускай паэзіі, вернісажах малюнкаў аб роднай прыродзе. Паэтычныя пейзажы нашых мастакоў слова могуць быць з поспехам выкарыстаны таксама на пазакласных мерапрыемствах тыпу: конкурс чытальнікаў, экскурсіі на прыроднае ўлонне («Там, дзе восень...», «Зіма беларуская», «Я ў тваім, вясна, палоне»), вечарынах («Восеньскі баль», «Здароў, марозны, звонкі вечар!», «Дзень добры, юная вясна!»), святах паэзіі і прыроды («Мой чароўны беларускі край», «Радзіма мая дарагая», «Я за музу ўзяў, прырода, цябе») і інш. Тэксты прыродаапісальных твораў можна падабраць з кнігі «Слова аб роднай прыродзе: Пісьменнікі і паэты Беларусі аб прыродзе» (Склад. С. М. Грабчыкаў. 3-е выд. Мн.: Народная асвета, 1989), а таксама знайсці іх у часопісе «Роднае слова» пад рубрыкай «Паэтычны каляндар прыроды» (1994. № 1 — 12; 1995. № 1 — 12; 1996. № 1 — 5, 7).

Для гаворкі пра беларускія краявіды, нашы родныя вобразы будзе вельмі цікавым і каштоўным позірк паэтаў замежных краін. Запамінальныя вершы пра Беларусь, яе прыроду стварылі Іван Драч, Тамара Каламіец, Стэфан Паптонеў, Андрэй Вазнясенскі, Арві Сіг, Зофія Ільінская і інш. Творы паэтаў замежжа, якія могуць стаць прыўкраснай аздобай літаратурных вечарын, склалі кнігу «Беларусь мяне збеларушвае» (Пераклад з розных моў Р. Барадуліна. Мн.: Мастацкая літаратура, 1993). Паэтычныя пейзажы мастакоў слова замежжа дапамагаюць вастрэй бачыць, адчуваць хараство і адметнасць родных вобразаў.

Частотны паказальнік асноўных пейзажных тэм і вобразаў, які пададзены ў канды кнігі, можа паслужыць яркім фактычным і ілюстрацыйным матэрыялам. Хочацца спадзявацца, што гэты паказальнік-даведнік з'арыентуе і дасць штуршок у распрацоўцы старшакласнікамі і студэнтамі ўласных навуковых тэм, дапаможа ў напісанні сачыненняў. Тут на аснове яго матэрыялу можна прапанаваць шэраг тэм для цікавых даследаванняў: «Тэма лесу ў сучаснай беларускай паэзіі», «Вобраз сонца ў беларускай паэзіі», «Вобраз Нарачы ў беларускай паэзіі», «Вобраз васілька ў беларускай паэзіі», «Вобраз ручая ў беларускай паэзіі», «Вобраз дарогі ў паэзіі беларускай эміграцыі», «К. Буйло як пяснярка кветак», «Анімалістычныя вобразы (вобразы жывёл) у паэзіі М. Танка і П. Панчанкі», «Свет прыроды ў паэзіі В. Зуёнка», «Роля пейзажу ў лірыцы Н. Арсенневай», «Вобраз дрэва ў паэзіі Р. Барадуліна», «Вобраз сасны ў лірыцы Ю. Свіркі», «Вобраз ветру ў паэзіі Я. Юхнаўца», «Філасофія прыроды ў творчасці А. Разанава», «Чарнобыльскі пейзаж у паэзіі М. Мятліцкага», «Свет экзотыкі ў паэзіі Р. Барадуліна», «Вобраз Крыма ў паэзіі У. Караткевіча», «Пейзажы Кітая ў паэзіі М. Танка і Р. Барадуліна», «Вобраз Індыі ў паэзіі А. Лойкі», «Краявіды і каханне ў лірыцы Р. Баравіковай», «Вобраз ракі ў паэзіі Д. БічэльЗагнетавай» і шмат інш.

Гуманітарызацыя і гуманізацыя — прыярытэтны напрамак сучаснай школы. У гэтай сувязі бачыцца неабходным спалучэнне літаратуры і прыродазнаўчых навук, эмацыянальнага і рацыянальнага пачаткаў у працэсе навучання. Л. Тарасаў у арыгінальнай кнізе «Фізіка ў прыродзе» (1988) слушна даводзіць, што «навуковае пазнанне прыроды і яе паэтычнае ўспрыманне ідуць поруч, узаемна ўзбагачаюць адзін аднаго. Веданне... прыродных з'яў дазваляе яшчэ мацней адчуць іх унутраную гармонію і прыгажосць, у сваю чаргу, адчуванне гэтай прыгажосці ёсць дадатковы і прытым магутны стымул...». Беларуская паэзія ў гэтым сэнсе дае багаты і ўдзячны матэрыял для паглыблення эстэтыка-эмацыянальнага адкрыцця і пазнання свету, духоўнага ўзбагачэння асобы.

На занятках па біялогіі, геаграфіі, астраноміі, фізіцы, хіміі (усе гэтыя прадметы звязаны з прыродай) пры вывучэнні многіх тэм зварот да паэтычнай мовы створыць не толькі пэўны настрой, але і дасць імпульс жывой думцы, выкліча асацыятыўныя параўнанні і супастаўленні, больш рэльефна высвеціць сутнасць навуковых паняццяў, з'яў, палажэнняў. Так, пры геаграфічным аглядзе Беларусі, характарыстыцы прыроднага асяроддзя (клімату, рэльефу, расліннага і жывёльнага свету і інш.) дарэчы будзе звярнуцца да пейзажных карцін і малюнкаў прыроды, якія раскрываюць адметнасць

нацыянальнага свету. Тыповы беларускі ландшафт з рэалістычнай дакладнасцю намаляваны Я. Коласам, многімі іншымі беларускімі паэтамі (К. Буйло, Я. Журба, М. Чарот, П. Трус, Л. Геніюш, Р. Барадулін...). Літаральна ўсе прыродныя вобразы і рэаліі ярка апаэтызаваны нашымі мастакамі слова: рэкі і азёры, лясы і курганы... Прыродна-геаграфічная панарама беларускай паэзіі маштабная і ўсёахопная: тут адлюстраваны краявіды і каларыт розных краін ды кантынентаў (вершы М. Танка, К. Кірэенкі, П. Броўкі, А. Пысіна, Р. Барадуліна, В. Лукшы, А. Лойкі, Ю. Свіркі, Г. Пашкова...). «Падарожныя», «країназнаўчыя» творы нашых паэтаў знаёмяць з прыродна-кліматычнымі ўмовамі, вобразам прасторы той ці іншай краіны, асаблівасцямі яе флоры і фауны і інш.

Біялогія, як і паэзія, таксама ўзіраецца ў прыроду. І тут пункты судакранання могуць быць пры вывучэнні расліннага і жывёльнага свету, знаёмстве з праблемамі біясферы. Здаецца, паралелі і аналогіі з паэзіяй прыродазнаўчага, натурфіласофскага зместу просяцца міжволі: вобразы кветак і раслін — увасабленне моцы жыцця, хараства, каларыту радзімы. Цыкл вершаў Д. Бічэль-Загнетавай «Водар і шолах» — яркі і дзівосны свет беларускай флоры.

Ажывіць заняткі па такіх дакладных прадметах, як хімія і фізіка, дапаможа паэзія Г. Булыкі, аўтаркі кніг «Сінтэз» і «Турмалін». Гэтая паэтэса смела і арыгінальна паяднала ў сваёй творчасці паэзію і навуку. Яе «навуковыя», «прадметна-рэчыўныя» вершы — гэта эстэтычнае, філасофска-этычнае адкрыццё і асэнсаванне нежывой прыроды (вершы «Свінец», «Серабро», «Лазурыт», «Мармур», «Бурштын», «Гагат» і інш.). Рэчывы зіхцяць і зачароўваюць гранямі сваёй будовы, дзіўнапрыгожымі ўласцівасцямі і якасцямі. Свет хіміі ў творах паэтэсы — рухомы, жывы, адухоўлены. Яе захапляе тое, як хімічныя і фізічныя якасці прадметаў, нейкія прыродныя з'явы люструюцца ў часе, прасторы, сусвеце.

Не хацелася б, каб нехта падмяняў выкладчыкаў-літаратараў, гэтага рабіць не варта. Але відавочна, што біёлагу ці фізіку трэба імкнуцца быць крышку лірыкам, каб заняткі не ператвараліся ў нудны і сухі маналог. Святло і сонца, туман і вясёлка, рака і зоры, воблака і маланка — усё гэта паэзія прыроды, і прывабіць да яе, захапіць ёю навука з поспехам можа ў саюзе з мастацтвам паэтычнага слова. Выйсці за межы прадмета, правесці міжпрадметную сувязь з пейзажнай і натурфіласофскай паэзіяй — значыць зрабіць спробу павысіць эстэтычны і гуманістычны патэнцыял навучання. Памятайма: разумець мову прыроды, здольнасць бачыць красу, мудрасць светаўладкавання — вялікі духоўны скарб, радасць быцця:

«Ў прыродзе колькі хараства! Куды ні глянь,— усюды чары» (А. Гурло). Таму «сэрцу аб красе прыроды гаварыце» (М. Багдановіч).

## «ПРЫРОДЫ ХРАМ ЖЫВЫ»

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасць мая!
Што мае сэрца да вас парывае?
Чым так прыкованы я

К вам, мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы...
*Якуб Колас. «Родныя вобразы»*

Цікавасць да жыцця прыроды не патухала ў душы чалавека ніколі, і таму наша экалагічная повязь з навакольным светам адвечная ў сваёй духоўнай існасці. Ва ўсе часы прырода была неад'емнай часцінкай мастацкага светабачання, паэтычнай свядомасці нашага народа. Увогуле кажучы, свет родных краявідаў, разнастайны і непаўторны, па-ранейшаму застаецца для паэтаў крыніцай натхнення і радасці, трывог і хваляванняў. Паэзія прыроды — вечная паэзія. Яшчэ Гегель гаварыў, што «ў чалавеку як мыслячым мастаку заключаны цэлы свет зместу, які ён узяў ад прыроды». Ды толькі паэты здольныя стварыць свой мастацка-эстэтычны свет разумення прыроды, у якім кожны з нас адшуквае часцінку і ўласнага «я». «Я» сучаснае — яно ж і як бы «я» гістарычнае. Нібы якраз у сувязі з гэтым даследчык рускай паэзіі Я. Асятроў піша: «Мы дяпер успрымаем прыроду такой, якой яе стварылі вялікія паэты, жывапісцы, музыканты. Яны — сілай мастацкага бачання — пераўтварылі прыроду на свой лад і па падабенстве».

Па кім жа канкрэтна ідзе наша традыцыйна-нацыянальнае ўспрыманне прыроды? Па Купалу, па Коласу, па Багдановічу — так сказаць, хрэстаматыйных творах. Вось як, напрыклад, мы ўспрымаем восень па Купалу: «Толькі сыплюцца лісты На яловыя кусты, На сухія верасы», па Коласу: «Пуста ў лузе. Толькі стогі парыжэўшыя стаяць...» Зіму са школьных гадоў уяўляем такой, як у прыродаапісанні Коласа: «Надышлі марозы, Рэчкі закавалі, Белыя бярозы Шэранем убралі». Непаўторнасць вясновых малюнкаў аднойчы адкрываем па Багдановічу: «Навакол усё паветра ў струнах сонца залатых...» Надоўга западае ў памяць захапленне летам пасля чытання купалаўскага верша

«Лета»: «Лета ты, лета прыгожа-квяцістае, Колькі ты ўносіш аздобы з сабой!» Зрэшты, зіму многія беларусы ўспрымаюць па П. Трусу: «Падаюць сняжынкі — / дыяменты-росы, Падаюць бялюткі За маім акном...», восень — па М. Танку: «Восень вецце сухое зграбла і на ўзлессі Падпаліла пагрэцца начлежны касцёр», вясну — па П. Панчанку: «Вясною на елчыных лапах адроставаюць Светла-зялёныя пальцы...» Несумненна, што гэтая пейзажная лірыка ў цэлым — перадгісторыя ўспрымання беларускай прыроды сучасным чытачом. Пачуццё роднай прыроды немагчыма без аўры нацыянальнай паэзіі, найперш — яе класікі. І таму так важна, каб з дзяцінства, школьных гадоў чалавечая душа была шырока адкрыта ў паэтычны свет хараства.

«Прыгажосць ёсць вышэйшая мерка»,— адзначаў у славутым «Лаакаоне...» Лесінг. Арыентацыя на тонкае эстэтычнае ўспрыманне прыроды, красу пачуццяў, паэтыку пейзажу — важная ўмова спасціжэння сутнасці нацыянальнай паэтычнай свядомасці, узбагачэння эмацыянальна-экалагічных ўражанняў і пачуццяў, фармавання навыкаў прымянення ведаў па тэорыі літаратуры (тропы, рытм, сінтаксіс, інтанацыя, гукапіс і інш.). На сучасным этапе літаратурнага навучання становіцца асабліва відавочным тое, што вучні павінны не толькі засвоіць пэўны аб'ём інфармацыі, але, у першую чаргу, у іх неабходна сфармаваць глыбокі эстэтычны густ, здольнасць спалучаць непасрэдны эмацыянальны водгук з ідэйна-мастацкім аналізам, уменне разглядаць твор праз сістэму вобразна-выяўленчых сродкаў. Пейзажная лірыка складае ў розных праграмах па беларускай літаратуры (школьнай, для паступаючых у ВНУ і інш.) даволі значнае месца, і ўзровень яе ўспрымання і аналізу асабліва красамоўна характарызуе ступень літаратурна-эстэтычнай падрыхтаванасці выпускніка школы ці студэнта. Аднак, як паказвае вогіыт, вельмі часта абітурыенты холадна пераказваюць змест прыродаапісальных вершаў, не могуць цытаваць іх на памяць, не звяртаюць увагу на мастацкую функцыю тропаў. І таму на занятках па літаратуры неабходна падрабязна праводзіць цэласны аналіз пейзажнага твора, выяўляць прыгажосць мастацтва слова і пачуццяў. Пры разглядзе паэтычных пейзажаў асаблівую ўвагу пажадана надаваць колеру, святлу, гуку. Выбар колеру перадае псіхаэмацыянальны стан паэта, з'яўляецца нярэдка алегарычным выяўленнем пэўнага сэнсу, нясе падтэкст. «Святло,— адзначае вядомы рускі літаратуразнаўца В. Кожынаў,— стварае глыбіню паэтычнага свету». Эмацыянальна-вобразны змест пейзажнага верша часам тоіць у сабе глыбокую філасафічнасць. Для сённяшняга навучання паглыблены мастацкі

аналіз паэзіі прыроды — эфектыўны кірунак павышэння эстэтычнага і агульнакультурнага ўзроўню адукацыі.

Але найперш, відаць, трэба засяродзіцца на важных для далейшай гаворкі пытаннях: што такое пейзаж? У чым спецыфіка пейзажнай творчасці? Якую ролю адыгрываюць у беларускай паэзіі вобразы прыроды?

Пейзаж з'яўляецца неад'емнай часцінкай духоўнага свету чалавека, яго быцця. Паэтычнае адлюстраванне прыроды — з'ява духоўна значная, шматстайная. Ствараючы пейзажныя карціны, паэт імкнецца раскрыць маляўнічую непаўторнасць прыроды, суаднесці з ёй свае пачуцці, думкі, перажыванні. Нарадзіць да жыцця паэтычны пейзаж здольна толькі ўражлівая чалавечая душа, пранікліва-яркае вобразнае ўяўленне. Вершатворца жывапісуе прыроду пры дапамозе мастацкіх тропаў. Ягоныя фарбы — гэта эпітэт, параўнанне, метафара, гіпербала, алегорыя, паралелізм, алітэрацыя, асананс і інш. Сродкі мастацкай выразнасці, у сваю чаргу, заснаваны на спалучэнні, падабенстве з'яў, на асацыяцыях і параўнаннях, пачэрпнутых са свету прыроды. Паэт стварае пейзаж, кіруючыся пэўнымі выяўленчымі задачамі. Пейзажная творчасць цесна залежыць ад творчай манеры і стылёвага кірунку аўтара, яго ідэйнаэстэтычных памкненняў і запатрабаванняў. На адлюстраванне прыроды накладвае адбітак час, эпоха, гісторыя. Пейзаж — адзін з галоўных спосабаў эмацыянальна-вобразнага мыслення, актыўны мастацкі сродак пазнання жыцця і свету. Наогул, мастацтва пейзажнага жывапісу — гэта магія фарбаў, музыка слова, паэзія высокага і хвалюючага быцця на зямлі.

Пейзажны жанр у беларускай паэзіі прайшоў доўгі эвалюцыйны шлях, які можна пазначыць так: вобраз — пейзаж — пейзажная тэма. Станаўленне пейзажу ў старажытны перыяд пазначана прыкметнай засяроджанасцю на вобразах прыроды, імкненнем надаць ім эмацыянальна-ідэйную значнасць, сімвалічнасць, сэнсавы падтэкст. Аднак толькі ў XIX ст. Ян Чачот, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Адам Гуры-новіч, Янка Лучына і некаторыя іншыя паэты надалі тэме прыроды эстэтычную самакаштоўнасць, стварылі адметныя, хоць і не заўсёды дасканалыя, узоры пейзажнага жывапісання. З дэкаратыўных прыродаапісальных карцінак пейзаж паступова ператвараўся ў сродак выяўлення ўнутраных пачуццяў чалавека. Статычныя вобразы набывалі адухоўленасць, прыгажосць, рухомасць.

Пачатак XX ст.— час росквіту беларускай лірыкі прыроды, шырокага і шматбаковага раскрыцця нацыянальнага пейзажу, актыўнага і глыбокага развіцця пейзажнага майстэрства. Што прэваліравала ў класічных радках? Сузіранне, спакойная рэфлексія, выяў-

ленне праз пейзаж пераважна патрыятычных пачуццяў, радзей — інтымных перажыванняў. У XX ст. на розных сацыяльна-гістарычных этапах тэма прыроды набывала новае вымярэнне і асэнсаванне. У паэзіі склаліся вядучыя, нават магістральныя пейзажныя тэмы. Прырода стала галоўным духоўна-эстэтычным кодам паэтычнага мастацтва. Пейзажны свет у паэзіі нашых дзён кантрастны, драматычны, поўны элегічных, змрочных фарбаў, выбар якіх, несумненна, прадвызначылі «расколіна паміж чалавекам і прыродай» (А. Блок), трагедыя Чарнобыля. Сучасны паэтычны пейзаж яскрава адлюстроўвае звужэнне адвечных межаў этнапрасторы, сведчыць пра катастрафічнае разбурэнне гарманічнага нацыянальнага светаўладкавання.

У мастацка-эстэтычным змесце ўсёй беларускай паэзіі пейзажныя тэмы, вобразы і матывы (вясна і восень, лес і рака, трава і кветкі, сонца і зоркі і да т. п.) займаюць вельмі прыкметнае месца, яны складаюць аснову нацыянальнай паэтычнай свядомасці. І гэта невыпадкова, бо для паэзіі перадусім характэрна канкрэтнапачуццёвае ўспрыманне свету. Вобразы прыроды ў сістэме мастацкіх сродкаў беларускай паэзіі адыгрываюць важную сэнсавыяўленчую ролю, істотна дапамагаюць у раскрыцці ідэйна-мастацкай задумы аўтара. Пейзажныя вобразы ў іх эвалюцыі выдатна адлюстроўваюць духоўна-гістарычны шлях беларускай паэзіі, яе нацыянальны пафас і змест. Нашы вялікія нацыянальныя паэты, і найперш Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, стварылі цэласны, дэталёвы «партрэт» роднай прыроды — сістэму пейзажных вобразаў і матываў, якую яшчэ можна назваць сістэмай адлюстравання нацыянальнага свету. Усе мікра і макравобразы беларускага пейзажу, па-мастацку адкрытыя і асэнсаваныя паэзіяй, уяўляюць жывапісную кнігу Прыроды, адухоўлены Храм, наш агульны экалагічны Дом. У. Караткевіч выдатна сказаў пра Беларусь, што «гэта край — твой дом і сабор...» («На Беларусі Бог жыве»). Прырода падаравана чалавеку для радасці, асалоды, захаплення, глыбокага самаўдасканалення ўнутранай існасці. Беларуская паэзія дае выдатную магчымасць убачыць навакольны свет як адзінае непадзельнае цэлае, адчуць глыбінную і тонкую повязь чалавека з усёй сістэмай вобразаў прыроды. Свет ад травы да зор — маштабная і багатая па сваёй вобразнай напоўненасці прастора, гэта своеасаблівы «нацыянальны космас» (выраз Г. Гачава), дзе ўсё паяднана ніцямі вечнасці, мае сваю каштоўнасць, жывы голас:

А свет такі: ён — вечны, ён — жывы,
Ён мае голас — ад травы да зорак.

*(Ю. Свірка)*

## «ВОБРАЗЫ МІЛЫЯ РОДНАГА КРАЮ»

Сістэма вобразаў прыроды ў беларускай паэзіі разгалінаваная, надзвычай багатая. Тут мы сустрэнем абсалютна ўсе элементы-складнікі пейзажу: ад мікравобразаў (травінка, колас, кветка, дрэва і інш.), вялікіх прыродных аб'ектаў (лес, поле, луг, рака і інш.) да касмічных вобразаў (сонца, месяц, поўня, зоркі і інш.). Сістэма пейзажных вобразаў не толькі адлюстроўвае матэрыяльна-прадметную існасць свету, а перадусім яна складае аснову нацыянальна-эстэтычнага светапазнання, уяўляе жывую ідэйна-вобразную філасофію мыслення. «Кветка і дрэва, лес, мора і воблакі, сонца, поўня і неба — усё гэта дэталі вечнасці большага ці меншага маштабу. Выхад лірычнага героя ў прыроду ёсць пагэтаму выхад у нейкую «іншасферу», што павялічвае яго маштаб за кошт збліжэння з «матэрыяй вечнасці»,— са з'явамі, імя якіх пішацца з вялікай літары: Прырода, Зямля, Сусвет»,— піша даследчыца рускай паэзіі Т. Сільман. Інакш кажучы, пейзаж, вобразы прыроды, як і свет чалавека, тояць у сабе вялікі, сапраўды касмічны змест, далучаюць да вечных, агульначалавечых каштоўнасцяў. Прырода нібы давярае паэтам дух уласнага самавыяўлення, перадае ім свае гукі, рытмы, сэнсы: «І лес, і поле, і рака — Яны сааўтары паэта ў стварэнні слова і радка» (А. Пысін).

Пейзаж — мадэль нацыянальнага свету, пэўны лад прасторавага мыслення. Т. Шамякіна ў артыкуле «Краявіды і літаратура» (1989) адзначае, што «нацыянальны пейзаж — гэта ў многім вобраз і форма прасторавага існавання. У той жа час прасторавая сетка каардынат праходзіць, як праз прызму, праз сэрца і розум мастака. Мастак і пазнае нацыянальны Космас, і стварае яго». І далей даследчыца трапна вызначае тыповы беларускі погляд на свет: «Калі ў рускай культуры бязмежнасць гарызанталі (адсюль «степь да степь кругом», «полюшко-поле», «птица-тройка» М. Гогаля, вецер, завіруха А. Блока), дык у беларусаў хутчэй скрыжаванне гарызанталі і вертыкалі: поле, сінь азёраў, стужкі рэчак, дарогі і — курганы, дрэвы, лес». Тыповыя выявы беларускага пейзажу далі яшчэ класікі нашай паэзіі:

Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор,
Сваю матку-зямлю Беларусь.
*(Янка Купала)*

Край наш бедны, край наш родны!
Лес, балоты і пясок...
Чуць дзе крыху луг прыгодны...

Хвойнік, мох ды верасок.
Устае прад ім і поле,
І балоты, і курган…
*(Якуб Колас)*

Своеасаблівасць нацыянальнай этнапрасторы яскрава бачыцца ў супастаўленні з пейзажнымі малюнкамі іншых краін. Параўнаем прыведзеныя выявы беларускага прыроднага ўлоння з каўказскім пейзажам А. Чаўчавадзе: «Край дикой прелести таинственной природы, Как непрерывный пот, твои струятся воды — То реки грозные, срываясь с мощных плеч, В долины дальние к полям стремятся течь» («Каўказ»), ці ўкраінскім пейзажам у «Кабзары» Т. Шаўчэнкі, адметным паэтызацыяй вольнага стэпу, шырокага Дняпра-ракі, які «красується, любується На всю Україну. А понад ним зеленіють Широкії села...». Для беларускага краявіду, як бачым, характэрна мяккая зменлівасць ландшафтных малюнкаў, някідкасць, прытульнасць, для грузінскага— велічнасць, стыхійнасць сіл прыроды, для ўкраінскага — стэпавы прастор, шырыня. Зразумела, гэтымі рысамі не вычэрпваецца характарыстыка нацыянальна-тыповых карцін прыроды, бо яна з цягам часу паглыблялася, стала яшчэ больш шматграннай. Каб пераканацца ў сказаным, прывядзём некалькі паэтычных фрагментаў, якія шырока і падрабязна раскрываюць наш пейзажна-вобразны свет:

Бярозкі, бярозкі, ружовыя клёны,
Алешнік ля рэчкі, плакучка-вярба.

І поле ва узгорках, шырокае поле…
*(А. Астрэйка)*

Бярозы, сосны, верасы,
Вятрам і сонцу даспадобы,—
Мае вы сімвалы красы,
Зямліцы роднае аздобы.
*(А. Лойка)*

Дзе па роднай зямлі ні крочыў —
Скрозь — ад Прыпяці да Дзвіны —
Перш за ўсё ласкалі вочы
Жыта, сосны і валуны.
*(Н. Гілевіч)*

Скалелы алешнік,
Як статак аленяў,

Прылёг на заснежаны луг.
Прыселі
Азяблыя птушкі
На крохкі сярэбраны рог —
Звычайны пейзаж беларускі
Ля самых звычайных дарог.
*(А. Пісьмянкоў)*

Прыродна-геаграфічная прастора Беларусі — шматаблічная, неаднародная па сваіх ландшафтных, раслінных, кліматычных прыкметах: «Беларусь, Беларусь... ні канца і ні краю. / ...каля Оршы снягі не растаюць — / зацвітаюць у Брэсце сады» (А. Вялюгін). Разам з тым пейзаж, прырода наогул накладваюць свой адбітак, адметнасць на асобу чалавека. Пра гэта выдатна гаворыць паэт Хведар Чэрня: «Ёсць нешта ў маім характары... Ад шчырасці веснавой. А ў руках маіх — ад важнасці дрэў, Ад лёту дарог і цячэння рэк. Ад раўнамернай, упартай хадзьбы Паўночнага маладзіка. А ў голасе ёсць — ад пошуму траў, Ад буркатання лясных галубоў, Ад рэха маіх беларускіх бароў...». Без усяго гэтага не можа быць беларуса, яго ўнутранага пачуццёвага свету, характару, свядомасці. Уся сістэма мастацка-вобразнага мыслення — лес, поле, рака, вясна, сонца і да т. п.— шматгалосая мова нашай зямлі і беларускай паэзіі. Пачуць, зразумець яе і клічуць нас пейзажныя вобразы.

## «І ПОКІ Ў БЕЛАРУСІ ЁСЦЬ ТРАВА...»

Зямля-маці нараджае і траву, і дрэва, і чалавека. На самых першых старонках Бібліі гаворыцца пра мудры закон жыцця і абнаўлення прыроды: «І нарадзіла зямля зеляніну, траву, якая сее семя па роду яе, і дрэва, што прыносіць плод, у якім семя яго па роду яго». Сапраўды, прарастае ўсё і адраджаецца з семя, насення, зярняці. Вялікі паэт антычнасці Лукрэцый у паэме «Пра прыроду рэчаў» піша: «...Заслуженно носит Матери имя Земля, ибо все из земли породилось».

У далёкія ад нас часы чалавек імкнуўся ўздзейнічаць на прарастанне і рост, на ўрадлівасць зямлі, спраўляў абрады, шаптаў замовы, «магічныя заклінанні, накіраваныя на тое, каб прымусіць лясы пакрыцца зелянінай, траву — прарасці, пасевы — узняцца, кветкі — распусціцца» (Дж. Фрэзер). Зерне, парастак, трава, кветка цягнуцца да сонца, без яго цяпла немагчыма жывое жыццё. Таму зразумела, чаму зямля і сонца набылі ў нашай паэзіі культ глыбокага пакланення.

Самым красамоўным прыкладам тут можа служыць творчасць Я. Купалы і Я. Коласа. Зрок абодвух паэтаў асабліва пяшчотна лашчыць першая зеляніна, трава, яны замілавана, пашаноўна гавораць пра прыбраную вясной і сонцам зямлю:

Сонейкам цёпленькім, зеленню вабнаю
Абдаравала зямельку вясна.

*(Янка Купала)*

Апранула зямля-матка
Кажушок зялёны.

*(Я куб Колас)*

Парастак — жыццятворны пачатак зямнога быцця і хараства. Яшчэ М. Багдановіч выявіў глыбокае, абвостранае чуццё прарастання: «...Чую ў цішы, як расце трава» (верш «Цёплы вечар, ціхі вечар, свежы стог...»). Сучасныя паэты таксама імкнуцца засяроджана, стоена ўслухоўвацца ў ледзь улоўныя змены, жывыя рытмы, пераўвасабленні ў свеце прыроды: «І парастак сваёй зялёнай дзюбай Грудок праб'е, вітаючы вясну» (Р. Крушына), «З глыбокай цемры — прама ўвысь, Блакітную і залатую, Зялёны парастак шыбуе, якой — не ведаю, травы» (А. Салтук). Апісанне тонкіх, мікраскапічных зрухаў парастка, прарастання зерня, насення сведчыць не толькі пра чуйны слых і тонкі зрок паэта, а досыць часта яскрава высвечвае ягонае разумение быційнай тэмы прарастання, з якой ён звязвае нешта сваё, адзінае, патаемнае. Зусім натуральна, што ў парастках травы, руні, дрэва адзін паэт заўважае дзівоснае цудадзейства, другі вычувае магутную сілу жыцця, трэці наталяе веру ў будучыню... А Максіму Танку, напрыклад, прарастанне ўяўляецца неад'емнай часцінкай мудрай зладжанасці свету, нават шырэй — усёй светабудовы. На моцнай, трывалай повязі калыскі і зярняці, голуба і чарапахі трымаецца зямная будучыня, і, мусіць, сама экалагічная непарушнасць свету змадэлявана паэтам як натурфіласофскае адзінства жывога жыцця і прыроды:

І пакуль песня будзе гучаць,
Калыска будзе калыхацца,
Зерне — прарастаць,
Голуб — віць гняздо над страхой,
Чарапаха — ісці Млечным Шляхам,
Сланы — пераступаць з нагі на нагу,—
Зямля будзе век
Зелянець, зелянець, зелянець...

*(«Касмалогія»)*

Гэтая паэтычная канцэпцыя з'яўляецца ўзорам прыгожай казачнай міфатворчасці і ўспрымаецца як настальгія па гармоніі ў свеце. Пры канцы XX ст. асабліва відавочна, што экалагічныя асновы і сувязі на нашай зямлі разбураны. Паслухаем «Маналог зямлі на схіле двухтысячагоддзя»: «Я нямая, стэарынавая, Я забітая хімі/ катамі, Я асушаная, паралізаваная... Нада мной цішыня магільная...» (Р. Барадулін). Чалавек атруціў хіміяй і радыяцыяй зерне, экалагічная смерць вісіць над калыскай немаўляці і матчынай песняй: «І матчына малако святое У сабе нешта тоіць не тое» (Р. Барадулін). Генетычны код прыроды моцна парушаецца, нішчыцца, бо нават «малое зерне месціць цэлы свет» (Я. Сіпакоў). Беларуская паэзія, выяўляючы трагедыйную сутнасць нашага стагоддзя, як ніколі востра адчувае, што свет роднай зямлі і свет чалавечы маюць адзіны корань быцця. У маленькім зярнятку, кволым парастку закладзена неўміручая сутнасць прыроды, бессмяроцце цэлага народа.

У адчуванні паэтам Міколам Мятліцкім жыццятворнай, адраджальнай сілы зярняці чуецца сялянская, нават язычніцкая ўзрушанасць: векавечныя зямныя сокі, сагрэтыя сонечным цяплом, пераліваюцца ў новае, маладое, каб рунець і красавацца (верш «Голас страчанага зярняці»). Паэт разумее прарастанне як адвечнае тварэнне жыцця. Балюча ўсведамляць, што ў забруджанай радыяцыяй глебе зерне не здольна ўзнавіць глыбінна-прыроднае. «Я — страчанае зерне. Хто мне спатолю верне?!» — усхвалявана гучыць голас паэта, радзіма якога пасля выбуху ў Чарнобылі апынулася ў зоне адчужэння, а палеская прырода, зямля, кожны камячок якой дбайна змочаны потам селяніна, пазбавіліся першароднай чысціні, сваёй жывой існасці. Захаваць Маці-зямлю, зберагчы кожную маленькую і, зразумела, унікальную часцінку жыцця — значыць уратаваць свой народ і чалавечую цывілізацыю, нашу будучыню. Пра гэта і гаворыць паэт, які розумам і сэрцам выпакутаваў сваё разумение вечных каштоўнасцяў у ядзерны век: «Шаптанне мёртвых траў і пошум труннай хвоі... Ты кут мой адабраў — Пакінь Зямлю жывою!» (верш «1986 год»). У сэрцах многіх сучасных паэтаў з'явілася трагічнае паслячарнобыльскае адчуванне прыродна-гістарычнага быцця: «Каменнымі кроплямі сэрца дробіць Зерне, якое — не зерне!» (А. Лойка), «І паміраць будуць тыя, Хто сёння не нарадзіўся» (В. Зуёнак)... Матывы смутку, безвыходнага адчаю, смерці поўняць сённяшнюю паэзію Р. Барадуліна (вершы «Лямант», «Канец» і інш.).

Як бачым, сучасны свет зразуметы беларускімі паэтам! як непаўторная складанасць, дзе прарастанне — адвечны пачатак усяго жывога. А боль, трывога пра хворую зямлю і жыццё якраз і

становяцца ўсхваляванай выявай душы беларуса ў век Чарнобыля, эпоху агульначалавечай праблемы выжывання.

Філасофскія роздумы-развагі пра сэнс чалавечага быцця таксама цесна звязаны з матывам прарастання. Гэта і зразумела, бо кожны з нас прарастае на гэты свет кветкаю, рунню, парасткам дрэва: «Мы, ахвяруючы моўчкі сабою, Падаем, каб прарасці збажынной» (П. Макаль), «Прарастаю... Як травінка праз камень: Без сонца да сонца» (В. Зуёнак) і інш. У радках верша Анатоля Сербантовіча «Клён» чуецца смутак аб непазбежнасці патухання, завядання жыцця. Роздум пра нявечнасць існавання пачынаецца з адчування ўнутранай паяднанасці з прыродным светам. Гэта і дапамагае паэту выразна ўявіць маральна-духоўны сэнс свайго адраджэння ў прыродзе. Клён для яго — Дрэва жыцця, якое лучыць чалавека з космасам, вечнасцю: «І хоць я парастак садзіў, А ён любога перагоніць. І ўбачу: неба праламіў І ў сіні звон вяршыняй звоніць».

У бясконцым прарастанні — кругаварот жыцця. Часцінкай вечнага абнаўлення адчувае сябе герой Алеся Разанава ў вершы «Атава». Паэт раскрывае сутнасць быцця, вельмі арганічна суадносячы прыроднае і чалавечае:

Спяшайся расці, трава,
спяшайся, адна палова імгнення, злучыцца
з другой паловай,—
каб праўдзіўся некалі цуд, каб паспелі
ўсе нарадзіцца і не паспела смерць анікога
скасіць касой.

У гэтых радках А. Разанаў, трансфармуючы з'яву прарастання ў філасофскі план светапазнання, прыходзіць да высновы, што рост травы, як і кругабег часу,— гэта інтэнсіўны рух быцця, які знітоўвае ў сабе нараджэнне і смерць. Разанаўскі верш «Трава» таксама ўспрымаецца алегарычна і сімвалічна. Тут вобраз прыроды сэнсава-асацыятыўна перагукваецца з вобразам народа. Трава нагадвае нашу трагедыйную гісторыю, яна — сімвал жыццёвай трывучасці і моцы:

Траву мнуць, топчуць, дратуюць, але трывалая, як само жыццё, трава неўзабаве распростваецца, вяргаецца, паўтараецца, выратоўваючы гэтай сваёй непераможнай дбайнасцю і нястрымным стараннем жыццё ад аварыі і заняпаду.

Увогуле, паэт адчувае найвялікшую асалоду «проста быць — разам з травой» (верш «Разам з травой»).

Трава для паэзіі з часоў «Слова аб палку Ігаравым» — жывая, трапяткая мова зямлі. Прырода ў гэтым творы нібы адухоўленая

істота, якая адчувае беды і пакуты людскія. Згадваецца гэты вобраз у вядомай кнізе «Лісце травы» паэта канца XIX ст. У. Уітмена. Звычайная трава ўвогуле набыла незвычайную ўласцівасць — стала «з чалавечых вуснаў» расці. У сучасных паэтычных замалёўках трава вельмі часта аздабляе воблік краявідаў, аднак яна больш, чым пейзажны вобраз. Можна, праўда, прыгадаць, што менавіта яркасць, дзівоснасць лугавога альбо ляснога покрыва неаднойчы выклікала да тонкага жывапісання фарбамі (пейзажныя палотны мастакоў У. Кудрэвіча, В. Цвіркі) ці паэтычным словам (згадаем тут хаця б творы Я. Купалы ды Я. Коласа). Вясною зялёная апратка абнаўляе свет, а значыць, змяняецца і настраёвасць чалавечага светаўспрымання: «Зрок дражніць яркасць першых траў...» (Н. Гілевіч). Лагодна-ласкавая афарбоўка прыдае ландшафту непаўторнае аблічча, пасля зімовай спустошанасці ён успрымаецца як запоўненая, утульная прастора: «Зялёнаю коўдраю травы Накрылі прасторы зямлі» (А. Астрэйка), «Струпы зямлі закрыла мурава / зялёнай посцілкай мураўкі» (Д. Бічэль-Загнетава), «трыста траў цвітуць вясною» (А. Пысін).

Глыбокім алегарычным зместам напоўнены вобраз травы ў паэме Васіля Зуёнка «Маўчанне травы». Паэт бачыць у травяным покрыве роднай зямлі канец і пачатак чалавечага лёсу і ў той жа час надзяляе траву магутнай жыццёвай сілай у нястрымнай плыні гісторыі, атаясамлівае яе з лёсам народа. Трава — як бы ўвасабленне пакутаў, трывог, надзей чалавека і пакаленняў людзей, увогуле цэлай эпохі:

Нёс і ты свой лес — травы маўчанне,
Што да сонца праз мяцельны сум
З-пад снягоў ірвалася з адчаем,
Каб ізноў патрапіць пад касу.

У Леаніда Галубовіча таксама сустракаем антыномію «каса — трава». Чалавечае «мы» пераклікаецца з лёсам травы, якая прарастае без прадчування таго, што будзе скошана. Адсюль і паэтава трывога за свет жыцця і будучыню. Бо над кожным чалавекам вісіць небяспека смерці, якая сыходзіць ад самога грамадства: «Сталь касы занесена над нашай галавою». Аднак паэт верыць у трывучасць чалавека і народа. Гэты яго аптымізм мацуе ахвярны, але неадольны рух травы: «І ўсё ж расце яна — не год, не два — Вякі расце і літасці не просіць» (верш «Вось-вось жывая ўзнімецца трава...»).

Нярэдка паэты гавораць пра траву як вечнасць, адчуваюць з ёй «адзінства святое»: «...Калі мяне болей не стане, То зраблюся зялёнай травой Па-над рэчкай, на ціхай паляне» (Н. Гальпяровіч).

Трава ў наш век адчужэння ад прыроды да таго ж і лечыць, засцерагае ад нервовых хваробаў, здымае цяжар эмацыянальна-псіхалагічных нагрузак. Мусіць, таму ў пейзажна-прадметным свеце трава бачыцца паэтамі як асаблівы вобраз. Калі для сучаснага рускага паэта С. Вікулава вада, зямля і паветра — тры галоўныя і актыўныя пачаткі свету, то ў беларускага паэта Пегруся Макаля нароўні з імі, у адным ландужку стаіць трава — вялікая духоўна-эстэтычная каштоўнасць, гаючы ратунак пасля стомы і стрэсаў: «Ці ж многа так прашу? Пакіньце мне Зямлю, ваду, паветра і траву» (верш «Ёсць словы...»). У вогуле сённяшняя паэзія надзвычай устурбавана рэагуе на тое, што ў гарадскім асяроддзі «зямлю... утаймоўваюць жалезам, асфальтам, каменнем» (Р. Барадулін). Трава супрацьстаіць штучнаму жыццю, свету, закаванаму ў бетон, яна нябачнымі ніцямі лучыць чалавека з духам зямлі, прыроды, улівае ў яго духоўны мацунак. П. Макаль, які не адно дзесяцігоддзе ў нашай паэзіі абагаўляе і бароніць траву, па-ранейшаму поўны веры, што «Свае адстаяць правы У акіяне шэрым Зялёныя астравы» («У спрэчды, варожай па топу...»).

Травы і кветкі, як мы пераконваемся, невыпадкова сілкуюць сучасную паэзію лірычнымі эмоцыямі, яны — вобразы духоўна значныя, здольныя выяўляць розныя погляды, думкі, настроі. Раслінны свет, акрамя ўсяго, увасабляе нацыянальна адметны каларыт радзімы. У беларускай паэтычнай свядомасці васілёк — сімвал Беларусі, яе самабытнасці. Паэт беларускага замежжа Янка Золак бачыць у васільку ўвасабленне вечнай красы Радзімы:

Буду сніць я Радзімы палеткі
і рачулку, дзе йскрыцца жарства,
васілёчкі, любімыя кветкі,
сымбаль вечнай Красы-Хараства.

«У космас лесу, гарода, саду...» чуйна ўзіраецца паэт Рыгор Барадулін. У ягоным вершы «Дзятлінка» кветка становіцца алегорыяй гістарычнага лёсу краю. «Дзятлінка снежнарутая» — духоўная моц, чысціня Беларусі і яе народа. Паэт да болю ўлюбёны ў родныя краявіды, у самай малой іх выяве ён здольны ўбачыць самавітасць і веліч бацькоўскай зямлі:

Дзятлінка снежнарутая,
Як сляза па Радзіме,
чыстая...
Таксама і Беларусь мая
На ўзмежку цвіла
і выстаяла.

Яшчэ некалі ў паэтычнай свядомасці Я. Купалы кветка стала сімвалам духоўнага ўваскрашэння, пошуку шчасця. Травы-кветкі зноў вярнуліся ў паэзію адраджэнскімі знакамі-сімваламі: «Травінак дзідкі колюць хлуд сухі... З травінак першых я раблю выснову, Што ажывае зноў наш родны кут...» (А. Мінкін).

Зрэшты, паэтычныя выявы беларускай флоры — гэта і прадаўжэнне вобразаў-матываў раслін у мастацка-культурнай традыцыі чалавецтва. Бо яшчэ герой старажытнага шумерскага «Эпасу пра Гільгамеша» пачаў пошук квітнеючага Дрэва жыцця. «Клічу кветкі я...» — прызнаецца сучасны паэт Алег Лойка. «Сэнс высокі» быцця для яго ўвасабляе колас: «Не марнай пустальгой-былінкай Сысці пад пылаву павець,— З табой у полі, хоць хвілінку, Упоравень пашалясцець» (верш «Высокі колас — сэнс высокі...»). Беларускі космас А. Лойка ўяўляе як царства кветак: «Родны край, які ты рамонкавы, Які васільковы ты!..» У паэтавай душы жыве культ траў і кветак радзімы: «І покі ў Беларусі Ёсць трава, Усе выпрабаванні Мне стрываць!..» (верш «Трава»).

Вобразам раслін асабліва прыкметнае месца належыць у паэзіі Дануты Бічэль-Загнетавай, якая, бадай, упершыню так шматгранна і ярка апаэтызавала свет беларускай флоры. У сваёй «Споведзі» паэтэса піша, што «любіць збіраць ягады... ў лесе, згубіўшыся ў гаркавым водары прывялых зёлак і волкіх імхоў, у багунніку і верасе». Цыкл яе прыродаапісальных вершаў «Водар і шолах» — своеасаблівы паэтычны фітадызайн. Назвы траў і кветак у вершах Д. Бічэль-Загнетавай мясцова-каларытныя: парушэнец, купальнік, любісцік, цвінтарэй, бальсан... Багацце разнатраўя ўражвае, сапраўды адчуваецца, што ў паэтэсы прыроджаны дар знаўцы прыроды, «прыроджаная вера ў травы Радзімы». Яна, як і спрадвеку нашы продкі, верыць у магічна-чароўную, жывільную сілу зёлак: тыя ацаляюць цела і душу, умацоўваюць жыццёвы тонус. Усмактаўшы глыбінную моц зямлі, травы і кветкі здольны тварыць цуды. Таму паэтэса просіць іх дапамагчы «адмаладзець душой... Аднаравіць здранцвелых нерваў кветкі» (верш «Купальнік»). «Ва мне ратуйце пяшчоту, кветкі!» — усклікае паэтэса, адчуваючы патрэбу ў засцярозе свайго душэўнага імунітэту.

Д. Бічэль-Загнетава з замілаванасцю ўспрымае хараство кожнай кветкі і зёлкі, знаходзячы ў флоры роднай зямлі і нешта большае, акрамя вабнасці і лекавых уласцівасцяў,— увасабленне духоўнай трывучасці, пачуцця Бацькаўшчыны, гуманістычнай філасофіі быцця. Верас, напрыклад, «вымярзаў і гарэў, / але вырас і пахне...», ён міжволі асацыіруецца з лёсам Радзімы, сімвалізуе яе неўвядальнасць (верш «Верас»). У лірыцы паэтэсы, кажучы словамі з яе верша,

«зрокавая мова ў пейзажа»: родныя вобразы яна выпісвае маляўніча-яркa, з незвычайнасцю зрокавых асацыяцый, параўнанняў: «На сонечным сцябле / расце зямля, / ружовая, / што кветка барадульніка» («Барадульнік»). Лірычная гераіня Д. Бічэль-Загнетавай адчувае сябе жывой часцінкай вялікага прыроднага сімбіёзу, яна ўдыхае і чуе іх «водар і шолах», бачыць тонкія колеравыя выявы. «Колькі зялёных адценняў у сярэдзіне лета: / ад ліповага лісця да ліповага цвета»,— адухоўлена-хвалююча выпявае яна сваё захапленне прыродай (верш «Зялёная песня»).

На «мове кветак» паэты гавораць пра многае: і пра каханне, параўноўваючы каханую з кветкамі: «У Вашым голасе квітнеюць астры, І кожнай кветцы Бог сказаў: квітней» (Л. Дранько-Майсюк), і пра радасць быцця: «О, несмяротнасці і аднаўлення сведкі, Як добра вашым водарам упіцца!» (С. Дзяргай), і пра перыпетыі зямнога лёсу: «Пасівелі жоўтыя багаткі... Ды не лёс ім быў цвісці на полі, Іх глынула вогнішча пажару» (А. Брусевіч).

Сёння беларуская паэзія па-іншаму ўспрымае раслінны свет: драматызм прадвызначае збядненне пейзажу, сваю мету накладвае Чарнобыль. Пейзажныя вобразы раслін нібы чуйныя індыкатары, якія вымяраюць усю жахлівую сутнасць сучаснай экалагічнай трагедыі. У вершы «Сармацкае кадзіла» Пімен Панчанка з душэўнай скрухай кажа пра тое, як непазнавальна змяніўся зялёны свет:

Дзе ты, кураслеп лясны?
Дзе ворлік?
Дзе мядзведжая цыбуля — чарамша?
Ходзіш, ходзіш —
І пяршыць у горле...
Плач, асірацелая душа.

Кветкі і травы паўстаюць як сімвалы бяды бацькаўшчыны, яны навяваюць смутак, іх «панюхаць боязна» (Р. Барадулін). А хіба можа быць інакш, калі раскашуецца «Чорны Палын на сядзібе» (М. Шэлехаў)? У М. Мятліцкага «жоўты колер» лотаці ўвасабляе гора, скруху, а некалі гаючы палескі аер таксама стаў «напамінкам бяды» (вершы «Лотаць», «Аер»). Паэт маладзейшага пакалення Ігар Пракаповіч у вершы «Сейбіт» малюе гнятлівую карціну забітай, мёртвай бацькаўшчыны: «...Бяскрайняе дзікае поле, Дзе горкі палын і чарнобыль-трава». Аднак менавіта кветка мацуе жыццёвую веру паэта: «Беларусь, мой колер сіні... Спіць валошка на мяжы... І ніколі не загіне Цвет яе ў маёй душы» (верш «Беларусь, мой колер сіні...»). Палын-трава — адзін з самых трагедыйных вобразаў-сімвалаў сучаснай

паэзіі. Ён набывае гіпербалізаваную выяву: «Планета Палын» (К. Мяшкова).

## «КАМЯНІ — ЦІХАЙ ВЕЧНАСЦІ ЖОРНЫ...»

Людзі здаўна пакланяліся камяням, шанавалі іх. Гісторыя і лёс гэтых пасланцоў мінулых вякоў вельмі заўважна прыцягнулі паэтычную ўвагу. Творы беларускіх паэтаў увабралі ў сябе цікавыя народныя паданні і легенды, раскрываюць перад чытачом вобраз каменя ў шматлікасці станаў, сэнсаў і параўнанняў.

Камяні — сама старажытнасць: «А яны тут ляжаць, здаецца, Ад самога стварэння свету» (П. Марціновіч. «Валуны»). Сучаснага чалавека неаднойчы цікавіла тое, адкуль узяліся на зямлі вялікія валуны: «Ляжаць у лузе валуны... Адкуль яны? І хто яны?..» (Л. Дайнека), «Ты адкуль, заімшэлы валун?..» (Г. Каржанеўская), «Хто іх клікаў сюды здалёку? Для чаго, для якое мэты?» (П. Марціновіч).

Паэтаў, як правіла, захапляе веліч і моц камянёў, яны імкнуцца вызнаць іх сутнасць і спазнаць іх мінулае. У казачным святле падае гісторыю каменя Казімір Камейша. Ён жыва і вобразна малюе тое, як ледавік пеша ішоў па зямлі, стаміўся і пасля адпачынку забыў камень-чаравік. Ледавік паўстае як гігант-асілак:

І не лёг, а прысеў
На пушчанскай
вузенькай паласе.
Расшчапіў на шыі
каменны аплік,
Зняў каменнай рукою
валун-чаравік.
І забыў пра яго,
не вяртаўся назад —
Было цяжару
і так зашмат.

*(«Камень ля вёскі Камень»)*

Сапраўды, камяні на Беларусі пакінулі ледавікі. Ёсць сярод іх і касмічныя прышэльцы. Як там ні было, але яны зараз неад'емныя вобразы нацыянальнага пейзажу. Паэтычнае вока пільна ўзіраецца ў «твары» камянёў, бачыць у іх сімвалы вечнасці. У камені нібы спрасаваны эпохі і скандэнсаваны касмічны час. Такое адчуванне выяўляецца ў радках Міколы Мятліцкага: «Ды чую ўсё ж: дыханне завірух

Застыла ў ім касмічнай шырыні» («Валун халодны — выстыла душа...»).

Камяні — спадарожнікі на пуцявінах жыцця. Таму невыпадкова ў адным з твораў Максіма Танка яны, як госці, «загрукалі ў парог», збудзілі ўспаміны (верш «Камяні»). У вершы «Безыменны ў полі камень...» паэт успрымае палявы камень як сімвал народнай моцы, помнік ахвярным бітвам за родны край.

Васіль Зуёнак гаворыць пра лёс камянёў на нашай зямлі, даводзіць, што гэтыя «дзеці жвірыстых выдмаў» зрасліся з доляй беларуса і ў працы, і ў духоўным быцці. На камянях трымаюцца падмуркі хат, яны — цярплівыя і магутныя:

Кунакі вы Эльбрусу,
Хоць з паўночнае пашы,—
Вы душой — беларусы,
Вы з характарам нашым.
*(«Валуны»)*

У нашай паэзіі можна вылучыць яшчэ некалькі характэрных трактовак вобраза каменя. Камень — сведка гісторыі, «памяці схоў», увасабленне мудрасці вякоў: «Маўчыць айчынны прыдарожны камень,— / зацяты, ў грунт заглыблены мудрэц» (М. Дукса. «Валун»). Ужо стала тыповай з'явай, што ў вершаваных творах гаворка пра камяні звязана з канкрэтнымі падзеямі мінулага, пэўнымі асобамі нашай гісторыі (вершы «Маўчыць каменне» Ю. Голуба, «Камень Багушэвіча» М. Духсы і інш.). Валун нярэдка паўстае як маўклівы, нямы, халодны і бяздушны: «Якім жа трэба быць бяздушным I бессардэчным,— каб маўчаць» (А. Бачыла. «Маўчыш, халодны шэры камень...»), «Маўклівы і чорны ад сажы, Валун паміж вёсен і зім Ніколі, відаць, і не скажа, Чый боль пахаваны пад ім» (В. Гардзей. «Валун»), Але найбольш распаўсюджаная канцэпцыя іншая, а менавіта тая, якая мае міфалагічна-фальклорную першакрыніцу: камень — жывая істота, ён расце, здольны гаварыць, пакутаваць і нават хадзіць: «Кажаце, ка мень Немы вякамі,— Палены, біты, Стогне і камень!» (А. Лойка. «Як стогне камень»), «На радзімай зямлі Камяні размаўляюць» (Л. Дайнека. «Камяні, камяні...»). Канцэпцыя адухаўлення і адушаўлення карэніцца ў старажытным анімізме і фетышызме, паводле якіх камень успрымаўся жывым, абагаўляўся ці прыпадабняўся да чалавека. У вершы Уладзіміра Някляева «Каменьжальнік» паэтызуецца магічная, чарадзейная сіла каменя. Тут выяўляецца дух народнага светасузірання, язычніцтва з яго пакланеннем камяням:

Не ступі — згарыш! —
На каменны крыж.

Калі ж смелы: кліч!
Пад сырой зямлёй
Залатой змяёй
Звіўся Вечны Зніч.

Як не ўпадзе кліч
З рота жабаю,
Выйдзе Вечны Зніч
З камень-жальніка.

Пабяжыць, гарун,
Да Старых Барун,—
Дзе згубіў Пярун
Залаты бізун...

Зрэшты, на нашай зямлі культ каменя захаваўся да сённяшняга дня. На гэты конт вядомы вучоны Э. Ляўкоў піша: «У Беларусі мы ведаем 11 камянёў, якім і да нашых дзён прыносяць ахвяру. Гэта, як правіла, ежа з сялянскага стала: хлеб, кавалачкі сала, а таксама ягады, грыбы. Часта на гэтыя камяні кладуць кветкі і грошы. Лічыцца грахом што-небудзь забіраць з гэтага каменя. У яго просяць выратавання ад бяды, хваробы. Такія валуны знаходзяцца на Любаншчыне, Лагойшчыне, пад Капылём і Слуцкам...».

Камень вянчае зямны шлях, ён — мерка пражытым дням. У такім кантэксце па-філасофску асэнсоўвае вобраз каменя Галіна Булыка:

Як да пагорка дарасце зямля,
Мой камень,
На раллю не ўстань варожа.
Будзь каменем,
што вызначае шлях,
На праўнукавым цяжкім раздарожжы.

Асабліва шматбакова вобраз каменя раскрыты ў паэме Алеся Емяльянава «Камяні» (1982) і даволі аб'ёмным вершы Васіля Макарэвіча з гэткай жа самай назвай (твор «Камяні» ўвайшоў у кнігу паэта «Везувій», 1993). А. Емяльянаў разважае пра тое, што камяні — нашы двайнікі:

І ў кожнага —
свой характар.
Адны толькі маўчаць задята
Ці пасміхаюцца
Смехам шурпатым.

Другія смяюцца
І нават плачуць.
Двайнікі вы нашы,
Няйначай...
А можа, мы —
вашы?..

В. Макарэвіч таксама кажа пра нашу жывую сувязь з камянямі: «Камяні, як з блізкае радні...» Абодва паэты згадваюць камяні гісторыі, асэнсоўваюць «каменны лёс», неадлучны ад чалавечага быцця.

Камень — «нешта болей значнае», ён бачыцца нашай паэзіі жывым персанажам гісторыі, часу, жыцця.

## «ДАРОГА — ЦІКАВАЯ КНІГА...»

Ад хаты дарога вядзе ў поле, лес, да ракі, у шырокі свет. Яна нібы паядноўвае беларускую сістэму вобразаў прыроды ў адзінае цэлае:

І бягуць — бягуць малюнкі
Поля, лесу і лугоў,
І ляжаць, бы тыя стрункі,
Зелень-засевы шнуроў.

*(Якуб Колас)*

Пейзажная тэма дарогі — адна з самых вялікіх у беларускай паэзіі, ёй прысвечана больш за 140 твораў. З дарогай найперш звязаны матыў руху і вандраванняў чалавека: «А яна ўсё вядзе і вядзе І ўсё некага кліча і кліча» (В. Зуёнак. «Дарога»).

Якуб Колас — адзін з самых захопленых песняроў беларускіх дарог. Вобраз дарогі ў яго лірыцы і эпасе з'яўляецца дамінантным, ідэйна-значным. Гімн родным дарогам гучыць у паэме «Новая зямля»:

Дарогі, вечныя дарогіі
Знаць, вам спрадвеку самі богі,
Калі красёнцы жыцця ткалі,
І вашы лёсы вызначалі,
Няма канца вам, ні супыну;
Вы жывы кожную часіну,
То задуменны, смутна строгі,
Як след захованай трывогі,
То поўны чараў спадзявання,
То страхаў цёмнага знікання,
Калі душа свой лёс прачуе,
І ноч нябыту зацянюе...

У лірыцы паэта пачатку XX ст. дарога намалявана элегічнымі фарбамі: яна — вузкая, крывая, нагадвае змяю, спавітая смугой, і пры гэтым суадносіцца з цяжкай доляй беларускага народа (два вершы з аднолькавай назвай «Дарога», «У дарозе», «Глухая дарога» і інш.). Наўзбоч яе як сімвал пакутаў, цярністага шляху паўстаюць крыжы: «Крыж на перасеках Аб пакуце кажа» («Дарога»), «На пагорку ў чыстым полі Крыж стаіць убогі...» («На крыжовых дарогах»). Дарога прыводзіць да ростані, раздарожжа, спараджае тут роздум, трывогу, думкі пра іншы шлях. Дарога валодае над чалавекам неадольнай сілай, таму ён імкнецца «ў даль невядомую», не спыняе хады. Гэты пейзажны вобраз уплывае на псіхіку і настрой душы, якая прагне радасці, шчасця. Дарога становіцца ўвасабленнем духоўных шуканняў і выбару Сымона-музыкі, сімвалам ягонай лучнасці з мінулым і будучыняй. Яна пасяляе ў душы коласаўскага героя адчуванне прастору, свабоды («вялікі свет бясконца»), кліча да неспазнанага, у сусвет і, урэшце, вяртае назад, дамоў.

Шырокае кола ўражанняў і асацыяцый звязана з дарогай у паэзіі Максіма Танка. Гэты прыродны вобраз сэнсава значны сімвал, сапраўды першавобраз мастацкага мыслення паэта (у яго паэзіі на тэму дарогі намі налічана 20 вершаў). М. Танк прызнаецца: «Дарога была маёй песняй...» Дарогі паэта праходзяць праз гісторыю, лёс, памяць, адсюль і па-філасофску афарыстычнае вызначэнне гэтага вобраза: «Дарога Шэрая бясконцая нітка З вузламі памяці» (верш «Дарога...»). Дарога пралягае праз жыта, вядзе з сенажаці, адорвае радасцю быцця, знітоўвае з роднай Нараччу. Паэтаў лірычны герой — гэта падарожнік, які выходзіць на гасцінцы і бальшакі, вандруе на вялікім свеце, далёкіх мацерыках, але ніколі не пакідае думаць пра роднае, беларускае, бо любіць прыроду, краявіды ўсёй душой, узнёсла і пранікнёна:

І зноў я ў да розе... Нібыта яшчэ раз
Я пераканацца хачу, як мне дораг
Пакінуты край, дзе зацепліўся верас
У засемі наднарачанскага бору.

Нібыта яшчэ раз вачамі сваімі
Здалёк мне праверыць і ўпэўніцца трэба
Ў красе непаўторнай прастораў радзімы,
Ў блакіце майго беларускага неба.

У сучаснай паэзіі даволі пашырана трактоўка дарогі як руху часу, памяці пра мінулае: «Дарогі, на вас запісаны Гулкія крокі стагоддзяў. Дарогі маўклівыя паскі, Вы — зямлі фанатэка» (Я.

Сіпакоў. «Гукі дарог»). Даро га нібы захавальніца пройдзенага і пражытага чалавекам. Разам з тым нешта на ёй губляецца і сціраецца. Кнігай быцця паўстае дарога ў Алеся Разанава:

> Дарога — палімпсест, тора чалавечай гісторыі: што на ёй выдрукоўваюць адны, сціраюць, выдрукоўваючы сваё, другія.
>
> Але так пішацца жыццяпіс чалавецтва, і нават калі дарога зарастае драсёнам, дрыжнікам ці падарожнікам — першым сведчаннем пра чалавецтва ўсё роўна застаецца яна, дарога,— самы вялікі супольны чалавечы твор.

Дарога ў іншым творы паэта скіроўвае людзей на біблейскі страшны суд (верш «Лясная дарога»). Гэта зусім невыпадкова. Дарога вядзе ў вечнасць, да Бога, Богам яна і дадзеная. Таму вельмі важна, якім будзе шлях кожнага з нас на гэтай зямлі.

## «ПОЛЕ МАЕ СТАРАЖЫТНАЕ...»

Беларускае поле не бяскрайняе, як стэп, за ім — выява лесу. У «Слуцкіх ткачыхах» М. Багдановіча ў гэтым сэнсе намаляваны яркі нацыянальны пейзаж: «смяецца поле», «блішча збожжа ў яснай далі», якую аздабляе вырыс бору: «Цямнее край зубчаты бору...» Поле нярэдка паўстае побліз чалавечага жытла: «За домам — жыта, жыта» (М. Рудкоўскі). Для беларуса з даўняга часу поле і ніва сталі светам земляробчых клопатаў, крыніцай дабрабыту, першаасновай духоўнага быцця.

У Янкі Купалы поле — Божы дар, прадмет шанавання і любові:

Поле маё поле!
Ты мне дарам Божым;
Люблю цябе шчыра,
Абсеяна збожжам.

Люблю тваіх межаў
Стужак рад зялёны,
Роўныя баразны
Шырокіх загонаў.

*(«Поле»)*

Роднае поле ў Купалы выступае як сімвал вялікай сілы, трывучасці, хоць на ім бывае няўрод, льюцца слёзы, «людзі мучаюцца»

(верш «Поле роднае»). У свядомасці паэта вобраз поля неадлучны ад працы, народнага жыцця.

Моцна ўлюбёны ў вясновае поле Якуб Колас. Верш «На полі вясною» палоніць высокай паэтызацыяй краявіду, тут сялянскае поле — «зялёнае мора буйных каласоў», вобраз незвычайнай красы. Твор мае тонкую стылёва-кампазіцыйную арганізацыю: у ім паўтараюцца першая і заключная страфа, вар'іруюцца асобныя радКі, ужыта лексічная анафара (паўтор слова «люблю»). Усё гэта добра перадае ўсхваляванасць, інтымную пранікнёнасць аўтарскага пачуцця. У эмацыянальна-эстэтычным плане не менш уражвае і верш «На полі». Пейзаж, створаны паэтам, прадметна-малюнкавы, рухомы, прасвечаны глыбокім лірычным пачуццём:

Па краях палёў шырокіх
Цёмны лес сінее.
Колькі ў полі адзінокіх
Грушак зелянее!
Шэпчуць нівы ў полі згодна,
Гнуцца каласамі.
Ой ты, поле! Гай ты родны!
Толькі ж я не з вамі.

У іншых вершах пра поле з вуснаў паэта чуюцца горкія нараканні: «Поле убогае, поле пясчанае! Кепска ты плаціш за працу людзям...» («Роднае поле»). Карціну занядбанага поля Я. Колас намаляваў у вершы «Поле» (1917). Створана яна пад уражаннем ваенных падзей. Вайна заўсёды несла полю запусценне, яно зарастала дзікім зеллем і палыном.

Поле — пейзаж, які яднае ў сабе шматстайнасць вобразаў. Яно, нібы жывы дом, умяшчальня гукаў, водараў, птушыных галасоў, стыхій. Беларуская паэзія бачыць поле як цэлы сусвет:

Поле — не толькі зямля,
Гэта і неба, і ветрык,
І васілёк, што здаля
Свеціць душою прыветнай.
Гэта і жаўранка спеў —
Першынца хмаркі вясёлай...
*(В. Зуёнак)*

Тут з пахам палавеючага жыта
вітаецца суніц духмяны пах,
а лёгкі шэпт калоссяў — з басавітым
чмялём, што ўсімі кветкамі прапах.
*(В. Ярац)*

З полем цесна звязаны вобраз жыта: «Іду полем зялёным, а жыта наўкол Тут хвалюецца» (Я. Журба. «На полі»). Жытнёвае поле — цэлая тэма ў нашай паэзіі. Поле і жыта зрадніліся, і таму ўспрымаюцца паэтамі як крэўная непадзельнасць. Вобразы поля і жыта — адны з самых галоўных у паэзіі Петруся Макаля:

«Поле мае старажытнае — Доля мая жытняя!» Красамоўную назву мае зборнік паэта «Поле» (1978). Тут жытнёвае поле становіцца алегорыяй чалавечага жыцця, знакам памяці і бессмяротнасці. Гэты пейзажны вобраз лучыцца паэтам з небам і космасам:

Ці не аб поле, скажыце,
Дзе калыхаецца ў жыце
Дзіва надзённага хлеба,
Абапіраецца неба?

*(«Доля мая жытняя»)*

Жыта выступае ў беларускай паэзіі як «часоў былых і новых сувязь» (А. Пысін), яно сімвалізуе мірны пачатак на зямлі, вечнасць, моц чалавека і жыцця. Паэты, можна сказаць, спавядаюць культ жыта: «Стаю ля жыта, Малюся жыту…» (П. Панчанка. «Ля жыта»), Паэт Мікола Арочка ў паэме «Матчына жыта» перакананы, што «На свеце, мусіць, / добра ўсё было б, / каб людзі болей думалі / пра жыта!».

Жытнёвая ніва часам паэтызуецца як жывая істота, якая спявае і гамоніць, адорвае глыбінёй адчування роднага свету: «І ў маіх грудзях шапоча жыта Аб нечым светлым, родным і святым» (С. Законнікаў. «Вечная радня»).

Сёння паміж чалавекам і полем, гэтай асновай асноў быцця, слабеюць і рвуцца сувязі. Рэч у тым, што беларус адарваўся ад зямлі, страціў адчуванне гаспадара, у многім пазбавіўся традыцыйна-паэтычнага стаўлення да навакольнай прыроды. З гэтае прычыны паэзія хвалюецца, што могуць высахнуць крыніцы сапраўднай духоўнай культуры пачуццяў:

Мо я апошні з роду,
Хто знаў той працы смак,
Утомы асалоду,
Хто чуў душой, як рунь,
У рост ідзе наўкола,
Як з росамі зару
П'е за сядзібай колас?..

*(К. Цвірка)*

Страта піетэту да раллі, поля, жыта — гэта вялікая драма земляробчага народа. Няма нічога больш крыўднага як тое, што чалавек на сваёй зямлі адчувае сябе чужым і непрыкаяным. Таму матыў

вяртання да поля гучыць у Алеся Жамойціна як матыў адраджэння гаспадара, любові да працы і зямлі: «Аддзячыць поле табе, аддзячыць, Ракою звонкай сваіх зярнят; Яму вось тольКі б адчуць і ўбачыць, Што ты не знекуль, а з гэтых хат» («Аддзячыць поле табе...»). Дакрануцца да паэтычнага свету роднага поля прырода і беларускія паэты клічуць з дзяцінства, з самых ранніх эмацыянальных крокаў па жыцці:

Поле — не поле без нас.
І перапёлкаю ў жыце Кліча:
— У першы свой клас,—
Дзеці, у поле бяжыце!

*(В. Зуёнак)*

## «БЕЛАРУСЬ СТАІЦЬ НА КУРГАНАХ»

Мы прызвычаіліся, што Беларусь называюць краем лясоў і балот, рэк і азёраў. Аднак некалі яшчэ паэт П. Трус, акрамя іншага, сказаў пра нашу зямлю і так: «Край легенд, крыжоў, магіл-курганаў...» («Дзесяты падмурак»). Не можа не ўразіць той факт, што на Беларусі больш за 6 тысяч курганоў. А таму вобраз кургана істотна вызначае прыродна-ландшафтны воблік нашага краю, з'яўляецца значным аб'ектам нацыянальнай светабудовы. Сучасны паэт В. Шніп несумненна мае рацыю, калі сцвярджае, што «Беларусь стаіць на курганах».

У народнай свядомасці за курганамі з даўніх часоў замацаваўся культ глыбокага шанавання. Лічыцца, што яны — старажытныя пахаванні. Яшчэ курганы называюць валатоўкамі. Адным з першых у беларускай паэзіі да вобраза кургана звярнуўся Янка Купала, які ў вершы «Курганы» (1909) і паэме «Курган» (1910) апаэтызаваў гэты пейзажны аб'ект у сімваліка-рамантычным плане. Курган намаляваны паэтам як з'ява, поўная таямнічасці, першароднай веліч ы:

Як на белі плесні-плямы,
Як зрубы-звяны,
Сярод выдмаў, сярод ямаў
Дрэмлюць курганы.

*(«Курганы»)*

Курган — надзвычайная рэалія прыродна-нацыянальнага свету, ён знітаваны з стыхіямі неба і космасу — ветрам, хмарамі, громам, сонцам і зоркамі. «Удзірванелы курган векавечны» для Я. Купалы — «памятка дзён», «памяць людская, паказ», інакш кажучы, легенда і гісторыя роднай зямлі. Курганныя могільнікі — сімвалы гераічнага духу і моцы народа. Паэт даводзіць, што «курганы шмат чаго нам

гавораць» («Курган»). Пра што ж могуць паведаміць нам гэтыя сведкі мінулага?

Пахавальныя ўзвышшы, як правіла, сталі прыстанкам людзей незвычайнага лёсу, якія сышлі ў магілу, адстойваючы смелыя, высакародныя погляды і ідэі. У Купалавым «Кургане» пад высокім насыпам апынуўся таленавіты гусляр, які не прадаў сваю душу і песню за грошы. Яго прывід раз на год выходзіць з кургана і «ўсё нешта пяе, што жывым не паняць». Курганы — гэта і помнікі трагічнаму каханню. Любоўныя легенды ажываюць у вершаваным апавяданні Старога Уласа «Курган», вершы К. Буйло «Курган» і некаторых іншых творах.

Аднак найбольш шырокае і тыповае ідэйна-сэнсавае тлумачэнне разглядаемага вобраза наступнае. Курганы — магілы воінаў, волатаў, «што леглі калісьці за нашу зямлю». Вось як уяўляе гэтых заступнікаў роднай старонкі паэт Пятрусь Броўка:

З іх кожны здаецца магутным, высозным,
З такімі мячамі, што хмар не дастаюць...
Сягоння ж дубы векавыя і сосны
Аб подзвігах даўніх размовы вядуць.

*(«Валатоўкі»)*

Валатоўкі сведчаць пра сілу беларускага краю, свабодалюбства і непераможнасць яго народа. П. Броўка заканчвае свой верш на ўздымна-сцвярджальнай ноце: «Ніколі такую зямлю не палоняць, Што гэткіх асілкаў магла ўзгадаваць!» Да валатовак у беларусаў асаблівае стаўленне. У гэтай сувязі прыгадваецца мясціна з даследавання Л. Дучыц «Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў»: «Асаблівая цікавасць да слова валатоўкі была ў 20-я гады XX ст. Тады нават узнікла так званая волата-крыўская тэорыя, згодна якой беларусы бяруць свой пачатак ад легендарных волатаў, атаясамліваемых з велетамі Пталамея». Аднак сёння склаўся даволі трывалы стэрэатып, што беларусы — ціхмяныя, памяркоўныя, сарамяжлівыя па характары людзі. Шматлікія курганы на беларускай зямлі гавораць пра іншае: нашы продкі — гордыя, непакорныя змагары за волю і незалежнасць, самаахвярныя героі, поўныя чалавечай годнасці і нязломнасці. У многіх творах курганныя сховішчы якраз і апяваюцца як «помнікі змагання» (Л. Дайнека), з вуснаў паэтаў гучыць услаўленне змагарнай славы, мужнасці і адвагі. У «Курганнай баладзе» Міхася Рудкоўскага ўваскрасае сівая мінуўшчына:

Усе тут —
бацькі і сыны,
У небе —

і коп'і і трубы.
На ворага рушаць яны,
Яны, воі — Князевы зубры.

Па-мастацку адметна і важка прагучаў верш Пімена Панчанкі «Курганы», напісаны ў 1943 г. Суровы ваенны час вымагаў ад паэта героіка-патрыятычнага слова, і яно ў згаданым творы выявілася з глыбокай духоўнавобразнай напоўненасцю. Паэтычны зварот да старажытных кургапоў абумовіў адпаведнае эмацыянальнае і стылёвае гучанне верша: ён, хоць і мае рыфму, заўважна нагадвае вобразна-інтанацыйны лад «Слова аб палку Ігаравым», тут створана гэткая ж хвалюючая лірыка-драматычная карціна. Пейзажныя вобразы становяцца прадвеснікамі крывавай, але пачэснай бітвы:

Заўтра раніцай сонца узыдзе крывавае,
Праплывуць над акопамі журавы.
Калі ляжам і мы ў курганы, дык са славаю,
Вось за гэты бяскрайні прастор баравы.

Курганы за дротам на чужой старане клічуць заступіцца за па-таптаную славу роднай зямлі, абараніць яе ад ворагаў: «...На нашчад-каў сваіх, на пазіцыі нашыя З-пад шаломаў зялёных глядзяць курга-ны».

У беларускай паэзіі другой паловы XX ст. шмат выказана пачуццяў да курганоў як магілаў салдатаў мінулай вайны. Паэты з болем гавораць пра чалавечыя страты, звяртаюцца да памяці загінуўшых з пашанай і ўдзячнасцю, жадаюць пачуць «словы праўды неўміручай» (С. Шушкевіч. «Не маўчыце, курганы-магілы!»). З кургана-мі звязаны матыў бессмяротнасці воінскага подзвігу, велічы і непераможнасці народнага духу: «Воінскай справы і славы Нельга закрэсліць вякам» (А. Бялевіч. «У курганах гарбатых»), «Хай вораг кранецца, Зачэпіць хоць ценем сваім,— Зямля ўздрыгнецца І вогнен-най стане пад ім» (А. Пысін. «Курганы»). Вянок санетаў Анатоля Сер-бантовіча «Курганы» — твор элегічны, прасякнуты балючай памяццю пра равеснікаў, што не вярнуліся з вайны. Курганы нібы звіняць у званы жалобы, тугі, смутку:

Над курганамі птушкі ладзяць спеў,
Над курганамі голле дужых дрэў
Гайдаецца, нібыта б'е ў звон.
Яны звіняць і летам і зімой,
Звіняць трывогай векапомных дзён —
У курганоў ёсць нешта ад званоў.

Курганы насыпаны людзьмі як знакі славы і дружбы (вершы «Курганы славы» П. Броўкі, «Ля кургана Дружбы» П. Панчанкі, «Кур-

ганы» В. Гардзея і інш.). Яны цесна прылучаны да народнага лесу, мінулага і будучыні. Курганы — самыя святыя месцы на нашай зямлі. Таму паэты трывожацца пра іх спакой і непару шнасць: «Знаўцы скарбаў сівой даўніны, Таямніды вякоў адкрывайце. Толькі гэтыя курганы Не чапайце, нрашу, не чапайце» (А. Грачанікаў). І нам трэба памятаць пра гэта, бо курган — маўзалей маці-зямлі, памяць, гонар і боль Беларусь

## «ПЛЫВІ, ПЛЫВІ, ПРАЗРЫСТАЯ РАКА!..»

З вобразам ракі паэты заўсёды звязвалі хуткацечны бег часу, імклівы рух жыцця, глыбіню і чысціню духоўных памкненняў чалавека. Плынь магутных рэк і невялікіх рачулак неаднойчы жывіла паэтычную думку, скіроўвала да быційна-філасофскіх роздумаў-развагаў. Менавіта такой ракой для А. Куляшова стала Беседзь, для У. Караткевіча — Дняпро, для А. Астрэйкі, Л. Геніюш, Д. Бічэль-Загнетавай — Неман, для П. Броўкі — Ушачка, для Я. Янішчыц — Ясельда... Напэўна, няма ў беларускай літаратуры паэта, які б не апеў родную раку.

Рэкі таксама характарызуюць беларускае ўлонне-абшар. Яны нібы артэрыі нашай зямлі, яе крываносная сістэма. Ужо ў назвах рэк і азёр паэтам чуецца чароўная і самавітая музыка:

Чароўныя рэчкі!
Іх назвы
звіняць і шумяць у вушах:
І Проня, і Гайна, і Ольса,
І Бобр, і Уса, і Уша.
*(П. Панчанка)*

Услухайцееяя, назавіце
вады імёны — словы чараў:
Усвечча, Іслач, Свіслач, Свіцязь
ды Вяча, Нача, Нарач, Шчара.
*(А. Русецкі)*

Рэкі Неман, Прыпяць, Дзвіна, Дняпро, Вілія, Сож — цэнтральныя вобразы беларускай пейзажнай прасторы. Яны больш за ўсё апаэтызаваныя ў вершаваным мастацтве, ім належыць у мастацкай свядомасці галоўная роля. Неман з пачатку XX ст. стаў у паэзіі вобразам выключным, дамінантным. Сучасны беларускі літаратуразнаўца А. Бяляцкі ў кнізе «Літаратура і нацыя» (1991) слушна адзначае, што «Нёман» у творах адраджэнцаў быў сэрцам, сымболем Беларусі».

Якуб Колас, напрыклад, у вершы «Нёман» гаворыць пра гэтую раку як вызначальны аб'ект беларускага краю, услаўляе яе красу і сілу, чысціню і свабоду:

Льецца Нёман паміж гораў, Поўны сілы і красы, У далёкія прасторы Гоніць воду праз лясы.

Перарэзаў край ты родны Беларуса-мужыка... О, наш чысты, наш свабодны Нёман, быстрая рака!

Нёман-рака ў беларускай паэзіі — прадмет высокай паэтызацыі, гімнаграфічнага ўслаўлення: «О Нёман, і слава, і песня Народа майго і зямлі!» (А. Астрэйка. «Неману»). Вось няпоўны пералік эпітэтаў, якімі вызначаецца сутнасць гэтага вобраза: родны, чысты, бурлівы, славуты, шырокі, чароўны, магутны, свабодны, непакорны... «О Нёман! Песня майго сэрца...» — гэтымі радкамі Адама Русака з верша «Мой Нёман» можна выказаць агульны нацыянальна-патрыятычны пафас лірыкі пра галоўную раку нашай Радзімы. Трэба сказаць, што Нёман і іншыя беларускія рэкі ў цяжкія хвіліны гісторыі заступалі шляхі ворагу, станавіліся для чужынцаў магілаю: «Магілаю ворагу цеснай Не раз твае хвалі былі» (А. Астрэйка), «А вораг находзіў,— бязлітасна білі, Трываць не хацелі абразы і слёз, І разам з Бярозаю катаў тапілі Пціч, Друць, Сож» (П. Броўка).

Вельмі інтымныя, любоўныя адносіны да Немана ў Дануты Бічэль-Загнетавай:

Нёман, Нёман, адзіны каханы,
абальеш прахалодаю раны
і схаваеш ад горкіх нягод...

*(«Санет да Немана»)*

Нёман нагадвае паэтэсе магутнага, прыгожага хлопца, і таму невыпадкова ён «прытокі-дзяўчат абнімае». Родная рака для Д. Бічэль-Загнетавай — люстэрка душы, святыня, сімвал ачышчэння.

Зрэшты, погляд на раку праз прызму кахання стаў ужо даволі характэрным. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у XIX ст. упершыню вобразна-ўзнёсла намаляваў сустрэчу дзвюх рэк як спатканне каханых:

Бяжыць да Дняпра, у абдымкі каханка,
Пакорна сяброўка — яго паланянка.
Адвечна каханне іх рушыць, яднае,
Хоць Прыпяць у хвалях дняпроўскіх канае.

*(Пераклад М. Хведаровіча)*

Уладзімір Караткевіч у вершы «І тады закахалася хмара...» паэтызуе нараджэнне рэк як «плод кахання» неба і беларускіх абшараў:

І пад птушак зялёны гоман
Нарадзіліся для абшараў,—

Плод кахання бору і хмары,—
Мой Дняпро, і Бяроза, і Неман.

Для гэтага твора ўласціва біблейская інтанацыйнастылёвая манера выказвання.

«А плынь з глыбінь...» (А. Бачыла). Сама мацізямля жывіць плынь ракі. Пра яе вытокі — крыніцы, ручаі, лясы, лугі — беларуская паэзія гаворыць як пра пачаткі плыні, руху, жыцця: «З бароў, з дуброў, З крыніц, лугоў, Дзе трыснягі, Дзе асака — Цячэ рака, Цячэ рака...» (П. Броўка. «Рака»), «Крынічанька?! Вось ён, ракі выток — Пачатак плыні і яе аснова!» (М. Рудкоўскі. «Ля вытоку»). Рака цесна ўзаемазвязана з іншымі прыроднымі аб'ектамі. У вершы «Лясы і рэкі» Пімен Панчанка слушна разважае пра глыбокую ўзаемаабумоўленасць экалагічных сувязяў у прыродзе: «Паціху ў нас лясы высякаюць, Таму і рэчкі перасыхаюць».

У апошнія дзесяцігоддзі, на жаль, не так і шмат слоў любасці, захаплення гаворыцца пра нашы рэкі ды азёры. Болей стала хвалявання, трывогі за саму плынь, якая нясе забруджаныя воды ціператвараецца ў брсоню, губляе сілу ў абмялелых рэчышчах ці праз асупганыя поймы па роўных каналах змяняе накірунак руху: «...Ужо не рэчкі ў лозах ніцых,— Тур'я і Лоша — ручаі» (А. Астрэйка), «Плывеш, рака, змялелая ў высокіх берагах. І жалю дадаеш» (Я. Янішчыц), «Убірае ў душу сваю родная Гаўя / несвядома, як маці, з Чарнобыля пыл» (Д. Бічэль-Загнетава)... «О колькі пахавалі і крыніц, і рэк...» — жахаецца М. Танк, уяўляючы маштаб экалагічнай драмы (верш «Сем раз адмер...»).

Максім Танк успрымае абязводжванне і занядбанне ракі як невыносна балючае пахаванне. Гэты журботны абрад спраўляюць «буслы, і жураўлі, і чаплі, і плакальшчыцы-кнігаўкі»:

Божа, і хто б падумаў,
Што мы яе пеpажывём!
Столькі было ў ёй жывучасці,
Гаючасці,
Гарэзлівасці весняй!

Некалькімі заключнымі радкамі ў вершы «На пахаванне ракі» паэт раскрывае ўсю жахлівую сутнасць бяздумнага, карыслівага гаспадарання: для кагосьці ганебны здзек, злачынства перад прыродай стала звычайнай справай, за якую нават выплачваюць шчодрае матэрыяльнае заахвочванне.

Рэкі — наша памяць і гісторыя. Такі погляд выказвае Рыгор Барадулін у вершы «Рэкі маёй зямлі»: «У вірах затаіўшы жаль, Напамінаюць забыўлівым рэкі, Што па іх ляжаў Шлях «з вараг у грэкі».

Паэт поўны ўдзячнасці рэкам за іх еднасць са сваім народам і роднай зямлёй. Аднак раптоўна ў вершы ўзнікае абвостраная трывога за лёс нашых рэк. Паэт гнеўна асуджае дзеянні тых, хто скіроўвае бяспамятную, безадказную «звілінудумку» на тое, каб «рэкі ўсе ўбачыць канавамі, выцягнутымі ў струну». Р. Барадулін знаходзіць дакладнае, з'едліва-сатырычнае вызначэнне сутнасці ворагаў прыроды: «Заклятыя місіянеры-меліяратары», «Апосталы меліярацыі».

Боль-перажыванне за раку нашага мінулага напаўняе радкі верша Ірыны Багдановіч «Няміга». Няміга — унікальная прыродна-гістарычная каштоўнасць беларусаў: тут на пачатку 1067 г. пралілася людская кроў у бітве паміж войскамі вялікага князя кіеўскага Ізяслава і мужнымі воямі полацкага князя Усяслава. Неўміручае «Слова аб палку Ігаравым» данесла да нас звесткі пра тыя часы: «Нямізы крывавыя брэзі...» Аднак Нямігу-раку ў зусім недалёкія ад нас гады закавалі ў жалезабетонны пандыр, і яна сёння «нябачная новым вякам». Зняволенне Нямігі, трэба сказаць, выклікала матывы беззваротнай страты, абмялення нашай душы і памяці ў творах многіх паэтаў: П. Макаля, С. Грахоўскага, А. Русецкага, У. Някляева, М. Мятліцкага і інш. І. Багдановіч таксама са шкадобай, горыччу ўсведамляе, што беларусы пазбавіліся часцінкі сваёй гісторыі. Рака ўжо, на жаль, не зможа хвалюючым плёскатам хваль расказаць пра тое, хто мы такія, адкуль ідзём і што нясём у будучыню. Паэтэса звяртаецца да ракі як да жанчыны-нявольніцы, што пакутуе ў каменных мурах:

Князёўна, гарэза, малая
Блакітная стужка зямлі,
Цябе, трапяткая, жывая,
За што затачылі, звялі?
Нашто? Каб не помніў нашчадак,
Адкуль ён і род наш адкуль?
Няміга, ты Памяць, Пачатак,
Прамацерка нашых матуль.

Дык як жа так сталася, што бязлітасна руйнаваўся адвечны нацыянальны космас, а народ маўчаў, не бараніў свае святыні ды каштоўнасці? У чалавеку, грамадстве патухла пачуццё роднай зямлі, прыроды, атрафіравалася нацыянальная і грамадзянская свядомасць. Сапраўды, наша грамадства ператварылася ў застаялую ваду, што «заснула ў твані чорнай нематы» (А. Бачыла). Таму так і атрымалася, што ў наш час чалавек вымушаны расплачвацца за свае грахі суровым пакараннем прыроды. Беларуская паэзія, праўда, не маўчала ніколі. Але хто і калі, скажыце, прыслухоўваўся да ўсхваляванага гол

асу паэтаў? Яшчэ ў канцы 60-х гадоў Ніл Гілевіч у вершы «Раўняюць хлопцы рэчку» прароча даводзіў, што, выпроставаючы рэкі і тым самым разбураючы традыцыйнае светаўладкаванне, мы становімся ахвярамі маральнай і эстэтычнай глухаты, і наш уласны свет робіцца ў нечым істотным прамалінейна-бездухоўным, недаравальна збедненым. «Хай будуць душы розныя, як нашы рэчкі родныя...» — так засцерагаў паэт ад дэгуманізацыі, бяздушнага тэхнакратычнага прагматызму. Паэзія і далей беспамылкова адчувала, як у грамадстве адбываецца аддаленне ад жыццёва неабходных сацыяльна-экалагічнага і маральна-экалагічнага ідэалаў. Яе і сёння перапаўняюць матывы балючай сумленнасці і трывогі: «А ўсё ж вінаваты і я: Суладдзе ў прыродзе парушана. Паменшала птушак сям'я. І рыба бяздумыа патручана. Няма чым віну апраўдаць...» (Ю. Свірка), «Рэкі — у іх бруд і пыл змываўся,— Павысушаны, павыпрастаны, павыаіты. Як ацішэць, абымшэць, адтаць?» (Р. Барадулін) і інш. Паэзія працягвае верыць у тое, што здольна выратаваць свет: «Паэты! Помніце пра рэкі, пакуль яны яшчэ цякуць...» (У. Верамейчык. «Паэтам»).

## «ЛЕС МОЙ, БРАТ МОЙ...»

Жыццё беларуса заўсёды было цесна звязана з лесам. «Лес выхаваў характар беларуса,— піша У. Караткевіч,— наш лес і чалавек — родныя, і таму беларус любіць яго». Гэтак жа, як і рускія, беларусы з поўным правам могуць сказаць пра сябе, што яны «выраслі ў лесе» (Л. Ляонаў). Нашы паэты стварылі сапраўдную паэтычную кнігу лесу, якая налічвае звыш 250 пейзажных карцін, замалёвак, твораў лірыка-грамадзянскага і экалагічнага гучання. І такая цікавасць да «лясной» тэмы невыпадковая, бо лес — адвечны, вузлавы архетып нацыянальнага мыслення. Пра нашу глыбіннагенетычную еднасць з «зялёным братам», яго вялікую духоўную значнасць у паэтычнай свядомасці добра гаворыць Р. Барадулін: «Лес — калыска нашае паэзіі, нашага замілаванага погляду на ўсё зялёнае, на ўсё жывое. Нават асацыятыўна-аддалена рыфмуецца: лес — беларус. Супадаюць тры важкія гукі».

М. Гусоўскі — першы беларускі паэт лесу, які адкрываў родную пушчанскую прыроду як царства першароднасці, свет музыкі і красы, як найвялікшую духоўную і матэрыяльную каштоўнасць:

Шум у вяршынях, і шолах, і шоргат, і гэты ўладарны
Голас крыві неўтаймоўнай — сімфонія пушчы.
Скарбы свае нашы людзі на золата нават

Не прамяняюць. Здаўна іх жыццё навучыла:
Нашы лясы — гэта нашых даброт і багацця
Невычарпальны калодзеж...

*(«Песня пра зубра»)*

М. Гусоўскі паэтызуе гонкія сосны, водарныя пахі, але асабліва ён захапляецца магутным лясным асілкам зубрам. Зубр і пушча становяцца эмблематычнымі сімваламі беларускага краю, своеасаблівай візітоўкай для знаёмства з яго прыродай, а таксама характарам, жыццём народа. Для М. Гусоўскага пушча — прытулак і эліксір душы. Вядомы еўрапейскі паэт Ф. Пятрарка казаў, што лясы — сябры, шчырыя аднадумцы. Таму зразумела, чаму ў эпоху Адраджэння загучалі матывы ў абарону прыроды як скарба душы, быў высока ўзняты культ разумных, гарманічных адносінаў паміж чалавекам і прыродай.

Наогул, лес у беларусаў мае некалькі аблíччаў, выступае, так бы мовіць, у чатырох асноўных іпастасях: пушча, бор, гай, дуброва. З гэтых пейзажных вобразаў асабліва шырокае паэтычнае адлюстраванне знайшлі бор і пушча. Творы пра змешаны лес, грабавы лес зафіксаваныя намі адзінкавыя (М. Арочка, К. Камейша).

Пра бор пранікліва і чуйна гаворыць Алесь Разанаў: «Бор — збор, сабор самых адборных / дрэў, абрзвіятура, якая да ўсіх мае дачыненне», «...бор — апора людскому здароўю і дабрабыту», «Бор трывалы, і ўбор бору ў любую пару аднолькавы» (верш «Бор»). Гэта асацыятыўна-філасофскае раскрыццё сутнасці пейзажнага вобраза, сэнсава-семантычнага зместу слова.

«Кожны мае свой бор...» — сцвярджаў Аркадзь Куляшоў у вершы «Мае сэрца ў бары». Сюды, у блізкі сэрцу кут, паэт прыйшоў у пасляваенныя гады, «каб набрацца... сілы для новых дарог». Яркія паэтычныя замалёўкі бору належаць Петрусю Броўку (вершы «Бор» і «Трубі, мой бор...»). Мастак слова ўзнёсла паэтызуе «вешчуна таемнага», складае яму оду. У творы «Трубі, мой бор...» прыцягвае музычнасць радка, яго рытмічная пружыністасць, трапнасць вобразных параўнанняў:

Ты — мой сапраўдны дом.
Бо ты, вячысты,
Як той гарністы,
Усіх завеш на свой парог.
Трубі, мой бор,
Трубі, іглісты,
Трубі, трубі ў ласіны рог.

Першародна-загадкавай і таямнічай найчасцей паўстае ў беларускай паэзіі пушча. Гэтае лясное ўлонне ў вершы Р. Барадуліна «Пушча...» якраз і намалявана як свет казкі, пракаветнай даўніны:

Пушча —
Недашаптаная казка,
Дзе сняцца борцям мядзведжыя сны,
Дзе хочуць рэха ўцвяліць лесуны,
А ў восені воўк наняцца падпаскам.

Найбольшае месца ў паэтычным адлюстраванні займае вобраз Белавежскай пушчы (больш чым 10 твораў). А самым «пушчанскім» паэтам, відаць, трэба назваць Казіміра Камейшу. Пра сябе ён сказаў так: «Я з пушчы прыйшоў, пушчанец. Ад сосен сваіх, ад бяроз» («Я з пушчы...»). Таму цалкам можна зразумець, чаму тэма пушчы стала галоўнай у ягонай паэзіі. Ён пранікнёна паэтызуе сівую пушчу, суадносіць з ёй сваё жыццё, думкі і перажыванні, бо яна — «зялёная Біблія». Тут, у «маўклівай сталіцы», ён асабліва глыбока адчувае непарушную еднасць з роднай зямлёй, Налібоцкім краем: «Нас не раз'яднаць нічым з прыродай, Са святлом, з Радзімаю, з сялом» («Дабрата твая, сівая пушча...»).

У розных аблiччах беларускі лес выступае ў «Чатырох паклонах лесу» Міхася Скоблы, аднаго з паэтаў маладзейшага пакалення. Гэты твор можна назваць міні-паэмай. Да кожнага раздзела аўтар бярэ ў эпіграф словы народнага выслоўя, з якога, дарэчы, пачынаецца навела У. Караткевіча «Кніганошы»: «У сасновым лесе маліцца...», «...у бярозавым любіцца...», «...у дубовым волю каваць...», «...у яловым душу д'яблу прадаваць...» Сасновы лес паэт малюе як нерукатворны храм, дзе «кленчыў продак», бярозавы гай услаўляе як святліцу, рай кахання, лекара душы, у дуброве ён бачыць увасабленне моцы, велічы, незалежнасці, а ў яловым лесе вычувае рэха язычніцкай казкі:

І з'явіцца маленькі чоўнік
на ўзбоччы месячнай дарожкі,
а ў чоўне скурчаны карчоўнік
вадзяніку пакажа рожкі.
І лес загогача, зарагоча,
заскача, задрыжыць, заенчыць,
прадацца д'яблу не захоча
і ў немым сполаху заклянчыць.

«Чатыры паклоны лесу» — яркая выява духоўнароднаснай повязі з прыродай. Гэты твор, як і лепшыя пейзажныя замалёўкі паэта, вылучаецца вобразна-метафарычным жывапісам, прачулай гукапіснасцю, пластыкай free вершаванага радка.

Здаўна лес успрымаўся як жывая істота. І гэтае адчуванне не пакідае беларускіх паэтаў, якія даводзяць, што «і ў лесе ёсць душа» (С. Законнікаў. «Душа лесу»). Міхась Рудкоўскі — адзін з тых паэтаў, якія глыбока адчуваюць з лесам крэўную блізкасць, духоўнае сваяцтва. Зрэшты, дрэва, як заўважыў рускі паэт І. Сяльвінскі, «не деревянное», яно здольна адгукацца на пачуцці. У вершы М. Рудкоўскага «Радня» лес паўстае як бацькоўская хата, а дрэвы тут — родныя, блізкія людзі: вярба — маці, клён — бацька, сасонкі — сёстры, дуб — дзед, бяроза — бабуля. Лес і дрэвы ўвасабляюць душу і лес чалавека, у іх паэт бачыць чалавечыя рысы, пазнае чалавечую сутнасць:

А можа, і дрэвы тут
чуйна-відушчыя?
А можа, і ў дрэваў
ёсць чулыя душы? —
Яны ж, як мы, плачуць,
як мы, і спяваюць,
І нас, быццам родных,
к сабе запрашаюць;
Жывыя жывымі,
без слоў, а — гамоняць,
І гоняць напасці,
і раны нам гояць.
Таму, калі трудна,
мы ў лесе, у гаі,
У іх, бы ў бацькоў нашых,
рады шукаем.

Лес неаднойчы загойваў раны душы, ратаваў «ад болю, ад няпраўды і маны» (У. Жылка. «Я люблю густыя шумы...»). Беларускай паэзіяй лес успрымаецца як чуйны суразмоўнік і дарадца. Не адзін творца імкнуўся зразумець і ўзнавіць лясную мову, шчыра давяраў зялёнаму сябру свае думкі і перажыванні: «Высокі лес, ці чуеш гром, Як ён злуе са ўсіх старой?» (Цётка). Гоман дрэў захапляў Я. Коласа сваёй таямнічасцю, загадкавасцю: «Лес! Аб чым шумяць вяршыны? Лес! Што шэпчаш, векавы?» («Лес»). «За ціхія думы, за ясныя мары» паэт склаў лесу ўшанавальны, гімнаграфічны твор «Лясам Беларусі». Я. Купала прызнаваўся: «А з лесам сябры мы старыя». Яго верш «У лесе», напісаны ў 1926 г., гучыць як лірыка-драматычная споведзь, трывожны роздум пра лес Беларусі.

Лес і для сучасных паэтаў — сябар, спагадны брат, духоўна блізкая істота: «Лес і сягоння Мяне кліча на бяседу» (М. Танк), «Лес, маўклівы ты мой субяседнік, Я вярнейшых не знаю сяброў...» (Ю.

Свірка), «— Мой лес, мой брат, Даверлівы які ты!» (Н. Тулупава). Верш П. Броўкі «Размова з лесам» — услаўленне бескарыслівай дружбы лесу з чалавекам, яго самаахвярнасці, заступніцтва. Лес апранаў, карміў, дапамагаў будавацца, а ў гады вайны даваў надзейны прытулак, засланяў ад ворага, саграваў і суцяшаў у горы. Паэт звяртаецца да лесу з пачуццём удзячнасці: «Я кажу табе, як сын, І табе малюся...» Даволі характэрны і ў той жа час своеасаблівы паэтычны погляд выяўляе Алесь Барскі ў вершы «О лес...». Гаворачы пра генетычную роднасць з лесам, паэт бачыць у ім магутнага атланта, які трымае свет. Лес — нібы галоўная апора жыцця, прадаўжальнік усяго чалавечага на зямлі:

О лес, ты брат,
ты бацька мой і дзед;
І песня ты,
і марай мне,
І хлебам.
Ты нада мной,
каб не ўпаў на плечы свет,
падпёр рукамі неба.

Лес у беларускай паэзіі вельмі часта выступае алегорыяй і сімвалам нашага народа. У падтэксце «Паэмы майго лесу» (1963) Имена Панчанкі лес і народ зближаюцца, атаясамліваюцца як адно цэлае: яны вынеслі шмат цяжару і пакутаў. Зялёнаму сябру паэт давярае набалелае, свае сумненні, трывогі, не хавае праўды пра тое, як цяжка ўладкаваць зямны свет. Лес для паэта становіцца вечнай каштоўнасцю часу і быцця. Таму П. Панчанка востра ўсведамляе, што важна выхаваць у наступнага пакалення любоў да лесу, перадаць маральны патэнцыял чала вечнасці. Бо толькі гэтак можна супрацьстаяць філасофіі зла і варварства:

Лес мой,
Цуд мой,
Акіян мой зялёны і сіні,
Захавальнік магіл і прысяг
І роздумаў добрых людскіх,
Я перадам нашу дружбу
Дачушцы і сыну,
Каб іх рукі ніколі
Галін не ламалі тваіх.

Наша нацыянальная свядомасць адвеку і сёння цесна знітавана з лесам, таму родны край паэты клічуць лясным, а беларусаў называюць лясным народам. Алег Лойка ў паэме «Лясная песня» (1960)

паказвае лес як адну з вызначальных каардынат беларускай этнапрасторы, галоўны асяродак прыроднага і духоўна-гістарычнага быцця нашага народа:

Там край лясны, і людзі там лясныя:
Сасноўскія, Каліны, Лазнявыя,
Паддубскія, Дуброўскія, Дубягі,
Альхоўскія, Альшэўскія, Карагі;
І гарады лясныя там, і вёскі:
Залессі, Берастовіцы, Бярозкі,
Бярэзніцы, Дубровы, Дзераўныя,
Бары Святыя, Добрыя, Старыя;
І рэкі там лясныя: Дзеравянкі,
Бярозы, Лані, Берастaвічанкі;
Дарогі там лясныя і азёры,
І знічкамі на лес спадаюць зоры...

А. Лойка выказвае сваю любоў да лесу, прызнаецца, што з ім «душой і сэрцам зліты назаўжды». Паэт выяўляе свае пачуцці праз узрушаную пафаснасць голасу,клічныя інтанацыі. Ён славіць «край лясны», бароніць «зялёную зямлю», верыць у яе вечнасць: «І будзеш на зямлі ты, светлы лесе, Мне помнікам на доўгія гады!..»

З верша Рыгора Барадуліна «І ў дужках» лес вымалёўваецца як мадэль жыцця, вечнага кругавароту, алегорыя духоўнай моцы і няскоранасці беларускага народа:

Цямнее лес (душа жывая),
Гайдае спеў (на злосць бядзе),
Лес — беларус (усё стрывае),
Маўчыць, як дол (а ствол гудзе!).

У беларускім паэтычным светаадлюстраванні лес — і дом, і крэпасць, ён увасабляе веліч і славу Радзімы. Часта лес паказваецца ў гераічным святле, параўноўваецца з непераможным волатам, называецца вартавым роднай зямлі: «Непахісна, як волат замглёны, Ты стаіш: у зямлі — карані. У ліхія гады ад палону — Край увесь ты сабой бараніў» (К. Цвірка), «Лес зелянее за акном. Жыве народ у ім што трэба. Ідзі да нас, як у свой дом, А калі вораг — як у крэпасць» (А. Салтук). Уласна кажучы, кола параўнанняў, асацыяцый, звязаных з лесам, вельмі багатае. Ён паўстае як захавальнік мінулага, бо «шматтрубна тут гісторыя гудзе» (А. Русецкі. «Лес пракаветны»). Лес — гэта і «падручнік роднай мовы», што вобразна-ярка паказвае Віктар Гардзей у вершы «Граматыка лесу». Ход паэтавай думкі арыгінальны, уражвае сваёй выяўленчай экспрэсіўнасцю:

Прыметнікамі бор здалёк прыметны —

Зеленачубы,
Стройны,
Залаты.
Сустрэне гай займеннікам прыветным.
Нібы з сябрамі ён на «ты».
Зязюля раніцой лічэбнік вучыць —
Плыве наўсцяж стараннае «ку-ку».
Цвіце багун.
Цвіце чабор гаючы.
Вісяць, што коскі,
Шышкі на суку.

Лес — святліца, храм. Такое ідэйна-вобразнае ўспрыманне замацавалася яшчэ ў беларускай класічнай паэзіі. Адухоўлена і велічна намаляваны лес у «Новай зямлі» Я. Коласа: «Лес набожна Стаіць, маўчыць і ўсё святлее». Герой паэмы «Сымон-музыка» адчувае сябе «ў лесе, бы ў гасподзе». Дзед Даніла вучыць Сымона слухаць і разумець лес, гаворыць пра тое, што зялёны свет — крыніца музыкі і вялікай мудрасці:

І заўваж, мой хлопча-колас,—
Дрэва кожнае ў бары
Мае свой асобны голас,
А зацягнуць угары —
Спеў выходзіць самавіты,
Эге ж, хлопчыку мой, так:
Лес гаворыць, а скажы ты,—
Не паверыць аніяк...
А лес, хлопча, хоць ён дзікі,
Але мудры і дзіўны,
Сэнс ён мае патайны,
Асабліва бор вялікі...

У беларускай паэзіі пачуццё лесу — пачуццё глыбока духоўнае, нават пантэістычна-сакральнае, інакш кажучы, гэта адчуванне прыроды як святыні, Боскай існасці, высокага хараства: «У лесе, закіданым снегам, Бы ў храме стаіць цішыня» (У. Паўлаў), «Жывыя колеры і цені Ў адной зліліся гаме — Хоць апусціся на калені І прычасціся, Як у храме» (М. Маляўка).

Для П. Броўкі лясны свет — храм красы і музыкі. У вершы «Лясныя музыканты» інтанацыйна-сінтаксічны лад вызначаецца паўнагучным асанансным гукапісам, эмацыянальнасцю паўзаў, адкрытасцю галосных у рыфмах, інструментоўкай на с, р, л, скразнымі

паўторамі слоў. Радкі твора гучаць на ўзвышанай, урачыстай ноце, а пытальная інтанацыя добра перадае ўражлівы стан паэтавай душы:

Арганаў шмат непараўнаных,
Паслухаеш — аж храм гудзе.
Але, відаць, такіх арганаў
Не знойдзеш — свет прайдзі — нідзе.
Наш лес. Унікнуць толькі трэба —
Спяваючы, сасна расце.
А чулі вы — спявае неба?
А так, што месяц аж цвіце.

Беларуская паэзія спавядаецца лесу, моліцца яму і ўслаўляе яго ачышчальную сілу. У Анатоля Сыса лес — месца прасвятлення душы, «што спазнала пакуты каледтва». Пра зялёны свет прыроды ён гаворыць як пра выратавальніка і ахоўніка чалавека: «Лес — гэта храм. У ім акрыяе Хам. Лес — гэта святарнае мейсца, / для душаў аблудных меса». Лес — сапраўды нешта большае, чым мы прывыклі думаць. А. Сыс стварае пранікнёную вершаваную пропаведзь, прасякнутую маральна-экалагічнымі пачуццямі:

Пан Лес не дазволіць мець
пачуццяў, што шкодзяць Лесу,
бо нельга паганіць храм,
бо нельга святое нішчыць,
куды ж тагды прыйдзе
Хам ад хамства душу ачысціць?

*(«Лес»)*

Беларуская паэзія бачыць у лесе сімвал непарушнасці жыцця, крыніцу духоўнай магутнасці, бессмяротнасці. Сучасны паэт Мікола Кусянкоў у вершы «Лес» пераконвае, што без лесу няма будучыні на зямлі: «Бяссмерце — лес. Бо чалавечы род Бясконцы толькі разам з ім, зялёным...» Ці не таму яшчэ ў 60-70-я гг. наша паэзія магутна ўзняла голас у абарону ляснога свету. Пімен Панчанка з трывогай прадказваў, што знойдуцца людзі, «якія пракрычаць прамовы аб ахове лесу і бюракратычных наламаюць дроў» («Паэма майго лесу»). У кнізе «Лясныя воблакі» (1985) экалагічная тэма дасягнула трагедыйнага піку: «Не пакідайце Лясы нашы голымі, Не набліжайце Уласную смерць». П. Панчанка заўсёды быў адным з самых усхваляваных, паслядоўных абаронцаў роднага лесу. Ён не стамляўся паўтараць, што прыродзе мы яшчэ не чужыя і зямля ў нас адна, не жадаў мірыцца з тым, каб грамадства знішчыла «зялёную зямлю». З лесам ён звязваў «бясконцасць жыцця і вясны» (верш «Хадзіў я па лесе...»).

Тое, што лес без літасці высякаецца, не прымала ў 60-я гг. Чуйнае сэрца А. Пысіна: «Лес мой, брат мой... Быў бы я тваім замком І тваёю брамай» («І чаму не стаў я лесніком...»). Прызнанне, поўнае вярэдлівай сумленнасці, зрабіў на пачатку 70-х К. Камейша: «Мы не заўсёды лес наш ратавалі, Ды вечна ратавалі нас лясы» («Лес»). У 80-я гг. і асабліва на зыходзе ХХ ст. беларуская паэзія загаварыла пра экалогію лесу з узрушальным драматызмам, вялікім гуманістычным неспакоем. Пра гэта сведчаць шматлікія творы сучасных паэтаў: «Лес» Юрася Свіркі, «Тапор» Васіля Зуёнка, «Шумеў бор...» Петруся Макаля, «Лес пракаветны» Аляксея Русецкага, «Лес» Зінаіды Дудзюк і інш. Калісьці «нашых дзедаў душылі абшары лясоў» (М. Багдановіч). Зараз, на схіле ХХ ст., прыродна-экалагічная сітуацыя іншая. Таму для беларускай паэзіі абараніць лес ад рабавання і смерці азначае захаваць на зямлі свой адвечны «дом зялёны» (М. Дукса), храм, выратаваць самага блізкага сябра.

## «ЯК РАЗМАЎЛЯЮЦЬ ЗВЯРЫ І ПТУШКІ»

Свет прыроды немагчыма ўявіць без вобразаў птушак, звяроў і жывёл. Нашым паэтам беларускі пейзаж бачыцца з буслямі на лугах і балотах, з коньмі ў расе, зубрамі і ласямі ў пушчах. Наогул, у беларускай паэзіі чуецца вялікае сугучча птушыных галасоў, яе ў наш час, калі ў Чырвоную кнігу занесены сотні відаў птушак і жывёл, можна назваць своеасаблівым духоўна-экалагічным запаведнікам.

Сярод усіх вобразаў беларускай фауны, адлюстраваных у паэзіі, найбольш вылучаюцца вобразы птушак. Іх пералік ужо толькі ў адным вершы Алеся Гурло «Нашы птушкі» не можа не захапіць сваёй энцыклапедычнасцю, багаццем:

Ў нашым краі Беларусі
Качкі ёсць, буслы і гусі,
І сарокі, і саколкі,
Чаплі, совы, перапёлкі,
Каршуны, сіваваронкі,
І шчыглы, і жаваронкі,
Крумкачы, галкі, вароны,
Галубочкі нахахлёны,
Дзятлы, чыжыкі, зязюлі,
Кулікі, сяўцы, жаўнулі,
Зяблы, шпакі і цяцеры,
Курапаткі, пер'ем шэры,

Ластаўкі і верабейкі,
І сініцы, салавейкі,
І глушцы ёсць, і удоды,
Што лятаюць без ахвоты,
Над ракамі, ля вадзіцы
Чайкі, чыбісы, пігліцы,
І вядуцца на балотах
Жураўлі ў густых чаротах.

Трэба сказаць, што не менш уражваюць і лічбы ў складзеным намі прадметна-частотным паказальніку пейзажных тэм і вобразаў беларускай паэзіі. Тут занатавана наступная колькасць твораў пра птушак: бусел — 100, журавель — 71, зязюля — 53, жаўранак — 49, салавей — 37, гусі — 35, шпак — 23. Птушынымі галасамі заўсёды з вялікай любоўю, глыбокімі экалагічнымі пачуццямі захапляўся Пімен Панчанка:

З драздом і удодам, заранкай і пліскаю
Святлей, чалавечней нам жыць і любіць.
А як салаўі працінаюць наскрозь нас,
А як перапёлкі у жыце крычаць.
А птушкі пяюць то пяшчотна, то грозна,
І ў роздуме добра тады памаўчаць.
*(«Вясёлай маланкаю...»)*

У вершы «Лепшыя птушкі Беларусі» паэт у чарговы раз выяўляе зайздросны дар ведання і разумення роднай фауны. Для кожнай птушкі ён знаходзіць цёплае слова, выказваецца з душэўнай мяккасцю і пяшчотай:

А росы на траве густыя,
Гараць на іх пажарынкі.
Званочкі нашы залатыя —
Высока ў небе жаўранкі.

Сэрцу паэта аднолькава дарагія шпак і ластаўка, верабей і варона. Салаўёў і буслоў ён называе аздобай роднай зямлі. Здаецца, мы прывыклі не заўважаць варону ці ставіцца да яе без асаблівага шанавання. Паэт гаворыць пра гэтую птушку з вялікім шанаваннем і захапленнем: «А мудрая, разумная Варона. Божа мой! Яна з табою сумная І ў радасці з табой». Птушак П. Панчанка ўспрымае як жыхароў аднаго дома, чулых і спагадных сяброў.

Агульнапрызнаным нацыянальным сімвалам стаў вобраз бусла. У нашай паэзіі складзены дзесяткі гімнаў гэтай птушцы, створаны яе высокі духоўны культ:

Няма радзімы без бацькоўскай хаты;

Бусліны клёкат — гэта родны дом;
Ты будзеш жыць шчасліва і багата,
Калі над хатай — буслава гняздо.
*(П. Панчанка)*

Бусел белы — клёкат смелы
Па-над роднай стараною.
Ён лунае белай верай
Нада мною і табою.
*(А. Жамойцін)*

Бусел адвеку селіцца на беларускай зямлі, ён — жывы персанаж нашых краявідаў: «Гэтак многа шырокіх дарогаў. Нам мілей даль палёў і лясы, / дзе вякамі да нашых парогаў / прылятаюць на весну буслы» (Л. Геніюш. «Буслы»). Беларускія паэты бачаць у белай птушцы сімвал чысціні, святасці, вернасці роднай зямлі. Бусел — незвычайная істота: «А буслы белы гонар маюць... У гняздо не кладзіце хлеба. Птушкі гэтыя не паміраюць. Іх сабе забірае неба» (Э. Акулін).

Вельмі паказальным з'яўляецца той факт, што наступныя вобразы птушак звязаны з пэўнымі пейзажнымі рэаліямі: журавель — з балотам, зязюля — з лесам, жаўранак — з полем. Праўда, у паэзіі нашмат большая ўвага да журавоў у небе, іх палёту: «У бязмежным небе Роўненькім шнурочкам Жураўлі на вырай Мкнуцца над лясочкам» (Я. Колас), «Плывуць над полем жураўлі...» (А. Бялевіч), «Жураўлі на Палессе ляцяць...» (А. Ставер), «Берасцянымі трубамі ў небе гудуць журавы...» (А. Сыс). Жураўліны вырай будзіць у сэрцах паэтаў элегічныя і медытатыўныя роздумы пра бег жыцця, незваротнасць часу і вечнасць.

Зязюля — варажбітка, вяшчунка долі, прадвесніца шчаслівых і нешчаслівых падзей. Такая асноўная паэтычная інтэрпрэтацыя гэтага вобраза, якая сваімі вытокамі карэніцца ў фальклоры. Зязюля з'яўляецца любімай птушкай Я. Купалы. У вершы паэта «А зязюлька кукавала...» яна паўстае як спадарожніца лесу песняра. Голас зязюлі хваляваў сэрца хворага М. Багдановіча, які звяртаецца да птушкі з просьбай: «Не кувай ты, шэрая зязюля, Сумным гукам у бары; Мо і скажаш, што я жыці буду, Але лепш не гавары» («Не кувай ты, шэрая зязюля...»). З часоў «Слова аб палку Ігаравым» гэтая птушка — алегорыя жанчыны-пакутніцы. Такі погляд зрэдку выяўляецца і ў сучаснай паэзіі. Сустракаецца і матыў шкадавання зязюлі як гаротніцы, птушкі няшчаснай долі: «Каго ж яна так гукала Пасля зімовай разлукі? За што ёй такая кара? За што ёй такія мукі? (А. Грачанікаў. «Зязюля»), «Яна — матуля з вечным горам» (А. Сербантовіч. «Зязюля»).

Зязюля вяшчуе не толькі трывожнае, яна — птушка вясны, кахання, шчасця: «Лягчэй вясну без хлеба пераржыць, Чым без зязюлі» (Р. Семашкевіч. «Зязюля»), Аднак найчасцей зязюля сваім куваннем нагадвае пра хуткі бег жыцця. Таму паэты просяць яе не лічыць гады. Куванне як прадвесце чарнобыльскай бяды, гора, смерці лейтматывам праходзіць праз паэму Сяргея Законнікава «Зязюля» (1996). Вобраз птушкі тут набывае філасофскае абагульненне:

Кувае зязюля мая баравая —
Заведзены Богам
гадзіннік жыцця.

Пасля Чарнобыля сэнсавая трактоўка вобраза зязюлі стала драматычнай. Гэтая птушка зрабілася маўклівай, з атручаным голасам, скупой (вершы А. Лойкі «Скупая зязюля», З. Дудзюк «Не прыляціць у мой куток зязюля...» і інш.).

Жаўруковы звон — музыка палёў Беларусі. Яна зачароўвала слых многіх паэтаў. Сярод нашых птушак жаўранак — першы прадвеснік вясны, абуджэння прыроды і жыцця. У вершы Уладзіміра Караткевіча «Жаўранак — звонкая ніць» жаўрукова песня — цуд свету, яна высока лучыць сэрца паэта з нябёсамі:

Хмары веснія цяжкія, як кентаўры,
Песня шчасця пад імі ўзахлёб звініць.
Ах, гэта жаўранак,
Жаўранак,
Жаўранак,
Срэбная,
Срэбная,
Срэбная ніць.

Эмацыянальнай кранальнасці паэт дасягае за кошт анафарычнай кампазіцыі твора, тонкай інструментоўкі, яркіх вобразных параўнанняў.

Жаўранак — сімвал ранішняй Беларусі, увасабленне яе адраджэнскай сілы. Голас гэтай птушкі неаднойчы прыдаваў чалавеку мужнасці і аптымізму: «А ты звінеў — і звонкі твой званочак Нам заглушаў далёкі гул гармат» (А. Бачыла. «Жаваранак»). Вобраз жаўранка — адзін з самых паэтычных, любімых, з ім звязана шчодрае выпраменьванне душэўнай лагоды, ласкавасці і пяшчоты.

Таленавітыя паэты — перакладчыкі мовы птушак і звяроў на мову вершаваную, гэта людзі, якія ўмеюць тонка і глыбока пранікнуць, ужыцца ў норавы, паводзіны, псіхалогію жывых істот. Свет жывёл у беларускай паэзіі разнастайны, але нельга не заўважыць, што на пярэдні план тут выходзіць вобраз каня.

Конь у далёкай старажытнасці абагаўляўся, у яго гонар спраўляліся розныя рытуалы. У славян-земляробаў гэтая жывёліна зрабілася незаменным памочнікам у працы, яе апекавалі і берaглі. Адносіны да каня ў беларускай паэзіі адухоўлена-ўшанавальныя, спагадныя, гуманістычныя. Бо коні і аралі, і цягалі бярвенне, прайшлі разам з чалавекам праз усе войны. Іхнія заслугі і вартасці далі Максіму Танку падставу скласці малітву:

І шапчу я малітву: «Дай, Божа,
Каб хоць ім у цябе было гожа,
Залячы іх старэчыя ногі,
Пакалечаныя на дарогах.
Памажы ім забыць назаўсёды
Перажытыя з намі нягоды».

*(«Малітва за старых коней»)*

З канём селянін-беларус заўсёды быў гаспадаром, дбайным працаўніком. Паэт Янка Сіпакоў у сваёй «Элегіі» паказвае, як у працы чалавек зрастаўся са сваім верным памочнікам: «Ён напінаўся болей за каня, Шукаў нагой зручнейшае апоры, І дыхаў цяжка, і спяшаўся так, Нібы ягонай пугай іх абодвух Хтосьці невідомы падганяў». Пароўну чалавек і конь дзялілі нягоды, выпрабаванні прыроды, і гэта яднала іх лес. Я. Сіпакоў добра раскрывае трагедыю сялянскага быцця, наогул нашага нацыянальнага свету: пазбавіўшыся каня, вясковец перастаў быць гаспадаром на зямлі, аддаліўся ад працы на ёй. Паспрыяла гэтаму, трэба заўважыць, дзяржаўная палітыка рассяляньвання, якая пачалася яшчэ ў сталінскія гады. Сёння, як ні прыкра, конь «ужо госць у нас» (Я. Сіпакоў. «Ах, мілы конь, ах, мілы коею...»). З такою несправядліваю, драматычнаю доляю каня паэзія, наогул беларуская літаратура, не жадаюць мірыцца, і таму творцы выказваюць свой боль, нават пратэст. Верш Пімена Панчанкі «Запішыце каня ў Чырвоную кнігу» — твор, у якім паядналіся адычнае слова і пафас палымянага заступніцтва. Паэт узрушана даводзіць, што «конь — наша жыццё», заклікае, каб «верны таварыш» стаў у строй:

Хай знікаюць над конскаю сагай —
Туманы, туманы.
Хай пасуцца на родных абсягах —
Табуны, табуны.

Ларыса Геніюш у вершы «Коні» з шчымлівасцю гаворыць пра страту «сябра ў долі цяжкой» як пра «гнёт суровай пары». Гуманістычным пачуццём спачування да істот, якія «вывезлі столькі эпох»,

пранікаецца Рыгор Барадулін: «І падае з конскага вока Цяжкая ад болю Сляза» («Коні»).

У беларускай паэзіі мы сустракаем вобраз каня як сімвал руху, волі, палёту: «У белай пене праносяцца коні, Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...» (М. Багдановіч. «Пагоня»). У Сяргея Панізніка конь выступае як падмога і апора ў змаганні, ратаванні роднага краю: «Конь, сівенькі, даражэнькі, /дзе наш меч,—/ трэба немач захірэлую адсеч. Адратуем і Дзяржаву і Каня!» («Конь»). Нярэдка вобраз каня для паэтаў — гэта магчымасць выказаць нешта душэўна-асабістае ці ідэйназначнае (вершы Л. Галубовіча «Яшчэ раз пра коней», А. Пісьмянкова «Белы конь» і інш.).

Самабытная на Беларусі жывёліна — зубр. Ён цудам захаваўся, дайшоў да нас праз вякі. Згадаем М. Гусоўскага: «Быццам з вякоў у вякі пераходзіў праз горны І гартаваўся, сабраўшы адценкі стагоддзяў» («Песня пра зубра»). Зубр — рэдкая, унікальная істота, і ў гэтай сваёй выключнасці, волатаўскай велічы яго вобраз паўстае ў беларускай паэзіі. Характэрнае адлюстраванне знаходзім у Петруся Броўкі:

Зубр, ну волат, не іначай,
Між пушчанскіх жыхароў!
Думаю, калі пабачу,—
Скуль жа ён, з якіх вякоў?

*(«Ода зубру»)*

«Паслом дагістарычнае пары» называе зубра А. Вольскі ў вершы «Спатканне з вечнасцю». Як цара лесу малюе яго Я. Сіпакоў: «І яму саступаюць дарогу, /бы слугі, дзікі і алені, Бачаць: ідзе, як філосаф, / іх непадробны цар» («Адзінец»). Надзвычай цікавым бачыцца асэнсаванне зубра ў Ларысы Генію ш. Яна разважае пра маналітнасць зубрынай грамады, уражана трывучасцю і жывучасцю ляснога жыхара. Статак зуброў нібы атаясамліваецца з беларускай сям'ёй, наогул народам: «І здаецца, цяжкай хвілінаю /будзем жыць, бо яны жывуць» («Зубры»). У вершы «Зубр-адзінец» паэтэса захапляецца незалежнасцю зубра, яго «рыкам адвечнае пушчы», «трывогай у сэрцы». Зразумела, што ў Л. Геніюш вобраз ляснога адзінца набывае сімволіка-алегарычны сэнс.

«Беларускі воўк вые»,— так А. Разанаў, збліжаючы словы, асацыятыўна высвечвае сутнасць вобраза ваўка (верш «Воўк»). Вобраз гэтага драпежніка, яго выццё часта сустракаюцца ў творах Я. Купалы: «Воўк з імшараў выбрыў сонных...»; «Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор...»; «Ваўкі па сцежках шляюцца...»; «У піліпаўку воўк нема вые» і да т. п. Ваўку і ваўкалаку паэт прысвяціў асобныя вершы. Гэтыя істоты палохаюць сэрца жывога чалавека:

Зубам ляскоча аб зуб,
Вочы палаюць агнём;
Стаў, як калода, як слуп,
Стаў і азваўся выццём.

Выў сярод дрэмлючых ніў,
Як бы на суд каго зваў,
Хто сатварыў, спарадзіў,
Хто узрасціў, гадаваў.

Воўк блукае, «шнуруе туды і сюды», не ведае жалю. У Купалы ён увасабляе сілы зла, страху, цемры.

Падобная да купалаўскай трактоўка ў нашай паэзіі мела працяг. Аднак тады, калі ваўка пачалі паўсюдна знішчаць як шкодніка, раптам адносіны паэзіі да яго памяняліся. І гэта выявіла і засведчыла характэрную экалагічную рысу беларускай паэтычнай свядомасці: паэты заўсёды шкадавалі жывое, не прымалі гвалту, жорсткасці. Стала заўважным, як пачалі паэтызавацца вартасці ваўчынага роду: адвага, незалежнасць, мацярышская самаахвярнасць: «Яна бачыла нашае сховішча / і адкрыта ішла на выбух» (М. Арочка. «Ваўчыца»), «І сем ваўкоў ляжалі, Нібыта ў шынялях...», «упарта незалежнасць адстойвалі яны» (Р. Тармола-Мірскі. «Паляванне на ваўкоў»). Наогул, наша паэзія асуджае бяздушнае паляванне, браканьерства, забойства падобных сабе: «Апусціце ружжо, апусціце! Не страляйце ў сябе на зямлі» (М. Мятліцкі. «Смерць жураўля»).

Тэма птушак і звяроў дае нам уяўленне пра жывую прыроду, навакольны свет і свет унутры нас саміх. Паэтычнае стаўленне да жывых істот раскрывае духоўны воблік усёй нацыянальнай літаратуры, выяўляе стан маралі і чалавечнасці на зямлі.

## «І СУСВЕТ НЕАБДЫМНЫ — ПОБАЧ...»

Зорны Сусвет вабіць чалавека сваёй таямнічасцю. Па сутнасці, гэтая цяга ахапіць, спазнаць бязмежную прастору над намі — адвечная. Зоркі — вобраз, які надае пейзажу вертыкальнае, касмічнае вымярэнне і ўспрыманне. Менавіта паэты абжылі і ачалавечылі Сусвет задоўга да палётаў чалавека да зор. Яшчэ М. Багдановіч на пачатку XX ст. гаварыў пра касмізм чалавечага быцця: «...Ўсе мы разам ляцім да зор...» (верш «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы...»).

Самым «зорным», касмічным беларускім паэтам XX ст. можна без перабольшання назваць Янку Купалу. У вершы «Бацькаўшчына»

паэт перадае сваё эмацыянальна-прасторавае адчуванне свету: «З зямлёй і небам звязывае мяне ніць...» А іншы твор ён пачынае так: «Мой дом — прыволле звёзднай далі...» («Мой дом»). Паэтава думка пастаянна, безупынку імкне да неба, сонца, зораў. У высотах Сусвету паэт жадае адчуць свабоду духу, хоча зрабіцца відушчым, каб пазнаць «глыб неразгаданага быту», супрацьстаяць сілам зла, якія пануюць на зямлі, засланілі радасць быцця:

З зораў, з-пад неба ўсё быцце зямельнае
Проймеш паглядам цікавым наскрозь;
Бачыці будзеш — з жыццём нераздзельныя —
Крыўду, бяспуцце, нянавісць і злосць.

Купалаў зварот да зор — гэта боль душы, туга па высокаму, светламу, вечнаму. Паэт у паэме «Яна і я» бачыць у нябесных свяцілах мудрых істот, «зоркіх нябесных вартавых, ад вачэй якіх нішто не схаваецца» (А. Афанасьеў). Герой Я. Купалы — асоба рамантычна-касмічная, гэта Чалавек Сусвету, волат-пясняр, здольны ўзяць у рукі Сонца, зняць з неба Млечны Шлях:

Млечны Шлях, што нябесны дзядзінец
Засцілае, я б зняў на зямлю
І масціў бы ім новы гасцінец
Цераз родную ніву сваю...

*(«Песняй толькі»)*

Далёкі космас кліча да сябе і сучасных паэтаў: «Ты заўсёды нам сніўся, бяскрайні сусвет» (П. Панчанка). Яны «душой сёння зорнае рэчыва... кратаюць» (А. Лойка), запрашаюць зоркі да кастра — «хай пагрэюцца зоркі» (А. Грачанікаў). Застаючыся сам-насам перад тварам вечнага зорнага неба, паэты шукаюць адказы на самыя таемныя і хвалюючыя пытанні душы. Касмізм адчуванняў палоніць у вершы Анатоля Грачанікава «Гэта яшчэ не ноч»:

Пачынаецца начное свята прыроды:
Знікае мяжа між небам і зямлёю,
Расце трава. І зоры растуць, і думы.
Цёмнай сцяной здаецца бор,
Вежаю — месяц.
Хочацца зазірнуць
У заўтрашні дзень.

«Я таксама ўзіраюся ў зоры...» — прызнаецца Алесь Разанаў. Ён асэнсоўвае чалавечы лёс у плыні вечнасці, касмічным часе. Зоркі для паэта — увасабленне найвышэйшага сэнсу быцця: «...а неўміручасцю — што найвышэй за ўсё, /а неўміручасцю — што найбліжэй за ўсё, / а неўміручасцю — зоркі» (верш «Зоркі»).

Чалавек у сучаснай паэзіі паўстае як жыхар і грамадзянін Сусвету, які думае ў «планетарным аспекце» (выраз У. Вярнадскага). Касмічная, маштабная постаць чалавека знаходзіцца ў цэнтры светапогляду А. Куляшова, А. Русецкага, П. Макаля, М. Мятліцкага... Куляшоўскі герой «неба і зямлю ў сабе змяшчае», ён — асоба гістарычна-эпахальная, якая ўскладае на сябе адказнасць за лёс Зямлі і ўвесь Сусвет. На схіле XX ст. беларуская паэзія ўзрушана загаварыла пра трагедыйнасць касмічнага быцця, востра адчула самотнасць, адчужанасць чалавека ў Сусвеце: «Распяты на ценях касмічных крыжоў, Бяздомна лячу над планетай» (В. Зуёнак), «Адзін я, як і Сусвет,— Мой су сед. І мне і суседу сцюдзёна» (Р. Барадулін).

У эпоху выхаду чалавецтва ў космас паэзія перадусім убачыла дзівоснасць, непаўторнасць нашай планеты «між зор»: «Мая маленькая зямля! — Уся ў палыне і медуніцы...» (А. Пісьмянкоў). Тут, мусіць, будзе дарэчы прывесці ўражанні першага касманаўта Ю. Гагарына, які з касмічных высотаў захапляўся роднай Зямлёй як унікальным цудам: «Я бачыў воблакі і лёгкія цені на далёкай мілай Зямлі... Зусім чорнае неба выглядала ўзараным полем, засеяным зярнятамі зор»; «зямля радавала сакавітай палітрай фарбаў...» Сёння, калі Зямлі пагражае экалагічная гібель, планетарны Чарнобыль, касмічныя пейзажы беларускіх паэтаў далёкія ад ідылічнага жывапісання: «Гусне трывога. Спудліва ёю Зоркі над светам дрыжаць», «Шар зямны ў дажджах атрутных мокне», «Чароды ззяблых зор, што ўспыхнулі, як свечкі» (М. Мятліцкі). Паэты ў наш суровы век глыбока ўсведамляюць, што, кажучы словамі А. Куляшова, ім «у рукі лёс... даў усю Зямлю, з арэнай — Млечным Шляхам» («Не старадаўні бард, але...»). У касмічнай прасторы, у адарванасці ад сваёй планеты пачаў больш цаніцца «дотык да зямлі» (П. Макаль). З касмічных вышыняў лірычных герояў М. Танка, П. Макаля і іншых паэтаў усё мацней прыцягвае свой родны свет, яго краявіды, бо менавіта там бяруць вытокі духоўныя сілы чалавечай асобы. Усясветнае быццё чалавека сучасная паэзія не ўяўляе без свайго нацыянальнага космасу: поля і жыта, траў і кветак, крыніц і рэк...

Зоры — сімвал «таямніцы векавой» (П. Панчанка), гэта ідэал красы, дасканаласці, мудрасці. Таму тэма суразмоўніцтва з сусветам для паэзіі бясконцая і невычарпальная: «І докуль жыць — павек вучыцца / нам кнігу неба разумець...» (Э. Акулін. «Сусвет»).

* * *

Родная зямля — вечная, ні з чым не параўнаная каштоўнасць і святыня: «А мне мой кут — навечна Мекка...» (П. Броўка), «Мой край — мой рай!» (В. Іпатава). Беларускі пейзаж — згарманізаваная сістэма

экалагічных сувязяў. Тым не менш сучаснае грамадства працягвае нявечыць прыроду, парушаць экалагічную раўнавагу ў нацыянальным светаўладкаванні. Сёння, калі разбураныя многія каштоўнасці ды ідэалы, той-сёй сумняваецца ў мажлівасці іх адраджэння. Здаецца утопіяй пераарыентаваць свядомасць тэхнізаванага грамадства. Дык ці ёсць шанс адрадзіць спаконвечны ідэал экалагічнай гармоніі? Сучасная беларуская паэзія адказвае на гэтае пытанне сцвярджальна і скіроўвае ўвесь свой грамадзянскі, гуманістычны напал на тое, каб гэты ідэал стаў пуцяводнай зоркай на нялёгкім шляху паразумення чалавека з прыродай. Паэты ўражліва паказваюць і ўсхвалявана даводзяць, што «адзін на ўсіх вялікі храм прыроды» (М. Дукса), турбуюцца пра вечныя зямныя і духоўныя крыніцы, што сілкуюць чыстую плынь жыцця прыроды. Ад трывалай повязі з прыродай залежыць наша будучыня.

«...А я руку Гарачую працягваю прыродзе — З дваццатага ў трыццатае стагоддзе» (А. Куляшоў). «Хай жа сякера ашчадна сячэ, Рэчка хай гойдае кладку. З продка далоняў хай рэчка цячэ Прама ў далоні нашчадка» (К. Камейша). «Пі, як продак піў,— / з крынічкі, Кожнай кропляй даражы!» (А. Пісьмянкоў). Гэтыя словы паэтаў, бадай, можна ўспрымаць як шчыры, палкі заклік да мацавання мудрага, дружалюбнага супольніцтва з Прамаці-прыродай.

## «ПРЫРОДЫ ВЕЧНЫ КАЛАЎРОТ...»

Змена пары сутак, сезонна-каляндарных і гадавых цыклаў прыцягвала ўвагу чалавека здаўна. Яшчэ герой старажытнага паэтычнага «Эпасу пра Гільгамеша» (III тыс. да н. э.) імкнуўся даць адказ на тое, чаму Сонца штодзённа ўваскрасае, а на змену дню прыходзіць ноч, чаму багі і Сонца вечныя, а чалавечае жыццё хутка паглынае нябыт: «Только боги с Солнцем пребудут вечно, А человек — сочтены его годы, Что б он ни делал,— все ветер» (Пераклад І. Дзьяканава). Нашы далёкія продкі атаясамлівалі рух прыроды і часу з нараджэннем і смерцю багоў, іх супрацьборствам. Напрыклад, «Ярыла зімою, як зерне ў глебе, знаходзіцца пад зямлёю, аднаўляючыся толькі вясною: тады ён апякуе ўсю жывую прыроду (расліннасць, жывёльны свет, людзей). ...Ярыла не проста аднаўляе расліннасць, ён дае жыццёвую сілу ўсяму, што нараджаецца і расце, гэта ярая, неадольная сіла працягу роду, адраджэння, нязгаснага вечнага кругавароту жыцця, сонечнай цеплыні і святла» (Т. Шамякіна). З порамі года ў народнай паэтычнай свядомасці звязана з'яўленне і такіх бостваў, як Каляда,

Купала, Ляля, Зюзя... Чаргаванне дня і ночы нарадзіла ў паэтычным уяўленні вобразы Чарнабога і Белабога. У міфалагічных пейзажах Янкі Купалы, у якіх адлюстравана змена пары сутак, яскрава раскрываецца антыномія-канфлікт паміж цёмнымі і светлымі сіламі прыроды: «Сонца з цемрамі змагаецца... Даль за даляй ажыўляецца, / сходзе ядраная рунь» («Прад світаннем»). У Я. Купалы Чорны Бог увасабляе цемру, ноч, Белы Бог вяртае світанак, ён само святло, сіла якога магутная, непераможная:

Чорны Бог заняўся пламем,
Чорны Бог гарыць.
Паланейся, развугляйся,
Змейны Чорны Бог,—
Ты йшчэ з Белым не зраўняўся,
Ты яго не змог!..

*(«Чорны Бог»)*

Сярод сезонных змен, адлюстраваных у вуснай паэзіі, галоўнае месца належыць надыходу вясны. «Рух часу ў беларускім светаадлюстраванні,— па назіраннях літаратуразнаўцы І. Чароты,— набывае своеасаблівыя акцэнты на стадыях пераходу». Матыў змены зімы вясною, паварот сонца на лета ў нацыянальнай паэзіі найбольш шырока распаўсюджаны У дачыненні да фальклору слушнай бачыцца выснова І. Чароты пра тое, што «поры дня ўвасабляюцца неаднолькава. Большая ўвага да вечара і раніцы». А вось што тычыцца мастацкага ўвасаблення тэмы-вобраза раніцы ў беларускай паэзіі, то ёй у параўнанні з іншымі часінамі сутак належыць не толькі частотна-колькасная перавага, але і асабліва важная, нават сэнсавызначальная роля.

Яшчэ ў старажытнай беларускай паэзіі выяўляецца імкненне адлюстраваць і асэнсаваць спрадвечны кругаварот часу і прыроды. У сваім творы «Которого ся месяца што за старых веков дЂело короткое описание» («Храналогія», 1581) Андрэй Рымша стварае своеасаблівы паэтычны каляндар. Тут пададзены назвы дванаццаці месяцаў на тагачаснай літаратурнай мове, а таксама на яўрэйскай і народнай. У кожным месяцы ён вылучае пэўны дзень, з якім звязана нейкая важная падзея. Тамаш Іяўлевіч у паэме «Лабірынт, або Заблытаная дарога» ўжо задаецца натурфіласофскімі пытаннямі: «адкуль зыходзіць святло... чаму бываюць розныя поры года, што з'яўляецца прычынай сонечных зацьменняў, чаму зоркі ўначы мігцяць, а днём іх не відаць» (І. Саверчанка). Аднак найбольшай глыбіні ў натурфіласофскім асэнсаванні сезонна-часавых змен у прыродзе дасягнуў Сімяон Полацкі ў сваіх вершах «О четырех временах года», «Следуют 12 месяцев», «Год века образ». Кожная пара года суадносіцца паэтам з

узростам чалавека, яго жыццём: вясна — дзяцінства, лета — юнацтва, восень — пара сталасці і плёну, зіма — старасць і мудрасць быцця. Гадавы ход часу С. Полацкі таксама цесна знітоўвае з гаспадарча-земляробчымі клопатамі чалавека. Вельмі адметны «партрэт» года намаляваў паэт у вершаваным цыкле «Следуют 12 месяцев». Тут, па сутнасці, створаны астралагічна-месяцавы каляндар прыроды. С. Полацкі ў сваіх пейзажных замалёўках дэманструе яркую назіральнасць, запамінальна выяўляе пэўны стан прыроды, яе прыкметы адносна працоўных заняткаў чалавека:

В октябре земля, плугом вспаханная,
Боронами разрыхленная, засевается.
На полях он травы зеленые выводит,
Но злой Скорпион вырасти им мешает.

С. Полацкі звяртаўся і да паказу больш вузкага часавага перыяду — чаргавання пары сутак («День і нощь»). Найчасцей змену ночы днём, зімы вясной ён асэнсоўвае ў рэлігійна-філасофскім плане. Так, вясновы дзень у ягоным светаразуменні — гэта перамога на зямлі святла Духу Святога.

Цэласныя паэтычныя календары прыроды, пейзажныя цыклы, прысвечаныя чатыром порам года адразу, створаны ў беларускай паэзіі XX ст. Гэтыя выявы хоць і нешматлікія, але сапраўды унікальныя, яны з'яўляюцца маляўнічым адлюстраваннем сезонна-часавых квадраў беларускай прыроды, мастацкім адкрыццём і спазнаннем натурфіласофскіх законаў свету і быцця.

На пачатку XX ст. сезон на-гадавы «партрэт» адным з першых намаляваў Стары Улас. Ён, як слушна адзначае В. Рагойша, «стварыў цэлы вершаваны каляндар... І вяршыня гэтага календара — напісанае ў 1909 г. вершаванае апавяданне, дакладней — паэма «Год беларуса». Прырода ў «Годзе беларуса» паказана ў суаднесенасці з народным земляробчым календаром: сяўба, касьба, жніво, ворыва... Прыроднае і чалавечае тут узаемазвязаны самым цесным чынам: з вясны да зімы чалавек уключаны ў ход часу, адчувае не толькі сваю штодзённую залежнасць, але і ўнутраную повязь з прыродай, яе зменамі. Прычым паэт востра ўспрымае кругабежнасць, плыннасць часу: «Не ўглянецца, як час пяройдзе, Вясна ўцякае, лета надойдзе». Гадавы цыкл у паэме Старога Уласа — адвечнае кола жыцця прыроды і жыцця беларускага селяніна. Кожная пара года ў яго звязана з народнымі павер'ямі, адметная сваімі з'явамі і вобразамі.

Усе поры года — вясна, лета, восень, зіма — знайшлі яркае мастацкае ўвасабленне ў паэмах Якуба Коласа «Новая зямля» і «Сымон-музыка». Сезонныя пейзажы паэта арганічна знітоўваюць

кампазіцыю твораў, аднак яны выкарыстоўваюцца не толькі ў якасці аздобы, фонавых заставак. Вясна, лета, восень, зіма ў «Новай зямлі» паказаны як спрадвечны клопатны, мудры круг працоўнага і духоўнага быцця беларуса. Гэтак жа разгорнута, панарамна і ўсебакова сезонна-гадавы каляндар літоўскага народа апаэтызаваў Крысціёнас Данелайціс у сваёй выдатнай паэме «Чатыры пары года» (напісана ў XIX ст., у перакладзе А. Зарыцкага выдавалася на беларускай мове). Я. Колас па-натурфіласофску малюе прыроду: яна паўстае сапраўды дзейнай асобай, думае, гаворыць, суперажывае і хвалюецца. Я. Колас раскрывае яе як свет жывога паяднання, няспынных зменаў, пераўвасабленняў, і свет гэты гарманічны, поўны таемнасці і мудрасці. Карціна надыходу восені ў XIV раздзеле «Новай зямлі» — гэта хвалюючае судакрананне чалавечай душы з душой прыроды, натурфіласофскі рух думкі ў спазнанні сутнасці адцвітання жыцця, яго плыннасці:

І люб і смуцен час прыгоды,
Калі душа ўсяе прыроды
З тваёю злучыцца душою
Ў адным суладдзі і настроі!
І ты маўчыш, маўчаць і далі,
Як бы ў адной агульнай хвалі,
Ў адной асветленай часіне
Жыццё злучьтла свае плыні
І бег свой вечны прыпыніла,
І неба твар свой адчыніла.

У апісаннях змены пары сутак — нараджэнне дня ці надыход змяркання і ночы — Я. Колас уражліва карыстаецца паэтыкай кантрасту і маляўнічымі сродкамі выразнасці (эпітэты, метафары, алітэрацыі і інш.). Паэт здзіўляе сваёй феналагічнай і натурфіласофскай праніклівасцю ў свет прыроднай з'явы:

І мрок і бліскание,
Спакой і дрыжанне
Зліліся ў суладныя тоны.
У цемры знікання
Ёсць іскры світання —
Разумнае волі законы.

*(«Сымон-музыка»)*

Ва ўсіх часавых зменах паэт бачыць праяўленне мудрых законаў маці-прыроды. У творах Я. Коласа сезонны і сутачны час набывае асаблівае значэнне і ў тым плане, што ён нясе ідэйна-сэнсавую функцыю: сімвалічна і алегарычна раскрывае з'явы і падзеі, праясняе

канцэпцыю героя ці жыцця. У паэме «Сымонмузыка» гімн перамозе дня над цемрай, вясны над зімой становіцца паэтызацыяй няскоранасці абставінам свабодалюбнай душы Сымона, услаўленнем святла жыцця, адраджэння, духоўнай моцы ўсяго беларускага народа.

У кругаварот прыроды і часу ўключаны герой паэзіі Янкі Купалы. Ён па-натурфіласофску ўспрымае бег часу: «Нічога вечнага на свеце Няма для шумнага жыцця...» («Кругаварот»). Зямное быццё для паэта — «вечнабыт», а плынь часу ён успрымае як вечны рух з яго няўхільнай зменай гадавых перыядаў, вякоў, пакаленняў людзей: «За годам год, за родам род, Што хвалі хмар, што плесні вод, Па зменах змен, на ўсход, на сход, За родам род, за годам год»; «Канда ні ў чым, канца нідзе...» («За годам год»). Філасофія часу Я. Купалы заключаецца ў спазнанні наканаванасці адвечнага і часовага. Сімвалам вечнасці ў паэта паўстаюць зоры, прыволле нябеснае, і менавіта адтуль, з касмічнай вышыні, ён скіроўвае свой позірк на часовы і недасканалы зямны свет («К зорам»). Невыпадкова ў вершы «Бледныя буднія дні...», паэме «Адвечная песня» «быцце зямельнае» ад вясны да зімы Я. Купала паказвае як «бясконцае, зачараванае кола» (выраз П. Васючэнкі). Таму Я. Купала так імкнуўся вырвацца з рэальнасці «ў будучнасць», да «дзён лепшых» («Захад сонца»). Ён у думках-марах суадносіў будучыню з парой адраджэння прыроды і апантана верыў, «Што вясна наша гора, як снег і завею, Пахавае ў рацэ, спале сонца агнём...» («Засвяціла цяпло»).

Змена пораў года знаходзіць роздумна-шчымлівы водгук у душы Казіміра Сваяка. У лірычным вершы «Спавіў мне сэрца жаль...» эмацыянальна-псіхічны стан праецыруецца на вечныя законы абнаўлення і завядання прыроды, тут узнікае філасофская антыномія «жыццё — смерць», інакш кажучы, супрацьпастаўленне восені і вясны, зімы і лета. Лейтматывам у паэтычных радках гучыць матыў жалю, абвостранай тугі:

Спламеніўся дух мой:
Па восені ўздыхаў
І жаласцю згараў.
Пачуў я, што умру:
І плачу вось нямы
За зоркамі зімы.

Стварэнне надзвычай яркага, адметнага календара беларускай прыроды належыць пяру Андрэя Зязюлі. Цыкл з 27 вершаў «Беларуская прырода», прысвечаны розным сезонным цыклам, увайшоў у яго кнігу паэзіі «З роднага загону» (Вільня, 1931). Гадавы паэтычны каляндар мае паслядоўную, кальцавую пабудову: ён пачынаецца і

заканчваецца пейзажнымі вершамі пра зіму. Найбольш значнае месца адведзена тэме вясны (больш за 10 твораў). Прычым паэт асаблівую ўвагу запыняе на сутачных фазах вясновай пары, пра што сведчаць вершы «Веснавая раніца», «Веснавая полудніца», «Веснавы вечар», «Вечар маёвы», «Маёвая ноч». У сваіх пейзажных замалёўках А. Зязюля, скарыстоўваючы прыём адухаўлення, на радаснай ноце ўслаўляе жыццядайную, адраджэнскую моц прыроды: «Ой вясна мая міла — Наша моц, радасць, сіла! У сё ты скрозь ажыўляеш, Мне спакой уліваеш...» («Вясне»). Для яго зямля ўваскрасае «духам тайным» («У красавіку»), Паэт імкнецца да эмацыянальнай афарбаванасці тропаў, сцішанага лірызму, одумнасці. Яго паэтызацыя вясны з'яўляецца мастацкім выяўленнем унутранага свету чалавека, які адчувае лучнасць усяго жывога з Богам, гарманічную суладнасць чалавека і прыроды. Паэт любіць вясну і вясновую раніцу як часіну зямной асалоды бытавання, нараджэння жывой, чароўнай музыка «Надышоў цёплы май, Поўна ўкруг хараства. Дзе ні глянь — усюды рай...» («Лес у маі»). Схіл дня, надыход ночы А. Зязюля паказвае як пару цішыні, зачараванасці свету, калі нараджаецца душэўная малітва, выспяваюць думкі пра чалавечы лёс, свой край, радзіму. Пейзажы А. Зязюлі напісаны пластычнымі, пяшчотнымі фарбамі, з пільнай увагай да вобразаў і дэталяў навакольнага свету.

Чаргаванне сезонна-каляндарных станаў прыроды, іх, так бы мовіць, палескі каларыт, адметнасць праяўлення знаходзяць адлюстраванне ў пейзажнай рапсодыі Змітрака Бядулі «Восень, зіма, вясна і лета». Тут прырода паэтызуецца на фальклорна-міфалагічны лад, малюецца як царства першароднай глушы, бытавання міфічных істот, барацьбы змроку і святла, холаду і цяпла.

Адзін з самых яркіх каляндарна-пейзажных цыклаў стварыў Міхась Машара. Ён назваў свой каляндар «Года круг». Кожны з дванаццаці малюнкаў уяўляе адметны эмадыянальна-жывапісны эцюд, а разам усе гэтыя выявы складаюць цэласную пейзажную галерэю, якая адлюстроўвае беларускую прыроду ў няспынным кругавароце:

Вятры мякчэюць часам крыху,
а на расстанне студзень сам
прыносіць першую адлігу,
зіму рассекшы папалам.

У паэтычных малюнках настрой і адчуванні чалавека суаднесены з пэўным станам прыроды, яе зменамі.

З настальгіяй па роднай зямлі, беларускім побыце напісала свой пейзажны цыкл «Аджытае» Наталля Арсеннева. Усе чатыры поры года тут — гэта каляндар прыроды Беларусі з яго непаўторным

нацыянальнадухоўным зместам. Пейзажны жывапіс паэткі характарызуе лірычная цеплыня гол асу, вобразная маляўнічасць, яркі беларускі каларыт: «вецер веснавы качаецца кульнём па вуліцы» («Вясна»), «Плыве пластамі дым...» («Восень»).

У сучаснай беларускай паэзіі сезонна-каляндарны кругаварот часу запамінальна выяўлены ў вершах «Чатырохгранная ваза» Алеся Наўроцкага, «Кругаварот» Анатоля Сербантовіча, «Поры года» Юрася Свіркі, а таксама ў цікавых пейзажных цыклах паэта маладзейшага пакалення Анатоля Шушко «Квадры» і «Калейдаскоп года». Гэтыя творы, скажам без перабольшання,— рэдкія ўзоры тэматычнай і ідэйна-мастацкай згрупаванасці пейзажных замалёвак. Няшмат падобных календароў прыроды ў іншых славянскіх літаратурах, але тут у якасці тыпалагічнага падабенства можна прывесці пейзажныя карціны польскага паэта Яна Гушчы «Месяцы», венгерскага паэта Імрэ Чанадзі «Каляндар», у якіх аб'ектамі жывапісання сталі чатыры пары года, яго дванаццаць месяцаў.

Выдатным майстрам пейзажнага слова паказаў сябе А. Шушко ў зборніку «Выток і прычасце» (1994). У свой час яго творы высока ацаніў такі глыбокі знаўца паэзіі, як В. Бечык. Для кожнай пары года і сутак А. Шушко знаходзіць арыгінальны ракурс светаадлюстравання, дакладную фарбу, рытміка-інтанацыйную танальнасць радка («Акварэлі вясны», «Акварэлі лета», «Гуаш восені», «Алей зімы»). Асабліва паэт любіць маляваць прыроду акварэльнымі, мяккімі фарбамі. Праз пейзаж ён тонка выказвае любоўныя перажыванні сэрца.

Паэтка Валянціна Аксак таксама стала аўтарам вершаванага календара «Календаграфіка самоты». Яна суадносіць рух часу з унутраным рухам душы, зменлівасцю яе настрояў і пачуццяў. Пейзажныя выявы В. Аксак выразна псіхалагізаваныя.

Серыі эцюдаў і эскізаў да «партрэта» года намалявалі Рыгор Барадулін, Вера Вярба, Эдуард Акулін і некаторыя іншыя паэты. Кожны месяц, кожная пара года знаходзяць у іхніх творах адметнаяркае выяўленне. Паэзія бачыць у кругавароце прыроды непарушнасць свету, трываласць яго асноў. Таму і гучыць трывога, каб «ніхто Не парушыў Спрадвечнага Гэтага календара» (М. Танк. «Гартаючы каляндар»). А Пімен Панчанка нават з назвамі месяцаў звязвае неўміручасць нашай мовы, беларускага духу («Родная мова»).

Сутачны час, яго кругабег знаходзяць у беларускай паэзіі самае шырокае жывапіснае выяўленне і, у значнай ступені, натурфіласофскую, ідэйна-сэнсавую трактоўку. Такая актыўная і пільная ўвага да пораў дня зусім заканамерная, бо «прастора і час — гэта, з аднаго

боку, формы быцця прыроды, а з другога — формы існавання чалавека ў прыродзе, чалавека ў свеце...» (М. Каган).

Ранішнія пейзажы — дамінантныя ў паэтычным жывапісе. Наогул, у беларускай паэзіі пануе культ раніцы, натхнёнымі песнярамі якой з'яўляюцца Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гурло, Янка Журба, Язэп Пушча, Уладзімір Хадыка, Пятрусь Броўка, Максім Танк, Ларыса Геніюш, Кастусь Кірэенка, Рыгор Барадулін, Юрась Свірка... Нашым паэтам «больш за ўсё да сэрца Час, што раніцой» (П. Броўка. «Раніцу люблю») таму, што світанне — гэта, перадусім, уздымнае ўваскрэсенне разам з прыродай духоўных, эмацыянальных сіл чалавека. Для беларуса-земляроба і беларуса як шукальніка святла, свабоды, шчасця час світанку набыў асаблівы сэнс.

Світальная пара выдатна намалявана Якубам Коласам у вершы «Усход сонца». Паэт дасягае яркасці, непаўторнасці малюнка: гонка перадае фарбы, колеры і іх адценні праз маляўнічы эпітэт, вобразна-метафарычнае пісьмо: «Сноп праменняў, пышна ўзняты, Сее бляск-чырвонцы...»; «Агнявыя валаконцы Ткуцца ў шоўк чырвоны...» Ранішні пейзаж у «Новай зямлі» таксама вельмі маляўнічы, прасякнуты адчуваннем радасці быцця. Паэтычнае ўяўленне Я. Коласа нараджае дзівосныя, поўныя язычніцкай адухоўленасці, вобразы: «І агнявокая дзянніца, Як маладая чараўніца...»; «Вітаць у ранічак спакойны Златавалосую багіню...»; «Само паветра жыва, дыша, Бы ў ім хтось хвалы жыццю піша, Праменна-светлы, яснавокі, І гаснуць ночкі змрокі».

Вабіць Я. Коласа і начная краса, але найбольш стыхіі летняй ночы — маланкі, гром («Вераб'іная ноч»). Тым не менш пейзажныя матывы ўсходу сонца, вясновай і летняй раніцы набываюць у яго паэзіі першаступенную эмацыянальна-духоўную значнасць і глыбокі абагульнена-сімвалічны сэнс: час світанку і раніцы — «жыцця крыніца», паратунак ад цемры, покліч святла, волі, жыццялюбства. Любуючыся світальнай зарой, паэт паўстае ў палоне вялікага захаплення, выяўляе ўсплёск-уздым сваіх пачуццяў праз лірычныя звароты і воклічныя інтанацыі: «Эх, як прыгожы вы, раніцы мілыя,/ светлыя мары вясны!» («Майская раніца»).

Тэма раніцы і звязаныя з ёй вобразы золку, зары, світанку — вядучая мастацка-эстэтычная лінія ў пейзажным жывапісе Максіма Танка. Пра гэта красамоўна сведчыць ужо колькасны паказальнік: «ранішніх» вершаў у паэта больш за ўсё — звыш двух дзесяткаў. У ягонай так званай дапрацнёўскай лірыцы вобразы ўсходу сонца, світальнай зары становяцца алегарычным увасабленнем сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення, вырастаюць да сімвалаў волі і свабоды:

«Нас асвяці ты сонцам волі, Каб знішчыў путы мой народ!» («Усход у зарыве чырвоным...»).

На трактоўку пейзажнага матыву раніцы ўгілывалі, як бачым, сацыяльна-гістарычныя падзеі, калізіі часу. З парой світанку атаясамліваліся лепшы лёс і будучыня чалавека, народа, Радзімы, праз вобраз раніцы выяўлялася канцэпцыя нацыянальнага аптымізму: «Наш Край злажыў даволі ўжо ахвяраў, Каб выпесціць і ўбачыць свет зары!..» У працытаваных радках з верша Ларысы Геніюш «Як хмарны дзень» ды і ў многіх іншых пейзажны матыў раніцы — падкрэслена сімвалічны, кантрастны ў адносінах да вобразаў вечара і ночы. У лірыцы Л. Геніюш выяўляецца «радасць світання і сум вечароў» («Айчына — адвечнае слова з глыбінь...»), той душэўна-псіхалагічны стан чалавека, калі «цемень сэрца трывожыць» («Ноч глухая наўкол...»). Паэтка неаднойчы трапляла ў абладу сіл зла і цемры, таму раніца — сэнсава-значны, алегарычны вобраз-пейзаж, праз які яна выказвала свой характар, свабодалюбныя пачуцці. У вячэрніх і начных замалёўках Л. Геніюш 60-70-х гг. вельмі шмат суму, шчымлівасці. І таму ўражвае, кранае тое, як яна зноў і зноў вітае раніцу, народжаны дзень, у роздумах пра змену пораў сутак, бег часу выяўляе свой нацыянальна-патрыятычны дух. З раніцай паэтка звязвае нараджэнне светлага, сапраўднага на зямлі: «І толькі сэнс вялікіх слоў / у нечых ранніх сэрцах бродзіць» («Час»).

І ў М. Танка, і ў Л. Геніюш многія ранішнія малюнкі прыроды — узоры каларытнага беларускага жывапісу. М. Танк па-мастацку ўражліва паэтызуе нарачанскую зару, усход сонца ў роднай Пількаўшчыне: у ягоных радках выяўляецца эмацыянальнасць фарбаў, метафарычная маляўнічасць, яркае асацыятыўнае спалучэнне зрокавых вобразаў — і ўсё гэта пакідае адчуванне непаўторнасці ранішняга цуду-хараства: «Раніцай з вулля сонца Вылятаюць пчолы — яго праменні» («Раніцай з вулля сонца...»). Лірычны герой М. Танка, ідучы «дарогаю зары», адчувае глыбокую духоўную повязь з роднай прыродай, яе краявідамі.

Вясковая раніца намалявана Л. Геніюш з душэўнай прыўзнятасцю настрою, пяшчотна-мяккім любаваннем колерамі свету, з праніклівым адчуваннем пахаў, гукаў, шолахаў наваколля:

Прачынаюцца паплавы,
вольны вецер балотам
блукае і паволі з роснай травы
туманы, як пасцель, складае.

*(«Зноў басанач іду па расе...»)*

Яна ля майго парога,
свежая, у расе.
Вецер з шырокіх разлогаў
пах чабаровы нясе.

*(«Раніца»)*

У беларускім паэтычным мастацтве вечар і ноч — вельмі прыцягальныя аб'екты лірычнага жывапісання, дзве вялікія пейзажныя тэмы. Калі ранішняя пара нараджае ў паэтаў аптымістычную канцэпцыю свету, мажор, то схіл дня, змрок і цемра выклікаюць пераважна элегічна-роздумныя, журботныя пачуцці. Невыпадкова матывы вечара і ночы як матывы суму, згасання фарбаў, красы самыя прыкметныя ў паэтычнай свядомасці сентыменталістаў, напрыклад такіх, як Канстанцін Бацюшкаў і Васіль Жукоўскі, а пазней сімвалістаў і дэкадэнтаў Поля Верлена, Артура дэ Рэнье, Аляксандра Блока і інш.

У нашага Максіма Багдановіча вячэрнія і начныя пейзажы таксама становяцца выяўленнем унутранага стану — смутку, тугі, меланхоліі, абвостранай рэфлексіі: «Час, калі трэба журыцца, Душою на свежых магілах Пуста пранёсшыхся днёў» («Ціха па мяккай траве...»). І гэтым М. Багдановіч блізкі да сімвалістаў і дэкадэнтаў. Аднак надвячорак і ноч улівалі ў сэрца паэта асалоду, бо ў гэты час прырода поўнілася чарамі, таемна-загадкавым жыццём, «сцішанасцю гукаў, ігрою фарбаў» (А. Лойка). Асабліва ён улюбёны ў вячэрнюю і начную цішу — той стан свету, калі стомленая душа прагне спакою, гармоніі, адухоўлена-тонка зліваецца з прыродай, сусветам, вечнасцю: «Ціха ўсё было на небе, зямлі і на сэрцы...» («Ноч»). У вячэрніх і начных пейзажах М. Багдановіча краса прыроды маляўніча выяўляецца праз паэтыку колеру і святла — яркія эпітэты і метафары, якія вобразна жывапісуюць прыкметы прыроднай з'явы: «Вечар на захадзе ў попеле тушыць Кучу чырвоных кавалкаў вугля...» («Вечар на захадзе ў попеле тушыць...»); «Сінявокая ноч», «...у палёх Загарэліся пацеркі мілых Жоўта-чырвоных агнёў...» («Ціха па мяккай траве...»).

Больш чым у трыццаці вершах гучаць тэмы вечара і ночы ў лірыцы Наталлі Арсенневай. Гэтыя гадзіны сутак выклікаюць у яе сэрцы глыбокі прыліў пачуццяў. Аднак асабліва моцная ўлада над паэткай начной пары, і пра гэтую любоў да яе яна добра гаворыць у вершы «Ночы й думкі»:

Люблю за супакой, хоць сонны, а чароўны,
люблю за сіні змрок, за смутак невыслоўны,
што на душы ляжыць, калі сяджу адна
і ў глыбіню гляджу нябёсную без дна...

Ноч выклікае паэтку да элегічнай споведзі, самапаглыбленых назіранняў, дае раскрыленасць душы. «Толькі ўночы жыву я душою узлётнай»,— прызнаецца яна («Калі скончыцца дзень»). Ноч у светаўяўленні Н. Арсенневай вырастав да сімвала праўды: «Боль, горычы, наўды /зляцеліся проч. Ілгуць усе праўды,—/ адна праўда — ноч!» («Ноч»: «Ад зораў аж бела...»). Для яе вячэрніх і начных малюнкаў характэрны ціхі, пласты чны жывапіс слова, паэтызацыя гукаў, сініх ценяў, зорнага неба. У сваіх пейзажных творах часу вайны, калі паэтка апынулася ў замежжы, яна таксама звяртаецца да вобразаў вечара і ночы, па-ранейшаму малюе прыроду ў эмацыянальна-псіхалагічным ключы: «Калматыя, чорныя бровы / суровая хмарыць ноч» («Уночы»).

У беларускай лірыцы прыроды можна назваць вельмі шмат замалёвак вечара або ночы, адметных сваёй вобразнай жывапіснасцю, каларыстычнай грацыёзнасцю,— гэта вершы Алеся Гурло, Уладзіміра Жылкі, Максіма Танка, Уладзіміра Клішэвіча, Максіма Лужаніна, Алеся Звонака, Станіслава Шушкевіча, Яна Чыквіна і інш. Аднак асабліва цікавай бачыцца сэнсава-канцэптуальная інтэрпрэтацыя згаданых пейзажных вобразаў. Так, у вершы М. Танка «Ужо да вечара бліжэй мне...» вечар і ноч — час падрахункаў, унутранага самааналізу: «У ноч бяссонную ў сваіх вачэй пытаю: Ці навучыліся адрозніваць яны Святло газніцы ад прамення сонца?» Філасофія ночы ў сучаснага паэта Леаніда Галубовіча — гэта філасофія святла і цемры, жыцця і смерці, глыбокага ўнутранага светапазнання. Ноч становіцца арганічным выяўленнем чалавечай душы, якая прагне спавядальнага ачышчэння:

...Находзіць ноч,
і ўсё жыве ў сабе...
Тлумачу я нутро сваё сам-насам
І ў нетры апускаюся глыбей
Прыроды чалавечай
з вечным часам.
*(«Находзіць ноч, і ўсё жыве ў сабе...»)*

Адметным у паэзіі сучасных дзён з'яўляецца той факт, што дамінуюць у ёй вобразы ночы і вечара. і гэта звязана з драматызмам, трагедыйнасцю светаадчування і светабачання, спароджанага чалавечай бядой, сацыяльным хаосам, Чарнобылем, іншымі наступствамі. Зыход XX стагоддзя — час элегічнага вячэрне-начнога жывапісання, што яскрава выяўляецца ў зборніках паэзіі 90-х гг.: Р. Барадуліна «Міласэрнасць плахі», М. Мятліцкага «Палескі смутак», В. Гардзея «Дзікая пчала», В. Куртаніч «Начное сонца», Л. Галубовіча «Заложнік цемры» і інш.

Дзённы пейзаж у параўнанні з іншымі сутачнымі фазамі займае ў паэтычным адлюстраванні невялікае месца. Паэзію больш цікавіць тое, «дзе мяжа паміж днём і ноччу?» (А. Лойка. «Лядзень»). Філасофія часу для многіх паэтаў раскрываецца ў далучэнні да няспыннага кругабегу хвілін, дзён, месяцаў. Яны з медытатыўнай праніклівасцю выяўляюць сутнасць незваротнасці часу: «І дзень і ноч трывожныя спяшаюць... Глытае час жыццё патокамі ракі, У вечнасць падаюць гады, вякі» (У. Клішэвіч. «Час»), «... Дзень памірае. З Вечнага Дрэва ліст ападае. З цёплага лета плыве ён у Лету» (Л. Дайнека. «Бачыце, людзі? Дзень памірае...»). Змену пораў дня паэзія цесна суадносіць з жыццём чалавека, яго ўзроставым рухам: раніца — дзяцінства, поўдзень — юнацтва ці сталасць, надвячорак — старасць, мудрасць. Ноч пры гэтым атаясамліваецца з нябытам, вечнасцю (вершы Ю. Свіркі «Дзень», С. Законнікава «Дзень і жыццё...» і інш.).

Глыбока і ўдумна асэнсоўвае змест часу (хвіліна, поры сутак, гадавы цыкл) паэт Алесь Разанаў у кнізе «У горадзе валадарыць Рагвалод» (1992). Кожны часавы інтэрвал паэт імкнецца вымераць у суадносінах з чалавечым жыццём, праз сувязь імгнення і вечнасці: «Хвіліна можа доўжыцца не болей імг-/нення, а можа займаць доўгія гады...» («Хвіліна»), «Ноч як нябыт: Хвіліна ў ёй не адрозні-/ваецца ад вечнасці...» («Ноч»), «Рухомы і круглы, нібы карагод, год / апярэзвае повяззю згоды канец і пачатак...» («Год»). А. Разанаў стварае паэтычную натурфіласофію часу.

Як бачым, кругаварот прыроды і часу ў беларускай паэзіі — шматгранная пейзажная і натурфіласофская тэма. З ёй звязаны прасторава-часавыя ўяўленні, розныя канцэпцыі чалавечага і зямнога быцця. Спасціжэнне паэзіяй сутнасці зменаў пораў года і дня — гэта шлях да спазнання мудрасці Прыроды і Сусвету.

## «ІДЗІ, ВЯСНА, КРАСУЙСЯ…»

Усе поры года — зіма, вясна, лета, восень — гадавое кола жыцця прыроды. У гэтым працэсе сезонна-каляндарных змен, пераўвасабленняў роля кожнай пары адметная і выключная. Вясна ў беларускай паэзіі — цэнтральная і вялікая пейзажная тэма, ёй належыць частотна-колькасная перавага, яна асабліва ярка і глыбока адлюстроўвае сутнасць беларускай нацыянальнай свядомасці.

Вобразы вясны, вясновыя матывы займаюць адно з галоўных месцаў у вусна-паэтычнай творчасці. А калі зірнуць глыбей, у старажытнай міфалогіі беларусаў, увогуле славян. Уклад жыцця нашых продкаў быў вельмі цесна звязаны з зямелькай-карміцелькай, яе пладаноснасць, урадлівасць напрамую залежал і ад прыроды, яе спрыяння. Абуджаная зямля, вясновае сонца былі прадвеснікамі новага земляробчага года, яны выклікалі ў чалавечай душы і радасць, і хваляванні. Невыпадкова ў народзе да нашага часу кажуць: «Вясна год корміць». Альбо: «У сакавіку зіма не гніе — у красавіку трава не расце», «Як у сакавіку туман, дык у жніво дождж — пан!», «У красавіку грымот — будзе цёплы год», «Май халодны, год хлебародны» і інш. Але асабліва ярка выявілася паэтычная душа беларуса ў веснавых песнях, тэматыка якіх разнастайная. Тут чуваць адухоўленае, прачулае гуканне вясны, каб хутчэй «зіму замыкаці», гуканне прылёту птушак («Жавароначкі, прыляціце, цёпла лецейка прынясіце»), вітанне прыходу вясны («Вясна-красна на ўвесь свет»), сустрэчы зімы з летам («Зіма з лецечкам сустрэла... У! Сустрэлася, Зіма ў лецечкі пытала... У!»), апяванне сонца, кахання... Вяснянкі перапаўняюцца радаснымі воклічамі, у якіх чуюцца зыкі абуджанай вясновай прыроды. Звароты да вясны гучаць у велічальнай ці ласкавай форме: «Вясна-красна», «вясна-вясняначка», «дачка-вясняначка» і інш. Найчасцей у народных песнях вясна ўяўляецца ў вобразе маладой прыгажуні-дзяўчыны. Вясна — чараўніца, якая адмыкае ключамі зямлю пасля зімовага сну і выпускае на волю ваду і траву.

Вясновая пара, такім чынам, здаўна бачылася як адраджальны выток жыцця, дабрабыту, сімвал маладой красы, святла, сонца, успрымалася як антыномія зімоваму сну, амярцвенню, холаду, цемры. Яшчэ даследчык старажытнай міфалогіі славян А. Афанасьеў дакладна выявіў народны паэтычны погляд на вясну: «Вясна на паэтычнай мове ёсць раніца года; падобна золку, які выводзіць яснае сонца з цёмных сховаў ночы, яна выводзіць яго з-за туману зімы».

Вясна як вобраз-сімвал выступае ў старажытнай беларускай паэзіі. Вясновае адраджэнне прыроды звязваецца з духоўным абнаў-

леннем у творах Кірылы Тураўскага. У сваім «Слове ў Вялікдзень» праз вобразы вясны, сонца, якое саграе зямлю, ён паэтызуе свята Хрыстова ўваскрэсення. Паэт-прапаведнік жадае дапамагчы чалавеку адшукаць душэўную апору, вечны быційны сэнс свайго прызначэння на зямлі. Эмацыянальна-пранікнёна, узнёсла гучыць слова беларускага Златавуста: «И земля семена питающи зеленую траву ражаеть. Весна убо красная есть вера Христова...» Красаванне вясны нібы пазбаўленне ад душэўнага холаду, цемры, яна растапляе зімовы лёд нявер'я і кліча да мацавання духу, пакаяння і веры.

У рэлігійна-філасофскім, алегарычным ключы таксама раскрывае свет вясновай прыроды Сімяон Полацкі. Сонца атаясамліваецца ім з вобразам Хрыста-збавіцеля, супрацьпастаўляецца цемры і холаду. Вясна для паэта — дарунак Божы, увасабленне святла, духоўнай лагоды і вечнага жыцця: «Тем весны чувственныя носим знамение — / зеленость: во духовны весны явление»; «А занеже зеленость вечность знаменает...»

Як відаць, яшчэ са старажытнасці вясна будзіла эмоцыі паэтаў, якія, услаўляючы яе, бачылі ў моцы вясновага сонца вялікі стваральны пачатак.

Вясновыя малюнкі ў паэзіі XIX ст. нешматлікія. І гэта зразумела: беларуская пейзажная лірыка на той час знаходзілася на шляху станаўлення. Захапленне вясновым хараством вельмі адчувальнае ў паэзіі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. «Прырода ў вясновых абдымках» паўстае ў ягоным вершы «Вясна!». Паэт знітоўвае вясновы краявід і ўнутраныя перажыванні, ягоная душа адгукаецца самай чыстай і радаснай лірычнай нотай:

Жаўруча, сіняй вясны вястуне!
Высока ў неба, малы, узбіся,
Збудзі прыроду, жыцця пяюне,
Удзячнай песняй з высяў.

*(Пераклад С. Сокалава-Воюша)*

Вясна расквечвае душу, прыўносіць у яе прастор і высокі лёт пачуццяў. Паэт выказваецца з сардэчнай шчырасцю і маляўнічасцю:

Воляю дыхае ўсё навокал,
Сонейка нават смяецца вясёла,
Стрэламі промняў знішчае
Рэшткі зухвалыя снежнае белі,
Хваляй цяпла ачышчае
Дол, на якім час ад часу ды стрэліць
Кветка ў шуканні жывільнага тхнення,
Радая, што не ў марозным вянзенні.

*(Пераклад С. Сокалава-Воюша)*

В. Дунін-Марцінкевіч — адзін з першых паэтаў, хто прачула паэтызаваў хараство родных краявідаў, імкнууся выявіць свет душэўных перажыванняў праз вобразы прыроды.

З побытавых уражанняў, сацыяльных малюнкаў прыкметна пераключаў сваю ўвагу на вясновую прыгажосць Адам Гурыновіч. Ягоны верш «Вясна» сведчыць, што паэт умеў эмацыянальна жывапісаць словам:

Ты ізноў да нас вярнулась,
Беднай восені сястрыца!
Белай сукняй апранулась,
Ты румяна, светлаліца!

У беларускай паэзіі XIX ст. вясна абмалёўваецца ў духу фальклорнай паэтыкі. Але разам з тым сустракаецца і выразная індывідуалізаванасць аўтарскага пачуцця, як, да прыкладу, у наступных радках Янкі Лучыны:

Журавулі ўжо лятуць з крыкам звонкім — ключом,
Кінуў вырай кулік, чайка недзе скігліць,
А ўсё сівер як дуў, дзьме па полі па том,
Гул па лесе ідзе: «Яшчэ летку — не быць!»
Ой ты, доля мая! — так, як гэта вясна.
Да мяне ты не йдзеш,— хоць даўно бы пара!

*(«Вясна»)*

Вобраз вясны ў паэтычных творах мінулага стагоддзя далека не заўсёды паэтызуецца, выклікае замшаванне. У ананімным вершы «Вясна гола перапала», паэзіі Ф. Багушэвіча, А. Гурыновіча, Я. Лучыны і некаторых іншых паэтаў вясна паўстае як прадвесніца сацыяльных бедаў, яна не радуе чалавека, бо навокал «мора смутку ды слёз». Цяжкім, нават фатальным стаў «марац» для селяніна ў паэме Францішка Багушэвіча «Кепска будзе!». Згадайма сюжэт твора: як напрадвесні вязуць у царкву дзіця, як пад націскам крыгаходу сарвала мост і хлопчыка тут жа «хрысцяць», абліваючы халоднай вадой з Бярэзіны. Прырода нібы не жадае спрыяць чалавеку ад самага нараджэння, адразу выпрабоўвае яго на жыццястойкасць. Але Ф. Багушэвіч верыць у прыроджаную трываласць духу беларуса, бачыць чуйнасць ягонай натуры. Вось як герой паэмы Аліндарка ўспрымае абуджэнне прыроды:

А і слоначка прыгрэла,
Аж мне ў душы паяснела.
Да палудня ішлі гэтак,
Пры дарозе шмат і кветак:
То пралескі, то сасонка,

Выгравае божа слонка!

Гэтыя радкі любавання вясновай прыгажосцю высвечваюць увесь драматызм душы зняволенага маладога хлопца, які так моцна любіць свабоду і жыццё. І ўсё ж Ф. Багушэвіч у сваёй паэзіі найчасцей спачувае селяніну, бо бачыць пакуты ягонага жыцця: «Той ў мяцеліцу, ў марозе... У снягу увесь па брух!» Перад ім нібы заслонены свет вясновага хараства, і гэта можна зразумець. Аднак на душы робіцца і неяк сумна: няўжо прырода маўчала, няўжо яе жывая паэзія не хвалявала чалавечае сэрца? У Янкі Лучыны сустракаем антыномію «зіма — вясна», якая таксама выяўляе сацыяльны кантраст жыцця, рэчаіснасці. «Хоць бы раз у свой час адышла бы зіма!», «На далёк акіян убяжы ты, мароз!..» — гучыць просьба ў ягоным вершы «Сівер», выказаная з жаданнем, каб «устрапянуўся дух у чалавечай грудзі». Аднак мара пра яркія пейзажныя фарбы нарадзілася і жыла ў нашай паэзіі. Слушна пісаў польскі паэт Е. Янкоўскі: «Хоць вельмі бедным і змучаным гадамі няволі быў і застаецца селянін, які жыве на Беларусі, але над яго палеткам усходзіла сонца, вылі віхуры, шумелі сосны, гаварыла прырода».

Сапраўдны культ вясны пануе ў беларускай паэзіі пачатку XX ст. Нашы класікі дасягнулі небывалага пранікнення ў свет роднай прыроды і тым самым сцвердзілі высокую эстэтычную годнасць нацыянальнага паэтычнага слова. Кожны з вялікіх нацыянальных паэтаў стварыў непаўторныя, вобразна-маляўнічыя карціны вясны. У іхняй паэзіі — ці мы возьмем Я. Коласа, ці Я. Купалу, ці М. Багдановіча — адчуваецца глыбокая і яркая асабовасць светаўспрымання, дасканалае валоданне выяўленчым майстэрствам, таму іх пяро з аднолькавым поспехам жывапісала і пейзажы — зімовыя, летнія, восеньскія. Але ў кожнага мастака, як і ў любога чалавека, ёсць свая любімая пара, і паэтызуецца яна па-асабліваму прачула. Кожнай гадавой часіне адпавядае пэўны стан чалавечай душы, выразныя псіхаэмацыянальныя адчуванні: радасць, уздым або самота, туга... Вясне найчасцей адпавядае мажор, восені — элегічны настрой, мінор.

З непрыхаванай замілаванасцю апяваў вясновы свет Якуб Колас. Вясна — любімая пара паэта ад самага маленства. Прыход вясны абудзіў у ягонай душы паэтычны талент. Першы верш, як мы памятаем, так і называўся — «Вясна». Даўно ён прапісаўся ў дзіцячых чытанках і зборніках, абуджае адухоўлены, паэтычны позірк на вясновую прыроду: «Сонца грэе, прыпякае; Лёд на рэчцы затрашчаў...» Я. Колас спяваў пра вясну пяшчотныя лірычныя песні, складаў ёй гімны, маляваў яе ва ўсёй велічнасці, з эпічным размахам пачуццяў. Па-язычніцку заклікаў паэт вясну, услаўляў яе сілу моц і хараство ў такіх

вершах, як «Закліканне вясны», «Вясна» («Вясна прыйдзе, снег пагіне...»), «Вясна» («Вясна, вясна жаданая!..), «Вясна на Палессі», «На полі вясною», «Майская раніца», «Першы гром» і інш. А хто не памятае шматфарбнага, размашыстага пэндзля мастака ў пейзажных карцінах з «Новай зямлі», дзе гучыць цэлая вясновая сімфонія прыроды:

Вясна была яшчэ ўпачатку,
Але снягі ўжо раставалі
І дружна ў полі балбаталі
Раўкі, рачулкі, і ў грамадку
Яны ваду сваю злівалі,
Ад сну гаі, лясы будзілі
І людзям душу весялілі.

Коласава музыка прыроды гучыць віртуозна, легка, дынамічна. Увогуле, вясновыя пейзажы паэта ўражваюць сваёй незвычайнай гарманічнасцю, пластыкай, глыбокай эмацыянальнай перажытасцю вобразаў. Я. Колас тонка вычувае зыкі, галасы першых вясновых стыхій — грому, дажджу, і гэтыя мелодыі ды галасыадгалоскі адбіваюцца ў ювелірнай інструментоўцы радкоў, паэтычных асанансах, алітэрацыях і іншых сродках мастацкай выразнасці: мы захапляемся булькатаннем ручаёў, чуем, як птушкі «звонкім сваім крыкам» будзяць жыццё прыроды, нераўнадушна ўспрымаем, як «голасам моцы ціха і важна Гром пракаціўся ўгары...» Паэт здольны вычуць, «як расце трава і збожжа — нівак свежае руно» («Сымон-музыка»). Чытаючы Я. Коласа, здаецца, далучаешся да самага таемнага, глыбіннага абнаўлення прыроды.

Вясна на паэтычных палотнах Я. Коласа глыбока адухоўленая. Паэт паўстае як сапраўдны жывапісец, які валодае ўсімі відамі і сакрэтамі пейзажнага майстэрства. Вясну ў адных творах ён малюе ў вобразах яркіх, дакладных па сваёй зрокавай фактуры, каляровай афарбоўцы, у іншых паэтычных краявідах, асабліва там, дзе жывапісуецца ранняя вясновая пара, адчуваецца акварэльнасць фарбаў, стрыманасць каляровай гамы, мяккая сузіральнасць. Коласавы вясновыя пейзажы сугучныя з эмацыянальна-лірычным успрыманнем вясны беларускім пейзажыстам Фердынандам Рушчыцам («Вясна»), а таксама з адухоўлена-экспрэсіўным бачаннем вясновай прыроды на карцінах мастакоўжывапісцаў Уладзіміра Кудрэвіча («Раніца вясны»), Пятра Крахалёва («Блакітная вясна»), Віталя Цвіркі («Сакавік. Халодны дзень», «Вясна», «Пачатак сакавіка», «Напрадвесні» і інш.).

Вясновае абуджэнне прыроды ярка жывапісаў Янка Купала. Прычым Купалавы малюнкі беларускай прыроды па сваёй вобразнасці, эмацыянальнасці гучання такія ж яркія, як і прыродаапісанні

Я. Коласа, складаюць самавітую старонку нацыянальнай пейзажнай паэзіі. Любімая Купалава пара года — лета. Тым не менш вясну ён паэтызуе часта, любуецца яе непаўторнай красою, услаўляе яе жыццёвыя сілы, адраджальную моц. Увогуле, у нашай паэзіі пачатку XX ст. гучыць багацце вясновых матываў, сярод якіх асабліва прыкметныя — маты вы адраджэння прыроды, прарастання, красавання і зацвітання. Гучаць яны і ў паэзіі Я. Купалы. У паэме «Яна і Я» — цэлае шматгалоссе вясновых матываў: чуецца традыцыйна-песеннае загукванне вясны і апяванне яе прыходу («Ой, брала вясна у сонца ключы, Адчыняла сырую зямельку...»), радасна ўслаўляецца росквіт прыроды і кахання (раздзел «Яблыні цвітуць»), раздаецца высокапаэтычнае ўхваленне вясновага свету (раздзел «Краса свету»).

Я. Купала, як і Я. Колас, жывапісуе вясну з лірычнай задушэўнасцю і разам з тым з вялікім захапленнем. Згадайма такія яго вершы, як «Вясна» («Згінулі сцюжы, марозы, мяцеліцы...»), «Вясна» («У вянку з пралесак...»), «Явар і каліна» і інш. Позірк Я. Купалымастака аб'ёмны, таму некаторыя ягоныя вясновыя пейзажы пазначаны вобразнай шырынёй:

Спаўзлі з загонаў зімнія снягі
І ў мора паплылі ракой-вадзіцай,
Запелі жаўранкі. І чорныя лугі
Ўсміхацца сталі першаю травіцай.

*(«Яна і Я»)*

Што характэрна для ўспрымання і асэнсавання вясны Я. Купалам, Я. Коласам, М. Багдановічам і іншымі паэтамі на пачатку XX ст.? Тое, што тэма-вобраз вясны, акрамя ўсяго іншага,— алегарычнае, сімвалічнае ўвасабленне нацыянальнага і сацыяльна-духоўнага ўваскрэсення народа. Вясна — само Адраджэнне, якое так натхнёна і паграмадзянску ўсвядомлена клікаў Я. Купала і іншыя песняры нацыянальнай ідэі, нацыянальнай незалежнасці. «Яшчэ прыйдзе вясна! Яшчэ прыйдзе!..» — прароча сцвярджаў Я. Купала ў вершы «Яшчэ прыйдзе вясна» (1908). «Выйдзі спаткаці вясну!», «Выйдзі... Чакае вясна!» — на высокай заклікальнай ноце гучыць паэтаў голас у вершы «Выйдзі...» (1912). Пішучы пра М. Багдановіча, Алег Лойка слушна адзначае, што «вобразы абнаўлення ў прыродзе былі сімваламі немінучага адраджэння народа, абнаўлення яго гістарычнага жыцця, прыходу лепшага будучага».

Праўда, вясна не заўсёды адгукалася ў душы паэтаў радасцю і заклікальнымі інтанацыямі. Трагізмам адчуванняў, звязаных з пажарышчам першай сусветнай вайны, поўніцца верш Я. Купалы «Вясна 1915-ая».

Успрыманне пары вясновага квітнення часам нараджала і ў сэрцы Максіма Багдановіча элегічную настраёвасць, філасофскі роздум, які з унутранай абвостранасцю выяўлены ў вершы «Непагодаю маёвай». Аднак у вясновых малюнках паэта драматычны пафас, хутчэй, выключэнне, бо, наадварот, у ягоных радках струменіць жыццярадаснасць, вера ў адраджальны дух прыроды. І гэта нягледзячы на тое, што М. Багдановіч быў моцна хворы і жыццё яго згасала, нібы свечка. З вялікім душэўным імпэтам ён паэтызуе абуджэнне і красу вясновай прыроды ў вершы «Перад паводкай». Уражвае раскаванасць, шырыня эмацыянальнага самавыяўлення паэта: «І красой паводкі вольнай Душу выпрастай маю!» Дынамізмам, меладычнасцю напоўнены строфы іншага твора — «Па-над белым пухам вішняў...», у якім чуваць «ціхі, ясны гімн вясне».

Карціны і малюнкі вясновай прыроды, створаныя Змітраком Бядулем, вельмі каларытныя, маляўнічыя. Пейзажная лірыка паэта, як падаецца, яшчэ і на сённяшні дзень недаацэнена. А менавіта З. Бядуля валодаў надзіва яркім, самавітым талентам жывапісца: ягоныя радкі кранаюць сваім лірызмам, вобразна-метафарычнай жывапіснасцю і музычнасцю слова. Выразна настраёвыя, акварэльныя вясновыя пейзажы паэта, як падаецца, па сваёй тонкай нюансавасці колераў асабліва блізкія лірычным палотнам выдатнага беларускага мастака-пейзажыста Вітольда Бялыніцкага-Бірулі («Вясна», «Ранняя вясна», «Веснавы дзень», «Блакітнай вясной», «Лёд прайшоў» і інш.):

Пад сонцам грэліся бярозы
У белым тонкім палатне.
І зелянелі вербалозы,
І за ракой папар чарнеў.
*(«Яшчэ бялелі касагоры...»)*

У вясновых малюнках прыроды пранікнёна, задушэўна выказала сябе Канстанцыя Буйло («Вясна», «Вясна пяе... Гамоняць ручаі...», «У маі» і інш.). Вясновая пара для яе гераіні — «шчаснае прадвесне», «радасць маладая», вольнае разгарненне душы. Па-свойму шчыра, адметна праспявалі песні вясне Цётка, Янка Журба, Алесь Гурло і іншыя паэты.

Як бачым, вясна — адзін з самых прыкметных, дамінуючых вобразаў паэзіі пачатку XX ст. З гэтай парой года звязана цэлая гама эстэтычных уражанняў і перажыванняў, большасць з якіх — радаснага, аптымістычнага характару. Вясна — услаўленне жыцця і будучыні, духоўнай моцы чалавека, увогуле народа.

Своеасаблівае адлюстраванне набыў вобраз вясны ў беларускай паэзіі 20-х гг. Радасны вясновы ўздым поўніць радкі многіх паэтаў. І

гэта зразумела: на паэтычнае ўспрыманне прыроды магутны адбітак накладвалі поступ часу, гістарычныя змены, выявы навакольнай рэчаіснасці. Увогуле, «калі мы хочам гаварыць пра паэзію ва ўласным сэнсе слова,— адзначаў Гегель,— мы павінны заўсёды спасцігаць вобразы, якія ствараюцца... у іх нацыянальнай і часавай своеасаблівасці, не выпускаючы з-пад увагі іх суб'ектыўную творчую індывідуальнасць».

Сацыяльны і нацыянальны аптымізм, які ахапіў сэрцы паэтаў на парозе новага жыцця, найлепей суадносіўся са станам абуджанай, уваскрэслай прыроды. Паэтычная моладзь, якая ў 20-я гг. шырока, актыўна ўваходзіла ў літаратуру, з асаблівай святочнай настраёвасцю паэтызавала вясну. Моладзь — і не толькі яна — верыла ў сапраўднае вясновае адраджэнне роднай зямлі, яе цвіценне і росквіт. Вясновыя песні паэтаў-маладнякоўцаў якраз і прасякнуты ўзнёсла-патэтычнымі танальнасцямі. Поўны вясновай бадзёрасці, урачыстага пафасу голас Андрэя Александровіча: «Песні звіняць веснавыя — Радасць раскутай зямлі. Станьма шчыльней, маладыя, Долі сваёй кавалі» («Да моладзі»). Вясна ў творах маладнякоўцаў, як правіла, услаўляецца як заранак новага жыцця, пара маладосці, святочнага росквіту душы і прыроды. Эмацыянальна-прыўзняты настрой гучыць у радках Валерыя Маракова, у якіх паэт гукае «сонечнай песні вясну»:

Кінуў той кліч я сягоння,
Сам малады, як вясна,
Радасна-сонечных гоняў
Ў сэрцы не змоўкне струна!

*(«Белае зімняе поле...»)*

Вясновасць шырока струменіць ужо ў назвах тагачасных паэтычных зборнікаў і многіх твораў: «Золак вясны», «Вясну пяю», «Звон вясны», «Чырвоныя вяснянкі», «Весняцвет», «Галасуе вясна за вясну» і інш. «У сінія майскія песні спавілася душа мая»,— прызнаецца паэт Алесь Дудар, які адчувае сябе «сынам вясны і віхуры». Вясна ў ягоных радках, як і ў вершатворчасці іншых маладнякоўцаў, выяўляецца як сутнасць грамадска-значнага, як музыка грамадзянскіх пачуццяў, а не лірыка прыроды, што гучыць сама па сабе і сваімі акордамі сцішана, роздумна-рэфлексійна ўваходзіць у інтымны свет паэта. Вясна як увасабленне светлай, чароўнай красы для многіх паэтаў засталася недзе на заднім плане. Яны выгуквалі «вясенні кліч» з грамадзянскім пафасам, рамантычнай акрыленасцю пачуццяў-парыванняў.

Лірычны герой паэзіі маладнякоўцаў «сам малады, як вясна», у ягонай душы «кіпяць ручаі», праменіць «сонца свабоды». Як брата, блізкага па духу, сустракае май герой А. Дудара: «Як і я — ён бунтар

адвечны: / любіць сонны ламаць буралом...» Партрэт мая, які «вясну сабе сасватаў», намаляваны з квяцістасцю зрокавых метафар, яркасцю фарбаў: «Май прыйшоў у блакітнай кашулі, у манісце павеваў лясных...», «чырвонай істужкай май аздобіць блакіт» (верш «Май»), Вельмі сімвалічны колер у мая — «чырвоная істужка», бо тут і надалей у многіх вершах паэтаў чырвань увасабляе новую акрасу свету.

У беларускай паэзіі 20-х гг. вельмі характэрна азначэнне вясны эпітэтамі «маладая», «вольная», «звонкая», «гаварлівая», «залатая»... Вясна нібы становіцца галоўнаю асноваю быцця. Яна — сам бунтоўны неспакой душы маладога пакалення, якое ступала на прасцягі жыцця, люстэрка бурлівага, усеахопнага пераўвасаблення свету:

Вочы вясны для мяне —
Сонца гарачага промень...
Ў бойках я камянею,
Рэвалюцыі кліч мяне пройме.

*(«Вясенні балаган»)*

Гэта радкі Міхася Чарота, якога нярэдка называюць песняром вясны. Аднак перадусім ён і пясняр завірухі, мяцеліцы, пра што красамоўна сведчыць ужо назва яго першага зборніка — «Завіруха» (1922). «Вясною жыць салодка — Пяю... пяю я аб вясне», «Я люблю вясну гэту...» — шчыра спавядаецца паэт. Але разам з тым ён здолеў трывожна вычуць, як гудуць «сцюжы зімніх дзён і снегавой завірухі». Увогуле, у беларускай паэзіі 20-х светаадчуванне паасобных паэтаў несла ў сабе і драматычныя, трагедыйныя водсветы. Таму вясна не захапляе, не выклікае радасці і аптымізму, а паўстае ў сумных, змрочных выявах. У лірыцы Янкі Купалы 1918-1920-х гг. душэўныя перажыванні выліваюцца ў трагедыйныя матывы, гнятлівы мінор: «Кожнай вясны, як выходжу Свой засяваці загон, Чорны груган вылятае...» («Груган»), «На беларускім буйным полі З вясны да новае вясны Растуць крыжы…» («Беларускія сыны») і інш.

На зыходзе 20-х засумаваў па днях вясны Язэп Пушча. Ён нібы прадчуваў, што не выпадзе «піць веснавы пераліў» («Не сядзець мне з хлапцамі...»). Узнёслая вясновая настраёвасць саступіла месца сумным «асеннім лістам».

Вясна для Міхася Чарота — рамантычная мара, ідэал: «Вясна была мне казкаю, Аб ёй я толькі марыў...» («Вясенні балаган»). Таму нават восень бачыцца яму ў жывым абнаўленні: «На палях здратаваных, прыбітых: Паглядзі... вясну радзіла восень» («Зарунела, зарунела...»). У вершы «Зіма», аднак, гучыць зусім іншая сэнсавая танальнасць: «О, там зіма! Там і вясной сцюдзёна, Ўсе скованы, як рэчкі, лёдам...» «Бунтарскае крыві Нішто не замарозіць!» — пераконваў сябе

паэт. Але ён адчуў, як ягоная душа дваіцца, раскрыжоўваецца між вясноваю казкаю і вобразам смерці. Гэтае сваё драматычнае адчуванне паэт добра выказаў у вершы «З сучасных настрояў»: «Хачу я пець пра кветкі, май, Пра погляд зорак небасхілу... Зірну наўкола: там, дзе гай, Чарнее поле ад магілаў». Як і Я. Купала, М. Чарот і некаторыя іншыя паэты праз кантрастнасць зімы і вясны, супрацьпастаўленне вясны з вобразамі смерці — крыжоў, магіл, груганоў — здолелі выявіць супярэчнасці, складанасці свету і сваё дыскамфортнае, балюча-трывожнае пачуванне ў ім. Паэтычны свет прыроды і жыцця ў паэзіі М. Чарота пачатку 20-х гг. мае выразную антынамічнасць, процілегласць: завіруха, «мяцеліца смерці», «бура зімы напрадвесні», з аднаго боку, а з другога — «эх, зімы не будзе болей!», «вясну закліканнем хвалім мы, Не змаўкаюць гучлівыя струны», «вясна на наш край заглянула,— Мы будзем жыць!» Прычым вясновыя вобразы досыць часта абрамляюцца сацыяльнымі выявамі рэчаіснасці, знаходзяцца ў цеснай суаднесенасці з гучным пафасам і зместам эпохі. З паэтавых вуснаў гучаць «чырвоныя вяснянкі», а «ў сэрцы радасць песні». Сярод бадзёрых вясновых мелодый у лірыцы канца 20-х гг. вылучаецца элегічны верш «Вясна і дзяўчына», у якім чуецца бязрадасная песня «пра дзень вясновы жальбы».

У нацыянальнай паэзіі 20-х гг. створаны яркія вясновыя пейзажы, у якіх вясна намалявана ў сваёй адухоўленай велічы, дзівоснанепаўторнай вабнасці. Тут маюцца на ўвазе творы, напоўненыя музыкай, паэзіяй самой прыроды, дзе вясновая краса — эстэтычная самакаштоўнасць, і прыроднае не прыпадабняецца сацыяльнаму, грамадскаму. Уражвае, напрыклад, сваёй маляўнічасцю, сакавітасцю фарбаў майская карціна прыроды ў паэме Якуба Коласа «Сымонмузыка»: «Быў якраз пачатак мая. Ну й была тады вясна!..» Паэта захапляе прастор, святло, дух зямлі, шматфарбнасць вясновага жыцця прыроды. Вясновая паэзія брала ў «песенны палон» і іншых таленавітых паэтаў, якія з глыбокім, непадробным лірызмам выказалі свае пачуцці любавання прыгажосцю, выявілі беларускі пейзаж у маляўнічасці, каларытнасці вобразаў і фарбаў.

Зайздросны метафарычны жывапіс у вершы «Вясновае» прадэманстраваў Язэп Пушча. Яго вясна — адметна-яркая, зычная і галасістая:

Раніца
ў полі рыкае
у зялёную сінь.
Раніць
грудзі рака ёй.

Вісне вясны каласнік.

Мяккай лірычнай настраёвасцю прасвечаны лепшыя паэтычныя радкі ў вершы «Зноў вясна...» Тодара Кляшторнага. Вясна тут празрыста-блакітная, сонечная:

Зноў вясна.
Зноў купаюцца далі ў разлівах,
Зноў так чыста блакітная гладзь...
І так хочацца ў думках маўклівых
Залатыя палі цалаваць.

Вобразнай і каляровай экспрэсіўнасцю пазначаны вясновыя малюнкі Наталлі Арсенневай (вершы «Вясна», «Красавік», «Май» і інш.). У яе зборніку «Пад сінім небам» (1927) хараша апяваюцца ўсе поры года, але з асаблівай, нейкай глыбіннай пранікліваcцю, як здаецца, гучаць песні пра вясну і восень. Паэтка любіць паэтызаваць кветкі — пралескі, фіялкі, піша пра іх з вялікай замілаванасцю сэрца: «Мілыя, мілыя сінія кветкі...» («Пралескі»). Кветкі ў яе ўспрыманні — «дар вясны зарунеўшым палям», ратаванне ад холаду, зімовай панурасці. Вясна ў паэзіі Н. Арсенневай паўстае ў сінечы прастору, сонечнасці і незамглёнасці колераў: «Пасінела неба... Ласкай залатою Залівае сонца ціхія палі» («Май»). Улюбёны колер паэткі — сіні: «Неба сіняе, сіняе, сіняе», «сінія далі», «сінія кветкі», «сіняватыя цені» і інш. Яе вясновыя мелодыі — па-маладому шчырыя, летуценныя, поўныя душэўнай цеплыні і ўсхваляванасці.

«Я паланён душы разводдзем, Палескай роднаю вясной»,— так перадае настраёвасць сваёй душы Сяргей Дарожны ў вершы «Веснавое». Паэт валодаў тонкім лірычным талентам, умеў выказаць і вясновую радасць, і восеньскую самоту, тугу. Вясна ў гэтым і іншых ягоных вершах — узнёслая мара («коні вясенніх і ружовых дзён»), тая акрыленая эмоцыя, якая мкне з самага дна душы: «...У сэрцы маім вясна, Хоць і восень кілімы паблёклыя Усцілае на сцежках нам».

У вершах многіх паэтаў 20-х гг. сустракаем калі не разгорнутыя вясновыя карціны, то досыць яркія пейзажныя эскізы і штрыхі, як, да прыкладу, наступныя: «Абрусамі саматкамымі Сонца сцелецца над нівамі...» (Алесь Дудар. «Вясковае»), «Пахнуць далі бярозавым сокам...», «І махае бялявы бярэзнік Павуціннем зялёных рук» (Міхась Багун. «Вясновы эскіз»).

Асабліва багата вясновых мелодый, прасякнутых мажорам, у беларускай паэзіі 30-х гг. Большасць з іх гучаць як услаўляльна-пафасныя гімны. Ідэалогія, палітыка сталі вызначальнай часткай светапогляду і светабачання абсалютнай большасці паэтаў, яны вялі з «пачуццямі спрэчку» (П. Броўка), бачылі сутнасць паэзіі ў яе сацыяльна-гра-

мадзянскай арыентацыі. З вуснаў многіх паэтаў гучыць апафеоз вясне савецкай, сацыялістычнай. «Вясна 1932 года» Алеся Дудара — яскравы прыклад рытарычнай ідэалагічна-палітызаванай вобразатворчасці:

> Прыйшла яна
> і дзень ад дня
> шырыцца па неабсяжных
> абшарах.
> Будзе яна, будзе яна
> бальшавіцкаю ўдарнаю.

У вершы «Вясна» (1936) паэт пафасна абвяшчае, што «кроў сусветнай вясны наліла нашы жылы», і даводзіць, што «цёпла пахне вясна толькі ў нас, толькі нам...». Падобнай вершатворчасці нямала і ў А. Александровіча, М. Чарота, А. Вольнага і іншых паэтаў. Пейзажная лірыка бачылася тады як бы ніжэйгатунковай, не вартай пяра і ўвагі, таму паэтаў менш за ўсё цікавіла прыгожае, неўвядальнае, вечнае. Верш 30-х гг. П. Броўкі «Вясновая размова», калі меркаваць па назве, здаецца, павінен быць пейзажным. Аднак паэта не захапляе паэзія хараства, ён складае гімн «савецкай вясне»: «Прымай, савецкая вясна, загады ад ЦК». Нават у пейзажных вершах паэты не маглі абысціся без «ідэйнай» падсветкі. Вясновая радасць, красамоўная патэтыка ў перадваеннай паэзіі ўспрымаецца ў цэлым як штучная выява грамадскага настрою, ідэалізацыя жудаснай па сваёй антычалавечай сутнасці палітыкі. З паэзіі знікалі праўдзівыя фарбы слова, свет інтымных перажыванняў, сціраўся той вечны «вясновы воблік» паэзіі, у якім чуйна адлюстроўваецца «я» творчай асобы. Словам, ламаўся адвечны, арганічны лад нацыянальна-паэтычнага светаўспрымання.

Матывы прыходу, спаткання вясны, вобразы вясны і сонца як сімвалы нацыянальнага вызвалення, духоўнага адраджэння і свабоды глыбока пранік лі ў мастацкую свядомасць і шырока ўпісаліся ў творы заходнебеларускіх паэтаў. Востра, з шчымлівасцю пачуццяў перажывае надыход вясны герой Максіма Танка ў вершы «Паслухайце, вясна ідзе...». Ён увесь у моцным свабодалюбівым парыве, у прадчуванні вызвалення з-за астрожных кратаў. «Куст пахучага бэзу» тут нібы адлюстраванне жывога, чуйнага росквіту душы. На трапяткой эмацыянальнай ноце звяртаецца да вясны Мікола Засім: «О вясна, вясна-сястрыца...» (верш «Вясна»). Паэт размаўляе з вясной як з жывой істотай, звяртаецца да яе з пякуча-горкім запытаннем: «І нашто зіме ты лютай Край на здзекі аддаеш?»

«Хачу спаткаць вясну»,— адкрыта выказвае жаданне і паэт Пятрусь Граніт (верш «Хачу спаткаць вясну»). Свабодалюбівыя нацыя-

нальна-вызваленчыя пачуцці, апаэтызаваныя ў заходнебеларускай паэзіі праз вясновыя вобразы і матывы, знаходзяцца ў цеснай пераемнасці і з традыцыяй нацыянальнай паэзіі пачатку XX ст.— традыцыяй алегарычна-сімвалічнага ўвасаблення адраджэнскіх, нацыянальна-патрыятычных ідэй, поглядаў, памкненняў.

Паэтычны вобраз вясны ў беларускай паэзіі ваеннай пары балюча кантрастуе з вобразамі вайны, разбурэння, смерці. Вясновыя матывы маюць выразную трывожна-роздумную афарбоўку, драматычна-аптымістычную гуманістычную напоўненасць пачуцця. Асабліва гучанне набываюць традыцыйныя матывы зерня, сяўбы, руні, праз якія сцвярджаецца неперарможнасць жыцця на зямлі: «Стане поле каласіцца, Ляжа шоўкавым абрусам, Будзем сеяць, беларусы! Закрасуе буйна збожжа...» (верш «Будзем сеяць, беларусы!» П. Броўкі). У многіх паэтычных творах прачула выяўлена вера ў немінучасць вясновага красавання і цвіцення роднага краю. Адметны ў гэтым сэнсе лірычна-ўсхваляваны верш Пімена Панчанкі «Будуць вечна сады расцвітаць...» (1942). У творы знітаваны аптымізм і боль, якім «напаіла... вясна». Вясновая моц прыроды становіцца алегорыяй і сімвалам перамогі, яе яркай метафарай. Вось вершаваныя радкі Анатоля Астрэйкі пачатку вайны, у якіх з адухоўленым лірызмам услаўляецца неперарможная магутнасць вясны: «Хай шуміць сакавік над зямлёй, Рве зімовыя путы прырода. З новай сілай чаканай вясной Загрымяць нашых войск ледаходы» («Ідзе сакавік па зямлі»). Вобраз-матыў вясны, такім чынам, перагукваецца ў ваеннай паэзіі з матывам перамогі, выяўляючы жыццялюбны, патрыятычны пафас народнай свядомасці.

Вясна як усёперамагальная сіла жыцця — лейтматыў пасляваеннай паэзіі. Вобразнае ўспрыманне вясновага свету ў вершаваных радках П. Панчанкі нясе яскравы адбітак ваеннага вопыту: «Вясна пачала пераможны паход. І толькі ля плота ў садзе Вялізны сумёт, як няскрышаны дот, Яшчэ прытаіўся ў засадзе...» («Веснавое» — 1951). Вялікую натхняльную моц вясна ўлівае ў сэрца героя паэзіі М. Танка, бо «мінулі завеі, панурыя дні». Загуквае ён вясну па-язычніцку страсна, як сейбіт, земляроб, поўны веры ў спрыянне прыроды-маці:

Будзі жаўрукамі жытнёвую рунь,
Палі незгасальную ў небе зару.
Вясна-красна на ўвесь свет!
Дай буйную завязь цяністым садам,
Спакойныя хвалі купальскім вянкам.
Вясна-красна на ўвесь свет!

*(«Вясна-красна на ўвесь свет»— 1946)*

«Як я чакаў вясны прыходу. Як я вясне і сонцу рад!» — выгуквае паэт А. Астрэйка ў вершы «Мой сад» (1946). Ён радасна захапляецца красаваннем свету. Паэт, перажыўшы вайну-трагедыю, успрымае вясновае абуджэнне і росквіт прыроды як блізкую сэрцу з'яву. У вершы «Ручаі загулі» (1946) ён з чуйнай увагай да навакольнай канкрэтыкі сузірае, як па-вясноваму абнаўляецца родны свет: «Кожны дзень ад халоднай зямлі Падымаецца сонца ўсё вышай», «Мне прыемна стаяць ля ракі і глядзець, як варушыцца Неман. Уздыхае свабодна рака...» І надалей у нашай паэзіі вясна была яркім люстэркам чалавечага настрою на самых розных пуцявінах жыцця. Праўда, у гэтым вобразе-матыве выявіліся і рэцыдывы ідэалагічнай аптымізацыі, ідылічнасці паэтычнага светаўспрымання. Аднак несумненна, што ў вобразе вясны, вясновых матывах знайшлі глыбокае адлюстраванне і непадробны душэўны стан асобы, душа народная, яе сапраўдны аптымізм і няскоранасць на крутых перавалах часу і гісторыі.

Надзвычай шматсэнсоўна, шматмерна вобраз вясны ўвасоблены ў сучаснай беларускай паэзіі. Тут мы сустракаем як традыцыйныя выявы вобраза ў іх індывідуальным, арыгінальным мастацкім пераадкрыцці, так і зусім новыя, змястоўна-яркія старонкі «вясновай кнігі» (П. Броўка), народжаныя пад уплывам часу з яго шматлікімі навацыямі і экалагічнымі бедамі.

Увогуле кажучы, цяжка знайсці сучаснага паэта, які не апяваў бы вясну, не імкнуўся далучыць сваё «я» да яе шматісных матываў. Вялікія весналюбы ў нашай паэзіі Максім Танк, Ніл Гілевіч, Пімен Панчанка, Рыгор Барадулін, Данута Бічэль-Загнетава, Алег Лойка... «А я люблю вясну»,— прызнаецца Янка Сіпакоў, і ўслед за ім так адкрыта маглі б сказаць пра сваю любімую вясновую пару многія і многія паэты. З першымі праталінамі, пралескамі, сонечнай ласкавасцю неба пачынаецца паэтычная «веснiфікацыя душы» (Л. Дайнека. «А бог вясны прыходзіць босы...»). Таму не дзіўна, што словы паэзія і вясна мы часта прамаўляем разам, успрымаем іх як нешта глыбінна-роднаснае. Паэтычная вясна Еўдакіі Лось, як мы памятаем, пачыналася з кніжкі «Сакавік» (1958), Веры Вярбы — са зборніка «Вочы вясны» (1962), Генадзя Бураўкіна — з «Майскай просіні» (I960)... Вясновы жыватворны поступ чуецца ў назвах такіх кніжак паэзіі, як «Прадвесне ідзе па зямлі» (1959) Ніла Гілевіча, «Рунець, красавацъ, наліваццa!» (1961) Рыгора Барадуліна і інш. Красамоўна называюцца паасобныя зборнікі маладой паэзіі 60-70-х гг.— «Рунь», «Вёсны» і інш. Словам, вясна — самы натхняльны час: наша паэзія, і перадусім — лірыка пейзажная — скрозь у вясновых матывах. Мы маем шматлікія паэтычныя карціны і малюнкі вясны, ці, так бы мовіць, багацце

«вёснаў», якія часам даволі блізкія, падобныя па мастацкім адлюстраванні. Але ў нашай душы і памяці застаюцца толькі таленавітыя індывідуальна-яркія вобразы, якія складаюць «звышвобраз нацыянальнай мастацкай свядомасці» і без якіх «вялікая колькасць адпаведных вобразаў рассыпалася б, не стала б набыткам нацыянальнай паэтычнай свядомасці» (М. Эпштэйн).

Сярод паэтычных апісанняў вясны, створаных выдатнымі майстрамі, не зблытаеш, да прыкладу, карціны Пімена Панчанкі і Максіма Танка. Возьмем вершы «Белыя яблыні» П. Панчанкі і «Вясной» М. Танка. Кожны з іх паэтызуе вясну па-свойму ярка. Калі ў творы П. Панчанкі паўстае разгорнуты вобраз вясновай прыроды, то ў М. Танка вясна намалявана ў аблічччы вярбы, якая нагадвае прыгажуню-маладзіцу, што «касу расчасала Крыгай — грэбнем срэбным і ўпрыгожыла плечы Хусткай — золакам зрэбным...». Разам з тым у абодвух паэтаў вясна — дзівоснае, чароўнае дзейства прыроды. У вершах уражвае па-мастацку тонкая пластыка выяўлення вобразна-прадметных дэталяў, што і робіць іхняе светаўспрыманне непаўторным: «I гладзяць яліны свой ельнік малы I пацеркі дораць з янтарнай смальт» (П. Панчанка), «Расплюшчыла свае вочы — Коцікі шэрыя — і ўбачыла жаўрукоў, Што звінелі над берагам» (М. Танк). Вясна П. Панчанкі — вясна пахаў, пара наталення жыццёвымі сіламі душы чалавека і росквіту мараў, жаданняў. Вясна М. Танка з бліскавіцамі і громам, жаўруковым звонам, радасным выдыхам «на ўвесь голас: — Вясна!».

Асаблівая прыхільнасць да жывапісання ранніх вясновых краявідаў, узнаўлення матываў «свята сонца і вады» адчуваецца ў паэзіі Р. Барадуліна, А. Грачанікава, М. Стральцова, Я. Сіпакова, Г. Бураўкіна... На памежжы вясны і зімы часта выказвае свае ўнутраныя перажыванні лірычны герой Анатоля Грачанікава: «Вясна... А ў сэрцы завіруха, Мароз, адліга і слата...» («Вясна...»). Паэт вельмі любіў палескае прадвесне, тую хвіліну, калі «пачынаюцца і ў душы весняй радасці капяжы» («Капяжы...»). Эмоцыя ягоная пазначана першароднасцю і празрыстасцю адчуванняў. Голас паэта лірычна-одумны, задушэўна-ціхі.

Зусім іншы творчы тэмперамент у Ніла Гілевіча. Ён паэтызуе вясну яркую, зычнагалосую, у дынаміцы пейзажных матываў. З выразнай экспрэсіўнасцю перадае паэт свой настрой у вершы «Свята зямлі»:

О, зямля!
Ты ўся ў абновах!
Ты ў мільён званочкаў звоніш.
Ты на ста пявучых мовах
Весняй радасцю гамоніш.

Вясновы свет шматаблічны, ён увесь у жывым руху. Сучасная паэзія з незвычайнай увагай, чуйнасцю рэагуе на яго няспыннае пераўвасабленне ў кругавароце часу. Натуральна, што, чытаючы паэтычную «вясновую кнігу», мы бачым, як паўтараюцца адны і тыя ж вобразы, матывы, стыхіі, пейзажныя рысы-выявы... Сярод вясновых вобразаў-матываў ёсць тыя, што дамінуюць асабліва прыкметна. Пачатак вясны, сакавік, напрыклад, найчасцей знітоўваецца ў паэтычным успрыманні з капяжамі, пралескамі, крыгаходам, прылётам жаўрукоў, сонечным святлом і цяплом... Уражвае выява веснаходу ў Рыгора Барадуліна. Гучная музыка ракі тонка пачута і ўзноўлена паэтам у вершы «Крык крыг». Увесь твор пранізвае алітэрацыя на гук «р», якая дакладна перадае жывыя «рытмы» крыгаходу. Наш слых улоўлівае скрыгат крыг, мы нібы становімся сведкамі вясновага супрацьборства ў прыродзе:

Раку-шчыруху
Разумею:
Ёй рупіць
Скруху
Зімавею
Скруціць
Хутчэй
У вір круты.

Біятонус чалавека вясной змяняе свой характар: ён адчувае прыток жыццёвых сіл. З'яўляецца аптымізм ва ўспрыманні свету, пачашчаецца ўнутраны рытм жыцця. Адзін з найвялікшых момантаў душэўна-эмацыянальнага ўзрушэння, які з магутнай сілай праяўляецца вясной,— гэта каханне. Прычым каханне мае ў прыродзе ўсёахопны характар, яно гаворыць вуснамі вясны. «Вясны бурлівай шчырая сяброўка»,— так называе сябе лірычная гераіня Дануты Бічэль-Загнетавай. Народзіны і «пік» кахання для яе — вясна, таму вясна — «разбуджаная», «бурлівая», «спакусная», а ў «сэрцы... зялёным радком усходзяць зярняты». Нават чуем, што «вясновая выпала восень», але найчасцей — «горкая асенняя любоў». Жаночае сэрца чулае, і яно не згодна «вясну зімаваць». А яшчэ паэтка любіць паэтызаваць вясновы Нёман, які паўстае закаханым юнаком:

У крыгалом і ў сярэдзіне мая
ў шчырыя ночы і дні
Нёман прыткі-дзяўчат абнімае,
ды прыгажэюць яны.

*(«Перад Нёманам»)*

Каханне і вясна — пачуцці, якія прачула-інтымна знітаваны ў паэзіі Яўгеніі Янішчыц. Чытаючы вершы «Маналог яблыні», «Яшчэ далека да вясны...», «Ручайкі сакавіцкага свята...», «У белым кіпені сады...», адчуваеш, як абнаўляецца ўнутраны свет паэткі разам з вясновым абуджэннем.

Вясна — сапраўды новая іпастась эмацыянальна-эстэтычнага жыцця чалавека, пошук светлага, новага, радаснага. «Шукаю веснавых прыкмет На снезе, у вачах, на дрэвах...» — перадае свае ўнутраныя адчуванні Казімір Камейша. Вясна выклікае рознанастраёвы водгук у душы Таісы Бондар: «Час абнаўлення. І ўва мне спявае, трывожыцца, пакутуе вясна» («Вясна»). Душа паэтаў імкне насустрач цяплу і зеляніне, кветкам і сонцу, яна пад уплывам абуджанай прыроды глыбока самараскрываецца.

Успрыманне вясны можа набываць новыя адценні ў сувязі з духоўнай эвалюцыяй, біяграфіяй лесу паэта. Узнёсла-радасны, поўны маляўнічай захопленасці ў сваіх вясновых вершах з першага зборніка «На юначым шляху» (1959) Алег Лойка. З цягам часу вясна бачыцца яму з дамешкам суму, балючасці: «Палюбіў я светлы свет, А любіць — балюча» («Вішні, вішні — белы свет...»). Сакавік для паэта — «месяц жалобы»: «Ты хаваў майго дзеда, хаваў бацьку...» («Сонечныя ручнікі»). І ўсё ж, нягледзячы на драматызм асабістага свету, паэт застаецца шчырым жыццялюбам, не ўяўляе сябе без вясновай песні жаўранка, кветак, сонечнай раніцы. А. Лойка — паэт-філосаф, які звязвае з вясной кругабег жыцця і часу. Вобраз талай вясны становіцца ў яго ўвасабленнем пражытых гадоў («Талая вясна»). Вясновая прырода спатаяе паэтаву веру ў сваю заўсёдную духоўную прысутнасць у свеце:

Сіні пераплёсканы зеніт.
Не зглядзецца — маладое поле
Калі я душой з зямлёю зліт,
Ці ж збаюся зліцца з ёю калісь?..
Як яна, я стану адтаваць,
Стану дыхаць песняй жаўруковай,
У траве і кветках ажываць
Кожны год нанова і нанова...

*(«Першая адталая ралля...»)*

У шматстайнасці сэнсавага гучання выяўлены ў сучаснай паэзіі матывы вясновага прарастання і квітнення. З прарастаннем зярняці, травы, руні звязваецца ўвасабленне мудрай філасофіі прыроды, філасофіі быцця чалавека. У вершы Петруся Макаля «Песні зярнят» «зялёнае ўваскрэсенне» руні — гэта не проста прыродна-біялагічнае дзейства, а менавіта самаахвярнае сцвярджэнне жыцценараджальнай

існасці роднай зямлі, тая дыялектыка пераўвасаблення свету, што робіць яго неўвядальным і вечным. Зярняты таму і напружваюць свае сілы, каб узняцца «жытняй калыскай другога жыцця»:

Мы, ахвяруючы моўчкі сабою,
Падаем, каб прарасці збажынай.
Поле сяўбы — поле бою,
Што адраджаецца кожнай вясной.

Чалавек, адухоўлена-непасрэдна далучаючыся да прыродных працэсаў, аказваецца здольным вычуць жывое абуджэнне прыроды як нешта глыбока існае і важнае. Бо парасткі вясны — тая зямная першаасснова, без чаго, паводле слоў Т. Бондар, «вечнасць згубіць свой працяг». Паэтка ў вершы «Дзіўлюся мужнасці жыцця...» бачыць сэнс, няскончанасць быцця чалавека і па-за межамі таго часу, які наканавана яму пражыць,— у жывым пераўвасабленні матэрыі, у бясконцым прарастанні: «Працяг у новым, чымсьці іншым, / але жывым, жывым, жывым! Я чую: парасткі травы Дзяўбуць рассыпаную цішу». Так, прарастанне — пачатак усёахопнага кругавароту, момант адліку новага і сведчанне неўміручасці жыцця і прыгажосці. У светаразуменні многіх паэтаў (А. Разанаў, Р. Барадулін, Я. Сіпакоў, С. Законнікаў...) прарастанне паўстае як з'ява філасофска-гуманістычная. Веснавое абнаўленне прыроды абуджае думку пра вечнае на зямлі, пра сэнс чалавечага быцця.

Матыў квітнення, яго вызначальныя вобразы кветак, траў, дрэў у сучаснай паэзіі выяўляюць тонкія эстэтычныя перажыванні і нясуць маральна-філасофскую значнасць зместу: «Калі ўсюды квітненне, як жа можа сцярпецца з маною цярпенне?» (А. Бачыла. «Толькі раз...»). Вясна, май — пара буйства квецені, якая як бы шырыць эмацыянальны дыяпазон светаўспрымання, расквечвае «пейзаж душы» паэтаў. Вялікая любоў да кветак, вясновага квітнення ў нашых жанчын-паэтак Я. Янішчыц, В. Вярбы, Д. Бічэль-Загнетавай. Хараша, маляўніча апаэтызавала Вера Вярба першую вястунку вясны — пралеску: «А снягі наўкола—Ні канца ні краю. Страшна стала кветцы: «Я адна — жывая!» («Пралеска»). Эпітэты «балючыя», «вясёлыя» і інш. да розных траў і кветак у Я. Янішчыц прымушаюць неяк па-іншаму зірнуць на родную флору. Кветкі — жывая краса, яны блізкія і неабходныя чулай душы, таму паэтка баіцца «людское слепаты»: «О колькі пад нагамі красак стлела! О колькі незаўважана цвіце!» («Ты нібы зноў купаешся ў рацэ...»). У кветках, у тым ліку вясновых, бачыць духоўную і жыццёвую неўвядальнасць Д. Бічэль-Загнетава: «Такая праўда ў кветак: цвісці і не старэць» («Кветкі»).

Квітненне — пара сапраўднага ўздыму, росквіту духоўна-творчых сіл чалавека. Нездарма вясновае квітненне роднай прыроды нарадзіла ў паэта Пімена Панчанкі жывапісную ўяву касмічнага краявіду — сад, дзе «будуць прывабліва цвісці» яблыні юнацтва і маладосці. Квітненне паўстае як сімвал неўвядальнасці быцця ў Васіля Зуёнка: «Тады — усе любуйцеся! І верце ў знак наканаванасці прыроды. У гэту квецень і ў сваё бессмяроцце, Якое тут — цяпер і назаўсёды» («Як хочацца падпільнаваць імгненне...»). «Чаромха! Пахам сум зрывай...» — поўны ўлюбёнасці ў маладосць вясны гучыць голас Р. Барадуліна («На маладым пачатак мая»). Прыгажосць заўсёды вабная і дзівосная. Таму свет вясновых кветак і цвету выклікае пачуццё цуду, вялікую душэўную асалоду ў вершах «Сады зацвілі...» Анатоля Вялюгіна, «Бэз цвіце...» Юрася Свіркі, «Як сёлета цвілі сады...» Алега Лойкі і інш. Адчуванне вясновага хараства абуджае чысціню пачуццяў, экалагічнасць думак: «Уся зямля гарыць у майскай квецені. Колькі па ёй вандраваў! А сёння спыніўся: Як жа ісці Па вуснах пявучых траў, Па жывых, раскрытых вачах лотаці?» (М. Танк. «Уся зямля гарыць...»).

У творах паэтаў мы часам сустракаем па-сучаснаму адметны позірк на свет:

Пакінуўшы далёкі вырай,
Вярнуўся ўвесь птушыны рой,
І бусел, як ТУ-104,
Прымчаў аднойчы раніцой.

*(П. Броўка. «Вясновая кніга»)*

Але не заўсёды паэтычнае ўспрыманне навеяна вопытам навукова-тэхнічных адкрыццяў. З другой паловы 80-х гг. тэма вясны набыла новае гучанне — глыбока трагедыйнае ў сваёй аснове. Паслухаем, як гучыць матыў прылёту птушак у вершы Ніны Мацяш:

Вы жывыя! Вярнуліся! Нейк амаглі
Пашчу стронцыю, продань дарогі!..
Жураванькі-жураўкі мае, жураўлі,
Сцяг вясны над палескай разлогай!

У Чырвоную кнігу занесены вы,
Бо, як людзям, не заўжды спрыяе
Вам паветра айчыны, наш кут векавы,
Дзе зламыснасць любові навучае.

*(«Вяртанне жураўоў»)*

Сёння вясна для беларусаў — гэта і чарнобыльская бяда, якая прыйшла красавіцка-майскімі днямі 1986 г. на нашу зямлю, смяротна атруціла яе, раскалола час і свет папалам: дачарнобыльскі і паслячар-

нобыльскі. Сярод вясновых пейзажаў, намаляваных беларускімі паэтамі, ужо нямала трагедыйна-змрочных, элегічных, прасякнутых матывамі трывогі, адчаю, безвыходнасці: «Над Прыпяццю — Нябачнай смерці след. Палескі край, Як пазмрачнеў твой свет» (П. Панчанка. «Аб самым смачным...»). Увесь драматызм вясновага свету на роднай зямлі хвалююча выяўлены ў вершах Анатоля Вялюгіна «Вясна трывогі нашай», Міколы Мятліцкага «Птушкі...», Таісы Мельчанкі «Прыпяцкая вясна» і інш.

Пара вясновага адраджэння прыроды — гэта спаконвяковая і высокая рамантычная існасць беларускай душы, глыбінная духоўна-гістарычная выява нацыянальнай самасвядомасці, якая знайшла яркае ўвасабленне ў нашым паэтычным мастацтве. Сучасная паэзія ў гэтым сэнсе таксама не выключэнне. Трактоўка вобраза вясны як магутнай адраджальнай, выратавальнай сілы яскрава выяўляецца ў творах нацыянальна-патрыятычнай тэматыкі. У вершаванай нізцы Алега Мінкіна «Водгулле сурмы», якая ўвайшла ў ягоны зборнік «Расколіна» (1991), гучыць узрушальны заклік да абуджэння навакольнага свету: «Прыйдзі, вясна, Вярні нам сонца! Стапі зляжалы снег і лёд! Дай усяму жывому моцы Зімы апрыкрай скінуць гнёт!» У гэтым вясновым гуканні чуецца дух фальклорна-міфалагічнай даўніны. У антыноміі вясне паўстае зіма, якая скавала моцным сном жыццё прыроды і народа. Паэтава душа поўніцца першароднасцю веры ў вясновыя сілы прыроды. А. Мінкін прамаўляе з эмацыянальна-заклікальным імпэтам:

Прыйдзі, вясна! Вярні нам славу
І цеплыню мінулых дзён!
Сарві з зямлі магільны саван!
Здымі са спячых душ заклён!

*(«Гуканне вясны»)*

На аптымістычнай ноце заканчваецца верш «Санет»: «У бездараж пары вясновай... ажывае зноў наш родны кут». Вясна перамагае сон, здранцвенне, духоўную смерць чалавека і народа. Такое ўспрыманне прыроды, вядома, не новае ў нашай паэзи. Але паэт і не хавае таго, што ягоны радок бярэ натхняльны мацунак ад нацыянальна-адраджэнскага пафасу беларускай паэзіі пачатку XX ст., ён пазначае пад назвамі вершаў: «Наследаванне Я. Купалу», «Наследаванне М. Багдановічу».

Нашы сучасныя паэты не страцілі здольнасці «адчуваць сябе насеннем, што неўзабаве прарасце» (Л. Дайнека). Уся беларуская паэзія жыве магутнай славянскай верай у сілу-моц сонечнага святла і цяпла. Р. Барадулін «наладжвае» сувязі паміж чалавекам і сонцам, чалавекам і дажджом, узнаўляючы паэтычны свет «паганскае

даўніны». У жывой, адухоўленай паяднанасці з роднай прыродай яму калісьці бачылася зарука будучыні: «Я запаведнік зрабіў бы, дзе б жылі вясновыя сны, Вадзянікі і чэрці, русалкі і лесуны» («У лес прыціхлы...»). На парозе 90-х паэтаў аптымізм знік, і віною таму — экалагічная трагедыя свету: «Душа, як ні прагнецца ёй, Не можа вярнуцца ў паганства...» («Душа, як ні прагнецца ёй...»). Таму неяк больш абвострана ўспрымаюцца радкі ў вершы «Шапка», дзе герой паэта сустракае з'яўленне старажытнага Ярылы — бога Сонца. Ад сонечнага спрыяння залежыць лёс сяўбы, тое, як нальецца колас: «І прывітаў з пашанаю Ярылу Ды папрасіў, каб яры не спрыяў». Сонцазварот для Р. Барадуліна неадлучны ад земляробчага календара, «кругавароту» зярняці.

Вельмі непасрэдна і ў той жа час стоена-пачціва ўспрымае паэт Перуна — галоўнага язычніцкага ўладара неба, які, паводле народных павер'яў, «адчыняе свабодныя шляхі дажджавым патокам: абмываючы зямлю, яны вярталі ёй сілу ўрадлівасці, прыбіраючы яе багатай зелянінай і кветкамі, і як бы ўваскрашалі ад зімовай смерці да новага шчаслівага жыцця» (А. Афанасьеў). Што прынясе Пярун зямлі, чалавеку? У сваіх пачуццях, «надзею ўсклаўшы на вясну», паэт акрылены верай у спрыянне прыродных сіл, у жыццятворны цуд: «А я на лусту аржаную Шапчу: — Кусціся, ярына! Прыглухлай бояззю шаную Маўчанне перуна» («Маўчанне перуна»).

Чалавек і сёння, праўда, даволі апасродкавана, звязаны з далёкім язычніцтвам: яго яшчэ можа «разбудзіць на грамніцы капеж», у ім падсвядома жыве вера ў чарадзейства вясновай прыроды. Паэт Хведар Жычка ў вершы «Зімой салодка спіцца...» звяртаецца да «сонца маладога» з просьбай паспрыяць гаспадарчаму году, чалавечаму дабрабыту, «каб май быў — навальнічны, і чэрвень — неспякотны, а ліпень — касавічны, і верасень — насенны».

Старажытная знітаванасць са светам прыроды выяўляецца і ў паэзіі Анатоля Сыса. Ён у сваіх адчуваннях, вобразах і матывах-рэмінісцэнцыях скіроўваецца да першаславянства, пракаветнай міфалогіі беларусаў. У паэзіі А. Сыса жыве вера ў магутнасць Сонца, жывільную сілу абнаўлення: «Памірай, а жыта сей. Рунь пра сейбіта раскажа». Паэта захапляе самаахвярнасць прыроды ў імя жыцця («Яблыня»),

Такім чынам, прасачыўшы эвалюцыю вобраза вясны, мы пераканаліся, што гэта — адзін з самых галоўных вобразаў-матываў у вобразнай сістэме беларускай паэзіі, які знайшоў сваё шматграннае эстэтычнае і натурфіласофскае адлюстраванне. Паэтычнае ўспрыманне вясны несла і нясе адбітак сацыяльнагістарычнага зместу эпохі і ра-

зам з тым увасабляе яркія, сутнасныя рысы традыцыйна-паэтычнай свядомасці беларусаў. Вясна — гімн народнай душы, яе адраджэнскай моцы, песня кахання і радасці жыцця. Тэмыматывы вясновага адраджэння прыроды, прарастання і квітнення гучаць не толькі як лірыка «чыстай красы», яны асэнсоўваюцца паэтамі ў іх натурфіласофскай глыбіні, з прыкметных маральна-гуманістычных пазіцый. Вясновы росквіт прыроды — гэта неўвядальнасць свету, харaства, чалавечага жыцця. Вобраз вясны ў люстэрку сучаснай паэзіі набыў прыкметныя змены, звязаныя з новымі часавымі рэаліямі, і перадусім — з экалагічным разбурэннем нацыянальнага свету. Чарнобыльская вясна — глыбока трагедыйны лейтматыў сённяшняй паэзіі. Аднак, пакуль будзе існаваць жыццё, паэтычная душа беларуса, датуль будуць гучаць на нашай зямлі вясновыя песні.

## «ГАРЫЦЬ ЗЯМЛЯ АД ФАРБАЎ ЛЕТНІХ...»

У сезонна-каляндарным цыкле лету належыць асаблівае месца. Гэта — пара буйства прыроды і жыцця. Свет наўкола агортваецца зелянінай, красуе кветкамі і збажынай, напаўняецца новымі фарбамі і жывымі галасамі. Летняя часіна — сапраўднае царства святла і цеплыні, якое ахоплена прагай да паяднання. Лета прыходзіць на змену вясне імкліва, нават неўпрыкметку. Дзякуючы сіле-моцы сонечнай энергіі на зямлі творацца цуды, валадарыць «жыватворчы дух» (Я. Колас. «На лузе»). Сонца — галоўны «рухавік» лета. Знаўца роднай прыроды А. Шкляр у сваім феналагічным календары! адзначае, што «лета — самы працяглы і ясны сезон года. На гэты час прыпадае 1200-1300 гадзін сонечнага ззяння (68-71% ад гадавой колькасці)».

У вясновых вобразах і пейзажах, як мы адзначалі, надзвычай яскрава адлюстроўваецца склад беларускага характару, своеасаблівасць нацыянальнага паэтычнага светабачання і светаадчування. Аднак цэласны «партрэт» роднай прыроды, змест яе душы, характар гадавога развіцця, як і ўвогуле сутнасць зямнога і касмічнага быцця беларуса, ягонага духоўна-эмацыянальнага свету немагчыма ўявіць без тэмы лета і звязаных з ёй асноўных вобразаў. У беларускай пейзажнай лірыцы летнія замалёўкі — адзін з даволі распаўсюджаных відаў пейзажу. Наогул, у сістэме нацыянальна-паэтычнага мыслення лета і знітаваныя з ім прыродныя стыхіі — сонца, дождж, навальніца, спёка і інш.— вобразы істотныя, духоўна-значныя, яны знаходзяць шматгранную ідэйнаэстэтычную інтэрпрэтацыю. Летнія малюнкі пераважна лірычныя, сузіральна-эстэцкія, ідылічныя. Тым не менш

яны нярэдка паўстаюць у антыноміі восеньскім і зімовым пейзажам, выяўляюць пры гэтым індывідуальнаканкрэтны характар пачуцця, пэўную канцэпцыю рэчаіснасці і быцця. Летні пейзаж, як, зрэшты, і любы іншы, здольны вырашаць разнастайныя задачы, абуджаць «...тыя ці іншыя думкі і пачуцці ў залежнасці ад светапоглядных і эстэтычных установак аўтара» (Г. Толава).

Летнія вобразы сталі прадметам паэтычнага асэнсавання яшчэ ў далёкія ад нас часы, у эпоху станаўлення міфалогіі і фальклору. Красамоўным сведчаннем таго з'яўляецца старажытнае свята Купалле, звязанае з культам сонца, услаўленнем магутнага росквіту зямлі. Нашы продкі ў дахрысціянскую пару ўшаноўвалі Купалу ды Ладу — боствaў, якія атаясамліваліся з сонцам, летам. Адухоўленая вера беларусаў у спагаднае, жыватворнае спрыянне прыродных сіл знайшла адлюстраванне ў фальклорных і літаратурных творах: «Ішла Купала сялом... Сцерагла жыта сялянскае Ад таго звяр'я лятучага, Ад таго вужа паўзучага...» («Ішла Купала сялом, сялом...»), «Агні богу Ладзе ярка запалілі, На ахвяры яму ўсяго назнасілі» (В. Дунін-Марцінкевіч. «Купала») і інш. Купалле — дзень летняга сонцастаяння, ноч, поўная чараў і цудадзейства, момант прыгожай, уражлівай лучнасці чалавека і прыроды. Невыпадкова паэтычнае ўяўленне нашага народа стварыла яркія мастацкія вобразы: «Як на Йвана дужа рана... Дужа рана сонца йграла, Сонца йграла» («Як на Йвана дужа рана...»). Нямала паэтычна-вобразных параўнанняў, жывых пейзажных малюнкаў «нарадзіла» і другое вялікае свята летняй пары — жніво. У шматлікіх песнях вельмі маляўніча раскрываецца хараство свету, тонка выяўляецца эмацыянальна-духоўная знітаванасць чалавека з навакольнай прыродай: «Згубіла зара ключы, Каля позніх жней ідучы. Месячык з ёй ішоў, Ён тыя ключы нашоў» («Згубіла зара ключы...»). «Ой, чыя то ніва грае, Маладыя жэнчыкі мае?» («Ой, чыя то ніва грае...») і інш.

Храналогію тэмы лета, летніх стыхій у паэзіі можна пачаць выводзіць з «Слова аб палку Ігаравым», аўтарам якога, як мяркуюць некаторыя вучоныя, з'яўляецца Кірыла Тураўскі. Тут мы сустракаем пейзажныя матывы сонца, навальніцы, якія знаходзяцца ў непасрэднай сувязі з паказам і разгортваннем падзей. Сонца пры гэтым выступае як жывы герой твора.

Дваякае ўражанне пакідае лета ў сэрцы Міколы Гусоўскага. У «Песні пра зубра» ён са спакойнай веліччу, любаваннем апісвае краявіды бацькаўшчыны. Яго палоніць гуд пчол, духмяны водар кветак, якім «з вясны і да позняга лета Пушча напоена, нетры яе і

прылескі...». Паэт стварае запамінальны беларускі пейзаж, адметны для нас, сённяшніх чытачоў, сваім вобразна-гістарычным каларытам:

Толькі ў жніво ды ў касьбу і на ніве, і ў лузе
Бела ад хустак, намітак, кашуль і бравэрак.
Па сенажацях, гаях і па яловых гонях
Коні пасуцца, а скрозь на прыволлі, на ўзлессі —
Статак скарбовы брыдзе, патанаючы ў травах.

*(Пераклад Я. Семяжона)*

М. Гусоўскі засмучаны, што ягоныя суайчыннікі «Летам заўсёды занятыя ў кровапраліццях Войнаў усобных...». Вайна нясе роднай зямлі спусташэнне, занядбанне, і гэта не дае спакою песняру. Ён з палкім гуманістычным пафасам выступае ў абарону спаконвечнага этнічнага і прыроднага асяроддзя ад разбурэння і пажару.

У паэзіі XVI-XVII стст. летнія вобразы і стыхіі эпізадычныя. Найчасцей яны адухаўляюцца гэтак, як у фальклоры, выступаюць у якасці параўнанняў, набываюць абагульнена-сімвалічнае значэнне. Глыбокі прыродазнаўчы дар выявіў вядомы беларускі паэт XVII ст. Сімяон Полацкі, які асэнсоўваў месца летняй пары ў гадавым кругавароце часу. Самая цёплая часіна года ў яго творах суадносіцца з рухам сонца, земляробчым календаром і, найперш,— з касавіцай і жнівом.

Беларускі пейзаж у паэзіі XIX ст. яшчэ не знайшоў разгорнутага маляўнічага выяўлення. Аднак прырода для творцаў ужо робіцца эстэтычна значнай, усё часцей і часцей становіцца прадметам іхняга светасузірання. Летнія малюнкі роднай зямлі ўпершыню апаэтызаваны ў творах Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Ягоныя краявіды — чароўная ідылія прыроды. Паэт адчувае найвялікшае шчасце і радасць сузірання навакольнай красы:

Ой, нямаш зямелькі, як Беларусь радзона!
На лугах дыванам сцелецца зялёна
Травіца па пояс, кветкамі мігае!
А лес, вось тычынка, неба падпірае!

*(«Былiцы, расказы Навума»)*

Летні пейзаж В. Дуніна-Марцінкевіча характарызуецца такімі ўстойлівымі вобразнымі элементамі і матывамі, як трава і кветкі, спевы птушак, пахі прыроды. І яшчэ. Наш беларускі дудар бліскуча паказаў летнія народныя святы, цесна звязаныя з жыццём маці-прыроды,— Купалле і дажынкі (вершаваныя аповесці «Купала» і «Шчароўскія дажынкі»).

Па-мастацку глыбокая, актыўная і шматгранная эстэтычная паэтызацыя летняга пейзажу прыпадае на пачатак XX ст. Самай першай маляўніча-яркай, чароўнай па сваім эмацыянальным гучанні

стала летняя паэтычная экспрэсія Цёткі. Як падаецца, яе верш «Лета», час напісання якога пазначаны 1902—1903 гг., можна назваць пейзажнай сюітай, дзе тонка, пластычна паяднаны жывапіс і лірыка, паэзія і музыка. Цётка выяўляе пранікліваю назіральнасць, складае лету ўздымна-радасны дыфірамб:

А згляні на нашу вёску:
Ўвесь палетак аж гарыць!
Так, як пчолы ў жоўтым воску,
Як алтар, так зіхаціць!

Летнюю паэзію Цёткі вызначае сардэчнасць слова, паўнагучнасць рытмічнага ладу: «Неба, гледзячы, з'яснела, Морам чыстым разлілось, Так, як люстра, пасінела...» Паэтка з вялікай асалодай любуецца полем ды небам, жыва апісвае жыццё грыбнога сямейства. Як царэўну, багіню лета, Цётка паэтызуе вясковую прыгажуню — дзяўчыну Касю. Паэтка адчувае, як цяжка «гэткім летам змаляваці» ўсе фарбы ды колеры прыроднага і чалавечага хараства, перад якім яна губляецца ў здзіўленні. Бо летні свет — гэта квітненне «жывых фарбаў», непаўторная краса паэзіі.

Самым пранікнёным песняром беларускага лета стаў Янка Купала. Гэтай парой года ён захапляецца з вялікай любоўю, асаблівым хваляваннем: «Лета ты, лета прыгожа-квяцістае, Колькі ты ўносіш аздобы з сабой!» («Лета»), «Эх ты, лета гарачае, бурнае! Ажыўляеш ты поле і луг» («Лета»). Летняя часіна для паэта — дзівосны росквіт краявідаў, шчодрасць неба і зямлі, зычная, паўнагучная музыка быцця. Сама мелодыка верша «Летам» выдатна перадае чысты і мілагучны «голас» лета, яго «песню спеўную». Я. Купала прыбягае да выяўленча-экспрэсіўнага асанансу на у, о, е, паўтораў спалучэнняў ля, ле, ла або, інакш кажучы, стварае кальцавы гукапіс:

Як для света грае лета
Песню спеўную быцця;
Бласлаўленне небам, хлебам
Шле сам Бог, сама зямля.

У паэтавым апяванні лета чуецца народна-купальскае, рамантычна-велічнае ўслаўленне сонечнай магутнасці, зямнога хараства. Я. Купала бачыць свет адухоўленым, таму сонца, лета — жывыя, дзейныя персанажы, якія ён паэтызуе з маляўнічай вобразнасцю: «Ўсюды лета, лета, Гулі строіць сонца...» («Ўсюды лета...»), «Сонца купаецца ў полыску рос» («Лета»: «Лета ты, лета прыгожа-квяцістае...») і інш.

Лета дае сэрцу паэта духоўны мацунак, яно суадносіцца са шчасцем, святлом быцця, нясе на зямлю «агонь святы» («Летам»). Я. Купала — вялікі санцалюб, ён стварае культ купальскага сонца,

гаворыць пра яго цудадзейную, стваральную сілу. Матыў сонца становіцца ўвасабленнем нацыянальна-патрыятычных пачуццяў паэта: «Як у свята купальскае, сонца, Свой жывы абнаўляеш паглёд, Аднаві славу нашай старонцы, Аднаві яе сумны народ!» («Песня сонцу»). «Як летняе сонца свае згасіць косы» («Вячэрняя малітва»), то тады для Я. Купалы надыходзіць пара вячэрняга одуму, філасофскага сузірання быцця, чуйнай повязі з сусветам.

Летняя купальская ноч акунае ў свет казкі, чараў, містыкі, вядзе героя паэта на пошук папараць-кветкі — кветкі шчасця, адраджэння, сонца свабоды і будучыні. Купальскую магічна-чароўную кветку паэт акурат і параўноўвае з сонцам. У вершы «У купальскую ноч» «цёплым летам на Купалле» чалавек выпраўляецца па «кветку-шчасце», але ў сутарэннях бору яго абступаюць здані, ведзьмы і злыдні. Дух пушчы гаворыць, што папараць-кветка — гэта таямніца і, разам з тым, магутнасць свету, быцця, і таму чалавек павінен дарасці, каб «цвет пасцігнуці жаданы», усвядоміць тую сілу, да якой ён далучаецца і якой жадае завалодаць.

Летняя ноч у творах міфалагічнага зместу — гэта царства злых дэманічных сіл, цемры, дзе чуюцца шалёныя скокі, жудасныя плачы-галашэнні ўсялякіх пачвар, злыдняў, «цемнатвораў». Разарваць, знішчыць гэтае злавеснае кола цемрашальства здольна сонца, і таму невыпадкова герой паэмы «Сон на кургане» Сам звязвае ратунак з гэтай нябеснай сілай: «Гэй ты, гэй! наша ночанька цёмная, Завагніся ты сонца пажарам...» Чалавек здольны перамагчы наступствы ліха-нядолі, сілы пекла, невідочнага змроку і нябыту тады, калі ён будзе мацаваць духоўную повязь з светлымі сіламі космасу. Пра гэта Я. Купала ўзрушана гаворыць ва ўрыўку з невядомай драматычнай паэмы, які датуецца 1910 г.:

О сонца, сонца! глянь з высот,—
Твае к табе йдуць людзі,—
Крый веру іх ад злосных псот,
Пасей ім жар у грудзі!

У вобразе сонечна-квяцістага лета, маладой дзяўчыны-прыгажуні з агністымі косамі, вяночкам з васількоў і зялёнай муравы паўстае Беларусь у вершы «Ўсюды лета...». Партрэт роднай старонкі паэт малюе на высокі рамантычны лад, з глыбокім захапленнем, магутным сцвярджэннем сонечнасці быцця маладой Беларусі.

Янка Купала — натхнёны летапаклоннік, і ў гэтай сваёй любові ён шчыры, даверліва-спавядальны. Душэўная ўскладненасць, драматычны водсвет адчуванняў праступае ў большасці летніх пейзажаў паэта. У іх знаходзяць водгук запаветныя думкі-жаданні,

трывожныя запытанні, чуюцца горыч і нават смутак: «Эх! каб, здаецца, ды шчасце да гэтага! Эх, каб, здаецца, менш гора і слёз!..» («Лета»: «Лета ты, лета прыгожа-квяцістае...»), «Ці даждуся калі кос і песень касцоў На другой, на вялікай касьбе?..» («За касой»), «Так для света грае лета... Чаму ж мне ў ім стала мала І пацехі, і жыцця?..» («Летам»), «Дай мне песні пець сілу жывучую, Дай працівіцца крыўдзе і злу!» («Лета»: «Эх ты, лета гарачае, бурнае!..»). Купала-пейзажыст, як бачым, не толькі выяўляў суб'ектыўна-асабовыя пачуцці, але і скіроўваўся ў план грамадска-значнага. Ёсць у Я. Купалы летняя песня, надзвычай светлая, напоўненая пяшчотнай замілаванасцю светам, летуценнасцю. Гэта верш «Улетку», напісаны ў сярэдзіне 20-х гг. Для паэта «моўкнуць нягоды, напасці», ён адчувае сябе дзіцем, прагне ўзнёсласці, радасці быцця:

Соладка ўлетку ў дзень ройны
Ў зелені, ў кветках купацца,
З ветрам гуляць неспакойным,
З сонцам гуляць, далавацца!

У летніх замалёўках Я. Купалы, акрамя матываў сонечнага ззяння, прамяністасці, найчасцей сустракаюцца вобразы поля, лугу, сенажаці і ракі. Паэт шырока аглядае навакольны свет. Луг і сенажаць ён бачыць як зялёны дыван: «Кожны раз, як жывой муравой-дываном Лета высцеле луг, сенажаць» («За касой»). Рака малюецца ў руху сярод зялёных вольхаў і лоз, яна нібы жывая істота, стан якой — радасны, вясёлы: «Плюскатам рэчка смяецца у вочы...» («З летніх малюнкаў»), «Рэчка ўецца і смяецца...» («Летам»). Але асабліва прычароўваюць вока паэта летняе поле, каласістая ніва, жытні колас. Ён урачыста сузірае палявую красу, захапляецца велічнасцю і дзівоцтвам краявідаў: «Цягнуцца стройна шнуры каласістыя...» («Лета»: «Лета ты, лета прыгожа-квяцістае...»), «Ў збожжа ўсякае ніва прыбралася — Характва там якога няма!..» («Лета»: «Эх ты, лета гарачае, бурнае!..»), «Звоніць поле доляй, воляй...» («Летам»), «У шэлестах спелага коласу нівы» («Жніво»). Паэт нібы зліваецца з прыродай, адчувае яе ўнутранае жыццё, якое бачыць ідэальным, гарманічным. Ніва, жыта, колас гамоняць, спяваюць, знаходзяць у Купалавым сэрцы жывы водгук: «Шопат нейкі плыве ад жытца» («Лета»), «Колас чуе усё ў зачарованым сне,— Колас гнецца ка мне, як я полем іду» («Як я полем іду...»), «Колас з коласам гутарку дзіўную Завялі...» («Лета»: «Эх ты, лета гарачае, бурнае!..»), «Шалясціць зялёны Колас на саломцы» («Ўсюды лета...»), «Звоніць поле ў каласкі» («Летам»). Колас у летняй лірыцы паэта — гэта не дэкаратыўны атрыбут, а жывая часцінка свету, сімвал красы, неўвядальнасці зямнога быцця. Спелае жыта, спелы колас вянчаюць

лета, чарговы круг земляробчых клопатаў і чалавечага жыцця. Такое светаразуменне ярка і глыбока выявілася ў Купалавай паэзіі жніва. Невыпадкова ў вершы «Жніво» вымалёўваецца вобраз ссівелага, пахілага коласа. Жніўнае поле ў паэтавым успрыманні паўстае як шчодры дарунак сонца і зямлі, плён сяўбы, чалавечай працы. Само жніво Я. Купала паэтызуе ў фальклорным духу, паказвае яго як часіну радасную, але і вельмі нялёгкую. Ён славіць новы ўраджай і царыцу жніўнага поля — жняю, якая «карануе песняй Залатое жніва» («Жняя»). Разам з тым жніўныя пейзажы паэта напоўнены сумнымі песнямі жней, якія наракаюць на свой лёс, цяжкую працу. Жніво — гэта і вялікае фізічнае выпрабаванне, бо «агніста сонца прыпякае», «Серп прыбаўляе ранаў косых, Павеку рэжуць асцюкі, Як п'яўкі, смокчуць кроў з ног босых Аржоння вострыя сукі» («Песня жней»). І ўжо сапраўды жудасным ліхам, бядой паўстае ў Я. Купалы такая прыродная стыхія, як спёка. Нават сонца, якое паэт абагаўляў, выклікае ў яго боязь, страх, бо яно становіцца нялітасным, нейкай злавесна-дэманічнай, згубнай сілай. У вершы «Спёка» пейзажная карціна перапоўнена змрочнымі вобразамі і фарбамі: «Потам крывава-чырвоным Вочы зямлі заліла», «Сонца зіяе загубай, Сонца смяецца, як змей». Аднак падобныя выявы ў лірыцы паэта адзінкавыя, яны становяцца выключэннем сярод узнёслых гімнаў сонцу і лету.

У беларускай паэзіі сярод сезонных выяў года летнія пейзажы Якуба Коласа займаюць адно з самых прыкметных і значных месцаў. Для яго, вялікага весналюба, лета — гэта працяг зямнога квітнення, пара найвышэйшага ўздыму жыцця. Што ж найбольш чаруе песняра? Яго захапляе ўсход сонца, летні дзень, напоўнены яркім святлом, духмянымі пахамі, жывой музыкай прыроды. Я. Колас жывапісна малюе лугавое раздолле, дзе пануе сакавітасць, квяцістасць фарбаў. «Раздолле ў лузе, эх, раздолле!» — уздымна выгуквае паэт у «Новай зямлі». Аднак ягоныя пейзажы не застылыя малюнкі, а свет адухоўлена-рухомы. Разам з мастаком мы назіраем, як навокал творыцца незвычайнае, цудоўнае. У двух вершах з аднолькавай назвай «На лузе», як і ўвогуле ў летняй паэзіі Я. Коласа, адчуваецца культ расліннасці, зеляніны. «Луг зялёным жыццем дыша», яго поўніць шматгалоссе зыкаў, спеваў, шолахаў. У згаданых пейзажных вершах, як і ў многіх іншых творах, паэтаў слых цешыць ветрык, які то лагодны, пяшчотны, то гарэзлівы, вясёлы. Яму ўласціва адчувальна-тонкае, «мікраскапічнае» светабачанне: «Ветрык краскі чуць калыша, Травы шалясцяць» («На лузе»: «Добра ў лузе ў час палудны!..»), «Ходзіць той ветрык па лузе шырокім І ціха на сонцы дрыжыць» («На лузе»:

«Вецер паўднёвы ў лузе квяцістым...»), «А гэты ветрык дураслівы Траве зялёнай чэша грывы» («Новая зямля») і інш.

Шумлівае поле, каласістая ніва, дарога між спелай збажыны, жытнёвы колас — любімыя малюнкі і вобразы Я. Коласа-пейзажыста. Жыта для яго — жывая істота, якая «штосьці боязна шапоча Ды няўцямна-скрыта» («Жыта»). Я. Колас, знаходзячыся ў астрозе, з настальгіяй, замілаванасцю згадваў жытнёвыя краявіды, іхняе ўбранства, родны шум-гоман. Хваля эмадыянальнага ўзрушэння запаўняе ягонае сэрца:

Колькі шуму ў нашым збожжы,
Спеву і гаворкі!
Як вы мілы, як прыгожы
Родныя пагоркі!
*(«На полі»)*

Жыта ў Коласавым светаразуменні — вялікі дар зямлі, аснова чалавечага быцця. Таму паэт так пасялянску шчыра, занепакоена хвалюецца пра новы ўраджай. Ён па-язычніцку заклікае сілы прыроды быць спагаднымі да маладой нівы, складае прачулую замову: «Ідзі ў чыстае ты поле, Градавая хмара, І злітуйся над жытамі — Над сялянскім дарам!» («Жыта»). Смутак, панурасць агортваюць паэта, калі ён сузірае, як «ніва пустымі шуміць каласамі» («Жніво»). Нельга не адчуць, што ва ўспрыманні жыта, жніва ў Я. Купалы і Я. Коласа ёсць тыпалагічнае падабенства: абодва песняры бачаць у жытнёвым полі крыніцу існавання, узнёсла паэтызуюць жніўную пару. Прынамсі, Я. Колас узяў сабе за псеўданім колас-кветку як сімвал быційназямнога пачатку сваёй паэзіі.

Вельмі ўражліва Я. Колас успрымае сонца і хмары, гром і навальніцу, буру і сухмень. Бадай, няма ў беларускай паэзіі іншага творцы, які б гэтак вобразнамаляўніча, з вялікай эмацыянальнай сілай перадаў названыя з'явы прыроды.

Усход сонца ў пейзажнай карціне — момант непаўторнага казачна-містычнага цудадзейства: «На усходзе неба грае Пераліўным блескам, Сыпле золата над гаем І над пералескам» («Усход сонца»). Паэт з адухоўленаязычніцкім узрушэннем абагаўляе нябеснае свяціла, якое «нібы пожар, б'е крыніцай, Там на небасхіле». Сапраўды, у гэтых радках «ёсць нешта ад міфа, містэрыі, язычніцкага гімна ў гонар цара неба» (І. Навуменка). Коласаў пейзаж світальнай пары струменіць зыркімі фарбамі, колерамі, ён пакідае ўражанне незвычайнай, грацыёзнай жывапіснасці. Усход сонца тут — урачыста-велічная і, разам з тым, таямніча-мудрая, вельмі суладная з'ява прыроды.

Цяжка ўявіць летнія вершы Я. Коласа без вобразаў хмарак. Яны для паэта — «дзеткі прастору» («Хмаркі»), «Сонца, неба дзеці» («Вячэрнія хмаркі»). Хмаркі таксама бачацца паэту жывымі істотамі:

Ўсплывае хмарка і другая
Над сіне-дымным небасхілам
І ў задуменні смутна-мілым
З нябёс блакітных пазіраюць,
Я к бы дарогу выбіраюць.

*(«Новая зямля»)*

Хмаркі здзіўляюць сваёй гожасцю, яны то светлыя, залатыя, то бела-ружовыя, расквечаныя на сонцы. Паэт зайздросціць вальнаплыннаму руху хмарак у пейзажных творах, напісаных у дні турэмнага зняволення (за ўдзел у настаўніцкім з'ездзе і нелегальную дзейнасць Я. Колас у 1908-1911 гг. адбываў пакаранне ў мінскім астрозе). Пясняр гутарыць з хмаркамі як з шчырымі сябрамі, жадае на крылах паляцець з імі на волю, «ў край той родны, Дзе так сэрцу міла», «дзе Неман Бераг точыць, мые...» («Хмары»). Праз пейзаж ён кранальна-шчымліва выказвае свой тужлівы, самотны стан душы.

Дажджавыя, навальнічныя хмары нясуць жыццё ўсёй прыродзе. Паэт па-сялянску стоена, чуйна ўзіраецца ў неба, адкуль нялітасна пячэ сонца: «Ша! Хмарка, хмарка дарагая Паўзе па небе з-за лясоў! Яна — надзея, радасць гаю, Жаданне красак, каласоў» («Нязбытныя надзеі»). Ён умее адчуць сябе засмяглай раслінай, спакутаванай зямлёй. Паэту, як ужо адзначалася, блізкія земляробчыя трывогі за ўраджай, таму яго палохаюць градавыя і навальнічныя хмары, бура і сухмень, інакш кажучы, суровыя, бязлітасныя стыхіі і праявы прыроды. Напрыклад, спёку, засушлівую часіну Я. Колас успрымае як жудасную навалу: усё навокал смягне, канае, просіць літасці. Неба, нябесныя сілы паўстаюць у антыноміі да зямлі: «Толькі ж неба злоняўмольна — Што яму да той зямлі...» («Суш»). Ці возьмеш іншую стыхію — буру. І «зямля як бы замлела», і душа паэта замерла ў чаканні гэтага відовішча. Паэт па-язычніцку абвострана адчувае ўзаемазалежнасць зямлі і неба, бо прыродныя сілы бываюць гнеўнымі і непрадказальнымі: «І маланак-громаў стрэлы Ім на страх зямлі куе», «Бо замыслілі штосьхмары...» («Перад бураю»).

Я. Колас больш за ўсё любіць паэтызаваць навальніцу. Сіла-размах стыхіі выклікае ў ягонай душы эмацыянальную прыўзнятасць. Ён, нібы заварожаны раскатамі і адгалоскамі грому, з глыбокім захапленнем сузірае, як мігцяць зарніцы, рассякае змрок маланка і зырка асвятляе наваколле. Вершы «Вераб'іная ноч», «Ноч перад навальніцай», «Будзе навальніца» — узоры тонкай, гіпнатызуючай інтанацыйна-гу-

кавой інструментоўкі. Напрыклад, пры дапамозе гукаспалучэнняў ра, ры, а таксама гу, го, га паэт выразна перадае рокат і пералівы грому. Мы ўспрымаем голас прыроднай стыхіі на слых, добра ўяўляем яе.

Шматгалосна летняя сімфонія гучыць у «Новай зямлі». І. Навуменка, адзін з самых аўтарытэтных даследчыкаў творчасці Я. Коласа, слушна адзначае, што «высокі ў «Новай зямлі» паэтычны культ вясны, лета як сіл жыватворных, якія даюць пачатак усяму жывому». XXV раздзел паэмы «Летнім часам» — гэта дзівосна-чароўная паэзія прыроды, жывая музыка паэтавага сэрца. Коласава мастацкая палітра — моўнавыяўленчыя сродкі — шматаблічная, шматфарбная. З'явы, колеры, пахі, гукі ярка і ўражліва перадае эпітэт, якім паэт валодае з незвычайнай віртуознасцю. Асаблівую маляўнічасць, каларытнасць радку надаюць такія разнавіднасці гэтага мастацкага тропа, як метафарычныя і складаныя эпітэты: «агнявокая дзяннiца», «стрэхі сонцам пазлачоны», «спела-поўныя зярняткі» і інш. Я. Колас імкнецца ўзмацніць, падвоіць эмацыянальнасэнсавую і выяўленчую значымасць слова: «пасмыкосы», «краса-часіна», «чары-пацалункі», «бліжай-бліжай», «трасецца-ходзіць», «блішчыць-гарыць», «ў жарытамленні», «ружова-бледна чырвань-ззянне» і інш.

Летняя часіна ў «Новай зямлі» выклікае найвялікшую радасць і асалоду бытавання на зямлі. З летам тут звязаны дзве самыя важныя падзеі ў земляробчым календары — касьба і жніво. Касавічнай і жніўнай пары паэт складае пранікнёныя гімны. Яго поўніць любаванне тым светам, у якім у адно непадзельнае цэлае прыгожа зліваюцца душа чалавека і душа прыроды, спевы, гукі наваколля і галасы людзей. Паэту падабаецца працоўны рытм касавіцы, бо ў гэты час паўсюль — незвычайнае ажыўленне, рух, дбайнасць рук чалавечых. Аднак скошаны луг выклікае сум, абуджае роздум пра хуткаплыннасць жыцця: «Эх, лета-лецейка любое, Ты адцвітаеш, залатое!.. І так паволі, неўзаметкі І нашы звянуць кветкі».

Колькі радасных воклічаў, палкіх заклікаў гучыць з вуснаў паэта, калі ён малюе жніво, поле:

Прыйдзі пад вечар ты на поле
І палюбуйся ім, саколе!
Ў якія роўныя шнурочкі
Цяпер пакладзены снапочкі!
І як прыгожа-слаўны бабкі!
Якія ладныя іх шапкі!

Паэт складае ўсхвалялыную оду . шчодраму сонцу і небу, бо там струменіць «жыцця крыніца», узыходзіць «сама багіня-чараўніца», якая запаўняе свет прыгажосцю. Ён з бурнай, эмацыянальнай патэ-

тыкай рэагуе на шматстайныя праявы прыроды. Паэт, напрыклад, прызнаецца, што напрыканцы сваёй летняй песні не мог не скласці хваласпеў грыбной пары. Коласава душа — сапраўдны космас пачуццяў і эмоцый, чуйны камертон маці-прыроды.

Летняя краса глыбока адгукаецца ў сэрцы Максіма Багдановіча. Асабліва яго зрок і слых запалоньвае цёплы вечар, бо ў гэты час некуды адыходзіць-знікае дзённая мітульга, дробязнасць і тлум жыцця. М. Багдановіч сузірае летні вечар з мяккай пяшчотнасцю, нейкім надзіва светлым і лёгкім сумам, з адчуваннем неабдымнага спакою, гарманічнасці свету. Ён нібы зліваецца з усім існым на зямлі, сусветам, вечнасцю:

Бачу я, з прыродай зліўшыся душой,
Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,
Чую ў цішы, як расце трава.

*(«Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог...»)*

Слушна заўважае А. Лойка, што паэт «у сваім захапленні красой прыроды ідзе аж да «растварэння» ў ёй». М. Багдановіч любіць быць у палоне цішы, больш за ўсё яго вабіць вячэрняе неба, на якім праступаюць «зорак дрыжачых вянкі» («Ціха па мяккай траве...»), «зоркі расцвілі», «знічка коціцца агністаю слязою» («Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог...»). У такія хвіліны душу паэта працінае туга, маркотныя думкі, жаль. У ёй жыве вострае адчуванне нявечнасці, хуткаплыннасці летняй пары. Са шкадаваннем, шчымлівасцю ў голасе паэт гаворыць пра схіл лета, бо для яго гэты момант — згасанне красы, развітанне з жыццём. Лета адыходзіць з плачам, пакідае пасля сябе «кветкі, ўспаённыя Тугою, горам, слязінкамі...» («Плакала лета, зямлю пакідаючы...»). У летніх вершах М. Багдановіча, як бачым, няма радасных ідылій, а прысутнічаюць сентыменталісцкі смутак, элегізм, драматычна-трывожныя прадчуванні.

Надзвычай адметныя летнія замалёўкі Андрэя Зязюлі, яркага прадстаўніка клерыкальнай паэзіі. Гэты паэт з суцішліва-мяккім лірызмам малюе беларускія краявіды. Ягоная летняя паэзія змяшчае ў сабе прачулае маленне: тут чуецца просьба да Бога аб спрыянні летняй ніве, людзям у іх шчыраванні, гучыць вячэрняя малітва, падзячнае слова Богу за спагаду. Летняя часіна вызвал яе і ўзвышае чалавечы дух, яна лечыць сваім водарам, цудадзейным ліпавым цветам і кветкамі роднай зямлі. Лета — гэта сімвал жыцця, яго вечнага красавання, бо ў гэтую пару душу запаўняе «прызыў святы Прыроды да жыцця» («У ліпені»). У летняй лірыцы А. Зязюлі нямала жывапісна-канкрэтных уражанняў, вобразаў, народжаных пільнасцю і пранік-

лівасцю мастацкага зроку: «Зялёна-жоўты, узняўшы пуза ў гору, Гарбуз ляжыць і спее на страсе...» («У жніўні»).

У беларускай паэзіі пачатку XX ст., як мы пераконваемся, «сонцу гімн безупынна гучыць» (Я. Журба. «Усход сонца»). У ёй мы назіраем культ Купалля, пра што сведчаць таксама вершы «Купалле» Змітрака Бядулі, «Ноч на Івана Купалу» Альберта Паўловіча, «На Купалле» Гальяша Леўчыка, «У купальскую ноч» Янкі Журбы і інш. Гэтыя творы напоўнены аптымістычнай канцэпцыяй быцця. Лёс беларуса здаўна звязаны з зямлёй-карміцелькай, і таму ў нацыянальным паэтычным мысленні пачатку нашага стагоддзя дамінуюць матывы касьбы, жніва, летняй пары. Прыкладам тут могуць служыць і такія творы, як паэма «Год беларуса» Старога Уласа, вершы «Полудзень пры жніве», «Час жніва», «Жняя» Алеся Гурло, «Песня жняі» Цішкі Гартнага, «Касьба», «Жыта красуе» Андрэя Зязюлі, «Зашумела жыта...», «Маладая жняя» Янкі Журбы і інш. Паэзія жніва прасякнута высокім пафасам сцвярджэння жыцця і працы на зямлі як галоўных каштоўнасцяў чалавечага існавання. Нацыянальны летні пейзаж за дзесяць гадоў набыў незвычайную разнастайнасць: сузіральна-ідылічны і бурлівы, палявы, лугавы, лясны... Кожнай пары сутак, як вядома, адпавядае пэўны від пейзажу: ранішні, дзённы, вячэрні, начны. Ніводная з гэтых праяў-іпастасяў прыроды не засталася па-за ўвагай тагачасных вершатворцаў. З вялікай эстэтычнай асалодай, узвышана-трапяткой любоўю паэзія адкрыла летнюю красу беларускай зямлі: «Эх, дзіўны лета час! Любуюся табой! Як ты ж мне міл... Люблю цябе без меры, Край родны мой!» (Ф. Чарнышэвіч. «Лета»).

Такім чынам, лета ў паэзіі пачатку XX ст.— трывалы жывапісны вобраз-пейзаж, натурфіласофская тэма з багаццем матываў, актыўны сродак мастацкага мыслення і светапазнання.

Летні пейзаж, тэма лета знаходзіць далейшае развіццё ў беларускай даваеннай паэзіі. Як мы памятаем, у 20-я гг. «ў грудзях вясновамаладых» (П. Трус. «Вясна») нашых беларускіх паэтаў кіпелі вясновыя песні, вясна атаясамлівалася імі з абуджэннем і поступам новага жыцця.

У паэзіі Уладзіміра Хадыкі выразна выяўляецца культ вясноваЛетніх сіл прыроды, якія паўстаюць у вобразнай, сэнсавай і асацыятыўнай кантрастнасці восені і зіме. Лірычны герой паэта сцвярджае роднасць, блізкасць сваёй душы прыроднаму свету, які напоўнены нястрымным, бурным рухам, магутнай жыццёвай энергіяй і кліча да душэўнай няўрымслівасці, дзейнасці, хады ў будучыню: «Няхай расце узрушаны імпэт ў грудзях маёй абуджанай зямлі. Жыць варта тут, калі спявае свет Вясновую мелодыю далін» («Агонь душы»), «Толькі

дзесьці жыццёва па струнах зямлі Адбіваюць бунтоўныя колы... Яе гукі сусветнае сілы спялялі З песняй лета — прыгожай, вясёлай!..» («Жвава конік без пугі ў калёсах бяжыць...») і інш. Як бачым, лета ў вершах У. Хадыкі — гэта не ідылічныя, ціхія краявіды, а, наадварот, пара актыўнага, бадзёрага ладу жыцця. Таму адыход лета выклікае ў яго непрыманне; залаты жнівень не жадае саступаць дарогу восені з яе панылымі фарбамі. Лірычнага героя восень не вабіць, бо чужая ягонаму духу. Лета ў мастацкім выяўленні У. Хадыкі сімвалізуе светлы пачатак на зямлі, таму жнівень «з'ядае вокам агнёвым... з даляў восені плямы» («Жнівень»). Праўда, паэт усведамляе няўхільнасць змены пораў года. Тым не менш менавіта лета застаецца для ягонай душы самай хвалюючай музыкай і асновай быцця.

«Лета — пекная пара» (А. Гурло. «Канец лета»). Пафас любавання, захаплення красой — уласна-мастацкая мэта пейзажнай лірыкі. Пленную эстэтычную распрацоўку летняга паэтычнага пейзажу ў 20- 30-я гг. працягвалі Я. Купала, Я. Колас, А. Гурло, Я. Журба і некаторыя іншыя старэйшыя паэты, а таксама прадстаўнікі маладзейшага літаратурнага пакалення Беларусь Усе яны значна пашырылі трактоўку тэмы лета, узбагацілі яе новымі вобразамі і матывамі. Кожны з тагачасных паэтаў апісвае летнюю часіну па-свойму. Рэалістычная вобразна-прадметная выяўленчасць характарызуе вершы Алеся Гурло «Надыход лета», «Канец лета» і інш. Для індывідуальна-творчай манеры Уладзіміра Жылкі ўласціва міфалагічнае, язычніцкае светаўспрыманне. Ен малюе летнюю ноч і навальніцу як нейкае таямнічае, містычнае чарадзейства: «Вось хтось магутны ўзняў павекі — І свет мільгнуў агніста з воч», «Ша! Хтось застукаў аб дах, Нібы ў бяссіллі чорны птах» («Нібы вялізны чорны птах...»). Своеасаблівая, нярэдка досыць складаная метафарычная вобразатворчасць, арыгінальнасць колераўспрымання выяўляецца ў цудоўных летніх радках Язэпа Пушчы: «Дні загарэлага лета, Сочыцца сонца з суніц...» («Любыя, мілыя ліпы!»), «Туліцца жнівень пад пуняй / з ношкай аўсянай саломы» («Раніцу шчэбет пільнуе...»).

Летні пейзаж — люстэрка розных станаў лірычнага «я» ў лірыцы Янкі Купалы і Якуба Коласа. З Купалавых вуснаў гучыць то музыка ўзнёслых пачуццяў, як у вершы «Улетку», то чуецца адухоўлены зварот да сонца, перад якім паэт роздумна спавядаецца («Сонцу»). Летнія малюнкі нашых класікаў ды і іншых паэтаў нараджаліся поруч з дзяжурнымі вершамі-аднадзёнкамі тыпу «Песня трактарыста» Я. Купалы ці «Да 10-й гадавіны БССР» Я. Коласа. І таму на гэтым фоне асабліва вылучаюцца вершы Я. Коласа другой паловы 30-х гг. «Вусцянскі груд» і «Я жыву». У першым творы, пазбаўленым усялякай

казённа-крыклівай тарабаршчыны, выразна гучыць мастакоўскі голас лірычна-настраёвага тэмбру, выяўляецца вобразнае, шматколернае жывапісанне летняга свету — гэта якраз усё тое непаўторна-асабовае, што прываблівае нас яшчэ ў яго пейзажнай лірыцы пачатку XX ст.: «Унь гурты дубоў шыракаплечых — Стаяць, нібы на нейкім вечы, І сонейка узносяць на свой шчыт». У другім вершы «Я жыву», напісаным у 1937 г., летні вечаровы пейзаж «маўклівасцю трывожна апавіт», у ім колеравы фон — змрок, імгла, зарніцы, агністая пазалота — падкрэслена кантрастны, а вобразы-матывы знямелага ўзмежжа, стомленай паляны, спакою, цішыні нібы навеяны пазмрачненнем, паныласцю душэўнага стану паэта і пакідаюць уражанне сімволіка-метафарычнай, алегарычнай зашыфраванасці нейкага важнага сэнсу. Хутчэй за ўсё так Я. Колас-пейзажыст выявіў сваё няўтульнае духоўнае пачуванне ў тагачасным грамадскім жыцці. У сваім зліцці з зямлёй і сусветам ён прагне суладдзя і гармоніі:

Я зачарованы маўчу, стаю
У чарах цішыні і чарамі сагрэты,
І ў тон адзін з зямлёю я пяю,
І кожны міг сябе я пазнаю
Часцінкай злітаю вялікага сусвету.

Вызначальнымі ў паэзіі лета 20-х гг. заставаліся матывы касьбы і жніва, вобразы сенажаці і жніўнай нівы. Пра гэта яскрава сведчаць вершы «Касьба», «Перад жнівом» А. Гурло, «Касьба» Ц. Гартнага, «Жніво» Я. Журбы, «Касавіца» М. Чарота, «Дажынкавае» Я. Пушчы і інш. Культ летняй касавіцы ды жніва, які высока ўзнесла наша тагачасная паэзія, тлумачыцца тым, што гаспадарчыя клопаты заставаліся галоўнымі ў жыцці селяніна-беларуса. Ды і абсалютная большасць паэтаў былі выхадцамі з вёскі, іхні працоўны і духоўны вопыт грунтаваўся на крэўнай повязі з вобразамі нацыянальнага свету: нівай, сенажаццю, полем. Вельмі унікальнай, па-беларуску адметнай з'яўляецца паэтычная карціна той жніўнай нівы, якая «Як бы мора, шыр далёкая лягла, І бунтуе, і хвалюе, і пяе» (А. Гурло. «Перад жнівом»), «Дзе ў межах шэпчуць кал асы, Дзе спевы коцяцца далека На ўзмор'і гордае красы!..» (П. Трус. «Жніво»). Ніва, якая грае, хвалюецца, пяе,— гэта надзвычай каларытная выява нашага роднага пейзажу, што ўпершыню вабна паўстае ў летняй вуснай паэзіі.

У беларускай лірыцы 20-30-х гг. стала тыповай з'явай тое, што ў сістэму пейзажных вобразаў магутна, нярэдка проста жывасілам, укараняліся вобразы грамадска-палітычнага зместу. Сацыяльная рэчаіснасць пацясняла межы пейзажнага верша, размывала яго жанравую прыроду, скіроўвала творцаў на шлях абстрактна-публіцыстычнага

ўвасаблення ідэй і лозунгаў дня. Пад уплывам «гучнай» паэзіі летнія вобразы, фарбы і галасы прыроды ў творах паэтаў закліканы былі стаць маляўнічым фонам, дэкарацыяй, лірычна-ўражлівым эфектам для выяўлення грамадскіх пачуццяў. Не пазбаўлены пейзажнага майстэрства, напрыклад, пачатак верша Алеся Дудара «Асыпае чэрвень белы сад...», у якім звяртае ўвагу метафарычнасць радка, эмацыянальнасць сузірання наваколля:

Асыпае чэрвень белы сад,
Сок калінавы лугі апаясаў...
Глянь, як раніцы чырвонае віно
срэбнаногія бярозкі заліло!

Аднак далей паэтызацыю прыгожага рэзка змяняюць палітыка-ідэалагічныя разважанні: «Будзе праўда з тым, хто перамог, / пераможанаму — крыўда і ярмо...»

З другой паловы 20-х і асабліва ў 30-я гг. лірыка лета мэтаскіравана пазбаўлялася суб'ектыўнай выяўленчасці слова, аўтэнтычнасці перажыванняў. Сацыялагічны, дыдактычны элемент у вершах стаў абавязковым, зададзеным і стэрэатыпным. Таму радкі пра летнюю раніцу ці дзень, касьбу ці жніво нярэдка ператвараліся ў мажорнае ўслаўленне раніцы савецкай краіны, апя ванне калгаснага дабрабыту, калектыўнай радасці і працы савецкіх людзей. Даніну гэткай вершатворчасці сплацілі многія тагачасныя паэты, і прыкладаў там у можна прыводзіць нямала: «Тут спраўляе калгас урачыстасць Вольнай працы, яе хараства. Урачыстасці рады і сонца, І палі, і касцы, і трава» (Я. Журба. «На сенажаці»), «Ён як свята — чарговы калгасны зажын. Кожны год ён па-новаму сцеле калоссе / на дарогу да новых нязнаных вяршынь» (А. Дудар. «Палескае лета») і шмат інш.

Не абышоўся без ідэйна-пафаснай падсветкі ў сваім вершы «Летні дзень» Пятро Глебка: «Слава людзям дружнай працы, Слава ім!» Хаця гэты твор у астатнім — маляўнічая, жыццярадасная выява летняй красы зямлі. Пад пяром П. Глебкі на пачатку 40-х гг. нарадзіліся і іншыя паэтычныя замалёўкі летняй прыроды: «Хмаркі», «На рэчцы», «Рыбак», «Грыбы», «Ягады», «Канец лета». Для іх характэрна яркая вобразна-прадметная і колеравая выяўленчасць эпітэта, лёгкасць ямбічнай метрыкі, плаўнасць рытміка-інтанацыйнага ладу гаворкі:

І павявае з долаў
Цудоўным халадком,
І жыта хіліць голаў
Пад свежым вецярком.

*(«Хмаркі»)*

Лета дорыць паэтавай душы вялікую асалоду жыцця, ён з дзіцячай непасрэднасцю, адкрытым здзіўленнем радуецца сонцу і вадзе, матылькам і птушцы, ягадам і грыбам. Вершы П. Глебкі напоўнены адухоўленай любоўю да прыроды.

І яшчэ адзін летні малюнак 40-х асабліва запыняе нашу ўвагу. Гэта верш Андрэя Александровіча «Кароткае лета». У ім створаны «партрэт» летняй пары года на Поўначы, дзе паэт апынуўся па волі суровых абставінаў жыцця (у 1938 г. ён быў рэпрэсіраваны, тэрмін адбываў на Крайняй Поўначы). А. Александровіч з феналагічнай дакладнасцю і праніклівасцю малюе адметнасць паўночнага лета: «Лета на Поўначы — гэта Радасць маўклівая, ветлы Міг прыгажосці нямой...» Летняя часіна на радзіме паэта цёплая, са звонам косаў, поўная слодычы жыцця, і таму настальгія па ёй шчымліва гучыць між вершаваных радкоў.

У паэзіі часу Вялікай Айчыннай вайны твораў з летнімі назвамі вельмі мала. Першаступеннае значэнне паэты надавалі формам і прыёмам грамадзянскай, публіцыстычнай лірыкі. Гэта і зразумела: вайна — падзея экстрэмальная, якая вымагае аператыўнага водгуку, актыўнай і дзейснай эмоцыі. Аднак «пейзажная лірыка ваеннага часу,— як адзначае М. Ярош,— мела выключна важны маральны, філасофскі, героіка-патрыятычны змест».

У цяжкую ваенную пару для Якуба Коласа вобразы роднай прыроды служылі своеасаблівай духоўнай апорай і набылі ў ягоных творах глыбокую сэнсава-эмацыянальную значнасць: «Зямля мая, нябёсаў родных сінь, Лугоў зялёныя пасцелі!» («У цяжкую часіну»). Балюча-шчымліва, са скрухай паэт перажывае ростань з бацькоўскім краем, перадае яго гора і народны гнеў, звяртаючыся да фальклорнага прыёму адухаўлення: «І шум дубровы, і стогн пушчы, І рэк усхліп, і плач крыніц...» («Голас зямлі»). Летнія пейзажныя вобразы сталі сродкам выяўлення лірычна-ўсхваляванага свету пачуццяў.

У паэтычным мысленні ваеннага часу прыкметна дамінуюць матывы стаптанай нівы, дымнай збажыны, абпаленага коласа ці зярнят. Пры гэтым летнія выявы набываюць драматычна-трагедыйнае гучанне: «Фашыст-шакал звярынаю нагой Стаптаў нам нівы, пашу» (Я. Колас. «У цяжкую часіну»), «Асмалены колас Схіліўся да каскі» (М. Сурначоў. «У стоптаным жыце»), «Толькі вы не сумуйце, Пабачыўшы нівы стаптаныя... Попел іх нам асеў Назаўсёды на скроні» (М. Танк. «Пісьмо»), «Бяжыць у жыта ад сяла агонь Спраўляць апусташальныя зажынкі» (М. Калачынкі. «Бежанцы») і інш. У народнай свядомасці вобразы жыта, нівы, коласа здаўна былі сімваламі жыцця, яго росквіту і дабрабыту. Вайна ж прынесла спусташэнне і смерць. У

паэме Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады» (1943) уражліва намалявана карціна стаптанага жыта, якая пабудавана на прынцыпе вобразнага кантрасту, ідэйна-сэнсавай антан імічнасці:

...Я іду каля жыта.
Пакасілі яго кулямёты,
Усё пакасілі,
А тупыя фашысцкія боты
Яго малацілі.
Танкі гусеніц жорнамі
Жыта пасля памалолі,
Коні потныя, чорныя
Хлеб замясілі на полі.

Сумам агорнуты летні малюнак Канстанцыі Буйло ў вершы «Ніва», які датуецца 1944 г. У пачатковых радках паўстае мірная ідылія: «Шэпча пшаніца наследую казку. Клоняцца к нізу калоссі...» Аднак далей адбываецца рэзкая змена фарбаў, перапад настрою. Знікае першапачатковая замілаванасць красой і гучыць узрушаны эмацыянальны зварот да перастаялай спелай нівы, з якой «сыплюцца жоўтыя слёзы ручліва».

У вершы Анатоля Астрэйкі «Васілёк у стаптаным жыце», напісаным у 1942 г., кветка і жыта выступаюць сімваламі неўвядальнасці красы і жыцця. Іншасказальна, моваю падтэксту паэт выказвае запаветныя думкі чалавека на вайне. Мы адчуваем, што і прырода роднага краю стала крыніцай наталення веры ў лепшую долю:

Мілая добрая краска,
Гора не зменшыць слязой.
Будуць і жыта і ласка
Зноў неразлучны з табой.

Традыцыйна-фальклорныя вобразы нівы, жыта, коласа адлюстроўваюць не толькі драматызм ваенных падзей, але і сцвярджаюць адвечную нацыянальнадухоўную трывучасць народа, раскрываюць нязгасную любоў да роднай зямлі, увасабляюць аптымістычную, гуманістычную канцэпцыю адраджэння жыцця. Гэткая ідэйна-сэнсавая трактоўка прасочваецца яшчэ ў вершах 1941-1943 гг.: «І схінуцца, як калісьці, Для нас нашы каласы» (Я. Купала. «Беларускім партызанам»), «Той мост лёг на маю Радзіму, І чую, бачу я праз стэп, Як каласіцца шнур азімых, Як налівае важкі хлеб» (М. Сурначоў. «Новы мост»), «Калі ж ападзе і развеецца дым І нівы васкросшыя закаласяцца...» (М. Танк. «Родная мова») і інш.

У ваеннай паэзіі часта таксама гучаць матывы летняй спёкі, гарачыні, пылу, сонца. Няцяжка, зразумела, здагадацца, што з

кожнай з гэтых прыродных з'яў звязаны фізічныя выпрабаванні. Унутраны стан знясіленага салдата добра выяўлены Аляксеем Коршакам у вершы «Гарачынь» (1942), дзе ён абвострана, псіхалагічна тонка знітоўвае прыроднае і чалавечае:

Гарачынь, як у пекле...
Над засмяглымі травамі
Бачаць вочы адну толькі вялую сінь.
Без ніводнай хмурынкі
неба томіцца млявае,
Смаліць сонца, астаткі адбіраючы сіл.
Хоць бы ценю якога...
Хіба дыхаць тут можна?!
Пачарнелыя вусны
хоць бы ў кроплі змачыць!..

І ўсё ж хоць сонца летам бязлітасна пячэ, яно чаканае і жаданае для героя беларускай ваеннай паэзіі: «І не было нічога ярчэй За сонца на родным небе...» (П. Панчанка. «Краіна мая»). У пейзажных радках А. Коршака, М. Сурначова, П. Панчанкі, А. Вялюгіна, М. Танка і іншых паэтаў летнія вобразы — своеасаблівы духоўна-псіхалагічны «індыкатар» пакалечанай, расколатай, але нязломнай беларускай душы. Інтымнасць лірычнага выяўлення, праўдзівасць перажытага, арганічная зрошчанасць уласнага і агульнанароднага — галоўная эстэтычная вартасць такіх вершаў, як «Сінія касачы» П. Панчанкі, «Смага» М. Сурначова, «Сланечнік з прабітай галавой» А. Вялюгіна і інш. У суровыя часіны ліхалецця, як паказвае мастацкі вопыт гадоў вайны, усё ж такі не да ідылічнага жывапісання, экзальтаваных охаў ды ахаў. Ці не таму К. Буйло дазволіла сабе стварыць разгорнутую, маляўнічую карціну лета толькі пасля заканчэння вайны?! Яе верш «Лета», датаваны 1945 г., вызначаецца паўнагучнасцю рытму і рыфмы, тут выяўляецца сакавітая каларыстычнасць і вобразнасць пісьма, праніклівая ўвага да пейзажных дэталяў: «Матылькі, як снег квяцісты, Крыллі — яснасць агняцвету...» Паэтка, якой у перадваенныя і ваенныя гады прыйшлося шмат перажыць, у іншым вершы з лірычнай узрушанасцю ўсклікае: «Як жа хочацца лета!» («Як жа хочацца лета!..»). Гэтая часіна, як і вясна, улівае ў яе збалелае сэрца духоўны мацунак, натхняе на жыццё.

Паэтычны летні пейзаж у другой палове XX ст., асабліва ў наш сучасны перыяд, вызначаецца даволі шматграннай мастацкай распрацаванасцю, багаццем і разнастайнасцю матываў, эмоцый, фарбаў, ідэйнаэстэтычнай і філасофскай змястоўнасцю. Летняя пара года з'яўляецца адным з раўнапраўных і важкіх аб'ектаў паэтычнага мас-

тацтва, з ёю звязана вялікая сістэма чалавечых поглядаў і асацыяцый, думак і перажыванняў. І гэта невыпадкова, бо «прыродны свет, які акаляе мастака,— не толькі прадмет адлюстравання; свет гэты служыць сродкам вырашэння псіхалагічных і філасофскіх праблем, што паўстаюць перад чалавекам; ён далучае мастака да вечнасці; ен адкрывае яму шлях да самапазнання, да самавыяўлення, да выказвання самых глыбокіх эмоцый, да вырашэння супярэчнасцяў душы» (І. Эвентаў).

Адныя з самых «летніх» паэтаў у сучаснай беларускай паэзіі — А. Вялюгін, М. Танк, С. Гаўрусёў, А. Пысін, К. Кірэенка, А. Зуёнак, Р. Семашкевіч, Ю. Свірка, А. Лойка, К. Камейша, Р. Баравікова, С. Законнікаў... Лета, як і іншыя поры года, суадносіцца паэтамі з узроставым рухам жыцця: «Світальны час малінавага лета Чаруе прыгажосцю маладой: Яшчэ і песня лепшая не спета, Яшчэ і гай не дыхае слатой» (В. Гардзей. «Поўдзень года»), «А ў маім жыцці пачаўся жнівень — Самая багатая пара» (С. Грахоўскі. «Жнівень»). Назвы кніг Антона Бялевіча «Высокі поўдзень» (1964), Васіля Віткі «Праводзіны лета» (1972), Максіма Танка «Дарога, закалыханая жытам» (1976), Янкі Сіпакова «У поўдзень, да вады» (1976), Еўдакіі Лось «Лірыка ліпеня» (1977), Раісы Баравіковай «Такое кароткае лета» (1981), Яўгеніі Янішчыц «У шуме жытняга святла» (1988), Віктара Шымука «Спелы жнівень» (1990) і інш. нясуць прыкметны сімволіка-алегарычны сэнс: лета — галоўная паласа жыцця, яго свята і паэзія, пара хуткацечная, а ў духоўна-творчым плане пленная, шчодрая і ўраджайная.

У беларускай пейзажнай лірыцы ад 50-60-х гг. і да цяперашняга часу ўключна назіраюцца дзве асноўныя, дамінуючыя тэндэнцыі. Першая з іх выяўляецца ў паэтызацыі хараства летняй пары года, суб'ектыўным раскрыцці праз пейзаж лірычнага «я». Другая тэндэнцыя звязана з актыўным узбагачэннем тэмы лета як тэмы сэнсаваначнай, філасофскай. Яшчэ ў канцы 50-х гг. наша крытыка слушна засцерагала ад павярхоўна-эпігонскага калькавання натуры, гаварыла пра неабходнасць ідэйна-мастацкага развіцця пейзажнага жанру. Паэзія лета, на шчасце, не ператварылася ў сузіральна-безадноснае красамоўства. Не мной заўважана: сапраўднаму мастаку няма патрэбы калькаваць натуру. Наадварот, «для свету лірычнай асобы, з яе каштоўнасцямі і ідэаламі, сэнсавы згустак лірычнага слова з'яўляецца свайго роду мікракосмасам. Жыццёвая каштоўнасць набывае ў ім знак...» (Л. Гінзбург). Паэтыка летніх малюнкаў нашых беларускіх творцаў выявіла розныя сэнсава-канцэптуальныя ідэі, удумныя назіранні і высновы.

Лета абудзіла не аднаго сучаснага паэта да эмацыянальна-экспрэсіўнага жывапісання словам. Найбольш тыповыя летнія пейзажы — ідылічна-маляўнічыя, гарманічныя, поўныя святла і чысціні, адухоўленай музыкі, радасных душэўных перажыванняў. Можна вылучыць асноўныя, устойлівыя элементы-матывы летніх малюнкаў прыроды: сонца (цёплае, гарачае, спякотнае, усход і заход), цёплы дождж, лівень, навальніца з громам, вясёлка, неба і аблокі, буянне травы, кветкі-краскі (чабор, медуніца, мята, васілёк і інш.), цвіценне ліпы, духмянасць сена, сенакос, звон пчалы і чмялёў, вобразы і галасы птушак (бусел, ластаўка, шпак, зязюля і інш.), летняя раса, ноч, спелыя суніцы, чарніцы або ягадныя паляны, збіранне грыбоў, рыбалка, цішыня, стракатанне конікаў, колас, калашэнне жыта і жніво. Самыя распаўсюджаныя колеры і найбольш характэрная камбінацыя колераў у летніх пейзажах наступная: зялёны (звязаны з выявай расліннасці), залаты, жоўты, чырвоны (перадае ззянне сонца), сіні і блакітны (выяўляе колер неба, вады, ракі), белы (колер аблокаў, туману), жоўты (колер прырэчнага пяску, спелай збажыны), а таксама залаціста-чырвоны, чырвона-зялёны, зялёна-жоўты і некаторыя іншыя. Традыцыйны вобраз-эпітэт «чырвонае лета» трывала замацаваўся за летняй парой года ў шматлікіх вершах: «Чырвонае лета. Ты мала бываеш, А моцна буяеш...» (Р. Семашкевіч. «Чырвонае лета!..»). Зразумела, пералічаныя фарбы і іх адценні не вычэрпваюць усёй стракатай гамы лета. Колеры лета — яркія і сакавітыя, яны сімвалізуюць, як правіла, святло і жыццё: «Гарыць зямля ад фарбаў летніх...» (К. Кірэенка. «Аж ззяе луг: рамонкі, смолкі...»), «Колькі ў кроплю фарбаў назаткана, Быццам свет увесь у ёй сабраны...» (П. Броўка. «Кропля»).

Індывідуальна-адметныя малюнкі стварыў Анатоль Вялюгін. Яны вылучаюцца яркай вобразна-прадметнай канкрэтнасцю, маляўнічасцю метафарычнага пісьма, каларытнасцю дэталяў, сваёй эпічнай разгорнутасцю:

І бальшак і лес —
усё спавіта
душнаю зялёнаю смугой:
гэтак хораша красуе жыта,
сонца засланяючы сабой.
*(«Лета»)*

Велічна-ўрачысты гімн летняму бору гучыць у вершы «Спелы бор». Радок яго паўнагучны, узнёсла-спеўны. Алітэрацыя на гукі *з* і *с* якраз і стварае яркі эфект звону-пераліву ў зялёным храме прыроды: «у спелым леце, спелы бор, звіняць твае званіцы».

У вялюгінскіх летніх замалёўках уражвае незвычайная экспрэсія вобраза, яго эмацыянальна-паэтычная глыбіня, непаўторнасць: «Апаўдні шчаслівы, / пачарнелы, потны / сенакос з абрыву / бухне ў вір дрымотны» («Летнік»), «Што ж вы схілілі галовы, сланечнікі-сонцапаклоннікі?.. Сходзіць чырвонае лета» («Кружыцца табар шпачыны...»).

Лета Максіма Танка — шматгалосае і водарнае, вяскова-турботнае, жытнёвае і сенакоснае. Сапраўдная летняя сімфонія гучыць у невялікім па памеры вершы «Канцэрт у сене». «Колькі ў адной копцы свежага сена Музыкі радаснай!» — ускліквае паэт. Ён, як падаецца, раствараецца ў прыродзе, выяўляе суладдзе зыкаў праз тонкую рытміка-гукавую інструментоўку радка. Кожная істота вядзе сваю музычную партыю ў зладжаным гранні аркестра: «Звон падала свой пчала, пралятаючы. Ёй адказала асвянка сварлівая, Хрушч у літаўры шарахнуў мядзяныя, Чмель загудзеў, чмелянят аклікаючы, Застракаталі бяссонныя конікі». Ціхая, чароўная музыка летняй ночы з міла-гучнасцю, пластычнасцю слова выяўлена ў вершы «Дарога з сенажаці». Тут адчуваецца нейкая першароднa-адухоўленая, вельмі чуйная повязь чалавека з прыродай, увогуле з усім існым на зямлі:

Ціха свішчуць крылы позняй слонкі,
Лесавік падпальвае карчы;
З камарынай талакою звонкай
Салаўі спрачаюцца ўначы.

Пахнуць пераспелыя суніцы.
Чую подых кожнага лістка.
Чую, як духмяная ігліца
Ападае з голляў сасняка.

Максім Танк-пейзажыст асабліва любіць жывапісаць сенакосную пару, вясковую летнюю раніцу. У вершах «Узыход сонца», «Канюшына», «Летні дождж» і іншых шмат яркіх зрокавых дэталяў, метафарычных вобразаў і асацыяцый, якія выяўляюць каларытна-тыповыя рысы летняга пейзажу, вельмі блізкія, знаёмыя воку і душы беларуса: «І бусел — вартавы вясковы — Дастане дзюбай сонца...» («Узыход сонца»).

Прываблівае паэтыка лета і ў лірыцы сучаснага паэта Васіля Зуёнка. Летняя часіна стала ягонай любімай парой года невыпадкова, бо нараджэнне будучага паэта прыпала на той момант, «калі агні па крузе Задыяка Купальскімі планетамі плылі. Глядзела лета пераспелым Марсам...» («Мой ліпень»). Ён па-майстэрску вобразна-выяўленчымі фарбамі малюе летні пейзаж як дзівосную ідылію, паэзію гармоніі:

Такая на свеце пара была:

Паляна — духмянай парабалай,
Зялёнай сцяны адточанасць,
Зялёнага лета човен...
Плыла ў ім хмурынка пагрозна,
Як німб над зямною прозай...

*(«Ідылія сучаснага складу»)*

Тут звяртае ўвагу адметная асацыятыўнасць паэтавага светабачання. Для большасці ягоных летніх малюнкаў характэрна раскаванасць вобразнага ўяўлення, незвычайная экспрэсіўнасць слоўна-выяўленчых сродкаў — дакладны рытм, мелодыка радка, разгорнутая, непаўторна-яркая метафарычнасць, свежасць рыфмоўкі, гукапіс: «Гром няспешна грукнуў па-старэчы, Як забіў у хмарку востры клін» («Сонечны дождж»), «Вясёлка шлангі выгнула І хмаркі напампоўвае» («У спёку»). Летні пейзаж В. Зуёнка пазначаны эмацыянальнай актыўнасцю і зменлівасцю пачуццяў: «Я такі, як гэты летні дзень,— Сонечны і хмарны ў аднячассе...» («Залатая лінія дажджу...»). Часам летнія радкі паэта пранізвае вельмі непасрэдна-жывы, вясёлы тон гаворкі: «У бусла перасохлі боты — Марнуй цяпер на змазку дзень...» («Поўдзень»).

У беларускай паэзіі В. Зуёнак поруч з М. Танкам, Р. Барадуліным паўстае адным з самых «сонечных» мастакоў слова. Пачынаючы са старажытнасці, сонца паэтызуецца як найвялікшая і магутная сіла жыцця. «А сонца — сімвал светлы пачуцця і прамяністы поўдзень летуценняў»,— перакананы В. Зуёнак («Такі быў знак»). Ён заўсёды быў натхнёным санцалюбам і летапаклоннікам: «Дзень пчэльны, сонцам поўненькі, Звініць на цэлы свет» («Ліпнёвае»). Аднак сёння душа паэта поўніцца недаверам да сваіх улюбёных вобразаў, таму што навакольны свет пасля Чарнобыля непазнавальна змяніўся, чалавек пазбавіў сябе чысціні і першароднасці. Летні пейзаж у некаторых творах В. Зуёнка набывае драматычную афарбоўку, паэт надае яму важную сэнсавую, сацыяльную значнасць. «Лета трывожных дажджоў» — так называецца верш, у якім паэт адмаўляецца ад традыцыйнай пейзажнай маляўнічасці, уздымае складаныя пытанні чалавечага зямнога і касмічнага быцця. Лірычны герой В. Зуёнка споўнены адчужанасці, непрыкаянасці ў сусвеце, прадчувае глабальную экалагічную катастрофу:

Здаецца, вось-вось ападзе,
Абваліцца дах сусветны,
Прыцісне і нас, людзей,
Як гэту зямлю і лета...

*(«Над Беларуссю дажджы...»)*

Чарнобыльскае лета пахавала ранейшую радасць быцця, і таму адзіная надзея паэта на новую вясну, якая адродзіць чысціню і святло.

Лірыка прыроды і музыка паяднаны ў «Летніх малюнках» Рыгора Семашкевіча. Назва аднаго з твораў «Адажыо» трапна адлюстроўвае танальнасць унутранага «музычнага настрою» (выраз М. Арнаудава) паэта. Ціхі лірызм, трапяткі рух душы пульсуе ў радках верша. Р. Семашкевіч стварыў пластычны інтанацыйнагукавы малюнак, які можна назваць лірычным накцюрнам:

Астывае трава лугавая,
Хмельна ткуцца палотны смугі,
А ў промнях зары залатая
Піша птушка над лугам кругі.

Многіх нашых беларускіх паэтаў у апісанні лета, летніх вобразаў не прываблівае чыста пейзажная апісальнасць. У летніх радках П. Панчанкі, А. Пысіна, С. Гаўрусёва матэрыялізуюцца глыбокія думкі, медытатыўныя развагі-пачуцці. Лета атаясамліваецца імі з жыццём, яны вядуць унутраны роздум пра вечнасць, імклівую кругабежнасць часу, знітаванасць з роднай зямлёй: «Мне ў жыта хочацца ўвайсці, Мне вечнасцю здаецца жыта» (А. Пысін. «Забыта многае ў жыцці...»), «Я стаю, гады свае гартаю, І сціскае сэрца нейкі боль...», «Не, не развітаюся ніколі З родным краем, дзе так светла нам. Проста я люблю яго да болю І з любоўю дзецям перадам» (П. Панчанка. «Дождж ідзе праменісты і дробны...»), «Пакацілася лета. Без усялякіх дарог... І, абраўшы часінку, Не для летняй красы Запляло павуцінку І ў мае валасы» (С. Гаўрусёў. «Пакацілася лета...»).

Сонца і дождж — самыя галоўныя вобразы-матывы ў сучаснай летняй лірыцы. Увогуле, яны сталі стрыжнявымі ў паэтычным мастацтве. Сонечнае цяпло, дождж спрыяюць таму, што «ўсё расце, усё буяе І на палетках і ў бары» (А. Грачанікаў. «Пачатак лета»). Для Алеся Разанава сонца — «квінтэсенцыя святу» («Сонца»), незгасальнае святло, вечнасць быцця. Яго герой адчувае сябе з «сонцам... у грудзях» («Трансмутацыя»), яму «наперадзе ззяе сонца» («Гавару, услухоўваючыся ў саму гаворку...»). Рыгор Барадулін малюе сонца і дождж як мудрыя стваральныя сілы прыроды. Яны адраджаюць жыццё, даюць яму росквіт і захоўваюць у вечнай плыні часу. Акрамя ўсяго, сонца і дождж у выяўленні Р. Барадуліна — жывыя нябесныя істоты ў абліччы старажытных боствaў Ярылы і Перуна. Ім паэт па-язычніцку адухоўлена пакланяецца, шануе, складае прачулую замову-хваласпеў.

Цішыня — таксама адзін з самых частых летніх матываў. Цішыня ў прыродзе для Р. Барадуліна — гэта стоенае нараджэнне

жыцця, хараства, гармоніі. У такія хвіліны ўсё ідзе ў рост, няспынна абнаўляецца. Жывы рытм гэтага цудадзейства паэт тонка намаляваў у вершы «Зялёная цішыня»: «Зеляніну на нячутных кроснах Тчэ абновай дню штодня зямля». Зялёная цішыня — гэта першароднапракаветная мова прыроды, і таму яшчэ ў канцы 60-х гг. паэт прадчуваў, што можа знікнуць жывая духоўная лучнасць чалавека з хараствам зямлі, сваёй адвечнай нацыянальнай этнапрасторай. Р. Барадулін непакоіўся, што нашчадкам «будзе незразумела, што такое зялёная цішыня» («У лес прыціхлы...»). Летняя цішыня ў лірыцы паэта шматісная, яна здзіўляе сваімі фізічнымі і колеравымі станамі, непаўторнымі імгненнямі. «Спявае цішынёю бор. Паслухайце!» — заклікае паэт у вершы «Спеў цішыні».

Тры розныя цішыні як праявы касмічнага ўбачыў і апаэтызаваў Анатоль Вярцінскі. Вечаровая ціша паўстае як магічны цуд, начная — момант самапазнання, ранішняя — часіна «першага вітання»: «Трубіць ціша світальная, / крыштальная, развітальная, / і патанае яна / у вадаспадзе дня» («Тры цішыні»).

Юрась Свірка ў ціхіх летніх краявідах таксама знаходзіць сугучны настрой сваім духоўным шуканням, лірычна-філасофскім развагам. Ён даводзіць, што «думКі ткуцца ў цішы» («Рачная калыханка»), а «ціхая паэзія»: «ўдумліва... Душу ўмее высвятляць» («Ціхая паэзія»). Цішыня ў паэтавым выяўленні — тонкая музыка душы, момант найвялікшай эстэтычнай асалоды, абвостранага адчування жыцця, трывог часу. «Такая цішыня ў прыродзе! Спяць людзі, краскі і чмялі»,— гэты стан палоніць паэта («Ноч»). Але асабліва ён любіць лясную цішыню і ўспрымае яе як шчыры, бязмерна глыбокі давер прыроды да чалавека. Цішыня — царства чысціні, паэзи-гармони, трапяткога судакранання і яднання з самым родным, таемна-прыгожым:

Як птушанятка, што без апярэння,
Суцішыўся.
Трывогі не чутно.
І прарастаю да зямлі карэннем,
Яно ў мяне,
Як і ў травы,— адно.

*(«Зямля»)*

У сцішанасці свету, калі «спакоем, цішынёй прырода дыша», глыбей адчуваецца каштоўнасць вечнага на зямлі, сама вечнасць, якая не ўяўляецца Ю. Свірку без суладнага голасу чалавека і прыроды. Чалавек — «Дзіця прыроды, разумнейшы сын, Ён — сын яе,— не грозны цар прыроды» («Прырода давярае чалавеку...»).

«У летняй песні трава мяккая...» — так вобразнаярка заўважыў Р. Барадулін («У летняй песні трава мяккая...»). Трава ў паэтавым успрыманні — жывая істота, яна нібы сам невынішчальны дух зямлі, сіла, паяднаная з сонцам і космасам: «Скубіце ўсе мяне, Дратуйце капытамі... І захлыну абшар Зялёнаю крывёю» («Маналог лугу»). Луг паэт малюе як своеасаблівы біяэфір, дзе кожная травінка ўбірае галасы сусвету. Летняй «унутранай сілай» прыроды ён захапляецца ў вершы «Эфір, нібы даспелы луг...».

Летняя прырода — свет, у якім чалавек адчувае духоўную свабоду, разняволенасць, лагоду. Зеляніна лечыць душу, становіцца тым «магнітам», які неадольна прыцягвае да сябе з асяроддзя асфальту і бетону. Наогул, прага растварыцца ў летніх краявідах, уцячы ад паўсядзённага тлуму і гулу жыцця, адчуць радасць яднання са светам — матыў, які вельмі часта паўтараецца ў беларускай паэзіі: «Няма больш сценаў кабінета,— Зуброўкаю прапахла лета!..», «Якая даль, які прастор, Няскошаны, нязжаты!.. Спыніцца, заглушыць матор,— Якое гэта свята!..» (А. Лойка. «Лясун», «На ўсходзе сонца»), «Тут, у сховах дрэў, кустоў і траў, Свет сябе выспельваў і пладзіўся. Нібы я не жыў, не бедаваў, Нібы я яшчэ не нарадзіўся» (А. Грачанікаў. «Ліпень»), Летняя прырода мацуе ўнутраны тонус чалавека.

Лета і каханне — даволі вялікая і, відаць, асобная тэма лірычнай паэзіі. Летняй парой каханне палымнее, расквечвае душу чалавека, уваходзіць у яе надзвычай глыбока, пра што сведчаць шматлікія вершы ў беларускай паэзіі, якія належаць пяру М. Танка, П. Броўкі, С. Гаўрусёва, П. Панчанкі, Р. Баравіковай. «Стала лета зусім маладым»,— так адчувае свет закаханы герой Антона Бялевіча («Усміхніся лету і мне»). Ужо традыцыйна, пачынаючы з фальклору, ягадная пара — час заляцання і кахання: «І губы твае, і гарачыя шчокі Так сонцам прапахлі і сокам суніц» (А. Зарыцкі. «У бары»), «Мне захавае памяць спеў аб леце, Аб шчасці маладым сярод суніц» (С. Гаўрусёў. «У дзень суніц»).

Лета для лірычнай гераіні Раісы Баравіковай — чаканая пара кахання. Але яна імгненна пралятае, пакідаючы на душы сум і настальгію. «Такое кароткае лета!» — выгуквае паэтка ў вершы «Яшчэ не ўзяліся травою лугі...».

Суніцамі пахнуць пацалункі для лірычнай гераіні Галіны Каржанеўскай. Яна з інтымнай даверлівасцю выпявае свае пачуцці: «Я ўдосталь яшчэ паспытаць не паспела Ні слодычы летняй, ні дабрыні» («Апошні лісток»). Наогул, тэма лета ў лірыцы Г. Каржанеўскай мае неадназначнае вырашэнне. Паэтку палоняць шматколерныя фарбы зямлі, яна шчыра захапляецца радасцямі лета. Аднак для яе ўнутранага свету непрымальная летняя ідылічнасць, пасіўная сузіральнасць. «На

душнай эстрадзе лета» («Дажджынка прыгнула ліст...») паэтка аддае перавагу стытхіям руху — навальнічным грымотам, ветру... Летнія радкі Г. Каржанеўскай інтанацыйна пружыністыя, тэмпераментна-энергічныя, вобразна рухомыя.

Такім чынам, летні пейзаж у беларускай паэзіі — з'ява эстэтычна асвоеная, шматстайная ў сваім багацці канкрэтных праяў. Летні пейзаж у таленавітых творах паяднаў у сабе жывапіс, музыку і прыроду, выявіў хараство і радасць зямнога бытавання. Тэма лета ў нашай паэзіі набыла ідэйна-мастадкую глыбіню адлюстравання. Філасофія лета — гэта філасофія чалавека і прыроды, іх гарманічнай лучнасці і вечнага існавання. Многія летнія вобразы і матывы з'яўляюцца актыўным сродкам эмадыянальна-псіхалагічнага самавыяўлення, прадметам мастацкага заглыблення ў праблемы духоўнага і экалагічнага быцця. Лета — не толькі сезонначасавая выява прыроды, але і адна з самастойназначных і неад'емных асноў нацыянальнага паэтычнага мыслення, той ключавы пейзажны вобраз, без якога немагчыма ўявіць духоўныя, эстэтычныя параметры ды каштоўнасці мастацтва вершаванага слова.

## «У АСМУЖАНАЙ КРАСЕ ТВОЙ, ВОСЕНЬ, ВОБЛІК!»

Адметнасць, непаўторны каларыт нашай нацыянальнай прыроды вельмі ярка раскрываецца ў восеньскіх краявідах, якія ў беларускай пейзажнай паэзіі пасля вясновых вобразаў-малюнкаў займаюць самае значнае месца.

Чым можна растлумачыць такую моцную захопленасць, нават цягу паэтаў да восеньскіх фарбаў і мелодый? Па-першае, своеасаблівасцю нацыянальнага светаадчування, якому ўласціва мяккае, сцішана-паэтычнае сузіранне хараства. Восень, асабліва ранняя яе пара, якраз і выклікае пачуццё одумнасці, ціхага любавання. Па-другое, разам са зменай афарбоўкі свету, з надыходам халадоў, прымаразкаў, апусценнем палёў, адлётам птушак змяняецца і біятонус чалавека, яго псіхаэмацыянальны стан. Восенню паступова надыходзіць заміранне і завяданне жыцця. Сумныя настраёвыя рэфлексіі — гэта глыбінны водгук душы, чуйная повязь з усім існым. Па-трэцяе, з восенню звязана важная старонка жыцця і працы чалавека: ідзе збор дароў поля і лесу, ніва засяваецца азімымі і інш. Здаўна беларус эмацыянальна-пранікнёна ўспрымаў прыкметы восені. У гэтай сувязі даследчык беларускага фальклору А. Ліс слушна адзначае: «Свет прыроды арганічна ўвайшоў у асеннюю паэзію. Магчыма, яшчэ больш арга-

нічна, чым у які-небудзь іншы від каляндарнай паэзіі. І не толькі ўзяты ў плане паралелізмаў. Вока народнага творцы, чуйнае сэрца яго добра ўлоўлівалі жыццё асенняй прыроды ў суаднясенні, сувязі яго з жыццём чалавека». І яшчэ адно — ці не самае простае і вельмі істотнае — тлумачэнне магутнага эмацыянальна-эстэтычнага ўздзеяння восені на мастацкую свядомасць і светаўспрыманне майстроў слова. Гэтая пара — тое хараство роднай зямлі, якое па-свойму тонка і востра ўражвае сэрца, адгукаецца ў ім шчырай, натхнёнай песняй. «Хоць прыгожа вясна беларуская,— Прыгажэй беларуская восень»,— так выказвае захапленне восенню паэт Т. Кляшторны (верш «Восень»). Сапраўды, у многіх таленавітых творах маляўніча і прачула раскрываецца паэзія і музыка беларускай восені.

Восеньская прырода знаходзіць адухоўлены адбітак у вуснай народнай паэзіі: «Ой, восень, восень, Ты мяне ачарыла... Ачарыла мяне рознымі чаранькамі...» («Ой, восень, восень...»). Асабліва ўражліва, чуйна яе ўспрымае дзявочае сэрца, у якім жывуць любоўныя згрызоты, сум і трывога. Восенню, як вядома, пасля заканчэння палявых работ, усялякіх гаспадарчых клопатаў надыходзіў час шлюбаў, вяселляў. У шматлікіх песенна-паэтычных радках разгортваецца свет інтымных перажыванняў, сугучны па сваёй настраёвасці восеньскай пары з яе зменамі, прыкметамі:

— Ай восень, восень ты, сцюдзёная,
Чаго рана настала?
— А што за рана,
А што й за позна?
Ужо й мая пара прыйшла.
Лісточак падзець,
Травіцу кладзець —
Ужо й мая пара прыйшла.
Сняжок падзець,
Травіцу крыець —
Ужо й мая пара прыйшла.

*(«Ой, лістам, лістам дарожачка запала...»)*

Восень нібы жывая істота, з якой чалавечае сэрца гаворыць шчыра і непасрэдна.

Старажытныя вершаваныя творы, лірычныя і эпічныя старонкі беларускай паэзіі XIX ст., на жаль, пазбаўлены жывапісных, па-сапраўднаму адухоўленых восеньскіх малюнкаў. Найчасцей слова восень — проста дэкаратыўны атрыбут, які ўказвае на пару года, час нейкай падзеі. У «Быліцах, расказах Навума» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў гэткім плане згадваецца «позна восень», у вершы

Адама Гурыновіча «румяна, светлаліца» вясна называецца «бледнай восені сястрыцай» («Вясна») і інш. Нельга сказаць, аднак, каб гэтая значная пара года ў духоўным жыцці чалавека не прываблівала паэтаў. Імкнучыся пашырыць пейзажнавобразныя далягляды беларускай паэзіі, А. Гурыновіч вельмі ўдала пераклаў верш рускага паэта XIX ст. А. К. Талстога «Восень». Дзве яркія песні пра восень (вершы маюць аднолькавую назву «Восень») стварыў на польскай мове Янка Лучына. Яны перагукаюцца сваімі матывамі: адлёт птушак у вырай, свіст-гул ветру, клопат аратага пра ўраджай. Паэтычны голас Я. Лучыны набывае розную эмацыянальную афарбоўку: ад спакойнага сузірання да ўсхваляванага эмацыянальнага ўздыму. Позірк ягоны выяўляе жывую назіральнасць, маляўнічасць:

Рэзкі, сіверны, імклівы
Дзьме вятрыска па-над нівай,
Гоніць воблакаў ён зграі,
Ў хмару цёмную збірае.
Зжоўкла лісце дзікай грушы,
І бярозка ўбор цярушыць.
Лісцем яркім, лета дзецьмі,
Расшпурляўся моцны вецер.
Падкасіў крыссё араты,
За валамі йдзе упарта,
Узнімае роўна скібы,
Хваль рачных чароды нібы.

*(«Восень». Пераклад У. Мархеля)*

Вобраз восені, як бачым, яшчэ чакаў свайго сапраўднага паэтычнага адкрыцця. Да «партрэта» гэтай пары года ў лірыцы XIX ст. былі зроблены толькі паасобныя штрыхі. Глыбокае і шматграннае эстэтычнае асваенне восеньскага пейзажу пачалося толькі на пачатку XX ст. Мы назіраем, як у той час поруч з народна-паэтычным поглядам на восень нараджаецца індывідуальнамастацкае бачанне і асэнсаванне гэтага вобраза-тэмы.

Спаконвеку чалавек на зямлі адчуваў цесную лучнасць з кожным сезонна-каляндарным цыклам прыроды. Не выключэннем тут з'яўляецца і пачатак нашага стагоддзя, калі для селяніна-беларуса кожная часіна года мела асаблівы, сапраўды вялікі жыццёвы і духоўны сэнс. У сваіх звыклых прыкметах і выявах, звязаных з сялянскім побытам, земляробчым календаром, паўстае восень у творах Цёткі (Алаізы Пашкевіч) і Старога Уласа (Уладзіслава Сівога-Сівіцкага), паэтаў «нашаніўскай» кагорты. У іхніх вершах з аднолькавай назвай «Восень» восеньская пара паэтызуецца як шчодры ўраджайны час,

сімвалізуе дабрабыт. Абодва творы нясуць у сабе дух народна-паэтычнага светаўспрымання. У Цёткі восень паўстае ў вобразе дбайнай гаспадыні:

Восень — міла гаспадыня:
Дзе ні глянеш — поўна скрыня
То арэхаў, то пшаніцы
Па куточках у святліцы.
Аб усім яна так дбае,
Нівы зябліць, засявае,
У папары руніць жыта,
Каб на весну было сыта.

Старому Уласу восень уяўляецца ў аблiччы дзеда: «Вось после бурнай жніўнай пары Верасень хмурны, як дзед стары, З торбаю поўнай да нас ідзець». Падобнае ўспры манне восені сустракаем і ў другім творы паэта — вершаваным апавяданні «Год беларуса», у якім асуджаецца «злая вясніўчa», калі «няма есці сабе й скаціне», і славіцца восенькі дастатак, час, калі «поўна ў гумне, у каморы». Паэт шырока разгортвае асеннія старонкі земляробчага календара:

Жніво ярное — гэта восень,
І, як той кажа, работак восем.
Ўжо дні пахмурны і карацейшы,
Халодны ночкі і шмат даўжэйшы,
Раніцы мокры або туманны,
Часам марозік выскачыць ранні,
І на начлезе сцюжай не спіцца,
І сам не знаеш, за што хваціцца.
Бо яшчэ сена на сенажаці,
Тут жыта сеяць, снапы ўбіраці,
Араць на зіму і ляны рваці,
Касіць атаву і забіраці,
Лён убіраці ды ўперад сушыці,
Каноплі рваці, пенькі мачыці,
То ляны слаці, то падбіраці,
Дамоў вазіці, а после мяці,
Урэшце і бульбу трэба капаці,
Пасля з гародаў трэба ўбіраці.

Стары Улас, апісваючы навакольныя прыкметы прыроды, вядзе нязмушаную вершаваную гаворку, выяўляе па-народнаму чуйную, жывую назіральнасць. Восеньская карціна Цёткі мае большую эмацыянальную і псіхалагічную насычанасць. Бязрадасны свет прыроды, калі «восень глуміць Усе кветкі, ўсе галінкі, ўсё змятае да сцяблінкі»,

калі «ўсюды старасць, смутак вее», спараджае ў душы паэткі вярэдлівы неспакой, змрочныя, магільныя ўяўленні («тут магілы, тут і труны»), унутраныя роздумныя запытанні: «А дзе ж зелень, а дзе стужкі, А дзе песні, а дзе птушкі?»; «А дзе ж шчасце, братцы, наша?» «Восень» — адзін з самых першых твораў Цёткі, якая пачыналася ў беларускай паэзіі як песнярка прыроды.

Па-свойму, глыбока адкрылі свет восеньскіх вобразаў і пачуццяў Янка Купала і Якуб Колас.

Прыгожым, вабным словам малюе восень Янка Купала. Забягаючы наперад, трэба сказаць, што далека не заўсёды гэтая пара выклікае ў ягонай душы захапленне. Тым не менш Я. Купала — эмацыянальна-рэфлексійны і вельмі назіральны мастак, які тонка пераліваў у вершаваны радок хараство, паэзію навакольнага свету. Чаруе вока паэта, напрыклад, залаты лістапад, яго ціхая музыка, узноўленая з мілагучнасцю гукапісу: «Толькі сыплюцца лісты На яловыя кусты, На сухія верасы» («Адцвітанне»), «З гальных ліп і бяроз Лісты валяцца, Між павалаў і лоз рассыпаюцца. Шапацяць, шалясцяць залацістыя...» («З асенніх напеваў»). Аднак у восеньскіх песнях Я. Купалы найчасцей чуюцца жывы лірычны сум, душэўная скруха, боль, трагедыйнасць перажыванняў:

Вока не пасвіцца зеляняй, коласам,
Сэрцу раздолля, прыволля няма;
Вецер заводзіць нябожчыцкім голасам,
Вые, рагоча, як ведзьма сама.

*(«Восень»: «Вось і па леце...*
*Няма яснай гожасці...»)*

Змрочныя вобразы мучаць душу паэта, у ёй «гіне ахвота к пацехам, к жыццю». Восеньскі краявід паўстае ў сваёй непрытульнасці, згасласці колераў і фарбаў, з шалёным, злавесным разгулам стыхій — ветру, дажджу. «Цёмна, пагібельна, слёзна кругом»,— прызнаецца далей паэт, і мы адчуваем ягоны цяжкі, прыгнечаны стан. У заключных радках верша ён выказвае сваё ўспрыманне восені так: «Восень панурая, восень магільная! Страшна ты чуткаму сэрцу, душы».

Восень не спагадае бедняку, дзіка б'ецца ветрам аб шыбы ягонай хаты (вершы «Прыйшла восень...», «Восень»; «Эй, восень, восень...»). Гэтая пара — непагодная, дзікая, халодная, яна адбірае радасць, надзею: «Цяжанька марнеці ў жыцця паняверцы; І восень на свеце, 1 восень на сэрцы» («З асенніх напеваў»). Бязрадасны, самотны настрой працінае таксама радкі верша «Плача восень», дзе восень стогне, «з ветрамі галосіць», кляне. Жакам патыхае ад змрочнага малюнка ў вершы «Восень» («Села над пушчаю Восень...»):

Вецер, убраўшыся ў сілы,
Лесам, як вехцем, трасе,
Крыж вырывае з магілы,
Круціць салому ў страсе.
Хмара, упіўшыся морам,
Хвошча і хвошча дажджом,
Плача нязмераным горам,
Жаліць душу, як нажом.

Восень увасабляе немінучую смерць, нейкае ўсясветнае зло і кару: «І пуста, і дзіка Пад борам кругом, Як пометы вялікай Заплёў хто залом» («Віхор загуляў»). Яна — пара, калі правяць баль міфічныя істоты: ведзьма, зморы, злыдні. Вецер, віхор, сівер, хмары сеюць жудасць, нясуць бяду, разбурэнне: «А ў полі заходзіцца бура, Разносяцца жальбы і стогны...» («Удосвітак»). У гуле і смутку патанае ўвесь свет, людзі імкнуцца ўратавацца ад пагібелі. Вершы «Дунулі сіверы», «К дарозе», «Віхор загуляў» і іншыя напоўнены трагедыйнасцю адчуванняў, асобныя з іх прасякнуты філасофскім роздумам пра быццё і смерць, бо «асеннія шумы»

Пяюць аб мінуўшым памінкі —
Бязрадасны гімн пражытому...
Быцця свайго бачыш дажынкі,
Падводзіш рахунак былому.

*(«Асеннім вечарам»)*

Неадольная туга, пачуццё трывогі дамінуюць у элегіі Я. Купалы «У вырай», напісанай у лістападзе 1918 г. Ужо першы радок «Зашумела нудна восень...» настройвае на мінорны лад. Паэт звяртаецца да гусей, што «з гоняў Беларусі ў вырай... ляцелі», захапляецца іхнім моцным і вечным пачуццём радзімы: «Знаю, зложыце тут косці...» Купалава сэрца шчымліва выпявае самае запаветнае, набалелае: «Вы не ўмееце йшчэ, гусі, Выракацца Беларусі, Як умеюць людзі».

Адбітак смутку ляжыць і на іншых вершах, створаных паэтам у 1918-1920-я гг. Жахі, чары, здані абступаюць чалавека на восеньскім «бітым шляху» ў вершы «У дарозе». Навакольныя выявы страшаць чалавека: «Як шкілет, тарчаць галіны». Містычны восеньскі пейзаж, у якім суседнічаюць ява і ірэальнае, а таксама бурны пейзаж, дзе валадараць стыхіі, перапоўнены песімістычнымі нотамі, адчуваннем нейкай нязведанасці, непрадказальнасці падзей, невядомасці чалавечага і зямнога быцця.

Лірычна-вобразна, прачула апявае беларускую восень Якуб Колас. Паэт дэманструе яркі суб'ектыўнавыяўленчы жывапіс:

Адплывалі хмары-горы

Белымі клубкамі,
Нібы крыгі ледзяныя
З меднымі краямі.

*(«Журба палёў»)*

Ён з абвостранасцю зроку, маляўнічай дакладнасцю перадае стан, фарбы і адценні восеньскага неба, поля, гаю, лесу: «Пуста ў лузе. Толькі стогі парыжэўшыя стаяць» («Восень»), «Рассцілалася шырока Неба сіньлазура, Ды прырода пазірала Хмура і панура» («Журба палёў»), «А лісцё паміж камлямі Пажаўцелымі раямі Заснуецца, задрыжыць» («Восень у гаі») і інш.

Магутна раскрыўся талент Я. Коласа-жывапісца ў ягоным паэтычным эпасе. Восеньскія «дзівоты чараў выяўляе» ён у «Новай зямлі». І хоць з усіх пор года гэтай часіне адведзена ў паэме найменей месца, але апісваецца яна вельмі маляўніча, ярка. Асабліва запамінаецца карціна надыходу восені:

На ніцях белай павуціны
Прывозяць восень павучкі.
Яе красёнцы, чаўначкі
У моры лесу мільганулі
І лісце ў багру апранулі;
І з кожнай лісцевай галоўкі
Глядзіць твар восені-сяброўкі.

Вока і душа герояў паэмы чуйныя да восеньскай прыроды, і яна, у сваю чаргу, знітоўваецца з іхнім настроем, думкамі, што вельмі добра адчуваецца тады, калі «пад восень прад сяўбою» Міхал і Антось едуць на агляд зямлі. Восень — пара, неадлучная ад клопатаў земляроба.

Паэт бліскуча раскрыў хараство восеньскага пейзажу, яго нацыянальную своеасаблівасць у паэме «Сымон-музыка». Тут перад намі паўстае некалькі разгорнутых карцін восені. Яны ўражваюць адухоўленасцю і пластычнасцю, той лірычнай інтымнасцю, у якой магічна знітаваны паэзія пачуццяў і «чараў дзіўныя» выявы. Восень — жывая істота, яна нагадвае кабетушчыруху, якая «тчэ красёнцы мяккай чырвані ў лістах», спявае, прадзе «кужаль тонкі — Павуціння белы лён». Восень стомлена абыходзіць наваколле, да ўсяго прыкладае сваю руку, перайначвае на свой лад. Больш за дзесятак дзеясловаў у чацвёртым раздзеле першай часткі паэмы («Нікла жыцце ў шумным лесе...») перадаюць яе турботную натуру: «восень ішла», «восень клыгала», «восень песні пела», «восень ныла ўвечары»... Сапраўды, мы адчуваем, як імкліва змяняецца свет. Мастак умее намаляваць і ліставейную

замець, якая засыпае верасы, і спакойна акінуць вокам прастору, дзе пазірае «даль з-пад шэрае імглы».

У кожным з восеньскіх прыродаапісанняў у «Сымоне-музыку» знаходзяць адбітак і ўнутраныя перажыванні героя — хланчука-падлетка, які «зліваўся ў тон суладны З шумам лісцяў і травінак, З спевам красак і былінак, На ўсё чулы і ўспагадны...». «Нейкім жалем павявала ад аголеных палёў», і «Пад агульны смутак гэты Граў Сымон цяпер адзін, Граў прашчанне жыццю лета...», «Свет смутку болей блізкі» быў ягонаму сэрцу. Восень высвечвае пакутную, драматычную наканаванасць лёсу Сымона-музыкі, складанасць яго пачуццяў, наводзіць на роздумы пра жыццё і смерць, пра лёс чалавека наогул.

Я. Колас з нейкай асаблівай непасрэднасцю, вельмі кранальна спавядаецца на ўлонні восеньскай прыроды. Паэтавы песні пра восень прасякнуты выразным элегічным настроем: «Хмары сонейка закрылі, Зор у ночку не відаць. Змрочна, сцішна, бы ў магіле, Дык аб чым жа нам гадаць?» («Увосень»: «Дзень маркотны, невясёлы...»). Восеньскія вершы Я. Коласа падобныя па сваім гучанні, на што неаднойчы звярталі ўвагу даследчыкі творчасці паэта. Ягоныя самота, туга — бязмежныя і, здаецца, няўтольныя, гнятлівыя. «Смутку... ніяк не суняць»,— прызнаецца ён у вершы «Асенні дождж». Свет прыроды ахутаны змрокам, панурасцю: «Сцішна. Пуста. Адзінока... Свет закрыла цьма густая...», «Ціш і безлюдзь — ну, страхоцце! Ані гуку, ані зыку! Толькі свіст у лесе дзікі Ды хмар сунецца лахмоцце» («Бездараж»), Меланхолія, драматызм, трывога — усё гэта адбітак стану душы паэта, якая не знаходзіла светлай спатолі, пакутавала і плакала, няверылася і гукала вясну. Паэт шчыра зайздросціць хмаркам, бо «Светлыя хмаркі — дзеткі прастору — Ціха па небе плывуць. Ім незнаемы слёзы і гора. Смутак і жаль іх не рвуць» («Хмаркі»). Ён успрымае восень як нешта пагібельнае, жудаснае і бачыць ратунак нават у надыходзе зімы, не кажучы пра вясну: «Ссохлі травы, ўсё павяла. Слоць, плюхота, холад, цьма. Эх, скарэй бы закрывала Зямлю чорную зіма!» («Восень»). Я. Колас, сузіраючы завяданне, знямеласць прыроды, імкнецца па-філасофску асэнсаваць імклівы кругабег чалавечага жыцця, плыннасць і незваротнасць часу, што асабліва ярка выяўляецца ў вершах «Позна. Восень агаліла...», «Адлёт жураўлёў» і інш. «Вершы, падобныя «Адлёту жураўлёў»,— адзначае І. Навуменка,— уражваюць сваёй непасрэднасцю, глыбінёй пачуцця, перажывання. Тут... паэт дасягае глыбокага паэтычнага ўздзеяння, шчасліва знайшоўшы рытмічны ключ, настрой і дакладныя, зразумелыя ўсім вобразы».

Калі вясну зазвычай называюць раніцай года, то восень — яго змярканне, вечар. Восень — гэта пара абвостранай настальгіі па сонцы, траве: «Сонца не бачу ў туманным абшары, Боль мае сэрца пячэ» (Янка Журба. «Знікла зялёная траўка на полі...»), «Дзе тая траўка, што так зелянелася Пекнасцю дзіўнай сваёй?», «Дзе тыя неба пагляды вясёлыя, Ласкай што грэлі зямлю?» (Алесь Гурло. «Восень»).

Вясна — пачатак жыцця, адраджэння, свята красавання, цвіцення; восень — затухание жыцця, завяданне хараства. Ва ўсім гэтым і ёсць натурфіласофскі закон існавання свету, да спазнання з'яў, таямніцаў якога здаўна была падключана паэтычная думка-пачуццё. «Восень ты нудная, восень дажджлівая, Ты немінуча ўсягды»,— даводзіць Цішка Гартны ў вершы «Восень». Журліва-самотны тон поўніць голас паэта. Восень нясе смерць, пустэчу, аняменне і цемру. Вельмі часта жоўты ліст, адарваны ад дрэва, ці лістапад абуджалі думкі пра вечнае і смяротнае, тлен і неўвядальнасць свету (згадайма Э. По, М. Лермантава, Я. Коласа...). Пра кругабежнасць чалавечага веку, адвечную наканаванасць жыцця і смерці неяк па-філасофску сцішана і мудра разважае М. Арол (Сцяпан Пятэльскі), адзін з цікавых паэтаў нашаніўскага часу. Няма ў ягоных радках ні роспачы, ні магільнага страху, наадварот, ёсць праніклівае разумение таго, што, нібыта лістапад, сыходзіць з жыцця кожнае пакаленне людзей:

Жаўцее ліст і падае адзін за другім
На землю мокрую без жальбы і нуды.
Настане час, і мы ўсе — недругі і другі —
Хто раней, хто пазней, прыхілімся к зямлі.
*(«Жаўцее ліст...»)*

Восеньскі паэтычны пейзаж у творах М. Багдановіча, А. Гаруна — гэта элегічна-драматычны свет чалавечых перажыванняў. Чорны колер, санлівасць, цьмянасць, няўцешная туга — характэрная адзнака прыродаапісанняў гэтых творцаў. Наогул, восеньскія краявіды беларускіх паэтаў пачатку XX ст.— змрочныя, шэрыя, дажджлівыя, халодныя. Восень — сімвал бяды, заняпаду жыцця і духу. Тут мы не сустрэнем узнёслага захаплення восенню, радаснага яе апявання. У рускай жа паэзіі прыклад святочнага культу восені якраз ёсць, нават яшчэ ў ранейшы час. У XIX ст. А. Пушкін з душэўнай урачыстасцю паэтызаваў восень («Унылая пора, очей очарованье!»), прызнаваўся, што «она мила... красою тихою» і што «к себе меня влечет», «рад лишь ей одной» («Осень»). У Я. Купалы восень—«цёмная, золкая», «плача... ноч і дзень» («З асенніх напеваў», «Плача восень»), у Я. Коласа — «смутная часіна», «хліпанне, плюскат» («Асенні дождж», «Адлёт

жураўлёў» і інш.), у М. Багдановіча — гэта «шум непагоды глухой», пара, калі «чарнеецца сажаю вечар, Дождж б'ецца аб хвалі ракі. Гуляе, гудзе над ёй вецер...» («Асенняй ночай»). Навідавоку тыпалагічнае падабенства ў адлюстраванні восені і ў творах іншых паэтаў, эмацыянальная, каляровая дамінанта якіх — тая ж самая: «Восень халодная, чорная, хмурая» (А. Гарун. «Восень»), «Восень, ой, восень, панурая, сумная» (А. Гурло. «Восень»), «Б'ецца восень халодная...» (З. Бядуля. «Б'ецца восень халодная ў рэчную шыбу...») і інш. Запамінальная сваім драматычным пафасам восеньская карціна ў вершы Алеся Гаруна «Восень» (1911), які быў напісаны паэтам на чужыне. Восень паўстае як нейкая фатальная збежнасць часу і лёсу, яна «сонца хавае за чорную цень», «змяняе аблічча зямлі». Стан душы паэта працяты болем, тугою, безвыходнасцю: «Сэрца баліць пад жаданняў прымусамі...»; «Можа, заснуць, каб нічога не знаць?»

Дык ці выпадковыя ў творчасці паэтаў восеньскі неправідны змрок, туман, чорныя цені, здані, навіслая шэрань? Адкуль гэтыя фарбы і колеры адмаўлення жыцця, бясконцыя сумныя, скрушныя самарэфлексіі? Безумоўна, невыпадкова, бо шмат што ў жыцці пярэчыла іхнім уяўленням і памкненням духу. І ў кожнага з творцаў быў свой, даволі няпросты, нават цярністы шлях па жыцці. Згадайма лёс Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, А. Гаруна... «Перавага пэўнага колеру ў мастака... сведчыць не толькі пра характэрную для яго каляровую карціну свету, каляровую сімволіку і г. д., але і пра яго эмацыянальна-псіхалагічны стан у розных жыццёвых і творчых сітуацыях...» (І. Кандакоў). Далей мы гэта добра адчуваем, звяртаючыся да твораў паэтаў розных эпох і часоў.

Такім чынам, восеньскі пейзаж у беларускай паэзіі пачатку XX ст. у асноўным адлюстраваны ў двух планах: апісальна-выяўленчым, калі паэты замалёўваюць з натуры навакольныя краявіды, прыкметы прыроды, выказваюць свае ўнутраныя перажыванні, і сузіральна-медытатыўным, калі ў творы на аснове сузірання і філасофскай заглыбленасці думкі-пачуцця асэнсоўваюцца нейкія з'явы, заканамернасці чалавечага і зямнога быцця ўвогуле, інакш кажучы, гэта пейзажна-медытатыўная паэзія. Песні восені — гэта элегія смутку, душэўнага тамлення, роздуму і трывогі. Вельмі тыповыя для паэзіі пачатку XX ст. лейтматывы холаду, цемры, змроку, бяды, згасання, смерці, якія звязаны непасрэдна з вобразам восені. У аснове такіх настрояў, вядома, ляжаць тагачасныя сацыяльныя, духоўныя праблемы, але ў значнай ступені — пачуванне чалавека, турботныя думкі і пачуцці ягонай душы. Разам з тым у паэтычных восеньскіх пейзажах выразна праступае і своеасаблівасць нашага нацыянальнага паэтычнага

светаўспрымання: у непрытульнасці абшару, змрочнай невідочнасці, разгуле стыхій ці, наадварот, соннай паныласці, немаце навакольнай прыроды «Думка сэрцу аб вясне Здрадны голас падае», «сум... трывожыць сказы дум, Дум аб шчасці і аб кветках» (Я. Купала. «Адцвітанне», «Плача восень»).

Тэма восені знаходзіць неадназначнае вырашэнне ў паэзіі 20-х гг. Яркія, каларытныя пейзажы стварылі Уладзімір Дубоўка, Тодар Кляшторны, Наталля Арсеннева, Язэп Пушча, Паўлюк Трус і іншыя паэты.

Як не любіць мне восень залатую,
Калі праз вопратку асін густую
Тон прабіваецца чырвоны — слаўны тон
І ў золаце стаіць маўклівы, пышны клён? —

пытаецца Н. Арсеннева ў вершы «Восень», што ўвайшоў у яе зборнік лірыкі «Пад сінім небам» (1927). Восень у яе творах поўніцца яркім дзівоцтвам, хараством, урачыстасцю, гэтая часіна перадусім — пара духоўнага гарэння, наталення веры, паўнакроўнага жыццялюбства, а не толькі надыход завядання, замірання, скону: «...Я веру ўсім, калі душа гарыць, І хочацца так век, хоць сумаваць, а жыць...» Паэтка складае «песні-жальбы», элегіі, але яны не нясуць у сабе такую згушчаную атмасферу смутку, як, да прыкладу, восеньскія пейзажы Я. Коласа. Словам, восеньскія мелодыі Н. Арсенневай разнастайныя па сваім эмацыянальна-псіхалагічным ладзе гучання. Восень паэтка ўспрымае як пачатак новага, неразгаданага, «яна — блізкая, знаная, новай песняй у сэрца ўціскаецца і натхненнямі...» («Жоўтая восень»). Туга, боль, плач у тэкстах паэткі — таксама прыкметная плынь перажыванняў чалавечай душы:

Томіцца сэрца, баліць,
Рвецца памерці і жыць,
Сэрца смуціцца маўкліва.
Восень... ды смутак не дзіва...

*(«Сыплюцца з клёнаў лісты...»)*

Восень Н. Арсеннева жывапісуе ў чысціні, яркасці святла, фарбаў і колераў: сонечна-чырвона-залацістых, жоўта-залацістых ці жоўта-мядзяных. «Жоўтая восень» — яе ўлюбёная выява пары года: «Клёны асыпаліс... Золата й фарбы Крыюць зямлю дарагім дыванам» («Восень»: «Клёны асыпаліс...»); «Сыплюцца з клёнаў лісты... Крыюць зямлю і кусты, Золатам крыюць маўкліва» («Сыплюцца з клёнаў лісты...»); «Жоўтыя клёны, у фарбах асіны, Гроздзі крывавыя ў вецці рабіны, Сіняе неба...»; «З сонцам, што ў чырвані дрэў дагарае...»

(«Жоўтыя клёны»). Яе радок пазначаны глыбокім лірызмам, пластыкай жывапісання.

Восеньскі «дзень залаты» з метафарычнай маляўнічасцю, пранікнёнай лірычнай мелодыкай слова апісвае У. Дубоўка ў вершы «Залатая, асенняя раніца...»:

Залатая, асенняя раніца!
Хараством ты на свеце адна.
Сонца ў пушчы глыбокай
купаецца
І ніяк не дастане да дна.

Сонечна-залацістыя, жоўта-чырвона-прамяністыя восеньскія пейзажы Н. Арсеневай і У. Дубоўкі прасветлены выразнымі лірычнымі пачуццямі, блізкія па сваім адлюстраванні восеньскім палотнам беларускіх мастакоў-жывапісцаў Адольфа Гугеля («Асенні матыў», «Асеннія карункі»), Абрама Кроля («Палаючая восень», «Восень», «Восень. Поле»), Віталя Цвіркі («Беларускі пейзаж», «Золата восені»).

Вельмі любіў пісаць пра восень Тодар Кляшторны, выдатны паэт-лірык. Ягоныя прыродаапісанні бяруць у палон жывапіснай вобразнасцю, абвостранасцю зрокавых уражанняў, прыгажосцю: «Запалілі зоры папяросы. Над буланай грывай тунаноў»; «Залатой мякінай лістападу Сыпле клён над скронямі акон» («Зацвілі сярэбраныя росы...»), «Стыне ўсё... Ледзянымі сярпамі Выйшла восень рабіну касіць» («Зазімак»). Па-свойму ўбачылі і намалявалі восень Я. Пушча ў вершах «Зашумелі лісты», «Даліны адвеялі аўсяным...», П. Трус у «Трыпціху», прысвечаным восеньскай пары, М. Хведаровіч у «Асенняй песні» і інш.

Сімвалічна раскрываецца вобраз восені і звязаныя з ім матывы ў творчасці паэтаў-маладнякоўцаў. Яна — сімвал скanання старога, «мінуўшчыны дзікай» (П. Трус. «Пад напевамі ветраў асенніх...»), адыходу ў нябыт змрочнага, сумнага. Сацыяльная дэтэрмінаванасць пейзажу яскрава праяўляецца ў вершы Паўлюка Труса «Асенняя праца». Сузіранне восені не пазбаўлена радасных эмоцый, адчування незамглёнасці прасторы, але ўсё роўна яна паўстае ў антыноміі вясне, якая з'яўляецца сімвалам дзейснага абнаўлення, поступу «жыцця кіпуча-бунтарскага». Таму паэт жадае «пасля туманнай ночы Прывітаць жыццё-вясну». «...Клічу жыцця вясну»,— ва унісон з гэтай думкай гучыць прызнанне М. Чарота («Бунтар»).

У паэзіі 20-х гг., як мы памятаем, шырока гучалі песні вясны. Аднак з цягам часу светаўспрыманне шэрага паэтаў займела далека не аптымістычны характар. Наадварот, іхнія галасы набылі якасна іншы эмацыянальна-псіхалагічны рэгістр — мінор. Пастуова шмат што ў навакольным жыцці пачало турбаваць, не задавальняць,

насцярожваць, і таму сумленны голас мастака не жадаў «спяваць пад зазубраны лёскат» (У. Дубоўка. «Часіна ды з сокам рабіны...»), ягоная душа прагнула «вольным птахам рэзаць шыр нябёсаў і супраць ветру размахнуць крыламі» (Я. Пушча. «Люты да сабакі»).

На пачатку паэтычнай сцежкі Язэп Пушча выяўляе сябе як шчыры, палкі весналюб. Ён поўны жадання «вясну заклікаць» і звяртаецца да іншых: «Цёмны вір абмінай і вясну абнімай!» («Вясновае», «Вясна»). Але ўжо з сярэдзіны 20-х і асабліва ў другой палове дзесяцігоддзя паэт становіцца песняром «восені чорнай». У вершы «Ой ды песні мае цёмнавірыя!», напісаным каля 1924 г., ён разважае так: «Ой ды песні мае цёмнавірыя! Ну, куды вы, палкім раннем душы? Ці ж не лепей сакаліным ды выраем Карагодзіць вясны сінякудры узвыш?» Зборнік паэзіі Я. Пушчы, які выйшаў у 1927 г., называецца «Дні вясны». Але ўжо тут, у прыватнасці ў вершы «Я аддаў дню вясноваму дань...», паэт адмаўляецца спяваць гімны вясне, якая становіцца антыподам ягонаму духу, бо зусім іншы настрой і пачуцці перажывае сэрца, агорнутае сумненнямі і трывогамі:

Я аддаў дню вясноваму дань,
Я схіліўся паклонам вясне.
Сёння восені чорная здань.
Золь — слатой асыпае мяне.
Нешта зябка на сэрцы чагось,
Ўсю дазвання калоціць душу.
Няўжо восень мой жудасны госць?
Няўжо восень я ў песні нашу?

Я. Пушча прадчувае штосьці нядобрае, нават жахлівае, у сваіх пакутлівых думках ён даходзіць да мяжы адчаю і дэпрэсіі. Восень сапраўды з усёпаглынальным смуткам і болем пранікла ў сэрца ды песні паэта. Пра гэта яскрава сведчыць ягоны цыкл восеньскіх вершаў у зборніку «Песні на руінах» (1929). Вытокі драматычнага светаадчування Я. Пушчы, ягонага трагізму — у тых жыццёвых і творчых абставінах, якія моцна прыгнечвалі, зацiскалі ў абручы няверʼя, безнадзейнасці. Паэтава лірыка восені — лірыка споведзі, глыбінных рэфлексій, у ёй «праявілася адчуванне Пушчам разрываў у самой анталагічнай тканіне жыцця і культуры, адчуванне непазбежнасці народнай і ўласнай трагедыі ў выніку ўсё мацнеючых глыбінных дэфармацыйных працэсаў у жыцці грамадства» (Л. Мазанік). Восень — гэта пара трагедыі, бяды, і гэтыя матывы поўняць шматлікія вершаваныя радкі:

Я ведаю — цяпер у вас там восень
І ночы чорныя жуду калышуць.

Вятры лісты ажоўклыя разносяць
І намятаюць гурбамі ў зацішак.
*(«Лісты да сабакі»)*

Восеньскія вобразы лірыкі Я. Пушчы моцна ўражваюць сваёй трагедыйнасцю фарбаў, колераў. Жоўты колер, у афарбоўцы якога паўстае восень, становіцца сімвалам жалобы, скону: «Ў людскіх вачах асенні сполах, Мігрэні змучанай пары. Я чую, як пад жоўты шолах Ганяюць чорныя шары» («Новыя лісты»), «Жоўтымі лістамі зашуршалі далі, Гэта псалм жалобны ветры ў полі ўзнялі» («Словы мае, словы...»), «Асыпала ўсяго да ног Лістамі свае жоўтай смерці» («Грахі мае душы»). Неаднойчы вымалёўваюцца перад намі вобразы акрываўленых калін і рабін: «Ў знямозе крывавай каліна да долу навісла; Асеннюю песню ёй сівер спявае л я весніц...» («На восень дзіўлюся»), «Ўжо рабіна з калінай пагорклаю Абліліся крывёй каля плоту» («Зашумел! лісты»), «Пайду, дзе рабіннік гусцейшы, Дзе ягад крывавы ўмалот» («Укленчылі дні перад лесам...»).

Восень нясе непрыкаянасць, выстуджвае сэрца, пасяляе там страх, песімізм, збуджае крык роспачы і адчаю: «Да яго прысела з жоўтым тварам восень, і музыку ў танец, танец смерці просіць»; «Восень бліжай к сэрцу персі прытуляе,— Аніяк ёй не сагрэцца... Роспач... Лямант...» («Словы мае, словы...»); «Стаяць замарозкі ў душы чалавечай,— Ніяк не сагрэцца пад шэрай шынеляй»; «Азяблае цела ў трагічным уздыме; Зямлі нагату акрывае лістота. Хто з крыжа краіну распятую здыме? Узвываю, малюся у грэшнай істоце» («Заплаканы вечар»), «Якая змучаная дрож,— Душа і сэрца ў прастудзе. Лятуць ажоўклыя з бяроз І сыплюцца жыццю на грудзі» («Якая змучаная дрож...»). Восень поўная жудасці і непрывабнасці («абляпана плямамі восень...»), яна — звяласць, састарэласць, знямогласць духу, ці, як кажа паэт, «асенні склероз» («Укленчылі дні перад лесам...»). Восеньская анемія зусім недаспадобы чалавеку, улюбёнаму ў жыццё, сваю Бацькаўшчыну, людзей. Паэт, «авеяны музыкай сумнай», «у трагічным уздыме» цепліў надзею, што «вясною зялёнай на сэрцы загояцца раны...». Балюча ўразаецца ў свядомасць запытанне мастака: «Хто новыя ўзоры ў сузор'ях асенніх рассцеле?» («На восень дзіўлюся»).

Восеньскі смутак, туга глыбока запалі ў сэрца Уладзіміра Дубоўкі. Ён свядома адмаўляўся спяваць песні, поўныя радаснай патэтыкі. «Міноры песень сэрца болем пояць...» — так выяўляе свой унутраны стан сам паэт, даводзіць, што «Край не знаў наш песень чыстага мажору: / поруч з весялосцю смутак і туга» («Песня, ўшчунь!»). Ужо на пачатку — сярэдзіне 20-х гг. з сэрца паэта «туга ляціць», ён выказвае сваё пачуванне «між сцюдзёна-ліловых тумаНоў».

Журавінамі плача восень,
апавіўшы тугою абшар.
Я не ведаю, можа здалося,—
надзвычайна баліць душа.
А верасень сэрца калечыць
пальцамі жоўтых кляновых лістоў.
Той цяжар непазбыўны адвечны
галаву схіляе на дол.

*(«Асенні настрой»)*

Восень у лірыцы У. Дубоўкі паўстае як непазбежная наканаванасць лесу, нешта драматычнае, цяжкае, што абавязкова трэба перажыць, перапакутаваць. Паэт ахоплены трывожным неспакоем, усёпаглынальным прадчуваннем уласнай і агульнай бяды, ён увесь у скрушных восеньскіх медытацыях:

Адцвітае, усё адцвітае —
і гады, і хвіліны, і кветкі.
Маладосць ты мая залатая,
і цябе панясе так па ветру.

*(«Палыны пасівелі на ўзгорку...»)*

Адкуль гэта інтуітыўна-прарочае адчуванне, нават усведамленне немінучай драмы? Чаму менавіта восень аказалася для паэта самым блізкім і галоўным сэнсава-выяўленчым вобразам? Уся рэч, відаць, у характары мыслення паэта, які мае драматычна-трагедыйную аснову. Восеньскія вобразы, матывы сталі арганічным сродкам псіхалагічнага самапазнання і самавыяўлення паэта, эмацыянальным кодам да раскрыцця з'яў і рэалій жыцця, свету. Мы адчуваем, што ягоны душэўны свет поўніцца складанымі і супярэчлівымі пачуццямі. Радок У. Дубоўкі гучыць спавядальна, з лірычнай і псіхалагічнай прачуласцю слова, напоўненага вялікім чалавечым сумам, драматызмам, пакутніцкім настроем. Вось надзвычай характэрнае прызнанне, якое перадае не толькі восеньскі балючы стан душы паэта, але і ягонае адчуванне навакольнага свету: «Зашчымела сэрца ў нечуваным болю: / вельмі многа крыўды, / вельмі мала слоў» («І было ўвосень...»); «Людзі любяць душу прасаваць, / калі гэта душа чужая» («Пальцы жоўтых кляновых лістоў»). Спавядальна-элегічны, драматычны пафас застаецца ў паэтавай лірыцы 20 — пачатку 30-х гг. вызначальным і магутным. Пра гэта сведчаць не толькі матывы восеньскай тугі, журбы, скрухі, роспачы, але і вобразы-паўторы, вытворныя ад вобраза восені (імжа, склізота, золь і інш.), а таксама нязменныя жоўтыя і чорныя колеры-фарбы, якія сімвалізуюць жах, цемру, скон, фатальную непазбежнасць жудаснай бяды:

Імжа, і склізота, і прыкрая золь
за скрогатам ветру — навалай.
У чмарнасць убралася светава столь,
блакіт ад зямлі адарвала.

*(«Імжа, і склізота, і прыкрая золь»)*

Імжа,
і склізота,
і прыкрая золь
у засціле
сцелюцца
чорнай.
Не змыць іх са свету
сцюдзёнай расой,
затым жа так крыўдна
і —
горна.

*(«Праменнем спавітая радасць»)*

У. Дубоўка — майстар яркага і сэнсава важкага вобразна-выяўленчага пісьма. «Пальцы жоўтых кляновых лістоў» — жывапісны вобраз, які таксама паўтараецца і праліваe святло на адлюстраванне ў творчасці паэта тэмы восені. Як і ў творы «Асенні настрой», у вершы «Пальцы жоўтых кляновых лістоў» створаны жывы лірыка-драматычны малюнак: «Пальцы жоўтых кляновых лістоў / мкнуцца схапіць за шыю». Разам з тым восеньскія вобразы тут набываюць касмічнасць, разгортваюцца ў прасторы і часе: «Месяц рваў арэхі з куста, / раскідаў над сусветам арэхі»; «Ліставея не моўкне, шуміць / ад вясны да вясны на прасторах».

Восеньскае хараство, як мы заўважалі раней, моцна ўражвае вока і сэрца У. Дубоўкі. Яго зачароўвае шорхат і шалясценне залатой лістоты («Я на ўзгорак выходжу круты...»). Музыка лістападу будзіць філасофскі роздум: «Церушыцеся, шаты, лісцём залатым, / вы красою праменілі гордай. Чаравалі мяне / мо затым, не затым? / ціхіх шэптаў акорды, акорды...» («Ведаю, што і я памру, як і ўсе...»). Восень несла для паэта асаблівы сэнс і змест, яна стала чуйным люстэркам духу і душы. У гэтай пары года ён бачыў паўнату і складанасць жыцця, вялікую сілу ачышчэння і пераўвасаблення свету. Таму паэт так любіць «вятры асеннія», іхнюю сілу-моц, часіну, «калі бары шасцяць, шумяць, гудуць, / вятры асеннія імклівяць борам» («Увосень, кажуць, сумныя ўсе дні...»). Вецер нясе «павевы невыказнае асенняй пекнаты», але таксама прыносіць сцюжы і трывогі, радасць і неспакой. Восень для

паэта — пара пазбаўлення ад бруду, трухі, уся го састарэлага, нікчэмнага: «На тое восень, каб змятаць Усё, што з гніллю ёсць» («Крыху восені і жменька кляновых лістоў»). Ён палка адстойваў права быць і заставацца самім сабою, жадаў спяваць шчыра, праўдзіва. Паэт верыў у моц і веліч вясны — вясны разняволенага духу і росквіту Бацькаўшчыны:

Пазлятаюць пялёсткі з шыпшыны —
ў дзіды ўпартасць кладзе яна.
Дачакаемся світання ў айчыне:
пасля восені — прыйдзе вясна!
*(«Неба сіняе, сіняе вельмі»)*

Для У. Дубоўкі вясна засталася ў мінулым як няспраўджаная мара: «Вясна мая, жыццём маладая, / табе я не здрадзіў, з табою быў!» («У прасцягах празрыстанязнаных...»). У думках ён, як і Я. Пушча, суадносіў поры года з жыццём, рухам грамадства. Так, паэт глыбока верыў, што знаходзіцца «на парозе Вялікай Прадвесні», але набліжаўся да разумения і асэнсавання гэтай часіны праз трагедыйны, балючы надлом душы, пакуты, трывожны роздум («Хай звоняць шклянкамі», «Непакоем я сёння ўскрыты» і інш.). Увогуле, У. Дубоўка заўсёды заставаўся адданым песняром восені, нават тады, калі пісаў пра вясну, як, да прыкладу, у вершы «Люблю вясну», напісаным ужо пасля сваёй суровай гулагаўскай адысеі.

Успрыманне восені ў паэзіі 20-х гг., безумоўна, вызначае размаіты спектр пачуццяў і фарбаў. Нярэдка ў творах пануе сугучнасць элегічнай настраёвасці і светлага захаплення хараством: «Ветры — няструмныя коні — Жалобу памчалі маю»; «Цёплая, мяккая восень Коцiцца зжоўклай травой. Неба чароўная проешь Высіцца над галавой» (М. Хведаровіч. «Лісце халоднае»). Чуюцца ў лірыды восені і аптымістычныя акорды, як, напрыклад, у «Санеце» («У двеце восент пунсовазалатым...») П. Труса. Аднак менавіта журлівыя восеньскія настроі — найбольш характэрная, тылоівая адзнака светаадчування многіх паэтаў. Гэткі пафас Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Пушчы, Уладзіміра Хадыкі, Тодара Кляшторнага, Міколы Хведаровіча, Сяргея Дарожнага і іншых мастакоў слова тагачасная тэндэнцыйная крытыка абвяшчала дэкадэнцкім, інакш кажучы, упадніцкім, песімістычным, поўным безвыходнасці, наогул варожым духу эпохі, яе рэвалюцыйным зменам ды перспектывам. Паэтам, па сутнасці, забаранялася выяўляць глыбіні, таямніцы ўласнай душы. «За фарбаў тло» (У. Хадыка) іх судзілі сурова і жорстка. «Хворы песімізм», «скажонае адлюстраванне рэчаіснасці»,— такі прысуд выносіўся кожнаму, хто спяваў восеньскія песні, увогуле па-чалавечы журыўся, няверыўся ці плакаў. Лёс песняроў восеньскай

тугі сёння вядомы — яны загінулі ці зведалі ўсе жудасныя кругі сталінскага пекла. Згадайма, што перажылі Я. Пушча, У. Дубоўка, як закончылася жыццё Т. Кляшторнага, У. Хадыкі і іншых паэтаў, што «ў мінорах ляглі» (У. Дубоўка). Аднак многім прыхільнікам мажору таксама не ўдалося ўратавацца ў жудасным віры 30-х гг. Таму так вярэдзіць сэрца восеньская інтымна-прачулая мелодыя зусім маладога ў 20-я гг. паэта Сяргея Дарожнага, які з балючасцю адчуваў свет і жадаў «Не схіляцца, губляючы ліст, А цвісці»:

І чым больш адцвітае дуброва,
Тым ярчэй мае вочы гарацъ,
Тым званчэй на лісты каляровасць
Рассыпае асенняя рань.

*(«Веянь»)*

З заходнебеларускіх паэтаў, акрамя раней згаданай Н. Арсенневай, восеньскую прыроду з яркай суб'ектыўнасцю ўражанняў і фарбаў слова жывапісалі Уладзімір Жылка, Максім Танк, Міхась Васілёк, Казімір Сваяк, Міхась Машара і іншыя паэты. Увогуле, тэме восені, восеньскім вобразам і матывам у вобразна-тэматычным змесце заходнебеларускай паэзіі належыць даволі прыкметнае месца. Тут мы сустракаем маляўнічыя, каларытныя пейзажы, вытканыя з тонкіх эстэтычных і эмацыянальных адчуванняў. Да такіх карцін адносяцца два цудоўныя лірычныя вершы Уладзіміра Жылкі з аднолькавай назвай «Восень». У першай паэтавай «Восені» («Глухой, таёмнай сцежкай...») выяўляецца аб'ектызаваны жывапіс: паэт малюе свет прыроды няспешна, сузірае з'явы і змены ў ім, не прыбягаючы да непасрэднага выяўлення свайго «я». У другім вершы («О хараство асенніх дзён празрыстых...»), напісаным на год пазней, у 1925 г., выразна праступаюць пачуцці «сцішанай душы»: «Наўкол сляды павольнага канання, І веліч нетутэйшага маўчання. Прымаю корна сон зямлі азурны».

Восеньскі свет па-асабліваму блізка і чуйна ўспрымаў паэт рэлігійнага ўхілу Казімір Сваяк (Канстанцін Стаповіч). Журботна-элегічныя выявы пейзажу для ягонага сэрца набывалі важную духоўную і сэнсавую ёмістасць. Ад восені пачынаецца «кругазварот смутку», яна — вязніца духу («Спавіў мне сэрца жаль...»). У творы «На восень» аўтар выяўляе характэрныя рысы свайго элегічнага, рэфлексійнага светаадчування: «Пажоўклы ліст, канаючае сонца, Імгла, туман, плюхота, бездарожжа; У сэрцы сум і журлівасць бясконца,— Дай волі мне, дай свету мне, о Божа!». Восень — «пара смяротных журб», якая ўзрушвае і абвастрае духоўныя памкненні. Праз смутак, жаль, пакутны роздум

паэт уздымаецца да спазнання Бога і ягонай волі, існасці свету, сэнсу жыцця, несмяротнасці чалавечай душы.

Восень у Максіма Танка — сумная, бязрадасная доля роднага краю. Паэт, сузіраючы адлёт птушак, з жалем выказвае сваю бязмежную тугу:

Лірыкай восені дыхаюць далі.
У кожнага, знаю, у гэту хвіліну
Крылатыя госці з сабою забралі
Мінулыя дні і ўспаміны.
Следам глядзіш — столькі ў крылах свабоды!
А ўсё ж нават птушкам без болю не кінуць
Чубатых пасёлкаў, шнуроў, азяродаў,
Лясоў маёй роднай краіны.

*(«Выраі»)*

Часіна, калі «Рассыплюць хмары з сініх хустак Дажджоў сцюдзёную жарству, Калі дарогі пашарэюць. І вецер з поўначы мацней», збуджае паэта да рамантычнага свабодалюбнага парывання з крылатым выраем «плыць туды, дзе звоняць вёсны» («Пад мачтай»). У лірыцы восені М. Танка адчуваецца не толькі настальгія па вясне, але і шуканне духоўна-псіхалагічнага апірышча ў чалавечай душы.

Восень як нешта часовае, нявечнае ўспрымаецца Сяргеем Новікам-Пеюном: «Але ж я надзею маю: Восень пройдзе...» («Лістапад»).

Эмацыянальны «камертон» восеньскага пейзажу ў творах заходнебеларускіх паэтаў — пануры, маркотны: «Прыйшла туга і пала над вадой» (У. Жылка. «Восень»). «Пуста і гола. Сэрца сціскае туга» (М. Машара. «Падае, падае лісце...»), «Залатыя ў сумені дрэвы, Апусцеў журботны сад» (С. Новік-Пяюн. «Лістапад») і інш.

Тэма восені і звязаныя з гэтай парой вобразы, матывы ў паэзіі часу Вялікай Айчыннай вайны — глыбокае адлюстраванне эмацыянальна-псіхалагічнага стану чалавека, які спазнаў усю горыч, боль і трагедыю ваеннага ліха. Лірыка восеньскіх настрояў закранала самыя запаветныя, таемныя струны душы, выклікала яе да суперажывання. Самотны, роздумны тон пранізвае радкі верша Аркадзя Куляшова «Пад восеньскім небам» (1943). Думкі паэта нібы наўздагон мкнуць за птушыным выраем:

А гусі?
Адкуль ім
Адрозніць за хмаркамі тымі
Шынелі ад купін,
Нядаўна пакінутых імі?

Паэт у гэтым творы здолеў дасягнуць эмацыянальна-непасрэднай вобразнасці, кранальнасці пачуцця.

Калі ў ваеннай публіцыстычнай паэзіі пераважаюць гучныя інтанацыі, то лірыку прыроды, лірыку з сумнаэлегічнымі матывамі адухаўляе жывы чалавечы голас, працінае трагедыйнасць фарбаў і псіхалагічных адчуванняў: «І ночы, глянь, сталі цямней і страшней. Патоптаны нівы і травы» (Я. Колас. «Жураўліны вырай»), «З лісцем пажоўклым горкія слёзы Падаюць, сыплюцца з белай бярозы» (П. Броўка. «Надзя-Надзейка»), «Задыміў крывёю жоўты верас...» (К. Кірэенка. «Гарманіст іграў...»), «Трава аж сохне з болем, і хочацца грудзьмі зваліцца й плакаць доле...» (А. Коршак. «І я прыйшоў сюды, дзе ззяе медзі колер...») і інш.

Восеньскія вершы «Лес асенні глуха гудзе...» Пімена Панчанкі, «Пазалочаны кволы ліст...» Аркадзя Моркаўкі, «Восень» Кастуся Кірэенкі нарадзіліся ў суровым 1943 г. Паэтам было не да пейзажных ідылій. Не той, зразумела, час, не тыя абставіны і падзеі: «Вайна тут усё без жалю спапяліла»; «Ні прытулку... Ні шляхоў... Ні зор...» (К. Кірэенка). Восеньскія выявы прыроды пасвойму адгукаюцца ў сэрцах творцаў. Разладжанасць унутранага свету адбіваецца ўжо на самой форме верша П. Панчанкі — ён без рыфмы, верлібр: «Лес асенні глуха гудзе, Дзяцел стукае ў бліндаж. Хвоі тоўстыя за акном Цяжка тупаюць, як сланы». Яркі эмацыянальны малюнак, навеяны сумнымі ваеннымі ўражаннямі, стварае К. Кірэенка: «Адвячоркам вецер, як сляпы, Начавацъ кульгае пад ракіты». Трапяткі духоўны сэнс струменіць у вершы А. Моркаўкі: «Залілася ты ўся слязьмі, У пакуце сваёй святая. Дык хоць сэрца маё вазьмі, Мая матухна залатая!»

Сярод пейзажных вобразаў ваеннага часу ў паэзіі Анатоля Астрэйкі значнае месца належыць вобразу восені. Амаль у кожным выпадку паэт укладвае ў свае радкі жывы асэнсаваны роздум, глыбока перажытыя ўражанні:

Спелае лісце з асіны  
Вецер страсае ў лагчыне,  
Лісцю падобен мой лёс,  
Ліст я, што вецер атрос.

*(«Смутак, як восеньскі дзень...»)*

Восені паэт давярае свае пачуцці, прызнаецца, што яна з ім «поплеч... ідзе». Гэтая пара дапамагае выконваць баявыя заданні: лісцем замятае сляды, ахутвае туманам, каб схаваць ад злога вока. Беларуская восень — памочніца і сяброўка партызан: «Нясе за суткі службу нам двайную, І дзённы змрок, і змрок начны. Таму і восень жоўтую, глухую Хачу да перамогі зберагчы» («Асенні змрок»). Жывы

пуцяводны арыенцір для паэта — шлях, які «восенню выткалі зоры» («Зорны шлях»). Аднак восень — гэта і холад, дажджы, калі «па калені гразь і каляіны». Прырода выпрабоўвае чалавека на вынослівасць, жыццястойкасць. Герой паэта гатовы самаахвярна «ісці ў туман, у дождж і вецер, Наперад пракладаць дарогі...» («Ты знаеш, што такое восень»). Моцна ўражвае псіхалагічная выверанасць восеньскіх вобразаў-дэталяў у вершы «Вецер, вецер, ты снег не гані»: «Асцярожна ты дрэва раздзень, Каб галін не было пакалечаных»; «Я хачу, каб у восеньскі дзень Зерне к зерню бліжэй прытулілася». «За Дзвіною даспелі лугі У журбе асенняй расы»,— такі краявід вымалёўваецца на пачатку верша «За Дзвіною». Прырода тут нібы жывая саўдзельніца таго, што адбываецца навокал і здарыцца пасля. Алегорыя восеньскай касьбы, якая набывае драматычнае адценне, атаясамліваецца з боем: «Пойдзем, хлопцы, у тысячу кос Смутак траў пераспелых касіць». У восеньскіх вершах А. Астрэйкі чуваць матывы лістападу, з796мірання прыроды, якія знаходзяць эмацыянальны водгук у паэтавай душы ў хвіліны стомы, смутку, одуму («Заплакалі шыбы на вокнах», «Вясна восень корміць», «Смутак, як восеньскі дзень...» і інш.).

Як бачым, старонкі восеньскай лірыкі часу вайны — свет мінору, абвостранага інтымна-спавядальнага пафасу, драматызму. Матывы восені, восеньскай тугі, жалобы дапамагаюць паглыбіць, скандэнсаваць эмацыянальную сілу выказвання.

З восенню, як мы пераконваемся, суадносяцца самыя трагічныя моманты і хвіліны жыцця чалавека, народа. Пра гэта асабліва красамоўна сведчыць і так званая «лірыка з-за калючага дроту» (А. Звонак), «песні з-за кратаў» (С. Новік-Пяюн), інакш кажучы, лірыка, напісаная ў зняволенні. Адны з паэтаў апынуліся за кратамі ў заходнебеларускіх турмах, другія пакутавалі ў сталінскіх засценках, у гулагаўскіх лагерах, трэція трапілі ў лапы гітлераўскіх катаў. «Дык ці можа жыць і выжыць любімая дачка паэзіі — Лірыка — у такіх умовах?! Аўтар пераконваў сам сябе, што можа»,— гаворыць рэпрэсіраваны паэт Алесь Звонак. Турэмныя і лагерныя вершы напісаны спавядальнаю моваю душы, на мяжы жыцця і смерці, зняверанасці і адчаю.

Вязнем віленскай турмы Лукішкі двойчы быў паэт Алесь Салагуб. Там нарадзіўся ягоны самотны верш «Восень у астрозе» (1927): «Лета адкацілася дзесь удаль упрочкі, Да вясны замкнулася вузкае акно». Перад вачыма праплываюць блізкія, родныя вобразы, ён жадае «Аб краіне роднай сніць чароўны сон». У паэтавай душы цепліцца надзея на лепшае, якая знітоўваецца ў ягоным уяўленні з вобразам вясны: «Толькі сэрца б'ецца радасцю трывожнай. Веру! Засмяецца мне вясной блакіт».

«Лісты з турмы» Валянціна Таўлая і лірычны верш «Восень залатая» Сяргея Новіка-Пеюна з'явіліся ў фашысцкім зняволенні. Пад кожным з твораў пазначаны месца і час іх напісання: «Ліда, турма, 23 верасня 1943 г.», «г. Слонім, гітлераўскі астрог, адзіночка, у чаканні расстрэлу. 1944 г.». Восеньскія матывы ў «Лістах...» В. Таўлая прасякнуты бязмернай тугою, адчуваннем безвыходнасці:

Я дажываю восеньскія дні.
Пакуль навекі восень заварожыць,
хачу, каб мы сустрэліся адны,
як двое зродненых пуцінай падарожных.
Спазніцца нельга, нам даўно пара:
Чакае нас, знікаючы, пуціна.
Лісты на клёнах скора дагараць,
асыплюцца пажоўклыя хваіны...

З трапяткім хваляваннем, нейкай наўдзіў цёплай, сцішанай тугой склаў пейзажную «песню восені» С. Новік-Пяюн: «Ніткай срэбнай павуцінне ў косах сонейка блішчыць. Што за цуднае зіхценне! Што за ціш вакол стаіць!» («Восень залатая»). Адкуль у чулым сэрцы паэта такая ўраўнаважанасць, упэўненасць, палкая захопленасць хараством прыроды? Здаецца, ёсць тлумачэнне гэтаму ў іншых творах паэта: «Хоць слабне сэрца — моцны дух» («Забралі сонца ў мяне»), «Не падай духам ты ніколі...» («Не падай духам ніколі!»), «Шчаслівым будзе той заўсёды, Вясну хто ў сэрцы захавае, Хто маладую душу мае...» («Трыялет»), «І веру я моцна, што ўжо не загіну, Бо родная наша жыве Беларусь!» («Зялёнай імглою»).

А які драматычны, трывожны пульс б'ецца ў паэтычных радках пачатку 40-х Станіслава Шушкевіча: «Асыпаецца жоўты сад. Лістапад ідзе, лістапад. Сцежка скопана капяжом Ля акна майго, як нажом» («На двары маім лістапад»), а таксама ў вершы Юркі Гаўрука «Помню восень» (1938): «І апалі тонкія мярэжкі, Увайшла ў мяне трывога. Восень, восень, залатыя сцежкі!.. Завілася дальняя дарога». Абодва паэты ў сталінскія часы былі высланы за межы Беларусі.

Драматызм перажытага ліха, бяды — такія матывы гучаць у шматлікіх восеньскіх песнях тых, хто жыў «у доўгім чаканні Вясны» (В. Супрун. «Вершы за дротам»), вярнуўся ў родны край пасля жудасных выпрабаванняў. «Пяюць вятры, нясуць яны Халодных змрокаў сум»,— так выказвае сваё пачуванне ў канцы 50-х гг. Мікола Хведаровіч («Лісцё ў кастрычніку ляціць...»). Горкі, балючы сум разліваецца ў «асенніх элегіях» паэта-пакутніка Сяргея Грахоўскага, якія нарадзіліся з-пад ягонага пяра ў канцы 80-х - 90-я гг. (вершы «Залочанымі трубамі аргана...», «Апусцелі паркі», «Яшчэ б адну вясну

сустрэць...» і інш.). Восеньскі элегізм паэта заснаваны на глыбокіх псіхалагічных рэфлексіях, трагедыйным успрыманні мінулага, трывожным вычуванні ўсяго таго, што дзеецца ў свеце чалавека і навокал яго. Пад ношаго гадоў і цяжарам успамінаў здаецца «восень чужой, маркотнай» Васілю Супруну, за плячыма якога — турма, этапы, гулагаўскія лагеры ў Варкуце і Інце. Восень — пара одуму і згадак, старасці і падвядзення жыццёвых рахункаў, таму так востра адгукаецца яна ў душы і свядомасці тых, хто прайшоў складанымі гіуцявінамі часу і веку.

У 30-50-я гг. ды і ў пазнейшы час створана нямала цудоўных пейзажных вершаў пра беларускую восень. Пятрусь Броўка — адзін з тых паэтаў, хто любіў восеньскія краявіды, умеў тонка ўзнавіць іх вобразнажывапісны свет. Прытым у ягоных радках нязмушана, паэтычна, адухоўлена растворана нацыянальнае пачуццё прыроды, якое вызначаецца мяккасцю, лагоднасцю, задумлівасцю светасузірання, пластычнасцю, нягучнасцю фарбаў. Характэрная ў гэтым сэнсе восеньская замалёўка сярэдзіны 30-х гг. «Канец лета»:

Жнівень выйшаў. Восені пачатак
І на ўзлессі жоўтыя сляды.
Сілы правяраюць птушаняты —
Б'юць па голлі крыллем маладым.

Калі вясна — момант духоўнага адраджэння, мэтаімкнёнасці, аптымістычнага гарэння, то восень для беларускай душы — пара яе сцішанага асэнсавальнага самапазнання, засяроджанасці. У сваю чаргу, рускі характар найбольш рэалізаваны ў паэтычным вобразе зімы і звязаных з ёю стыхіях — снегу, ветру, марозу, лёду, мяцеліцы.

Броўкаў восеньскі жывапіс пазначаны часам філасофскай роздумнасцю. Прыклад — пейзажна-медытатыўныя вершы 50 — пачатку 60-х гг. «Восень» («Ходзіць восень у свіце шэрай...»), «Зялёны клён лістотай гушкаў...», «Журавы» і некаторыя іншыя. Паэт тонкай уражлівасці, кранальнага лірызму, Броўка, як ні крыўдна казаць, здраджваў прыродзе свайго таленту, разменьваў яго на гучную, казённую рыторыку ідэйнапалітычнага зместу.

Да ўзораў яркіх медытацый варта аднесці вершы Аляксея Коршака «Кляновы ліст» і Пятра Глебкі «Клён завяў». У іх праз паглыбленасць у свет свайго «я» паэты імкнуцца асэнсаваць быційную існасць жыцця ў яго непазбежным завяданні і ўваскрашэнні.

Нельга абмінуць і той момант, што вобраз восені на працягу шматлікіх гадоў у беларускай паэзіі досыць часта меў не толькі эстэтычную, але і сацыялагічную трактоўку. Што гэта азначае? Ідэалогіі былі патрэбны ўрачыстыя, святочныя творы пра велічную савецкую

яву, шчаслівае калгаснае жыццё... Так нараджаліся песні восені з выразным ідэйна-палітычным пафасам, дэкларацыйнымі і рытарычнымі нотамі. Поруч з традыцыйнымі вобразамі і матывамі так і выпінаюць вобразы заможнай калгаснай восені, матывы багатага, шчодрага ўраджаю, нечуванага дабрабыту:

Едзе, едзе з поля восень
Ў залатым вянку з калоссяў,
Едзе з поўнымі вазамі,
З багатымі працаднямі.

У засекі, ў гумны, ў хаты
Вязе людзям дар багаты.

Гэта «Асеннія напевы» (1948) Адама Русака. «Пановаму восень палеткі Абходзіць, глядзіць гаспадаркі...» у вершы Янкі Купалы «Новая восень», час напісання якога прыпадае на 1930 г. А вось яшчэ радкі пра калгасную восень: «І па хатах удумна Падлічваюцца працадні» (П. Броўка. «Ужо верасень», 1934); «У калгасе свята: Працадзень багаты» (П. Граніт. «Калгасная восень», 1957). Вобраз-матыў восені ў падобных вершах — атрыбут сацыялагізму, увасабленне псеўдапафасу, агульшчыны, трафарэтнасці. Паэты сцвярджалі спосаб і сродкі выяўлення, зусім неадэкватныя, нехарактэрныя прыродзе і эстэтыцы слоўнага мастацтва.

Шматстайнасць варыяцый тэма восені займела ў беларускай паэзіі 50-60-х гг., а таксама ў сучасным паэтычным мастацтве, знайшоўшы яркае мастацка-эстэтычнае, духоўнае, натурфіласофскае ўвасабленне. Увогуле, восень — асаблівая часіна на жыццёвым і творчым шляху майстроў слова. Пра гэта мы можам меркаваць ужо па восеньскіх вобразах у назвах паэтычных зборнікаў. Адчувальны сэнсавы, сімвалічны змест нясуць загалоўкі наступных кніг: «Між чырвоных рабін» (1969) П. Броўкі, «Зазімак» (1976), «Асеннія гнёзды» (1982) С. Грахоўскага, «Дарога ў залатую восень» (1983) С. Шушкевіча, «Восеньскія позвы» (1969) К. Камейшы, «Акно ў восень» (1977) Т. Бондар і інш. Восень для адных паэтаў — час агляду пражытага, набытага, для другіх — новы круг жыцця, спадзяванне на плён, ураджайнасць, пладаноснасць: «А было ж мнф тады паўдарогі да восені!..»; «Колькі страчана пошукаў, зроблена прочыркаў» (М. Лужанін. «Асенні дзянёк»), «Есць у маім немаладым жыцці / журботны і няўтульны адрас: / ВОСЕНЬ» (С. Панізнік. «Над парогам»), «Пакажа восень толькі, Які я садавод» (Г. Каржанеўская. «Мой сад») і інш. Паэтычная маладосць, як адзначалася, знітоўваецца з вясною, творчая сталасць — з восенню.

Песнярамі восені ў сучаснай беларускай паэзіі сталі Ларыса Геніюш, Анатоль Астрэйка, Сцяпан Гаўрусёў, Анатоль Грачанікаў, Кастусь Кірэенка, Максім Танк, Сяргей Грахоўскі, Юрась Свірка, Генадзь Бураўкін, Казімір Камейша, Мар'ян Дукса і інш. Іхняе «восеньскае самавыяўленне» — гэта глыбінны модус душы, яе чуйнае люстэрка.

Якая ж яна, беларуская восень, ва ўспрыманні нашых паэтаў? Багатая, шчодрая, звонкая,— сцвярджае М. Танк («У беларускую восень»). Турботная і клопатная, дбайная і непаседлівая — такой яна паўстае ў вершах А. Бялевіча «Турботы вераснёвыя», Р. Барадуліна «Восеньскае», М. Дуксы «Бульбу скапала і перакапала...», Г. Булыкі «Верасень» і інш. Беларуская восень — бульбяная, грыбная і ягадная (Л. Геніюш. «Верасень»; М. Хведаровіч. «Пах вераснёвы» і інш.). А вось эмацыянальны «партрэт» восеньскай пары ў адчуванні К. Камейшы: «Кіслай, мокрай, і сумнай, і шчыраю Ты бываеш увосень, мая зямля» («Журавінавы водсвет...»). Гэта, зразумела, толькі агульныя штрыхі да вобліку восені.

У «самых восеньскіх» (выраз М. Эпштэйна) паэтаў ёсць найбольш любімы месяц ці перыяд восені. Ранняя восеньская часіна асабліва блізкая П. Броўку, А. Бялевічу, А. Грачанікаву, М. Танку, Т. Бондар... Сярэдзіну восені, яе глыбокую пару таленавіта жывапісуюць С. Гаўрусёў, Г. Бураўкін, К. Цвірка... Кастрычніцкі пейзаж вабіць вока К. Камейшы («Снег у кастрычніку...») і Г. Бураўкіна («Снег у кастрычніку»). «Лістапад — гэта месяц такі — Паміж будучыняй і мінулым» (Н. Гальпяровіч. «Лістапад — гэта месяц такі...»). «Зімы халоднай пасланец»,— так называе лістапад С. Шушкевіч («Зімы халоднай пасланец»). Каларытны малюнак восеньскага раўнадзенства выпісвае Я. Сіпакоў («Асенняе раўнадзенства»). Восень з яе народнымі каляндарнымі святамі па-свойму адгукаецца ў радках паэткі В. Аксак. У вершах «Успенне», «Багач», «Пакровы» з кнігі «Капліца» (1994) яна адметна раскрывае свет перажыванняў і памкненняў чалавечай душы.

З усяго багацця восеньскіх вобразаў і матываў мы вылучым самыя распаўсюджаныя, найбольш значныя і далей запынім на іх сваю ўвагу. Пры гэтым у восеньскіх малюнках паэтаў мы зусім натуральна сустрэнем «найбольш яркае і закончанае выяўленне, аб'ектывізацыю знаёмага кожнаму чалавеку па асабістым унутраным вопыце *пачуцця прыроды* (курсіў — А. Б.) у яго разнастайных праявах» (У. Саводнік).

У частотным і сэнсавым радзе адныя з самых прыкметных — матывы праводзінаў лета, набліжэння і прыходу восені. Гэта і зразумела. Змяняецца фон, які акружае чалавека: пасля вясновa-летняга буйства прыроды свет пачынае блякнуць, завядаць, хмурнець. Ёсць

такая народная прыкмета: «Як настаў верасень, дык туман кожны дзень». Адчуванне восені ў творчасці многіх паэтаў мае тыпалагічную блізкасць. Гэтая пара года хавае лета, спраўляе па ім памінкі, нясе прыродзе здранцвенне, спустошанасць, сон: «Ёсць у прыродзе штось Ад вымірання, Калі змаўкаюць Птушак галасы» (А. Грачанікаў. «Празрыстыя асеннія лясы...»), «Яна заўсёды З жоўтай фарбай возіцца І ўсё знішчае парасткі жывога» (Ю. Свірка. «Восень»). Восень прыходзіць з новымі фарбамі, імжой і туманам, дажджамі і холадам, якія перайначваюць зямное быццё: «Сосен пявучых ні ўвечар, ні рана Не ўчуеш наўкол. На дол сыплецца толькі іпліца, Быццам бурая поўсць з мядзведзя»; «Крадзецца золь напраскі да ракі...» (Р. Барадулін. «Восень»), «Дзень ціхі, дзень дрымотны, як вада. Смуглявазалацісты»; «Лісток альховы, скурчаны лісток Спіць у абдымку з мёртваю казюркай» (М. Стральцоў. «Скончылася лета»). Пераход ад адной пары года да другой выклікае змену настрою, духоўнага стану. Часта паэтам «ніяк не верыцца» ў адыход лета, бо восень паўстае як «нешта цяжкае», зусім нечаканае, нежаданае: «Па дарогах і глухіх узбочынах Верасень пляцецца пазалочаны. А ў мяне душа сагрэта летам...» (С. Шушкевіч. «Верасень пляцецца пазалочаны...»), «Мне ніяк не верыцца, Што зноў пара цвіцення адыходзіць: Я добра знаю, Што ў пачатку верасня Не адцвіло яшчэ ўсё ў прыродзе» (Ю. Свірка. «Восень») і інш.

У восеньскіх паэтычных малюнках даўно стал і ўстойлівымі жоўтыя, чырвоныя, барвовыя колеры. Прыхільнасць да яркіх фарбаў выяўляецца ў пейзажных акварэлях Л. Геніюш: «Золата, чырвань і медзь на кустах...» («Восень»). Традыцыйнымі сталі вобразы залатой лістоты, залатых дрэў, а таксама рабін, верасоў, садоў, гаёў, паркаў, што палымнеюць, адгараюць восеньскім хараством: «Асеннія сады, Як вогнішча, палаюць» (П. Панчанка. «Восень»), «Гарацць, гарацць кастры асін, Даспела ўжо лісцё на ліпах» (А. Астрэйка. «Гарацць, гарацць кастры асін...»), «На сонцы яна, як цвіла, Залацілася ярка» (Ю. Свірка. «Кастры чніцкая лістота»), «Адгарае лісце, ападае. Плача па нязбытнаму душа» (Т. Бондар. «Засыпае лісце, замятае...»). У вершы Валянціны Коўтун «Арабіны» восеньскае полымя рабін — «свечка ўсіх надзей і безнадзей», агонь трывожнай памяці і роздуму.

Надыход восені, вераснёвую пару надзвычай любіў Анатоль Грачанікаў. Паэт якраз нарадзіўся ў гэтую часіну года, і яе «лагодна-мяккі свет», як падаецца, выпеставаў ягоны тонкі лірызм светаўспрымання, мілагучнасць і одумнасць радка. «Асенняя палітра фарбаў, сцішана-элегічная мелодыя гукаў найбольш адпавядаюць і індывідуальнатворчай манеры, і светаадчуванню А. Грачанікава: някідкасці, празрыстай тонка сці вобразнага малюнка, мяккай цеплыні інтанацый»,—

слушна заўважае Т. Чабан. А. Грачанікаў адчувае «закончаную яснасць у прыродзе» на хвалях чыстага, таемна-радаснага ўзрушэння: «І дабратой прасвечана Айчына У барвах баравіннага святла» («Верасень»), «Блакіт прадонны вераснёвы, Бярозак ціхамірны сум...» («Блакіт прадонны вераснёвы...»). Для паэта ў восеньскім свеце «навокал — самотны роздум» («Асенняя акварэль»), але роздум гэты ніколі не спараджае роспачы, хваравітага страху. Паэт маркоціцца па-чалавечы светла, шчымліва, з нейкім глыбінным адчуваннем філасофіі прыроды і філасофіі жыцця: «І гэты лісток зжаўцелы Здаецца жывою душою, Што адляцела ад цела» («Асіннік — прыроды гадзіннік...»). Жывапісу А. Грачанікава ўласціва акварэльнасць, гарманічнасць фарбаў, каларытнасць вобразных дэталяў, як, напрыклад, у вершы «Упершыню»: «Схуднеў за вёскай Хмызнякоў паўкруг, І знікла са штыкетніка даёнка». Восеньскія замалёўкі паэта, як падаецца, блізкія па манеры і духу светаўспрымання пейзажам вядомага беларускага мастака Леаніда Шчамялёва «Асенні матыў», «Цёплая восень», «Ліставей» і інш., якія вызначаюцца мяккай элегічнай настраёвасцю, чысцінёй фарбаў, увагай да канкрэтыкі, дэталяў навакольнага свету.

У восеньскай пейзажнай лірыцы ад 50-х гг. і да сённяшніх дзён вялікі пласт складаюць матывы лістападу, ліставею. «Пяшчотную, сумную, чыстую» сімфонію лістападу стварае Уладзімір Караткевіч у вершы канца 50-х гг. «Лісце»:

Як песня, з галін злятае
Лісце, лісце,
Сто лісцяў,
Дзесяць лісцяў,
Ліст.

Гіпнатызуе сваім гукапісам верш пачатку 60-х гг. «Залатая мяцеліца» Антона Бялевіча: «Ціха сцелецца, сцелецца Ліст на ліст у гаях. Залатая мяцеліца Шалясціць на дубах». Яркую замалёўку лістападу стварае паэт Анатоль Сербантовіч: «Лісце ў вырай хацела ляцець, Ды патрапіла ў сетку дажджу»; «Асыпаецца жоўты сум У іржавыя ямы луж» («Ранняй восені белы цень...»). Музыка ліставею трывожным прадчуваннем гучыць у сэрцы лірычнай гераіні Нэлі Тулупавай: «А ліставей наладзіў ноты На аднатоннае «там-там». Там-там, Там-там, Там за гарою, Краговай Цёмнаю нарою, Нібыта слізкія смаўжы, Паўзуць гарбатыя дажджы» («Ліставей»).

Адныя з самых непаўторных дзён восеньскай прыроды — дні бабінага лета. Гэтая пара нясе апошняе сонечнае цяпло, своеасаблівую дзівоснасць і хараство, таму яна так часта адгукаецца ў сэрцах нашых паэтаў. Ва У. Караткевіча бабіна лета паўстае ў аблічвы жан-

чыны, што «ля іржэўніка сядзіць (Мо сівізна ў касе, мо павуцінне) І думае і ў далячынь глядзіць...» («Бабіна лета»). Гэты малюнак з'явіўся ў канцы 50-х гг. На гэтае ж дзесяцігоддзе прыпадае і верш «Белазорае бабіна лета...» Анатоля Вялюгіна, які поўніць пранікнёная мелодыка слова, адметная вобразнасць: «Белазорае бабіна лета / у гародчыку расцвіло. Пчолы, ўпіўшыся ў зрэнкі кветак, / зноў адчулі зямлі цяпло». Кожны з паэтаў выказвае штосьці сваё, таемнае. У вершах пра пару бабінага лета нямала жывых роздумных інтанацый, філасафізму. Паэты, як правіла, выказваюць трывогу душы, самае інтымнае, думаюць-гавораць пра долю чалавечую, існасць, складанасць жыцця: «Прыходзіць нетаропка гэта лета. Вызвоньвае руплівай думай час... І светласцю жывога — ягад, кветак — Ці не гаворыць нешта і для нас?..» (К. Кірэенка. «Успомні лета бабінага звонкі...»), «Песня смутку Не ўся дапета, І мінула нібыта жаркота, І не ўся дапіта гаркота» (Р. Барадулін. «Лета бабіна...»), «Не скінеш пацяжэлых крылаў — Хоць ныюць плечы! — на мяжы Сваёй любві, сваёй пакуты» (Г. Бондар. «Бабіна лета») і інш.

Вельмі часта з вуснаў паэтаў гучыць матыў адлёту птушак. Наогул, малюнкі восеньскага птушынага выраю — адныя з даўніх у паэзіі (Я. Купала. «У вырай»; Я. Колас. «Адлёт жураўлёў», «Гусі» і інш.). Праводзіны птушак — гэта нібы праводзіны людзей у невядомы, далёкі шлях: «Курлы! Курлы! — чуваць з усіх канцоў. Шчаслівай вам дарогі, журавы! Вяртайцеся здаровымі дамоў» (С. Шушкевіч. «Шчаслівай вам дарогі, журавы!..»). Адлёт птушак прыносіць на зямлю сум, цішыню: «Настылыя пустыя гнёзды, Як хаты без дзвярэй і шыб» (С. Грахоўскі. «Асеннія гнёзды»). Аднак паэту М. Танку здаецца, што птушкі не забралі «вясновыя напевы» з сабой на чужыну, а пакінулі ў сваіх гнёздах, «Дзе, быццам у калысках, ціха, Закалыханыя, спяць песні, ўсе трэлі, свісты, перасвісты, Куванні, звоны, перазвоны, Куганні, гуды, перагуды, Лясныя шумы, перашумы» («Калі парою лістападу...»). Птушыны шлях поўны небяспекі, і ён суадносіцца паэтамі з трывогамі, ранамі ўласнай душы (вершы А. Бачылы «Ляцяць журавы», С. Гаўрусёва «Журба недаляцеўшых журавоў», А. Грачанікава «Жураўліная ноч» і інш.). «Птушак пакінь мне, восень!» — чуецца просьба ў адным з вершаў Л. Паўлікавай («Светла, адкрыта, росна мне...»), бо птушыны вырай забірае радасць і шчасце лета, каханне і надзеі. Восень для паэткі — час, калі душы «Мройліва, сумна, ветрана». Восеньскі вырай як касмічную з'яву малюе Г. Булыка: «Пачулі Вега з Альтаірам З Зямлі далёкай птушак крыкі, Сабралі Летні клін Вялікі І самі падаліся ў вырай...» («Застылая, звініць, як лютня...»).

Восеньская туга па адлятаючых птушках вельмі часта нараджае веру ў вяртанне на іхніх крылах вясны: «У вырай гусі З крыкам адлятаючы, Тугу пакінулі, І смутак свой, і жаль. А мне ўжо мроіцца Вясна з пралескамі, здаецца, водарам Дышу зялёных траў» (С. Шушкевіч. «Асенняя мелодыя»), «Ляціце, мілыя, ляціце Ад завірух і бур далей...»; «Цяплом падзелімся, любоўю І — дачакаемся вясны» (В. Гардзей. «На баль бярозак жаўтакосых...»).

Не адну старонку ў восеньскай лірыцы займаюць творы пра збор грыбоў і ягад. Грыбная пара, «грыбная адысея» запамінальна намалявана ў вершы М. Танка «Пах баравіковы»:

Я іх збіраў. І мо таму да раніцы
Прыпамінаюцца мне ўсе грыбныя сховы.
Дык, значыць, восень зноў, калі ўрываецца
І ў сон і ў сэрца пах баравіковы.

Гімн прыродзе і жыццю гучыць у вершы А. Грачанікава «Грыбная пара». Водар лесу ўлівае ў душу «святочнасць светлую», «радасць першаадкрыцця». Пра хараство, таямніцы грыбнога свету, так званае «ціхае паляванне» з асаблівай настраёвасцю пішуць В. Зуёнак («Як знаходзяць грыбы»), Ю. Свірка («Баравіковае») і інш. Запамінаецца гукавая арганізацыя радка ў вершы Г. Пашкова «Верасень»: «...а глянь пад елачкі: / брыдзе / баразной / баравік / баравінны / з баравіняткамі / у барадзе». Здаецца, адчуваеш хаду баравіковага сямейства.

Ягадная ды грыбная пара ў паэзіі нашых дзён — гэта і час экалагічнай трывогі. Паэт А. Вялюгін востра адчувае, як змяніўся навакольны свет пасля Чарнобыля. У ягоным вершы «А ў бары, бары...» вымалёўваецца карціна, якая раскрывае ўвесь драматызм нашага сённяшняга быцця: «Стрымай у радасці руку! Хай цуд пад голлем счэзне — / карэніцца ў баравіку / нябачны люты цэзій». Восеньскі збор дароў прыроды набывае драматычную афарбоўку ў паэта Э. Акуліна. Журавінамі «ўсыпана ўсё Палессе», жанчыны іх бяруць, скардзячыся на чарнобыльскі вецер («Журавіны бяруць жанчыны...»). Прырода на нашых вачах бяднее, страчвае сваю ранейшую самавітасць і шчодрасць. Віною таму — чалавек, які парушыў экалагічную раўнавагу ў свеце. Сёння «Грыбы ўцякаюць з дубровы, Толькі ў паэтаў жывуць салаўі...» (А. Пісьмянкоў. «Сумуе без рыбы возера...»).

Восень — пара смутку, гнятлівасці, драматычна-трагедыйнага гучання матываў завядання і зімірання, сну і скону. Восеньскі элегізм — гэта найчасцей выява ўласнай драмы, бяды, няшчасця. Колькі тужлівых, самотных прадчуванняў у паэзіі Міхася Стральцова! У ягоных восеньскіх мелодыях гучаць матывы выраю, блізкай смерці: «Я

сніў, што сам я адляцеў — Душа ўзяла і засталася»; «А падалося: гэты дзень, Святло якога дагарае,— Не пакідаючы надзей. Са мною разам памірае» («Напэўна, гусі на бяду...»). Хіба магла не сумаваць душа Івана Ралько — паэта, які ведаў пра дачасны канец сваёй жыццёвай дарогі?! Вось характэрныя восеньскія замалёўкі ягонага настрою: «І сэрца б'ецца ў нямой трывозе, Як адзінокі ліст На ўзвіхранай дарозе» («Пачатак восені — як позняе каханне...»), «І лісцем на асіне Асініцца туга» («Асенняе»).

Перадзім'е — набліжэнне зімы, час бязмоўя, зазімкаў, першага снегу... «Жах там блукаў вялізны На схаладнелых лапах»; «Гняло і людзей, і хаты...» — так перадае стан прыроды і пачуцці людзей А. Грачанікаў у вершы «Глыбокая восень». А вось яшчэ радкі з падобным змрочным адлюстраваннем свету: «Туман густы над чорнымі палямі. Пранізаны і неба, і душа Азяблымі калючымі вятрамі» («Асенніх дзён журлівая імжа...»), «Закляклы вільготны вецер Прытулку нідзе не мае» («Асенні вецер»). Восень — «пераходная пара» для Г. Бураўкіна. Панурасць, аднастайнасць дзён блытае лісткі календара: «Аўторак не адрозніш ад нядзелі...» («Ідуць дажджы...»).

Восень з беспрасветам, плачам дажджоў, вятрамі, цяжкім туманам прыгнечвае лірычную гераіню Ларысы Геніюш: «Туманамі ў галаве снуюцца / пасмы сумных жураўліных дум»; «Толькі сэрца стогне, бы крумкач, / быццам бы прыгнула нас адказнасць / за віхураў безуцешны плач» («Асенні»). У восеньскай лірыцы Л. Геніюш з глыбокім унутраным сэнсам выпявала «безуцешны плач» душы. Аднак яе канцэпцыя свету далёкая ад магільнага песімізму. Паэтка жадае, каб было «вольна сэрцу», адчувае сябе нескаронай восеньскай непагаддзю, бо яна — «з беларускай учэпістай гліны»:

Маё сэрца з зямлёю зраслося.
Калі восень бярозы сагне,
ветру вольнага хор стогалосы
ў чыстым полі сумуе па мне.

*(«Развітальна заплакала восень»)*

Як бачым, таленавітая паэтка, пішучы пра прыроду, здолела выказаць многае.

Элегічнае і аптымістычнае цесна спалучаюцца ў паэтычнай свядомасці А. Астрэйкі: «Плачуць бярозкі, плачуць асінкі, Мрояць пра весні лес» («Асенняе»). «Таму невыпадкова,— адзначае М. Мішчанчук,— што вобраз восені паўстае ў яго лірыцы не толькі ў кантэксце вобраза вясны, але і вобраза сонечнай арбіты. У многіх творах на тэму восені паэт увогуле адмаўляецца ад восеньскага настрою». Ён любіць вясновую рунь і калашэнне і не жадае праганяць «вясну з

асенняга двара» («О колькі мар!..»). Паэт хоча «не дазволіць дарасці Журбе дакучнай да трывогі» і таму да восеньскай тугі ставіцца так: «Вазьму пад восень і скашу І застагую каля дома» («А не было куды сысці...»). Зацятыя, абложныя дажджы А. Астрэйка ўспрымае па-народнаму мудра: «На дажджы павінна Восень быць багатай. Будзе восень мокрай, А снягі — зімою, Зашумяць палеткі збажыною» («На зялёных крылах...»).

У вершы В. Зуёнка «Асенні матыў» тэма восеньскай сяўбы асэнсоўваецца ў філасофскім плане. Смерць зярнят, «смерці высеў» — гэта працяг жыцця, яго неўміручасць, вечнае красаванне: «Памерці зернейка павінна, Каб новы парастак прыйшоў, Каб новы колас красаваў...»

«Ды мне яна люба ўсё ж, восень глыбокая...» — прызнаецца Кастусь Цвірка ў вершы «Перадзім'е». Паэт малюе навіслае неба, якое «Сее, і сее, і сее імжою», сузірае няўтульнасць, збядненне краявідаў. Аднак нібы спрачаецца з тымі паэтамі, для якіх восень — пара тлену, смерці (напрыклад, так успрымаў восеньскую часіну рускі паэт XIX ст. Я. Баратынскі). Ён вычувае імпульсы, гукі жыцця ў прыродзе, знаходзіць у ёй своеасаблівую красу і радасць: «А побач, як радасць (аб тлене не слухай!) Асколачкам сонца — брусніца-драмуха!» Восень для паэта — часовае заміранне, ціхі спачын «пасля лета шумлівага»: «Спакой і суладнасць — заснула прырода».

Пранікнёны лірызм і філасафізм — адзнака паэтычнага стылю Аркадзя Куляшова. Прыгадаем ягоны верш сярэдзіны 50-х гг. «Пра восень», у якім герой адчувае сябе «На праводзінах лета, на памінках вясны», «У зімы на парозе». Ён паўстае як мужны жыццялюб і проста жывы чалавек, які разумее, што адшумела ягоная вясна і лета жыцця. У пейзажна-медытатыўным вершы «Глыбою лістапад...», напісаным у канцы 60-х, А. Куляшоў выяўляе свой душэўны стан так: «А я маўчу, як дрэва Асенняе, / згубіўшае свой дах. Вакол мяне — / направа і налева — / лісты, лісты, лісты / заслалі шлях». Мы адчуваем дыскамфорт паэта сярод «Сляпых завей, бесчалавечных душ», ягоную трывогу пра зямны лёс кожнага з нас: «Хіба памром, Гвалтоўнай смерці / трапіўшы пад кола? Няўжо мы станем / снегам, пылам, тлом?» У час пасля атамнай чарнобыльскай катастрофы такія радкі ўспрымаюцца яшчэ больш абвострана і драматычна. Сапраўды, неспакой, хваляванні А. Куляшова пра жыццё — гэта глыбінны гуманізм ягонага светапогляду.

Восень для Г. Бураўкіна — паласа жыцця, калі «Паэзія ўступіла месца прозе» («Халодны сквер дашчэнту апусцеў...»). Паэт азіраецца ў мінулае, праходзіць ачышчэнне восеньскай журбою і смуткам («Гартае

восень жоўтыя лісты...»). Ён адчувае адзіноту «пад вятрамі гадоў»: «Адзінокі, запознены госць, Я іду па зямлі апусцела» («У гаях пажаўцела трава...»). Але жыццё працягваецца, сэрца паэта ахоплена вялікім жыццялюбствам: «Толькі хочацца сэрцу ўдвая І святла, І вясны, І надзеі...»

Чужой, варожай бачыцца восеньская пара сэрцу жанчыны. Калі вясна — магутнае абуджэнне, росквіт кахання, лета — ягоны зеніт, гарачы поўдзень, то восень нясе расстанне, боль, бяду: «Гэта восень, расстайная восень Па сцяжынах забытых ідзе. Гэта восень у нашых адносінах, Гэта восень у нашай бядзе...» (Г. Булыка. «Гэта восень, звычайная восень...»). «Усё жыццё да восені хадзіла б!» — усклікае гераіня Р. Баравіковай («Восень на прызбу ступіла...»). Яна баіцца ісці ў восень, бо там — адзінота, сум. Таму ў сцішанай маркоце ёй прагнецца кахання, пяшчоты, бо «нішто ў душы не адгарае», яна, «няхай сабе і зрэдку, павеснавому растае» («Паверце тыя, хто згубіў...»). Восень — пара гаркаты, балючасці ў лірыцы Таісы Бондар, Нэлі Тулупавай, Людмілы Паўлікавай і інш.

Восень — улюбёны матыў паэзіі. Аднак не ўсё, што напісана і пішацца пра гэтую пару года,— яркае адкрыццё. Збітымі, сцёртымі сталі многія вобразы і матывы: «А сёння да вогнішча зыркай рабіны / ізноў ціха кліча задумлівы сад» (В. Жуковіч. «Слухаю восень») і інш. Не забывайма, што эстэтычная навізна, свежасць слова — заўсёдны клопат паэзіі.

Такім чынам, восень — не толькі ключавы вобраз у пейзажнай лірыцы, але і ўвогуле ў беларускай паэзіі. Разгледзеўшы эвалюцыю восеньскай тэматыкі, мы ўбачылі, як узбагачалася яе сэнсавая глыбіня, змястоўнасць, пашыралася шматстайнасць эмацыянальна-эстэтычных і вобразна-выяўленчых фарбаў. На розных сацыяльна-гістарычных этапах лірыка восені, восеньскія вобразы сталі праўдзівым і чуйным «камертонам» чалавечай душы. Восень — уваходзіны паэтаў у іншую псіхаэмацыянальную «квадру» свайго ўнутранага свету. Гэтая пара — час лірычнай спавядальнасці, журботнага элегічнага пафасу, медытатыўных рэфлексій. Восень — і пейзаж, і эмацыянальная дамінанта светаадчування, і нават канцэпцыя светаразумення.

Беларуская восень у адлюстраванні паэзіі паўстае ў сваёй самавітай красе, багацці матываў. Яна — тая вялікая духоўная тэма, якая вызначае сутнасць паэтычнай свядомасці нашага народа.

## «ВЕЧНА ВОСЕНЬ У СЭРЦЫ НАШУ...»
## (Восень у паэзіі беларускай эміграцыі)

У сістэме ідэй і матываў, тэм і вобразаў беларускай паэзіі, што не адно дзесяцігоддзе ствараецца на эміграцыі — у ЗША, Канадзе, Аўстраліі і іншых краінах,— тэма восені з'яўляецца стрыжнёвай, дамінуючай. Яна адыгрывае глыбокую сэнсава-выяўленчую ролю і ў значнай ступені раскрывае пафас, лірыка-эмацыянальны свет усёй эміграцыйнай паэзіі.

Для беларускіх паэтаў замежжа восень зрабілася галоўным пейзажным аб'ектам невыпадкова, бо драматычны, трагедыйны модус, паводле класіфікацыі канадскага літаратуразнаўцы Н. Фрая, генетычна і структурна звязаны менавіта з гэтай парой года. Восеньскія пейзажы і вобразы сталі актыўным мастацкім сродкам увасаблення і выяўлення перажыванняў беларускай душы, споўненай вялікім сумам, болем, пакутамі.

Па волі складаных, трагічных абставінаў паэтамэмігрантам было наканавана стаць песнярамі восеньскага смутку. Некаторыя з іх ужо ў даваенную пару і асабліва ў гады вайны праз замалёўкі восені хвалююча, праўдзіва выявілі драматызм чалавечага існавання на балючых, зломных шляхах лёсу і часу.

Мінор — дамінанта паэтычнага светаўспрымання Наталлі Арсенневай у лірыцы сярэдзіны — другой паловы 30-х гг. «Я — не жыву вясной...», «Я — й летам не жыву...» — чуецца прызнанне ў вершы «Заміж мяне». Паэтэса спрабуе ўцячы, пазбавіцца ад восеньскай тугі, але сэрца яе неадольна запалонена маркотнымі восеньскімі песнямі:

Я не магу пісаць, бо хмарамі густымі
спавіта неба сінь, бо сонца не відаць,
бо кроплямі дажджу, бліскучымі, малымі,
бясконца, дзень у весь, заліта шыбаў гладзь.
І сумна, сумна мне, і сумна невымоўна...

*(«Увосені»)*

Вершы «З восеньскіх настрояў», «Асенні вечар», «Восень» («Восень выходзіць у поле...»), «Восень у гаі», «Асенняя элегія», «Хворая восень» і інш. напоўнены глыбокім элегізмам. Узнёсла-сардэчны, пяшчотна-мяккі тон, акварэльнасць і чысціня фарбаў, характэрныя яе ранняй пейзажнай лірыцы, выцясняюцца роздумна-трывожнымі інтанацыямі, матывамі суму, жалю, ускладненасцю вобразаў і асацыяцый, панылымі фарбамі, не пазбаўленымі нейкага алегарычнага і псіхалагічнага падтэксту: «Спраўляюць восень, ноч і цемра / глухі, распачны фестываль» («Фестываль»). У мастацкім выяўленні Н.

Арсенневай дажджлівая, хмурная восень паўстае як сімвал бяды, пара жахлівай нематы, скрушнай апустошанасці свету: «Ледзь кульгаюць самотнай дарогай / здані бурыя — вольхі старыя. Пуста, вусцішна й глуха...» («Ночныя гадзіны»), «Дождж імжыць ужо некалькі дзён / і на свеце так нудна і шэра. На асенні дурны забабон, / як на грыпа, зямля захварэла» («Хворая восень»). Вобразы слаты, змроку, туману, імглы, халоднага дажджу, якія складаюць сэнсаванае ядро большасці пейзажных вершаў, выразна раскрываюць балючасць, разладжанасць унутранага стану лірычнай гераіні паэтэсы. Як бачым, элегічна-драматычная аснова ў восеньскай лірыцы Н. Арсенневай другой паловы 30-х гг. істотна паглыбілася, стала вызначальнай. Праўда, у радках пра восень часам гучаць ноткі радасці, аптымізму, аднак для агульнай танальнасці лірычнага слова яны не з'яўляюцца тыповымі. Адносіны яе да восені — любімай пары года — вызначаюцца супярэчлівасцю пачуцця. Нельга таксама не заўважыць, што восеньскія матывы псіхалагічна тонка зніто ўваюцца з філасофскім роздумам пра жыццё, плыннасць часу і наша існаванне ў ім:

Так і ў нас
перасціхнуць калісьці,
як лісце, парывы, змаганні,
прамінуць усе праўды,
папраўдзе пайрвуцца, як ніць,
азірнёмся назад,
на бязладныя сцені,
хаценні, жаданні,
ляжам з восеняй слёзнай
ў барознах слізкіх
супачыць...

*(«Асенняя элегія»)*

Восеньская трывога, жоўтыя фарбы смутку і бяды дамінуюць у лірыцы Н. Арсенневай часу вайны. Паэтэса глядзгць на ваеннае ліхалецце з пазіцыі хрысціянскага гуманізму, таму яна не прымае жудаснага людскога змагання, крыві, смерці, пажарышчаў. Невыпадкова восень у яе абмалёўцы паўстае як часіна памінальнай імшы, вялікай журбы па тых, хто загінуў:

Васковай свячой над імі восень тае...
Пахучай свечкай з воску залатога
канае
над палеглымі
асенні дзень...

*(«Палеглым»)*

Паэтэса спрабуе «скінуць жаль пажоўклым лісцем» («У сонечны дзень»), летуценіць думкай пра вясну красавання жыцця, як, да прыкладу, у вершы «Кроплі золата восень губляе» (1942). Аднак у жаночым голасе верх бярэ шчымлівая мінорная нота. Прычынай гэтага стала і вялікая ўласная драма: у чэрвені 1943 г. пры выбуху ў Мінскім гарадскім тэатры загінуў яе сын Яраслаў. У вершы «Асенні холад», час напісання якога пазначаны восенню 1943 г., мы адчуваем трагічнажалобны цяжар перажыванняў мацярынскага сэрца. На эмацыянальна-псіхалагічным уздыме яна паяднoўвае асабістае і прыроднае, стварае спавядальна-шчырую восеньскую элегію:

Дык хоць гарыць лісцё асін
чырвоным сполахам наўкола,
сінеюць пальцы, і ў душы
такі асенні, золкі
холад...

Вобраз восені, што глыбока ўвайшоў у паэтычны свет Н. Арсеневай, стаў своеасаблівай «кардыяграмай» яе духоўна-інтымнага самавыяўлення.

З узнёсла-радаснай паэтызацыі хараства навакольнага свету пачынаўся як паэт Масей Сяднёў. Сімвалічна ў гэтым сэнсе называецца адзін з ягоных даваенных пейзажных вершаў «Хвала вясне, дажджу і грому». Аднак у другой палове 30-х гг. у паэтавым сэрцы нарастае трывога, пасяляецца прадчуванне нечага нядобрага. «...Чую сэрцам я асеннюю трывогу»,— такая споведзь гучыць у лірычным вершы «Прадчуванне». Развітваючыся з летам, паэт, па сутнасці, развітваўся з радасцю і красой жыцця, родным светам: яго беспадстаўна арыштавалі і асудзілі як «ворага народа». Пазней М. Сяднёў ва ўспамінах яшчэ раз узнавіў свой унутраны стан пярэдадня восені 1936 г.: «Маёй душой апанаваў глыбокі сум. Мне было чагосьці шкада. Здавалася, што я пакідаю самае роднае і прытым пакідаю назаўсёды — пакідаю тое, без чаго я — не чалавек».

У радках, якія нарадзіліся ў мінскай турме, голас паэта гучыць пакутліва-журліва. Вось які ўражлівы псіхалагічны малюнак паўстае ў пейзажным вершы «Затуманілася даль...»:

Многа дзірак у страсе —
мокне птушка пакрысе,
смутак сэрца моцна ссе.
А дождж б'е ўсё званчэй,
і адна аднэй хутчэй
слёзы капаюць з вачэй.

Восень у лірыцы М. Сяднёва з'яўляецца тым «пейзажам душы», які надзвычай яскрава, хвалюючча выяўляе трагедыю асобы, індывідуальны лес чалавека, увогуле раскрывае суровую праўду часу.

Свет восеньскай прыроды — нібы люстэрка, у якім глыбока адбіваюцца душэўныя перажыванні такіх паэтаў, як Хведар Ільяшэвіч і Уладзімір Клішэвіч. Першы з іх у Заходняй Беларусі трапіў у Лукішскую турму, другі ў Савецкай Беларусі быў арыштаваны і высланы на Калыму. Абодва пазней апынуліся на эміграцыі.

Лірычны герой Х. Ільяшэвіча выступав як «сын вясны» («Беларусь ты мая расспяваная!..»), які паадраджэнску славіць вясновы рух, кліча квітнеючы сонечны дзень на родную зямлю. Аднак аптымізм, канцэпцыя нацыянальнага абуджэння народнага духу ў яго мяжуюцца з драматычным пафасам: «Ветры навокал асеннія, / сэрца без свету — прывету / сумам агорнута гэткім...» («Колерам ціхае роспачы...»). Паэтаваму лірычнаму герою становіцца «цяжка... выглядаць у тумане вясну» («Дзень павіс шэрай хусткай»). Восень выступав як алегорыя няўдзячнай долі роднага краю: «Столькі раніцаў мглістых, / столькі восеняў шэрых, / ў нашых песнях іржавіць / жаўталісцем сухім» («Расшумеліся ветры...»). Настраёвы тон вершаў паэта робіцца мінорна-элегічным, адчуваецца, што нешта неадольна скавала ягоную душу, змусіла драматызаваць лірычны радок:

Нехта стаў за акном і маўчыць,
толькі дождж ціхі шорах рассыпаў.
Ападаюць з журбою лісты
пад акорды асенніх скрыпак.
*(«Нехта стаў за акном і маўчыць...»)*

Ашалелы вецер на прасторы свішча,
строіць вецце на мінор кляшторны.
А у сэрцы нешта холадна і ўсцішна,
і на вуснах толькі ўсмешкі сумнай горыч.
*(«Ашалелы вецер на прасторы свішча...»)*

Вершы У. Клішэвіча «Жураўлі» і «Гусі» нарадзіліся ў турэмнай няволі ў 1937 г. Цяжкае і непазбыўнае ўражанне пакідае іх вобразна-інтанацыйны лад, вярэдзіць свядомасць псіхалагічная рэфлексія, трагічны падтэкст: «Я стаю і думаю, а на сэрцы сум. Ой, куды и цмжкае гора панясу?» («Жураўлі»). Самотна-тужлівай ґіа сваім гучанні заставалася ліра У. Клішэвіча і ў гады вайны. У вершы «Ой, чаму ў вас, тужлівыя ліпы...» паэт нібы прадчуваў асуджанасць сваёй песні заўсёды быць бязрадаснай: «Вечна восень у сэрцы нашу...»

Восень у паэзіі беларускай эміграцыі — часіна спавядальнай тугі, адзіноты, абвостранага драматызму, выкліканых расстаннем з роднай зямлёй. М. Сяднёў, адзін з самых вядомых творцаў беларускага літаратурнага замежжа, слушна заўважае, што «ўспрыняцце Бацькаўшчыны беларускімі эміграцыйнымі пісьменнікамі і паэтамі было заўсёды абвостраным». У вершы «Восень» Алесь Салавей уражліва гаворыць, што страта роднага і блізкага — незагойная рана душы:

Хто страціў дом — таму яго не мець.
Хто сам — самому й знаць тугі абладу:
пісаць лісты, не зводзіць з кніг пагляду,
не спаць, блукаць праз гай, адзеты ў медзь,
пад неспакойным віхрам лістападу.

«Я восеняй жыву ў трывозе...» — прызнаецца М. Сяднёў, уваскрашаючы ў памяці родныя вобразы бацькоўскай зямлі («Восень»). У «Лісце да маці» Анатоля Бярозкі, напоўненым восеньскім элегізмам, прысутнічае балючае размежаванне на «там» і «тут». Наяўнасць гэтага кантрасту сустракаецца і ў іншых творах эміграцыйнай паэзіі, раскрывае драматызм чалавечага лесу. Паслухаем лірычную споведзь А. Бярозкі:

А я тут, у месце чужым і далёкім
пад хмарным восені небам
ў мітусні парожняга дня
ды знясіллі дарэмных узлётаў,—
адзін, бязмоўна стаю...

Цяжкая ноша душэўных выпрабаванняў, бясконцага смутку ўспрымаецца як галоўны лейтматыў усёй восеньскай эміграцыйнай лірыкі. Непрытульна, стомлена адчувае сябе лірычная гераіня Н. Арсенневай: «Душу нідзе / ад смерці жоўтай я не ўтулю» («Вусціш»), «Мне ў залатую высь не ўзняцца, як лісты» («Залатое») і інш. У біяграфічна-крытычным нарысе пра Н. Арсенневу, змешчаным у яе кнізе «Між берагамі», Антон Адамовіч слушна адзначае, што «лінія восені... дасягае свайго кульмінацыйнага пункту ў цыкле «Узноў», асабліва ў вершы «Гэтак будзеш ты са мной». Паэтэса вядзе адухоўлены, жывы дыялог з восенню, атаясамлівае сябе з ёй, бачыць гэтую пару метафарай свайго лёсу. Яе філасофія восені — гэта філасофія драматычна-складанага быцця на зямлі, хвалюючы медытатыўны роздум пра жыццё.

Восеньскі пейзаж у эміграцыйнай паэзіі захоўвае беларускі вобразны каларыт, пра што могуць выдатна пасведчыць вершы Н. Арсенневай, А. Салаўя, М. Сяднёва, Я. Золака, Р. Крушыны... Памяць учэпіста трымаецца свайго роднага, таму адзнакі нацыянальнага светаадчування выяўляюцца і ў замалёўках замежнай восені: «з

пальцаў рук настаўляю тын», «Кіслай рошчынай пахне трава» (Н. Арсеннева. «Жаўцее ліст») і інш. Пішучы пра паэзію Н. Арсенневай, Л Тарасюк справядліва зазначае, што яе «амерыканскі пейзаж... успамінае сваю беларускую прарадзіму». Паэты сумуюць па прыродзе роднага краю, яе непаўторнай, да болю блізкай красе: «І ўсё гляджу чамусьці, як бярозы / гараць на нашым бальшаку» (М. Сяднёў. «Восень»). Повязь з вобразамі прыроды глыбінна-генетычная, і таму яна дае пра сябе знаць нават на ўзроўні падсвядомага. Асабліва шмат настал ьгічных згадак пра беларускую восень у паэзіі М. Сяднёва. Ён яскрава ўзнаўляе прадметна-канкрэтныя малюнкі сялянскага побыту, каларытныя вобразныя дэталі нацыянальнага свету.

Беларускія паэты-эмігранты — таленавітыя майстры пейзажнага жывапісу. А што гэта так, пераконвае хаця б верш Сяргея Ясеня «Восеньская песня», у якім палоніць ціхая, тонкая мелодыка радка: «Сцелецца лісце, сцелецца долам Шчасцем мінулым, подыхам кволым». Стваральнікам адметных восеньскіх медытацый з'яўляецца Янка Юхнавец. У сваіх творах «Вецер шалясцеў за вокнамі...», «Павуцінне — шкілет лета...» і інш. ён спалучае лірычна-настраёвае і філасофскае, дасягае одумна-псіхалагічнай, нейкай таемна-магічнай напоўненасці радка. Паэт імкнецца глыбей спазнаць сябе і сэнс быцця чалавека:

Апаў лісток.
Пайшоў, дарогі не шукаючы.
Каля карэння, бы на парозе,
ён раз шапнуў, у спадзе лётным:
— Блудным сынам буду... Сынам блудным
буду я цяпер.

*(«Лісток на дрэве»)*

Для стылю Я. Юхнаўца характэрна нечаканасць паваротаў думкі, яркая асацыятыўнасць, раскаванасць строфікі. М. Сяднёў у сваёй восеньскай лірыцы таксама імкнецца да філасафічнасці, сэнсаваёмістых назіранняў.

Як мы пераконваемся, восеньская часіна ў суб'ектыўным быцці беларуса замежжа, яго менталітэце, мастацкай свядомасці мае асаблівы сэнс, выключную духоўную значнасць. Лірычная тэма восені ў эміграцыйнай паэзіі наскрозь прасвечана элегічнай настраёвасцю, драматычнымі эмоцыямі. Восеньскія малюнкі і матывы псіхалагічна ярка выяўляюць раздвоенасць беларускай душы, адарванай ад Бацькаўшчыны. Мова восеньскага пейзажу для паэтаў-эмігрантаў — гэта спосаб і сродак выяўлення нацыянальна-эстэтычных і патрыятычных пачуццяў. І яшчэ. Свет восеньскай прыроды ў эміграцыйнай лірыцы

медытатыўнага і натурфіласофскага складу з'яўляецца крыніцай глыбокага пазнання чалавечага быцця на Зямлі, у часе і прасторы.

## «НАД БЕЛАЙ РУССЮ —БЕЛЫ СНЕГ...»

У параўнанні з матывамі вясны і восені тэма зімы, зімовыя краявіды ў беларускай паэзіі, як можа падацца на першы погляд, займаюць невялікае месца. Аднак на самай справе зімовыя матывы і вобразы складаюць даволі шматлікія старонкі беларускай пейзажнай лірыкі.

Перадусім трэба сказаць, што зіма на Беларусі сапраўды адметная, нават унікальная. Яна больш працяглая і халодная, чым, скажам, у еўрапейскіх краінах — Германіі, Францыі, Венгрыі, Чэхіі, Славакіі, Румына, Швейцарыі, Аўстрыі і інш. У той жа час яна карацейшая, не такая лютая і марозная, як на поўначы Расіі, дзе зімовая пара складае большую частку года. У паўночных народаў увогуле пануе культ зімы, бо іхні нацыянальны свет прыроды — гэта царства снягоў і завей. Зіма глыбока ўваходзіць у светаўспрыманне і светаадчуванне нанайцаў, якія, напрыклад, адрозніваюць больш за сто адценняў снегу. А вось жыхарам Афрыкі, у якой валадарыць вечнае лета, незразумела, што такое зіма, снег, завея. Невядомы суровыя праявы гэтай стыхіі і ў сонечных краінах Сярэдняй Азіі і Закаўказзя: Таджыкістане, Арменіі, Грузіі, Узбекістане і інш.

Беларуская зіма — сцюдзёная, снежная, чым падобная да рускай зімы, але адліжная і мяккая, як і ў заходнееўрапейскіх краінах. Гэта абумоўлена тым, што Беларусь знаходзіцца ў геаграфічным цэнтры Еўропы. Наша зіма доўжыцца ў сярэднім столькі ж, як і ў сярэдняй паласе Расіі,— крыху больш за 100 дзён. Праўда, на паўночным усходзе, паводле назіранняў фенолагаў, яна больш працяглая — да 145 дзён. Вось які «ідэальны партрэт» беларускай зімы пададзены ў «Энцыклапедыі прыроды Беларусі»: «Для зімы на тэрыторыі Беларусі характэрна пахмурнае надвор'е (15-20 дзён у кожны зімовы месяц), туманы (амаль кожны 3-ці дзень), мяцеліцы (у сярэднім 3-5 дзён у кожны зімовы месяц), частая змена марозных і адлігавых перыядаў, бываюць галалёд, іней, шэрань». Зіма, як бачна, займае значную частку года. Не дзіўна, што гэты вобраз трывала ўвайшоў у паэтычную свядомасць нашага народа, набыў шматпланавае жывапіснае адлюстраванне, глыбокую трактоўку. Беларуская зімовая паэзія з яе багатымі ідэйна-мастацкімі вобразамі становіцца своеасаблівай і вельмі цікавай з'явай не толькі ў еўрапейскай, але і ў сусветнай паэзіі.

Здаўна чалавек заўважаў, што «жыццё прыроды... абумоўлена сілаю святла і цяпла; без яго ўсё замірае» (А. Афанасьеў). Таму надыход зімы ён звязваў з заміраннем і сном прыроды. Яму ўяўлялася, што маразы прылятаюць ад жалезных гор і закоўваюць зямлю ў няволю. Падобнае міфапаэтычнае светаўспрыманне знайшло яскравы адбітак у вершы сучаснага паэта Кастуся Цвіркі «Санцаход». Вось як тут намаляваны свет прыроды, пазбаўлены сонечнага цяпла:

Захапіў без яго усе землі Мароз —
акупант гэты люты,
Зачыніў прыроду на свае замкі,
спыніў усяго жывога токі.
Жахнулася Сонца:
як апусцелі яго,
багатыя на расліннасць,
надзелы!
Дзе падзяваліся птушкі?
Куды пазнікалі мядзведзі,
вавёркі і вожыкі?

Зіме ў каляндарным годзе беларуса належыць асаблівае месца. Праца ў полі была ўжо даўно закончана, таму асноўныя клопаты ў гэту пару пераходзілі на гаспадарку пры хаце. «Снежань зіму пачынае, а год канчае»,— так кажуць у народзе. Жанчыны зімовымі вечарамі пралі і ткалі, мужчыны плялі кашы, вязалі венікі, займаліся іншым рамяством. Зіма набірала моцы, а беларус ужо думаў пра лёс будучага ўраджаю, па прыкметах прыроды рабіў прагноз на вясну і лета: «Мароз у снежні і снег вышэй хаты — будзе год тады багаты»; «Сухі снежань — сухая вясна, сухое лета»; «Калі студзень імглісты — мокры год, халоднае лета»; «Як у лютым адгукнецца, так у жніўні адзавецца». Але самай непаўторнай акрасай беларускай зімы сталі Каляды — свята, напоўненае адухоўлена-магічнай паэзіяй прыроды. Існуюць меркаванні, што ў вобразе Кал яды, якая славіцца і ўшаноўваецца ў многіх фальклорных творах, увасоблена сама Зіма. У сучаснага паэта Сяргея Сокалава-Воюша Каляда якраз і выступае зімой-уладаркай, якая

І віруе, і калядуе,
І лютуе на ўвесь абшар:
То — як сонца наўсцяж прастуе,
То — звіваецца ў белы шар.
І здаецца, замала месца,
І здаецца, ў сусвет нямы
Панясецца; і давядзецца

Дазімоўваць без зімы.
*(«Каляда»)*

У старажытнай пісьмовай паэзіі зімовыя вобразы сустракаюцца рэдка. Як алегарычны вобраз зіма выступае ў творчасці Кірылы Тураўскага. Паўстае ён у выразнай антыноміі вясне. Зіма — варожая духу чалавека, ягонай хрысціянскай існасці, таму «зима греховная», а вясна «дух спасения ражаеть» («Слова ў Вялікдзень»).

«...Песня мая цалкам належыць зіме»,— прызнаецца Мікола Гусоўскі, аўтар славутай паэмы «Песня пра зубра». Чаму менавіта зіме? У гэты час спыняліся войны, пачыналася паляванне на звера: «Ловамі ж бавімся мы, як залютуе мароз» (пераклад У. Шатона). Зубрыныя ловы апісваюцца ў творы на фоне зімовай прыроды: «Снег, набрынялы крывёй, вызначыць месца бяды», «лёд пад маласнежным пластом», «у снежнай густой пеляне» і інш. Аднак варагаванне князёў змушала браць зброю ў рукі і зімой, і гэта моцна турбуе паэта, які жадае свайму краю міру, спакою.

Зімовыя стыхіі — мароз, сцюжа — паўстаюць як фізічнае выпрабаванне для чалавека ў паэтычным творы «Пентатэугум» белэруска-рускага паэта другой паловы XVII — пачатку XVII ст. Андрэя Белабоцкага: «Аз в морозах наго ходил...», «Стужа тресла зубы, кости...»

У беларускай паэзіі XIX ст. зімовыя пейзажныя матывы і вобразы таксама не знайшлі шырокага адлюстравання. Пейзаж для тагачасных паэтаў яшчэ толькі пачынаў набываць эстэтычную прыцягальнасць. У вершы Яна Чачота «Плакала бяроза ды гаварыла...» ёсць невялічкая ўкрапіна зімовага краявіду:

Я вам пры дарозе, як дзеўча,
стаю,
Беленька прыбрана, на вёску
гляджу,
І хто зімою заблудзіць,
То дарожку пакажу.

У вобразе бурнай стыхіі зіма паўстае ў Францішка Багушэвіча: «Ўсё злягло, зіма гарцуе на спусцелым полі» («Шумяць сосны»; пераклад А. Лойкі). «Мы адвыклі ад вясны...» — чытаем у вершы Уладзіслава Сыракомлі. І гэта сапраўды так, бо ў паэзіі XIX ст. больш гаворыцца пра тыя фізічныя пакуты, цяжкасці, што нясуць селяніну-беларусу зіма, сівер, мяцеліца. Герой Ф. Багушэвіча бяжыць, бо яго «паганяе мароз» («Песня»), а «ў мяцеліцу, ў марозе... Паўзе з клункам па дарозе, У снягу увесь па брух» («Бог не роўна дзеле»). «...Бяда ў карк пагнала Такім ліхам ды марозам» і селяніна Янкі Лучыны («Што думае Янка, везучы дровы ў горад»). Мароз «скіроўвае... сілы да беднае хаты» і ў

паэтавым вершы на польскай мове «Мароз». Я. Лучына звязвае з зімой няшчасную долю роднай старонкі, ён просіць-моліць сівер даць дарогу цяплу:

Хоць бы раз без цябе зарунець бы палям,
Хоць бы раз у свой час адышла бы зіма!
На далёк акіян убяжы ты, мароз!
*(«Сівер»)*

Недахоп у паэтычных малюнках прыроды адчуваў Адам Гурыновіч, які пераклаў верш М. Някрасава «Мароз». Разгорнутых зімовых замалёвак, падобных да някрасаўскай, беларуская паэзія ў XIX ст. так і не заимела.

Сапраўднае паэтычнае адкрыццё і шматграннае асэнсаванне беларускай зімы прыпадае на пачатак XX ст. Першыя яркія карціны гэтай часіны года стварылі нашы класікі — Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, З. Бядуля, А. Гарун. У іхніх пейзажах, безумоўна, ёсць агульныя вобразна-выяўленчыя рысы, але адметнага, індывідуальна-непаўторнага ў іх найбольш.

Раннія зімовыя замалёўкі Янкі Купалы напісаны ў стылёва-выяўленчай манеры Ф. Багушэвіча і Я. Лучыны: тут цесна паяднана прыроднае і сацыяльнае. У вершы «Згінула сонца...» (1907) паэт паказвае трагедыю сялянскай сям'і, што застал ася без бацькі і мужа,— ён «Там, дзе шалеюць вечна мяцеліцы, Страшнай Сібіры дзе ўслаўся гушчар». Зіма абыякавая да бяды-гора людзей, нясе ім холад, нястачу, страшыць сваім жудасным завываннем: «Б'ецца завея аб шыбы марозныя, Ў коміне жудка віхры загулі». «Усясільная» зіма ў драматычнай паэме «Адвечная песня» (1909), дзе поруч з іншымі порамі года яна з'яўляецца раўнапраўным дзейным персанажам. Зіма тут «магільная», неспагадная: «Смяюся я над слёзамі...», «Не дам ніколі веры я...»

Я. Купала, шчыры пясняр лета, не любіць зіму. Яна нясе бязмоўе, дзікую спустошанасць, духоўны прыгнет, пакуты, згубу ўсяму жывому: «Цярпі, зямелька родная, Няма жыцця, няма» («Зіма»: «Прыйшла зіма халодная...»); «Няма траўкі, няма кветак, Пуста гэтак, мертва гэтак!» («Зіма»: «Было цёпла. У аконцы...»). Сутнасць зімы паэт вызначае эпітэтамі «халодная», «жудаснахалодная», «нягодная», звязвае з ёй самыя змрочныя ўяўленні і думкі. Зіма асацыіруецца з жудаснай, жорсткай знішчальнай сілай:

Снег белы мертва сцелецца
Пасцеляй грабавой,
Сапе, шуміць мяцеліца,
Мяце снег, як мятлой.

Мароз, як кат бязжаласны,
Ў лёд рэчкі акаваў,
Стральбой сваёй бязрадаснай
Па сцежках біць пачаў.

*(«Зіма»: «Прыйшла зіма халодная...»)*

Зіма ў Я. Купалы з магільным выццём і рогатам ваўкоў, што шукаюць ахвяру. Падарожны, якому «сіверна, марозна», асуджаны на расправу: няпроста выжыць яму яшчэ і таму, што зіма ў дарозе напускае сон-чары («Зімовая ноч»), Поўны беспрасветнай тугі, завейнага гулу шлях Ганулі з дзіцем на руках у паэме «Зімою» (1906), у аснове якой ляжыць фальклорнае паданне. Гэты разгул зімовых стыхій драматызуе твор, напаўняе яго пачуццём няўмольнай безвыходнасці перад згубай чалавечага жыцця: «У коміне вецер... Заносіцца песняй магільнай, дзікой», «...вые віхура, хаўтурна смяецца». Калядная мяцеліца, сняжніца, віхар, мароз знясільваюць кабету з дзіцем і хаваюць «у пасцелі пуховай са снегу». Паэт бачыць усю фатальнасць, трагізм яе лёсу і са скрухай гаворыць, што «Пад дзікай мяцеліцы шумы» ёй будзе самы лепшы спачын і прытулак.

Тое, што Я. Купалу «снег зямлі абноўленай Не міл», асабліва адчуваецца ў вершы «Снег». Як з'ява прыроды снег бачыцца паэту нечым часовым, хуткаплынным, пра што сведчыць рэфрэн «Гэта снег, толькі снег...». Паэта больш палохае холад, лёд у сэрцах і душах людзей. Ён неаднойчы выказвае веру ў тое, што «ўваскрэсне зноў вясна», радуецца, калі «таюць сковы зімы ледзяністае» («Зіма», «Тае снег»). У мастацкай свядомасці Я. Купалы зімовыя стыхіі — алегорыя зла, сну, смерці на роднай зямлі. Зіму ён атаясамлівае з духоўным рабствам і гвалтам («Выйдзі...»). У паэме «Сон на кургане» (1910) «апісанне марозу,— як слушна разважае П. Васючэнка,— вядзе далей, у сферу касмічнага, усясветнага». Тут зімовыя стыхіі — сцюжа, мароз — надзелены звышмагутнай сілай і прадракаюць сусветную бяду, катастрофу.

Зімовая прырода сама па сабе запыняла Купалаў паэтычны позірк рэдка. У вершы «Зімой у лесе» яна, напрыклад, намалявана ў таемнай сцішанасці, зачараванасці. А ў вершы «Мароз», напісаным значна пазней — у 1921 г., паэт стварыў вобразна-яркую зімовую казку, напоўненую адухоўленай фантазіяй, дзіцячым наівам.

Як увасабленне пагібельнай, злой стыхіі зіма паўстае таксама ў Алеся Гаруна. Гэты матыў-вобраз разгортваецца ў часе да з'явы ўсеахопнай, глабальнай: «Снягі, ляды, / абрус худы / назаўсягды / на вечны час ляглі» («Навокал...»). Завіруха малюецца ў шалёным танцы, як злая містычная сіла, яна рагоча і збівае з дарогі, зацiскае чалавека

ў непраглядным тумане, адбірае жыццёвую моц, нясе вечны сон: «Засні, засні, / у ноч ўсе дні / перамяні...»; «І ў прабегу шэпча ў вуха: «Заначуеш — не пачуеш: Я завею, я угрэю...» («Навакол...», «Завіруха»). У паэтавым светаадчуванні дамінуюць настроі драматызму, тугі-трывогі перад нявызнанасцю шляху ў будучыню.

Якуб Колас у сваіх песнях зімы часам выяўляе сацыяльныя настроі, але, у адрозненне ад Я. Купалы, аддае перавагу ўласна пейзажным замалёўкам. Ён не хавае свайго захаплення зімовай часінай, апісвае яе са шчырай любоўю, пяшчотным лірызмам: «Люблю я зімы з маразамі, Завеі белыя ў палях...»; «Мне любы елкі і хваіны Пад белай посцілкай снягоў» («Песні зімы»). Паэт сузірае незамглёны прастор зімовых краявідаў, успрымае іх, як правіла, з лагоднасцю, мяккасцю:

Мяккая пярына
Вочы адбірае.
Белая раўніна —
Ні канца, ні краю.

*«Зіма»: «Надышлі марозы...»)*

Зямля без снегу, хоць «Час падходзіў за пакровы», паэту здаецца сумнай, пустэльнай: «Глуха, пуста і зацята, і нікога не відно. І ціхутка, бы ў магіле...» («Сымонмузыка»). Снег, снегавое покрыва Я. Колас успрымае з адчуваннем незвычайных пераменаў у прыродзе. Хараство зімовага свету паэт раскрывае па-народнаму вобразна: ён нібы святочная хата, прыбраная дбайнай гаспадыняй: «На полі белыя палотны — Абрусы хмарак снегавых», «Пад белай посцілкай снягоў» («Песні зімы»); «Сняжынкі жвавыя гуляюць, Садок і дворык засцілаюць Бялюткім чыстым палаценцам» («Новая зямля») і інш. У другіх творах Коласавай зімовай паэзіі пераўвасабленне прыроды нагадвае святочнае ўбранне вясковай прыгажуні ці нявесты: «Нібы вопратку ўздзявае Шыр прасторная зямлі» («Зіма»: «Белым снегам замятае...»); «Мароз... Бярозе белай тчэ убранне, Бы той дзяўчыне пад вянчанне» («Новая зямля»).

Зімовыя стыхіі Я. Колас асэнсоўвае па-свойму. Яны непадуладныя волі чалавека, успрымаюцца як праявы касмічнага: «А ў палях марозы Ды вятры гуляюць» («Зіма»). Паэт зайздросціць вольным парыванням віхраў у полі, называе вецер «сынам прастору», жадае з ім зліцца, каб «вольна песні пеці» («Мяцеліца»). Я. Коласпейзажыст, перадаючы рухомасць стыхій, іхнюю магутнасць, выказвае, аднак, і пачуцці іншай эмацыянальна-псіхалагічнай напоўненасці. Разгул стыхій у вершы «У зімні вечар» намаляваны з гнятлівасцю, яны нагадваюць жудасны канец свету: «Загудуць вятругі ў полі, Загалосяць, зашумяць, Белым пылам задымяць...»; «Эх, узнімецца тлум дзікі!

Загудуць кусты, лясы На ўсе тоны-галасы». Падобнае ўспрыманне характэрна і для рускага паэта А. Пушкіна: «Буря мглою небо кроет. Вихри снежные крутя, То как зверь она завоет, То заплачет, как дитя» («Зимний вечер»).

У паэме «Новая зямля» (раздзел «На рэчцы») Я. Колас асабліва непрыязны да марозу. Гэты вобраз паўстае ў варожасці, кантрастнасці да прыроды і чалавека. Мароз атаясамліваецца са злым чараўніком, які спакушае салодкай казкай-сном, ён — «пыху поўны» вяльможа і ўсясветны ўладар:

Мароз на небе ставіць троны,
Вянцы на месяц ускладае,
Па снезе зоркі рассыпае.

Аднак паэт сцвярджае неадольнасць жыцця на зямлі, непадуладнасць беларуса лютай, няшчаднай сіле, бо ён трывучы і фізічна, і духоўна: «Ды ты жыцця, брат, не здалееш. Як ты ні дурыш, ні шалееш. Глядзі — скрозь ковы ледзяныя Сачацца кропелькі жывыя, Дарогу новую шукаюць...»

У раздзеле «Таемныя гукі» Я. Колас таксама апісвае ўладу зімы над прыродай: «...Ўсе рэчкі лёдам скуты і ўсё пад снегам качанее». Паэт па-язычніцку адухаўляе зімовае царства, у якім нібыта правіць баль нячыстая сіла ў вобразах чарцей, таямнічых істотаў. Вось як узнаўляюцца страшныя гукі-шолахі зімовай ночы: «То рэзкі трэск там панясецца, Бы чорт лазаты засмяецца, То заскавыча, то застогне...», «То тут, то там ды як засвішча — Як бы там чортава ігрышча!..», «Не то хтось кашляе ці брэша. Гу-гу! — штось гукне, садрыгнецца...» Думаецца, гэтыя ўражанні запалі ў паэтаву памяць у далёкім маленстве, у часіну, калі вакол лесніковай сядзібы ўзвышаліся высокія сумёты. У зімовай пейзажнай паэзіі Я. Коласа нельга не адчуць, як душа паэта, суладная прыродзе, яе рытмам, зменам, жыве ў прадчуванні і чаканні вясновага абуджэння: «Глядзіш — цяплом табе павее, І з поўдня вецер хмары гоніць...» («Новая зямля»); «Ці скора ж ты, Жаданы час Вясны-красны, Ідзеш да нас? Ідзі, згані Снягі з палёў І выведзі Ваду з акоў!» («Да вясны...»).

Надзвычай арганічная повязь з зімовай парой у паэзіі Максіма Багдановіча. Зіму ён жывапісуе з непрыхаванай улюбёнасцю, святочнай радасцю: «Здароў, марозны, звонкі вечар! Здароў, скрыпучы, мяккі снег!» («Зімой»). Паэт знаходзіць сваю гожасць і музыку ў зімовых стыхіях, якія так страшаць чуйнае сэрца Я. Купалы, ды і не заўсёды лагодзяць вока Я. Коласа. Багдановічава зіма, прынамсі, як і руская зіма ў Пушкіна, паўстае ў нястрымным руху, абуджае то душэўную бадзёрасць, то спакой, одумнасць. Жыццесцвярджальны

пафас зімовых вершаў паэта можна зразумець: восень і вясна для яго хворых лёгкіх былі суцэльнай пакутай, а зіма мацавала жыццёвы тонус, давала прыток творчай энергіі.

Зіма кліча паэта ў далеч, «срэбнае раздолле», яна са шпаркім, лёгкім бегам коней і перазвонам бомаў у полі — перазвонам, які ў 20-я гг. асабліва прачула адгукнецца ў пейзажных радках П. Труса. З эмацыянальнай узрушанасцю перадае М. Багдановіч сваё ўнутранае гарэнне: «Узрывайце ж іх санямі, коні! Звіні, вясёлых бомаў медзь! Вакол лятуць бары і гоні, Ў грудзях пачала кроў кіпець» («Зімой»). Паэтава зіма з хлёсткім, пякучым ветрам, гулам завірухі, шумам-гулянкай міфічнага Падвея. Дынамізм пейзажу прыдаюць дзеясловы руху:

Пляша, скача. Снег зрываецца, ляціць.
Веюць у полі снегавыя рукава,
А Падвей нясецца, кружыцца, гудзіць,
Запявае, удалая галава!

*(«Падвей»)*

Уражвае тонкая рытміка-гукавая інструментоўка радка, якая ўзнаўляе спеў ветру: «У бубны дахаў вецер б'е, Грыміць па ім, звініць, пяе» («Завіруха»). У зімовых вобразах паэта адчуваецца прыхільнасць да трох асноўных колераў: белага, сіняга і асабліва — серабрыстага: «Снег блішчыць, як халодная сталь», «белы снег», «сіняя даль», «снягоў сінеючых пакрыў», «Уюцца змейкай срабрыстай дарожкі», «Поле нікне ў срэбным тумане», «срэбнае раздолле». З жывапіснай каларытнасцю паэт малюе, як віруе снежная стыхія: «Ускіпела снежнае віно, і белай пенай мкне яно» («Завіруха»).

М. Багдановіч, як бачым, стаў у беларускай паэзіі пачатку XX ст. самым апантаным, жыццялюбным песняром зімы. Паэтызуючы гэты вобраз, паглыбляючы яго сэнсава-выяўленчую трактоўку, выдатны мастак слова тым самым істотна ўзбагаціў вобразны арсенал нацыянальнай пейзажнай лірыкі.

У 10-20-я гг. XX ст. не адну разгорнутую карціну беларускай зімы напісаў выдатны паэт-пейзажыст Змітрок Бядуля. Зімовая тэма для мастака слова — гэта найперш стыхія прыроды. Уражвае багацце гукавых вобразаў у творах мастака, умение эмацыянальна-псіхалагічна перадаць стан прыроды: «Нібы парусы ў моры, бялеюць стагі. Пушча стогне, звініць у трывожнай самоце» («На балоце»). У паэтавым светаўспрыманні, якое мае выразную міфалагічную афарбоўку, зіма — гэта страшная казка з плачам-скавытаннем віхру, галашэннем мяцеліцы, блуканнем зданяў, таемнымі шэптамі-адгалоскамі лесу, дзіўнымі начнымі гукамі: «Злы лямант напоўніў бязбрэжжа, Мяцеліцы лямант» («З песень зімы»); «І заплача віхор, і застогне віхор, Загалосіць

зіма белавокая» («Зімовая казка»); «Віхура вакол... Галосіць, скаголіць Галоднай гайнёй» («Зімнік») і інш.

Краса зімы падманлівая, яна — тварэнне «злых чараў», тых чараў, што звабліваюць у халодныя нетры сну і смерці. Там, прынамсі, заснула сонца: «У хароме шкляным, на пасцеле шкляной Дрэмле дзеўчына сонцавалосая» («Зімовая казка»). Незразумелую мову стыхій і жудасна-трывожныя галасы начнога царства З. Бядуля, як і Я. Колас, узнаўляе праз няпэўныя займеннікі: «Аб нечым лес кажа ў задуме, Спеў — шэпты аб нечым» («З песень зімы»); «Хтосьці водзіць нейкі звод. Нейкі лямант сярод ночы. Хтосьці ладзіць карагод, Кружыць кругі ў твар, у вочы» («У зімовую ноч»); «А хтосьці мяцёлкай Паляны мяце... Качаецца, стогне, Ляжыць на баку» («Зімнік») і інш. І толькі зімовае ранне становіцца часінай, калі знікаюць здані-прывіды: «Шыр залацілася, Ззянне і гранне. Светлы абшар...», «Далі, бы вокны празрыстыя...» («Зімовая раніца»). Але нават днём, калі «ўсюль бела-бялютка», паэт не давярае зімовым цудам: «Здаецца, не гмахі, а здані, Во — знікнуць,— іх раптам не стане» («У белі»). Зіма бачыцца яму праявай д'ябальшчыны: «Ткуць абрусы на зямлі Ведзьмы-ткачыхі старыя» («Снег»). Паўсюль для паэта ў зімовым свеце разлітыя сум, нуда, адзінота.

Вострым мастакоўскім зрокам З. Бядуля адчуваў, што зімовая краса заслугоўвае ў паэзіі высокай ухвальнай песні, шчодрасці фарбаў і лірызму. У адным са сваіх вершаў ён адухаўляе зіму, і тая гаворыць з намі, нібы жывая істота, перадусім звяртаючыся да мастакоў слова:

Красе, цішыне маёй верце!
Для ўжытку вам, малеры, хварбы,
Арнаментаў, колераў скарбы
На цэлае жыцце даволі.

*(«У белі»)*

Надзвычай гіпнатызуе лёгкая рытміка, дзіўная пяшчота слова ў вершы З. Бядулі «Сняжынкі».

Тэма зімы па-рознаму асэнсоўваецца ў творах іншых паэтаў пачатку XX ст. Калі ў Янкі Журбы «зіма... Спавіла прыроду ў снежны цяжкі сон», «Даль за мутным снегам», а навокал «Жудасна, сцюдзёна («Сівер завывае...»), то ў М. Арла зімовы свет поўны святла, утульнасці: «Снег ўсе хаты атуліў, Як бы спагадае...», «Снег накрыў усё, прыбраў У шаты дарагія, Беллю, серабром убраў Хаціны благія» («Ночка»). Прыкметы зімовай пары ўзнаўляе Стары Улас у вершы «Зімою» і паэме «Год беларуса». Ягонае светабачанне мае яркі канкрэтна-вобразны характар: «Снегу ў калена І белы шлях. Там дзядзька сена

Вязе ў санях». Паэт, выказваючы народны погляд на розныя поры года, пра зімовую часіну, у прыватнасці, гаворыць, што «Чалавек... Зімы баіцца, старасці гэтак». Замалёўку прыродных з'яў і працоўных клопатаў вяскоўца ў зімовы час стварае Карусь Каганец у сваёй «Песні зіме». У рэфрэне верша паэт скарыстоўвае фальклорную інтанацыю: «Ой, зіма, ой, зіма, Зіма сердзіцца!» На двары — холад, віхор, але селянін не палохаецца такога надвор'я, наадварот, ён заняты звыклай працай па гаспадарцы. Беларус, як паказвае К. Каганец, успрымаў зіму без скрухі, разгубленасці, з нейкай надзіва спакойнай, мудрай суладнасцю са светам прыроды.

Такім чынам, зімовыя старонкі ў беларускай паэзіі пачатку XX ст. паводле свайго эстэтычнага зместу — з'ява шматфарбная. З тэмай зімы звязаны розныя, часам самыя палярныя, эмацыянальна-псіхалагічныя светаадчуванні паэтаў, іх садыяльныя і духоўныя пошукі. Для адных творцаў яна — непаўторны цуд, дзіва, што радуе і захапляе, для другіх — пара сну, жудасці, смерці, для трэціх, як, да прыкладу, М. Багдановіча,— часіна актыўнай душэўнай жыццядзейнасці. Зімовыя вобразы змяшчаюць глыбокі сімваліка-алегарычны сэнс, становяцца важкім мастацка-філасофскім сродкам пазнання быцця і свету

У розныя гістарычныя часы, асабліва ў пераломныя і драматычныя, пейзаж здольны чуйна, праўдзіва ўзнаўляць настрой чалавека і грамадства. Мастацка-вобразны свет беларускай паэзіі канца 10-30-х гг. красамоўна пацвярджае гэта. Сказанае перадусім адносіцца да восеньскіх і зімовых пейзажаў. У дачыненні да нашай нацыянальнай паэзіі будзе справядліва адзначыць, што ў яе сістэме вобразаў «значнасць зімовых матываў... у тым, што яны надзяляюцца гнуткасцю і здольнасцю выяўляць самыя розныя паэтычныя канцэпцыі быцця» (Юкина Е., Эпштейн М. Поэтика зимы // Вопросы литературы. 1979. № 9).

Зімовыя пейзажы Янкі Купалы, напісаныя ў 1918 г., прасякнуты драматычна-мінорным гучаннем. Першы снег у ягоным светаўспрыманні выклікае змрочны настрой: «Халоднай пабелай магільна залёг На зжатае поле, на скошаны лог», «На небе на снежным ні сонца, ні зор...», «Абснежаны свет без канца, без граніц, Душа ажио тлее...» (верш «Першы снег»). Гэтыя выявы выклікаюць прадчуванне нечага жахлівага. Чытаючы верш далей, мы спатыкаемся на вобразе акрываўленага снегу. Хто ж праліў кроў? Паэт з трывогай кажа, што ў свеце «бурліць варажба», здарылася братазабойства.

Зіма перыяду грамадзянскага кровапраліцця, супрацьстаяння, якія спарадзіў кастрычнік 1917 г.,— часіна гнятлівасці, страху, разгулу стыхійных прыродных сіл. Сцюжа і завея ў вершы «Паязджане»

набываюць усеахопны характар, яны разгортваюцца да вобразаў-сімвалаў усясветнай бяды і неўтаймоўнага зла:

Распаўзлася па абшары
Сцюжным пухам, сцюжнай марай
Папаўзуха-завіруха —
Злога духу злыбядуха.
Ў полі дымна, ў полі цёмна,
Беспатольна і заломна,
Ні пуціны, ні упыння,
Як у вечнай дамавіне.
Як у моры, ў белым снегу,
Без днявання, без начлегу,
Ў бездарожжа, ў беспрыстанне
Едуць, едуць паязджане.

Беларусы-паязджане апынуліся ў завейным бясчассі, у абладзе д'ябальскіх чараў і сіл, якія скіроўваюць у невядомасць. Здаецца, ніхто і ніішто іх не ўратуе: часціца «ні» ўзмацняе адчуванне жудаснага беспрасвету, безвыходнасці: «Ні праслуху, ні прагледу, Ні прасвету, ні надзеі,— Ўсё ў зацьмішчы, ўсё ў завеі». У вобразах зімовых стыхій Янка Купала, па сутнасці, увасабляе сам суровы гістарычны час, які нясе хаос, глабальныя катаклізмы. Паэт надзвычай прароча выявіў пакручасты, цярністы шлях нашага народа ў XX ст. У вершы асаблівую ролю адыгрывае гукапіс: узмоцненыя асанансы, суцэльныя алітэрацыі, эўфанічныя паўторы слоў шчыльна знітоўваюць радкі і ствараюць уражанне няспыннасці, бясконцасці руху, прыдаюць выказванню паэта незвычайную эмацыянальную экспрэсіўнасць.

У 10-20-я гг.— зазначым яшчэ раз — беларускія паэты натхнёна спявалі «свае гімны... красуні-вясне» (Я. Журба. «Поўніцца песнямі сэрца...»). Гэтая пара ў паэтычнай свядомасці розных народаў звязвалася з нацыянальным адраджэннем. Зіма і вытворныя ад яе вобразы лёду, марозу, холаду сімвалізавалі зняволенне радзімы, здранцвенне і ўціск духоўных сіл народа, выступалі ў антанімічнасці да вобраза-матыву вясны. Параўнаем хаця б пейзажныя замалёўкі Янкі Купалы і латышскага паэта Яна Райніса пачатку XX ст. Падабенства ў іх відавочнае: зіма ўвасабляе скаванасць, безжыццёвасць навакольнага свету, але магутнасць яе недаўгавечная, хуткаплынная: «Прыйшла зіма халодная... Няма жыцця, няма», «Мароз, як кат бязжаласны...», «Цярпі, старонка родная... Міне зіма нягодная, і ўскрэсне зноў вясна!» (Я. Купала); «Пакуль не чую Праз завірухі, Што ёсць на свеце Жывыя зрухі», «Мароз набраў баевікоў, Каб з імі накаваць акоў», «Бо сон радзімы Чакае вырай» (Я. Райніс).

Чытаючы зімовыя вершы Міхася Чарота, Уладзіміра Жылкі, Наталлі Арсенневай, Уладзіміра Хадыкі, Сяргея Дарожнага і іншых паэтаў 20-30-х гг., нельга не адчуць, што вобраз зімы адыгрывае ролю алегорыі, змяшчае прыкметны сэнсавы падтэкст. Завіруха, зімовая бура, сівер нібы ўвасабляюць тыя мяцежныя сілы, што стрымліваюць, заглушаюць адраджэнскі рух народа. У вершах «Зімовае» Уладзіміра Жылкі і «Завіруха» Міхася Чарота зімовыя стыхіі ўладараць над светам, скіроўваючы яго да пагібелі: «Снег, завея; вецер вее, Круціць, дзьме..», «Носіць тайны, спеў адчайны, Смерці спеў» (У. Жылка); «Над балотам гудзе завіруха... Ведзьмай носіцца з краю да краю, І змятае з зямлі жыцця пацяруху...» (М. Чарот). Зімовая замець-навала выстуджвае сэрца, пасяляе там жах, жалобу, паня верку. Зноў жа, як і ў Я. Купалы, «сцюжы зімніх дзён і снежнай завірухі» міжволі атаясамліваюцца з тагачаснай завейнай эпохай, якая і спарадзіла драматызм, трагедыйнасць светаўспрымання: «Песням ветру ўважаць немага... Слізкай гадзінай, вузкай і шэрай, Аблягае ля сэрца туга...» (У. Жылка. «Чырванее заход ад марозу...»).

Складаць услаўляльныя песні зіме не жадае і Уладзімір Дубоўка. У яго сэрцы жыве настальгія па вясне, якая «абуджае свет увесь ад сну» («Снег знікае»). Зіма ўспрымаецца паэтам як неспагадная часіна ў асабістым жыцці, ён баіцца, каб «кветку шчасця... не знявечыў мароз» («У зімовы заснежаны дзень...»).

У паэзіі другой паловы 20-30-х гг. насуперак плыні ідэалізацыі, рытарычнага красамоўства адчуваецца перагляд, пераасэнсоўка рэчаіснасці, свету. Пейзажныя зімовыя вобразы, нібы чуйныя індыкатары, выяўляюць драматычны пачатак чалавечай душы, яе трывожныя сумненні і прадчуванні. Такія настроі — вынік пражытага ў эпоху таталітарызму, у час, калі бязлітасна падзьмуў «сівер эпох палітычных» (У. Хадыка. «Дзве песні»). Паэт Уладзімір Хадыка адчувае сябе ахвярай лютай зімы, якая змарнуе і вёсны, і леты. Апынуўшыся ў палоне «настрояў тленных», ён бачыць свой лёс так: «І зімы ў хлюпаце адлег Каля жалезнай пройдуць брамы» («Я разабраў свой дом стары...»). У вершы «Пароша», напісаным у 1930 г., паэт малюе зімовы свет як асяродак страху, няволі, адчужанасці: «Вушы просяцца ў далоні, Каб не чуць зімовых спрэчак», «Ледзяныя зглухлі хвалі — Надарвіся хоць ад крыку!»

Смутак, шчымлівая туга чуюцца ў зімовых песнях Сяргея Дарожнага. Паэт з імпэтам славіў вясну, але разам з тым штосьці даволі моцна азмрочвала ягоны жыццялюбны настрой. Адна з асноўных прычын гэтага ў тым, што ў пэўныя моманты і хвіліны ў душы чалавека з'яўляецца натуральная патрэба маркоціцца і плакаць. Восень і

зіма — часіны замірання, амярцвення прыроды, разгулу яе спусташальных стыхій — якраз і спараджаюць гэтыя элегічныя трывожныя пачуцці. Параўнаем дзве інтымна-пейзажныя замалёўкі С. Дарожнага «Лістапад і восень» і «Апусцеў, паламаўся парог...». Тут паэт у палоне абвостраных рэфлексій, восеньскія і зімовыя вобразы-пейзажы выклікаюць у яго душы адчуванне няўтульнасці і адзіноты: «Толькі плача вецер — ноч такая дзікая, Дзе мне сэрца выпяяць і каго паклікаць?!», «За вакном Забялелі снягі. Хто мне вораг, А хто дарагі?» Прыродаапісанні пры гэтым набываюць драматычна-сімвалічнае гучанне. Зімовы пейзаж, напрыклад, стварае ўражанне нейкай згубнай безвыходнасці:

Ні слядоў не відно,
Ні пуцін.
Ні праехаць нідзе,
Ні прайсці.
Снег сярэбраны,
Быццам памост,
На дзесяткі,
На тысячы
Вёрст.

*(«Апусцеў, паламаўся парог...»)*

Верш «Зіма», што напісаўся ў 1926 г., таксама прасякнуты трывожнымі матывамі: «Снежныя змеі Шыпяць за вакном. Круцяцца, скачуць І штосьці пяюць,— Ці на ўдачу, Ці згубу маю». У зборніку «Васільковы россып» (1929) восеньска-зімовы жывапіс невыпадкова пранікнуты тугой, меланхоліяй. «Засталася толькі песняй недапетай Аб маёй вясёлай Залатой вясне»,— прызнаецца паэт у вершы «Адзінота», заглушаючы ў сабе «звон вясны».

Запыніць асаблівую ўвагу варта на вершах «Мяцеліца» Канстанцыі Буйло і «Ноч пад Новы год» Якуба Коласа (на жаль, абміналіся нашымі даследчыкамі). Гэтыя творы, напісаныя ў 1937 г., гавораць і пра драматызм пачування чалавечай асобы, і пра складаныя перыпетыі тагачаснага грамадскага быцця. Зіма і яе стыхіі асацыіруюцца са змрочным і трагічным часам 30-х гг., які няшчадна нявечыў людскія душы, пакідаючы там роспач, горыч, трывогу:

Еду, еду па беламу полю,
А віхура дарогу заносіць.
Яна ўслед мне так страшна галосіць,
Быццам сэрца заходзіцца з болю.
І куды я загублена еду
Без пуці, без напрамку, без следу?!

*(К. Буйло)*

І ходзіць паважна мароз
Злы, белавалосы.
Глядзіць неласкава скляпенне нябёс
На скутую землю,
І Млечнага Шляху паблеклы пракос
У холадзе дрэмле.
У гэтым змярцвенні начной цішыні
Год Новы вітаю.
— Якою пуцінай вы пойдзеце, дні? —
Я моўчкі пытаю.
Маўчыць неабсяжны прастор-глыбіня
Без берагу-краю.
Маўчыць з ім і постаць наступнага дня.
І я замаўкаю.

*(Якуб Колас)*

Гэтыя спавядальныя і вельмі асабістыя вершы яскрава сведчаць пра тое, што ў самыя суровыя часіны жыцця творца можа ўкласці ў пейзажныя радкі глыбокі ўнутраны сэнс. 30-я гг. былі зусім не бясхмарныя для Я. Коласа: паэта цкавалі ў друку, на яго была заведзена справа, у якой прад'яўляліся шматлікія палітычныя абвінавачванні, ён цяжка перажываў арышт матчынага брата — Язэпа Лёсіка... У К. Буйло арыштавалі мужа. Як жонка «ворага народа» паэтка зведала людскую адчужанасць, разам з сынам перажыла шматлікія выпрабаванні і пакуты.

З асенніх песень, напоўненых светлым сумам і тугою, пачыналася як паэтка Наталля Арсеннева. Зімовыя замалёўкі пачатку 20-х гг. «Зімовы ранак» і «Сняжынкі» таксама прасякнуты замілаваннем да хараства прыроды, у іх адчуваецца лёгкая душэўная ўзрушанасць. Аднак паступова ў яе лірыцы, асабліва ў 30-я і ваенныя гады, восеньскія і зімовыя пейзажы набываюць маркотную элегічнасць, а часам і драматычны пафас. Першы снег 1928 г. паэтка ўспрымае меланхалічна, з пачуццём унутранай дысгармоніі:

сыпкіх гурбаў намёў, перайначыў
свет, хаду нашых чынаў і дзён.
Згасіў зоры й агні, каб зазначыць,
што ўсё ж доля — не казка й не сон.

У параўнанні з восеньскімі песнямі (іх у паэткі больш за 30) тэма зімы ў лірыцы Н. Арсенневай займае невялікае месца (каля 15 вершаў). Аднак зімовыя малюнкі арганічна дапаўняюць восеньскія, яны працягваюць матыў «тугі сусветнай» і яшчэ больш падкрэсліваюць абвострана-драматычны характар светабачання жанчыны. Зімовыя

стыхіі ў вершах паэткі 30-40-х гг. паўстаюць як сілы, што з няўмольнасцю апаноўваюць свет, мяцежна скаланаюць яго і бунтуюць супраць чалавека. У вершы «Завея» 20 дзеясловаў руху ярка перадаюць магутнае трыумфаванне стыхіі. Пейзажы паэткі працяты холадам, безжыццёвасцю колераў: «Зноў сінее зімовая далеч, / зноў зяленяцца змрокі, як лёд, / і гарыць парпуровай эмаляй / няжывы і халодны заход...» («Новая зіма»). Прастор ахутаны змрокам: «нізка, нізка сівыя хмары / над зямлёю ціхой клубяцца» («Завея»), «Змрок зімовы калышацца нізка / па лагчынах, сівых хвайнікох» («Зімовая ноч»). Зімовая часіна чужая і нялюбая, бо яна духоўна і псіхалагічна прыгнечвае: «Што зіма — пазнаю не па беллі галля, / а па тым, што ў душы маёй мова маўчання» («Зімою»), «...і на сэрца жывое кладзецца / пыл лядзяны гусцей а гусцей» («Новая зіма»), Зіма, як і позняя восень, выклікае ў Н. Арсенневай самыя адмоўныя эмоцыі, яна абуджае настальгію па сваёй любімай пары — залатой восені. Верш «Зімою», напісаны ў 1935 г., красамоўна сведчыць:

Не люблю я, не ўмею падкаджваць зіме,
красавацца на шыбах зімовай шыпшынай,
пакуль холад зімовы дарэшты задзьме,
мае думкі й парывы апошнія спыніць.

Што гэта: выяўленне ўнутранай неўладкаванасці, духоўнае супрацьстаянне абставінам жыцця? Самасцвярджэнне чалавека сярод суровых стыхій свету? Мусібыць, і тое, і другое. А цяжкага і драматычнага на долю Н. Арсенневай выпала нямала, пра што мы даведваемся з кнігі Л. Пранчака «Беларуская Амерыка» (1994): «Больш як 15 год мне давялося жыць на чужыне, у Заходняй Польшчы»; «1939 год палажыў канец майму спакойнаму, але аднастайнаму жыццю. ...Я ж із сынамі, пасля рознае цяганіны, апынуліся ў г. Вялейцы, адкуль мы й былі вывезеныя бальшавікамі ў Казахстан напачатку красавіка 1940 г.» і інш.

Паэзія 20-30-х гг. істотна паглыбіла эстэтычнае асваенне нацыянальнага зімовага пейзажу. У чым жа яго прывабнасць, адметнасць? Якія найбольш характэрныя рысы паэтыкі беларускай зімы гэтага часу?

Свет зімовай прыроды ў паэзіі Паўлюка Труса паўстае як свет казачнасці, квяцістасці, настраёвай музыкі бомаў: «Таполі ў наквеці сівеюць, І нікнуць бомы за сялом», «сузорныя марозы Чароўны выткалі ўзор» («Зіма... І золкія завеі...»), «снегавы вянок», «І цвіце на вішнях снежная ўрачыстасць» («Дзесяты падмурак»). Снег абуджае ў душы паэта радасць, а заснежаная прырода бачыцца велічнай, адкрытай для вока і душы. «Люблю аснежныя раўніны і беларускую зіму!» —

выказвае паэт сваё захапленне зімовымі краявідамі, якія ён жывапісуе з шырынёй вобразнай фактуры, пластычнасцю, эмацыянальна-псіхалагічнай экспрэсіўнасцю.

Хараство зімовага пейзажу мовай яркіх вобразнавыяўленчых сродкаў раскрылі Тодар Кляшторны, Міхась Чарот, Сяргей Дарожны, Уладзімір Хадыка, Аляксей Коршак... Паэтычнае адкрыццё зімы было б немагчымым без разгорнутых маляўнічых метафар, метафарычных эпітэтаў: «Пчолы ледзяныя кружацца ў галлі, Кружацца раямі, сыплюцца на дол» (Т. Кляшторны. «Белыя паляны, белыя гаі...»), «Лістоў кляновых чырвань-раны Забінтаваны ў першы снег» (А. Коршак. «Першы снег»), «Ў палях снягоў сярэбраная ціша Асела белаю і звонкай сівізной» (С. Дарожны. «Зіма») і інш. Беларускі зімовы пейзаж нельга ўявіць без паэтызацыі вясковых краявідаў, спеву-пераразвону бомаў і, асабліва, без шпаркага бегу коней па зімовых прасторах: «Прастор балот зімою соннай Люблю санямі разухабіць» (М. Чарот. «Балотам снежным праз сасоннік»), «Імчацца коні... А бомы ўсхліпваюць да слёз...» (П. Трус. «Зіма... І золкія завеі...»), «Люблю я ранідаю звонкай, Запрогшы быстрага каня, Імчацца ў лес, наперагонкі З далёкім воблакам з паўдня» (П. Глебка. «Зіма») і інш. Лёгкасць, раскаванасць рытмікі, дзеяслоўныя паўторы ў вершы «Шляхам зімнім» М. Чарота надзвычай выразна перадаюць імклівую язду, а гукавая інструментоўка на с стварае ўражанне спеву-свісту саначных палазоў: «Сенажацямі, лясамі, За санямі сані самі Сцелюць, сцежку. Сцелюць сцілем».

Разгон, шпаркі лёт коней узбадзёрвае душу, збуджае ў ёй жыццялюбныя парывы, смелы выклік зімовым стыхіям: «У такім аснежаным разгоне Не страшны замеці й мароз!..» (П. Трус. «Зіма... І золкія завеі,..»), «І крыкнуць гучна завірухам, Што ў хвалях белых не загіну» (М. Чарот. «Балотам снежным праз сасоннік»). Непаўторны бляск зімы перадаецца, як правіла, праз паэтызацыю белага і сіняга колеру. Хоць, напрыклад, у С. Дарожнага выяўляецца і нязвычнасць колеравага ўспрымання: «Палае снег барвовістым агнём...» («З1ма»). У люстэрку пейзажнай паэзіі выяўляюцца самыя розныя фізічныя ўласцівасці і праявы зімовай прыроды: парыпванне снегу, сцюдзёнасць паветра, сцішанасць зімовага лесу... Згадаем хаця б цудоўны музычны жывапіс снегападу на пачатку паэмы П. Труса «Дзесяты падмурак»: «Падаюць сняжынкі — / дыяменты-росы...» Зімовы пейзаж ва ўсіх яго праявах захапляе і Алеся Гурло, які паказаў сябе натхнёным жывапісцам зімы: «Сцішыўся лес і спіць нядбала...» («Лес зімой»), «Ноччу марознаю з зорамі яснымі...» («Ноччу марознаю»), «Сцеле снег свае белыя кроены», «А мяцеліца снежыць і снежыць Легіёнам срабрыстых пялёстак» («Завіхалася мяцеліца»), «Крышталяцца срэбрам

дрэвы» («У марозную ноч»). Любімы яго колер — серабрысты. Але асабліва часта паэты сузіраюць прастор зімовых палёў, балот, лугоў, адкрытасць далягдядаў, іх чысціню: «Палі бялеюць, як паркаль» (П. Глебка. «Зіма»), «Даль беласнежная Вабіць і радуе», «Звонам Сцюдзёным Наліты прастор» (А. Александровіч. «Мяцеліца»), «Прастор балот...», «Плыве па белым акіяне» (М. Чарот. «Балотам снежным праз сасоннік»). Тыпова беларускімі адзнакамі зімовага пейзажу з'яўляюцца шэрань ды туман: «У зыбучай шэрані заснулі хутары... А там снягі...», «І ў кволай шэрані / бары хіліў туман» (П. Трус. «Сцежкі»).

У зімовай паэзіі 20-30-х гг., як мы пераконваемся, відавочныя дзве выяўленчыя тэндэнцыі. Першая з іх звязана з успрыманнем зімы як суровай і магутнай разбуральнай сілы. Зімовыя стыхіі тут становяцца алегарычным увасабленнем часу і эпохі. Другая дамінантная рыса зімовага жывапісу — паэтызацыя навакольнай прыроды ў яе нязвыклым, непаўторным пераўвасабленні. І ў стыхійным бурным зімовым пейзажы, і ў сузіральных прыродаапісаннях выразна праступаюць пранікнёныя аўтарскія думкі і пачуцці-настроі.

У заходнебеларускай паэзіі вобраз зімы набывае антынамічнае гучанне ў адносінах да тэмы-вобраза вясны, якая, як мы памятаем, выступае алегорыяй нацыянальна-вызваленчага руху. У мастацкім светаўспрыманні Максіма Танка вобразы лютай буры і ветру, зімовага сну, глыбокага снегу ўвасабляюць пакручасты лес Бацькаўшчыны, скаванасць, цяжар духоўнага быцця: «Шалее буры снежны накіп, І не відаць дарожных знакаў. Што змоўклі, гледзячы ў туман? Ці, можа, страшыць ветру гул...» («Такая лютая зіма!..»).

Для лірыкі ваеннага часу ў адлюстраванні зімы не характэрна жывапісная пейзажнасць. Аднак зімовыя матывы і вобразы ў ёй сэнсава значныя. Зіма і яе стыхіі становяцца алегорыяй бяды, ліха, што прынесла вайна. Свет апынуўся ў абладзе злых сіл: «Сцюжу наслала на ўсё Лютая гэта зіма!» (П. Броўка. «Роднае»). «Ніхто між нас зіме не рад»,— выказвае адносіны да гэтай пары Анатоль Астрэйка ў вершы «У дарозе», нагіісаным у 1941 г. Паэт не любіць надакучлівую мяцеліцу, зімовыя ночы, якія трывожна адгукаюцца ў ягонай душы. Родная зямля, усё жтвое закаваны ў няволю, палон, і таму А. Астрэйка так горача вітае вясновую часіну, калі «рве зімовыя путы прырода» («Ідзе сакавік па зямлі»); паэт усім сэрцам узрадаваны, што «Паклікала сонца вясну, Дало ад цяпла ёй ключы. Кранула зімы цаліну...» («Ідзе сакавік па зямлі», «Сканала вайна»). Зіма, выпрабоўваючы чалавека на жыццястойкасць, не змагла адабраць у яго веру ў будучыню. «Праз дым баёў у зімняй стыні Нам подых чуецца вясны...» —такую франтавую занатоўку робіць паэт Аляксей Зарыцкі («З

паходнага блакнота»). Ваенная зіма Пімена Панчанкі з чорным снегам. Белы снег у спаленай вёсцы здаецца паэту недарэчным убранствам: «Не сыпцеся, снежныя кветкі! Убранства не просяць руіны» («Палескі напрамак»).

Беларуская зіма з яе моцнымі маразамі, сцюжамі, глыбокімі снягамі стала надзвычай цяжкім фізічным выпрабаваннем для ворага. Зімовая стыхія і палохае, і знясільвае нямецкага вартавога ў вершы Максіма Танка «У завею». «Разгневаны буран» тут, як падаецца, увасабляе сілу народнага гневу. Ствараецца ўражанне, што сама прырода змагаецца з ворагам. У ваеннай лірыцы М. Танка можна вылучыць матывы, якія складаюць кліматычны «партрэт» беларускай зімы: крылатыя бураны, снежныя віхуры, мароз, што косці праймае. Беларус загартаваны зімой, таму на снег, завеі, холад ён рэагуе натуральна, як на звыклыя рэчы, чаго, зразумела, не скажаш пра немцаў. Цікава ў гэтым сэнсе параўнаць малюнкі беларускай і нямецкай зімы ў лірыцы Н. Арсенневай. У пейзажных вершах, напісаных у гады вайны на Беларусі, «Мяцеліца па аселіцах нема галосіць» («Мяцеліца»), «галосіць снег» («На прадвесні»). З зімовага эцюда «Снежань на чужыне», што з'явіўся з-пад пяра паэткі ў 1944 г., нямецкая зіма паўстае не такой, як на радзіме: маласнежнай, без вялікіх гурбаў і марозаў. На Беларусі «Снежань... пабелены да дна / серабранаю завеяй», а там, «калі й прыжджэш, рады ў гады, / як мяцеліцы — / дапраўды, жалю варта!» Больш марознай і мяцелістай паўстае зіма 1945 г. у вершах «Першы снег», «Снежань». Аднак гэтая пара здаецца паэтцы падманлівай і трывожнай.

Перафразуючы Алеся Разанава, беларуская паэзія «спавядаецца перад снегам» («Снег»). Можна нават гаварыць пра тое, што нашы сучасныя паэты стварылі культ снегу, склалі яму сагтраўдны гімн. Снег паэтызуецца як хараство, чысціня, казачнае дзіва. У паэта Ніла Гілевіча ён абуджае тонкую музыку слова, імкненне растварыцца ў кожнай выяве зімовага цуду. Белы колер снегу дакладна перадае свята паэтавай душы і навакольнай прыроды: «І ляжыць ён на дварах, На парканах, на дрывах — Чысты-чысты» («Цуд тварыўся — я праспаў...»), «Белыя крышацца хмаркі ўгары. Сосны захутаны ў белыя шалікі. Белая мітусь у белым бары. Белая, мяккая ціша няхрусткая...» («Белыя сыплюцца долу крышталікі...»). У «Баладзе снегу» Алега Лойкі чуецца музыка высокага духоўнага быцця. Снег нараджае ў паэтавай душы стан глыбокай знітаванасці з Сусветам, філасафічнасць адчуванняў. Экспрэсіўнымі музычнымі і жывапіснымі фарбамі малююць снег Данута Бічэль-Загнетава ў вершы «Снег», Генадзь Бураўкін у сваёй «Снежнай імпрэсіі» і інш. Рознакаляровым бачыць

снег Максім Танк і звязвае з ім асаблівы пачуццёва-духоўны сэнс («Колер снегу»).

Снег, зіма — свята дзятвы. Невыпадкова паэт Анатоль Астрэйка падабраў для азначэння зімы эпітэт «вясёлая» («Вясёлая зіма»). Янка Сіпакоў з адухоўленай фантазіяй малюе краіну Сінягорыю, якую нібыта прывозяць на санках («Сінягорыя»), «А снег — у кожнага ён свой...» — сцвярджае Аляксей Пысін («А снег — у кожнага ён свой...»). Ва ўспрыманні паэта снег — памяць пра перажытае, споведзь і ачышчэнне душы: «Мой снег, як свет, як лес багаты...» Аснежаная прырода выклікае ў яго адчуванне першароднасці быцця: «Першабытны іней. Снег няталы. У белых прававдах стаіўся час; Быццам людзі ў космас не ляталі...» («На лугах зіма туманы сушыць...»). «Свет зімы» А. Пысін жывапісуе з яркай уражлівасцю, вобразнай каларытнасцю: «Белы снег — рыгіучая бяроста На маім жывым мацерыку» («Зімні вецер — ветразь палатняны...»).

У Анатоля Грачанікава снег — сімвал чысціні Беларусі. Для яго «белы снег, Нібы чыстае сумленне, Нібыта светлае збавенне» («Над Белай Руссю»). Святло снегу ўлівае ў паэтава сэрца духоўныя сілы, радасць быцця.

Вобраз снегу для творцы ўвасабляе перш за ўсё ідэальна-духоўную існасць свету. Да яе, нібы да нечага вышэйшага, Боскага, імкне лірычнае слова: «У белы свет адкрыты дзверы Для азмрачнелае душы» (М. Стральцоў. «Першы снег»), «Проста хочацца да болю Першароднай чысціні, Незапэцканай рукамі, Што з душы здымае грэх...» (А. Пісьмянкоў. «Ты адбі мне тэлеграму...»), «...У душу маю Чысціня заходзіць найглыбока, Калі ў тым, каго не пазнаю, Уяўляю светлага прарока» (У. Марук. «Снег ды снег...»). Снег — нібы апірышча душы, яе ратунак і надзея: «Снягі — над усёй мітуснёй...» (У. Някляеў. «Снягі»).

Паэтычны зімовы жывапіс сярэдзіны — другой паловы XX ст. шматфарбны. Тут ёсць літаральна ўсе мадыфікацыі пейзажу: прасторавыя, часавыя, тэматычныя. Інакш кажучы, у пейзажнай лірыцы мы знойдзем малюнкі зімовага поля, лесу, ракі, неба, марознай раніцы і вечара, халодных месяцаў года, зімовай цішы і буйства стыхій... Напрыклад, разгорнуты нацыянальны зімовы пейзаж ярка выпісаны пэндзлем Максіма Танка ў вершы «Зіма». З жывапіснай дэталізацыяй узнаўляе раннюю зімовую часіну Сяргей Грахоўскі: «Закітуе вокны зранку, Ссячэ капусту дацямна...», «І сокам спелае рабіны Палоску ў небе правядзе» («Зіма»). Тонкімі акварэльнымі фарбамі намалявана зімовая пара ў пейзажных радках Міколы Хведаровіча: «Стаяць у цёплых шапках хаты,— Абліты месячным святлом» («Зіма»). Зімовы лес нараджае спавядальную песню ў душы Веры Вярбы («Песня зімовага

лесу»). Замалёўку вечаровага часу з лёгкасцю, бадзёрасцю рытму стварае Алесь Ставер: «Снег блішчыць, зіхаціць Срэбным колерам, Павявае мароз Свежым водарам» («Зімні вечар»). Выкшталцаваная інструментоўка радка ў вершы Юркі Голуба «Ад'езд» перадае вібрацыю гуку ў настылым марозным паветры: «Бы цэбар, гулкае надвор'е. Як свісне полаз у Задвор'і, То свіст да Зэльвы далятаў».

Зіма і каханне — тэмы, узаемазвязаныя ў паэзіі здаўна (згадаем лірыку У. Дубоўкі, Н. Арсенневай, С. Дарожнага). Матыў вясельнай зімовай язды на конях асабліва часта гучыць у лірыцы 50-70-х гг.: «І наўзбоч на снег зіхатлівы З падкоў вылятаюць цвікі» (С. Гаўрусёў. «Зіма запрагла сваіх коней...»), «Няхай імчаць нас коні самі Бялюткім берагам ракі!» (Р. Баравікова. «Зімовыя настроі»). Каханне зімой для гераіні Р. Баравіковай «дачаснае, няшчаснае...» («Мяцеліца»). І ўсё ж яе душа палка гарыць на марозе, самазабыўна кахае. Гэта ўжо потым чуюцца журлівыя расчараванні, дакоры зіме, якая прыносіць расстанне, тугу. Своеасабліва ўспрымае снег закаханае сэрца жанчыны ў вершы Нэлі Тулупавай «Снег ідзе...». Гераіня просіць засцерагчы шлях «па вастраку лютага... да любага» ад зайздрасці. Застацца без каханай — значыць жыць у зіме. Так пачувае сябе герой Сяргея Законнікава («Зіма»).

У нашай паэзіі дамінуюць вясковыя зімовыя краявіды. Гарадская зіма займае менш прыкметнае месца, у прыватнасці, яе выявы мы сустракаем у вершах Міхася Стральцова («Снежань»), Анатоля Вялюгіна («Снежань»), Людмілы Рублеўскай («Гарадская зіма»), Галіны Булыкі («У горадзе снежань...») і інш. Для Л. Рублеўскай зіма становіцца таксама падставай для роздумаў пра наш «час халадоў», людскую адчужанасць.

Сваё сэнсавае вымярэнне тэмы зімы ў Ларысы Геніюш. Пейзаж стаў для паэткі своеасаблівай эзопавай мовай. З халоднай часінай года яна звязвае неспрыяльны сацыяльны час, духоўны ўціск, прыгнечанне асобы. Вобразы марозу, лютага холаду, мяцеліцы, па сутнасці, увасабляюць цяжар, драматычны лёс самой паэткі. Менавіта пра гэта красамоўна сведчаць вершы «Люты», «Мароз», «Зіма. Мароз кусаецца...» са зборніка «На чабары настоена» (1982). Л. Геніюш іншасказальна, мовай падтэксту малюе сілу-моц тых грамадскіх абставінаў («Холад люты да касцей праймае, / аж за душу лапамі бярэ»), якім не скараецца ейнае сэрца, поўнае нацыянальнай годнасці: «Беларусы мы як-ніяк, Нас сцюжам не адужаць!!!»

Як злую, неспагадную сілу ўспрымае мароз Анатоль Сербантовіч. У вершы «Мароз ударыў нечакана...» тонка перададзена балючае пачуванне творцы ў свеце. Калі Л. Геніюш звязвае надзею на лепшае з

вясною, то А. Сербантовічу «горка думаць аб вясне». Увогуле, з зімой звязваюцца розныя канцэпцыі быцця, якія знаходзяць адлюстраванне ў вершах «Сакавік у студзені» Эдзі Агняцвет, «Зімняе сонца» Васіля Зуёнка, «Зіма — ды ні снегу, ні лёду...» Сцяпана Гаўрусёва, «Выплывае ў марознае ранне...» Віктара Гардзея і інш. Завея ў С. Грахоўскага, напрыклад, абуджае боль пра незваротнасць часу («Белакрылыя коні»).

Сучасная беларуская паэзія працягвае ствараць адметную філасофію зімы. Бо вобраз зімы мае не толькі канкрэтна-пейзажнае адлюстраванне, але і змяшчае ў сабе шматмерны абстрактны і асацыятыўны сэнс. Інтэлектуальна-медытатыўнае спасціжэнне зімовых праяў ярка выяўляецца ў паэзіі Алеся Разанава. У вершы «Зіма» паэт арыгінальна высвечвае сэнс паняцця «зіма»: «Беларуская зіма — зямля, усланая небам». Гэтая пара года паўстае тут у суаднесенасці са словам «зіма» ў іншых мовах, у кантэксце асацыяцый, звязаных з вытлумачэннем зімы як з'явы прыроды і быцця ўвогуле. Філасофскай роздумнасці, маштабнай раскаванасці думкі ў асэнсаванні прыроды А. Разанаў дасягае ў версэтах «Снег», «Завея», «Лёд». Кожная з зімовых праяў атрымлівае ў свядомасці паэта своеасаблівую перспектыву ў часе і прасторы. Завею ён успрымае як «белае беспрасвецце», у якім блытаюцца часы («Завея»). Паэт штрыхамі-накідамі паказвае фізічныя ўласцівасці замерзлай вады («Лёд літы, чысты, празрысты...»), «геаметрычна» вымярае прастору ледзяного покрыва і разам з тым нібы адшуквае патаемны сэнс таго стану прыроды, калі «ахоўваецца ўсё жывое ад лёзаў / марозу і лютасці холаду» («Лёд»).

Па-свойму абмалёўвае вобраз снегу малады паэт Юрась Пацюпа. Ён дае розныя вызначэнні снегу, снежнага краявіду: «снег, абрынутая звонку / панлейкемія, антыкроў», «Я разумеў: снег — гэта мова, свабоды негасаны ліст», «прыпынены гадзіннік вечны, спакойнай радасці пасеў» («Снег»). Снег, як бачым, натурфіласофская з'ява, якая выклікае ў паэта светапазнавальны роздум, імкненне вытлумачыць бяскрайнасць зімовага прастору.

Сёння вобраз зімы набывае і глабальны сімволікаалегарычны сэнс. Пасля шматлікіх экалагічных бед, чарнобыльскай атамнай катастрофы перад нашым народам і ўсім чалавецтвам асабліва востра паўстала праблема выжывання. Ядзерная зіма — гэта пагроза ўсясветнага тэрмаядзернага знішчэння: «Вы чуеце: Ядзерная зіма Планеце ў патыліцу дыхае? І сеецца снег нябачна сяўма...» Гэтую трагедыйнасць касмічнага быцця перадае Рыгор Барадулін у вершы «Клічнік» са зборніка «Самота паломніцтва» (1990). Зімовае небыццё стала ў наш час жудаснай рэальнасцю. Завею ў чарнобыльскай вёсцы паэт Мікола Мятліцкі малюе як з'яву сусветнай значнасці: «З небам

зліласся зямля, Вея шугала, мяла. Снег, як густая імгла...», «Мертва, у снежнай пурзе...» («Завея»),

З-за пацяплення клімату на планеце, пагаршэння агульнага стану экалогіі прырода стала паводзіць сябе непрадказальна: «Завітала зіма. Толькі снегу ні ў полі, Ні ў лесе няма» (А. Пысін. «Зноў з вятрамі паўночнымі...»). Нават студзень і люты, самыя халодныя зімнія месяцы, сталі дажджлівымі, імжыстымі, падобнымі да восені. Напрыклад, не парадавала зіма 1990-га Максіма Танка: «Ні сіверу, ні снегу. Такой зімы — казалі мне — Не помняць Ні векавыя старкі — сосны, Ні лугі, ні рэкі, Ні звяры і птушкі...» («Зіма 1990 года»). Паэты з настальгіяй пішуць пра снег, сумуюць па зімовай казцы, бачаць у бясснежнасці нядобры знак. Снежная зіма, як вядома, на добры ўраджай, а калі няма снегу, то жыць «наканавана ў жабрацкім годзе». Вось як сумна-трывожна перажывае страту зімы Васіль Вітка ў адным са сваіх вершаў: «...і сіротамі сталіся мы, І без сустрэчы, і без праводзін, Без мілай матухны нашай — зімы» («Мы без зімы»).

Такім чынам, зіма — адна з самастойных і значных тэм у беларускай пейзажнай лірыцы. Вобраз зімы, трывала ўвайшоўшы ў сістэму мастацкага мыслення, набыў шматзначную сэнсавую трактоўку. Ён стаў алегарычным і сімволіка-філасофскім увасабленнем гістарычных часоў, падзей, канцэпцый быцця. Праз зімовыя матывы і вобразы лірычнае слова яскрава выявіла драматызм, трагедыйнасць быцця асобы і ўсяго чалавецтва. Беларуская літаратура XX ст. выпрацавала глыбокую паэтычную філасофію зімы, што сведчыць пра яе арыгінальнасць, высокі эстэтычны ўзровень мысленна.

## «АХ, ЯКАЯ ЭКЗОТЫКА!»

Геаграфічныя каардынаты беларускай паэзіі вельмі шырокія: яна адкрыла экзотыку самых розных мацерыкоў і зямель. Паэтычнае краіназнаўства — гэта ўражлівае знаёмства з вялікім светам, унікальнымі ландшафтам, асаблівасцямі клімату, раслiннасці, нязвычнымі стыхіямі. У сістэме мастацкага мыслення, сярод розных тыпаў і відаў пейзажу экзатычны займае даволі значнае месца. Аднак доўгі час «экзатычныя» творы нашых паэтаў заставаліся па-за ўвагай літаратуразнаўства, не звярталі на іх увагу і пры вывучэнні літаратуры. І думаецца, зусім неправамерна. Бо карціны і замалёўкі прыроды замежжа не толькі рассоўваюць геаграфічныя абсягі паэзіі, але і пашыраюць яе мастацка-выяўленчыя далягляды, дапамагаюць больш кантрастна ўбачыць своеасаблівасць нацыянальнага пейзажу. М.

Эпштэйн слушна адзначае, што экзатычны пейзаж «прыўносіць у паэзію тыя эстэтычныя кантрасты, без якіх немагчымыя былі б яе самасвядомасць і самаразвіццё». Экзатычны пейзаж і звязаныя з ім вобразы (мора, горы, пустыня і інш.) склалі ў беларускай паэзіі адметны тэматычна-вобразны пласт, тым самым надаючы яе зместу энцыклапедычны характар. Адлюстраванне экзатычнай прыроды — гэта той від жывапісу, які духоўна і эстэтычна ўзбагачае паэтычнае слова.

Мастадка-пазнавальчы інтарэс да прыроды іншых краін беларуская паэзія выявіла яшчэ ў XIX ст. Янка Лучына ў польскамоўным вершы «Пышны малюнак» (1887) упершыню разгорнута намаляваў каўказскі пейзаж:

Пышны выгляд гор Каўказу!
Там на скалах скал грамада.
Воды снежныя каскадам
Хлынуць, рынуць з рыкам дзікім...
Пада мною — стэп, як мора.
Свет за светам без канца там.

*(Пераклад М. Арочкі)*

У пейзажным малюнку раскрываецца адметнасць ландшафту, хараство і веліч тамтэйшай прыроды. Паэт выказвае сваё адчуванне прасторы, дэманструе яркую каларыстычнасць, вобразную жывапіснасць пісьма. У вершы Я. Лучыны выяўляецца кантраст «экзатычнае — роднае», або, інакш кажучы, «чужое — сваё», які ў далейшым стане тыповым для «экзатычнай» лірыкі. Зачараваны «ў гэтым краю... пекнасцю прыроды», паэт у думках пераносіцца на сваю радзіму, прыгадвае родныя краявіды, з якімі непарыўна знітавана ягоная душа: «Ды за іх — хоць і шаную Цуды ўсе, красу чужую Не аддам усё ж душу я!»

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч звяртаўся да экзатычных пейзажных вобразаў з той мэтай, каб эстэтычна ўзвысіць беларускую прыроду. Таму зусім натуральна, што родная ліпа яму мілей і прывабней за «нрыгожыя ў зямлі Аўзонаў букі і яліны» («З-над Іслачы, або Лскі на сон»). Паэт у вершаванай аповесці «Славяне ў XIX стагоддзі» звяртаецца да вобраза Дунаю, стварае невялікую пейзажна-гістарычную замалёўку.

Актыўнае станаўленне і развіццё экзатычнага пейзажу ў беларускай паэзіі прыпадае на 10-20-я гг. нашага стагоддзя. Алесь Гурло — пачынальнік марыністычнага пейзажу. Тэма мора ў яго творчасці невыпадковая, бо яму давялося служыць на Балтыйскім флоце. Нізка вершаў пра мора была наватарскай. А. Гурло пераважна паказвае

мора як неспакойную і грозную стыхію, у якой паэта захапляе вечная воля, моц, раздолле:

О, мора, люблю я тваё сваяволле,
Люблю тваю буру і ціхую гладзь!..
*(«Мора»)*

З эмацыянальна-вобразнай раскаванасцю малюе паэт разгул марской стыхіі ў вершы «Шторм», дасягае пры гэтым напружанай дынамікі мовы, уражлівай рытміка-інтанацыйнай арганізацыі радка. Заключная страфа твора прасякнута медытатыўнасцю думкі: «Між пометы зла тут ёсць ахова: Тут розум вечнасці жыве!»

Я. Купала адным з першых адкрываў экзотыку Крыма. «Нязведанай казкай» называе паэт паўднёвы край у вершы «Крым» (1923). Я. Купала выказвае сваё любаванне з душэўнай узрушанасцю, суадносіць экзатычныя выявы з элегічнымі думкамі пра Беларусь. У 1926 г. замалёўка каўказскай прыроды нарадзілася пад пяром А. Александровіча («Раніца на Каўказе»). Асабліва значная роля ў распрацоўцы каўказскага пейзажу належыць З. Бядулю (цыкл вершаў «Каўказ»). Паўднёвая экзотыка знайшла адбітак у творах М. Хведаровіча, У. Хадыкі і інш. Стварыць экзатычныя пейзажы марылі Я. Пушча і У. Дубоўка, аб чым сведчыць С. Плашчынская, жонка Я. Пушчы: «...Язэп кажа мне, што яны дамовіліся з Адамам (А. Бабарэкам.— А. Б.) і Дубоўкам паехаць на тыдні тры на Каўказ, Крым, паглядзець мора, горы, падзівіцца на красу гэтага краю». Аднак неўзабаве паэты зведалі суровы лес сталінскіх вязняў, былі высланы за межы Беларусь Гэтыя, а таксама іншыя паэты, апынуўшыся на Поўначы, у сібірскай тайзе, перажылі нечалавечыя пакуты. Але разам з тым засталіся людзьмі, не страцілі здольнасць тонка бачыць хараство прыроды, адгукацца на яе жыццё. Так беларускую паэзію папоўніў цэлы шэраг нязвычных пейзажных вобразаў: тайгі, тундры, паўночных рэк і азёр... «Пад небам тундры і тайгі» нарадзіліся прыродаапісальныя замалёўкі У. Дубоўкі, Я. Пушчы, А. Александровіча, М. Хведаровіча, В. Супруна, Л. Геніюш і інш.

Паэтычная нізка Алеся Звонака «Паўночнае ззянне», створаная ўдалечыні ад радзімы, запамінальна раскрывае свет Поўначы. Клімат тут суровы, халодны, завейна-марозны, краявіды — заснежаныя, з мноствам сопак, прырода наогул — дзікая, таемная і чароўная сваёй першароднасцю:

Тут царства ўсеабдымнай цішыні.
Тут месяц нежывы павіс над сопкай.
Не цепляцца прыветныя агні.
Марозам закаваны далячыні.

Сінее скрозь маўклівы стылы снег.
О край суровы! Дзікія лагчыны
Сняць сны аб гулкай сонечнай вясне.
*(«Няма на карце свету гэтай кропкі...»)*

Скразны ў вершаванай нізцы вобраз-матыў тайгі. Паўночны лес захапляе першабытнай цішынёй, велічнай неабсяжнасцю. Сваёй жыццястойкасцю ўражвае паэта кедр — «жыхар тайгі, уладар бясконцых сопак» (верш «Сланік»). Спакутаванаму і чуйнаму чалавечаму сэрцу жадаецца ісці насустрач «сонцу праўды і жыцця». Пейзаж псіхалагічна дакладна перадае цяжкі ўнутраны стан паэта: «З месячных ніцяў саткана Поўначы срэбная муць. Сопак панурыя здані Пільна мяне сцерагуць» («Белая птушка»).

У 30-50-я гг. развіццё «экзатычнай» лірыкі, як і наогул тагачаснай паэзіі, істотна замарудзілася. Адзіным выключэннем тут, бадай, стаў цыкл вершаў П. Панчанкі «Іранскі дзённік» (1944). Мастацкае асваенне этнапрасторы і прыроды іншых краін магчымае толькі пры шырокіх, шматлучных сувязях з усім чалавецтвам. Сумны вопыт савецкай гісторыі засведчыў: калі сфера кантактаў з вялікім светам парушаецца, абмяжоўваецца, то дэфармуецца культуралагічная аснова быцця, а, урэшце, звужаецца духоўна-вобразнае поле паэзіі, змяняюцца каардынаты яе светаадлюстравання. Маштаб мыслення становіцца правінцыйны. Перапынак, запаволенасць у развіцці экзатычнага паэты чнага пейзажу напрамую звязаны з ваяўнічай ідэалогіяй нядаўняй дзяржаўна-палітычнай сістэмы. За мяжу траплялі лічаныя творцы, ад якіх пасля паездак «родная савецкая ўлада» чакала пафаснага выкрыцця «сусветнага імперыялізму», а не маляўнічых пейзажных карцін. На гэты конт дасціпна выказаўся ў вершы «Дыярыуш майго адкрыцця Амерыкі» (1994) Сяргей Панізнік:

Закрыць Амерыку хацелі
жгутом цэкоўскае кудзелі.
Быў рады кожны літаратар
слязу пусціць, як алігатар...

Тым не менш таленавіты мастак слова застаецца мастаком: яго душа і сэрца не могуць не рэагаваць на здзіўляючую красу, непаўторнасць свету. М. Танк, П. Панчанка, К. Кірэенка, П. Броўка, Р. Барадулін, А. Лойка, В. Лукша і іншыя беларускія паэты ў другой палове XX ст. надалі экзатычнаму пейзажу шматпланавае, шматграннае развіццё, глыбокую вобразна-жывапісную выяўленчасць.

Мора сярод іншых экзатычных вобразаў займае ў нашай паэзіі самае прыкметнае месца. 132 вершаваныя творы прысвечаны гэтай прыроднай стыхіі, прычым найбольш шырока яна адлюстравана ў

сучаснай паэтычнай творчасці. Цяга да мора ў паэтаў модная і неадольная: «Сюды мяне змалку і клікаў і вабіў Бязмежны, жывы, неспакойны прастор» (С. Грахоўскі), «Я да цябе здаўна імкнуўся У часе радасці ці скрух» (С. Дзяргай), «Мора — мая мара» (Н. Загорская). Зрэшты, многія людзі сведчаць, што імкненне пабачыць мора было ці стала іхняй асаблівай марай ці надзвычай вялікім жаданнем. Разам з тым стыхія вады не чужая беларусу, ён здольны добра адчуваць і разумець мора: «І ўспомняцца рачулкі перасохлыя, Што навучылі мора разумець» (А. Пысін. «Знаёмства з морам»), Ці не таму Пятрусь Броўка так тонка пранікае ў сутнасць гэтай прыроднай стыхіі-з'явы, перадае музыку марскіх хваляў. Дынаміка рытму, гукавыя сугуччы рухаюць верш:

Хвалі, хвалі ў сінім дыме
Як шапочуць,
Як гудуць —
Коньмі чорнымі, сівымі,
Белагрывымі завуць.
Хто іх гоніць, хто ўладарыць,
Можа, вецер-буй
Здалёк,—
То падымуцца да хмараў,
То рассцелюцца, як шоўк.

*(«Мора»)*

Спатканне з Чорным морам для лірычнай гераіні Ніны Загорскай прынесла адкрыццё цуду, духоўную лагоду, новае вымярэнне прасторы:

Мора — не проста мора.
Мора — жывы прастор.
А можа, дарога жывая
Да неадкрытых зор...

*(«Мора мая мара»)*

Чорнае мора цесна звязана з вобразам Крыма, яны часта суседнічаюць побач (вершы У. Караткевіча «Дзве вады», С. Гаўрусёва «На крымскіх камяністых берегах...», К. Камейшы «Гледзячы на мора», «Калі мы з морам удваіх...» і многія іншыя). Крымскі пейзаж у паэтычным адлюстраванні — гэта цёплае, пеністае мора, шчодрае сонца, кіпарысы, якія глядзяць у мора, скалісты краявід.

І ўсё ж мора паказваецца паэтамі пераважна як неспакойная і бурлівая стыхія: «А хвалі зноў нясуцца шквалам — Самазабойства і азарт! — Каб зноў і зноў з адвесных скалаў У мора кінуцца назад» (У. Лісіцын. «Глядзяць у мора кіпарысы»). Адным з самых апантаных

беларускіх песняроў марской стыхіі трэба назваць Хведара Жычку. Тэма мора для яго, можна сказаць, была прадвызначана лесам: доўгі час будучы паэт служыў иа Балтыйскім флоце. Балтыка ў пейзажных замалёўках Х. Жычкі раскрываецца як неспакойная, бунтоўная і надзвычайная стыхія: «На моры не бывае цішыні. Гайдаецца зялёнае бязмежжа...» («Марскі санет»).

У параўнанні з морам, да вобраза акіяна нашы паэты звярталіся менш. Але гэты пейзажны вобраз набыў у беларускай паэзіі важкае ідэйна-канцэптуальнае гучанне. У Аркадзя Куляшова рака Беседзь, сімвал радзімы і паэзіі, паўстае суадносна з акіянам — светам вялікім, агульначалавечым: «...Свет жывы тваіх глыбінь, схаваных пад вадою» («Не злуйся, акіян, калі патраплю...»). Агромністы акіян нагадвае паэту пра свае вытокі: «Як быццам я плыву не акіянам, А Беседдзю — жаданаю ракой» («Стаю і з пачуццём неўтаймаваным...»). Акіянскі пейзаж здаецца паэту «вякоў калыскай», тут, пасярод магутнай стыхіі, ён адчувае сябе дзіцем вады, вечнасці. Акіян аказаў на мастгцкую свядомасць А. Куляшова моцкае ўздзеянне, пр . што асабліва красамоўна можа пасведчыць паэма «Цунамі» (1968).

Варта паслухаць паэтычныя размовы з акіянам і такіх паэтаў, як П. Панчанка, М. Танк, П. Броўка, Р. Барадулін, В. Макарэвіч і інш. Велічнасць і бяскрайнасць акіянскага прастору, магутная і грозная стыхія хваляў выклікала ў іхніх сэрцах незабыўныя ўражанні:

Здаецца, зліліся і долы і выш,
Ні чоўна, ні чайкі не стрэціш,
Усюды раве ён, куды ні глядзіш,
Як быццам адзіны на свеце.
*(П. Броўка)*

З салёнай пенай на губах
Яго Шаленства Ціхі,
То зложыць крылы — кволы птах,
То б'ецца парадзіхай.
*(Р. Барадулін.)*

Між тым трэба сказаць і пра тое, што вобразы мора і акіяна часам увасабляліся і ў алегарычным плане, атаясамліваліся з народам, яго магутнасцю ці гневам. Можна прыгадаць хрэстаматыйны верш Цёткі «Мора». У П. Броўкі вобраз акіяна параўноўваецца з гераічйай славай і характарам народа: «У ласды — велічна-ласкавы, У гневе — грозны і страшны» («Акіян»),

Горы — адзін з самых прыцягальных для паэтаў «экзатычных» вобразаў. Думаецца, не будзе вялікім адкрыццём, калі мы скажам,

што найбольшая ўвага ў паэтычным светаадлюстраванні адведзена вяршыням Каўказскіх шр. «Запаланіў Каўказ»,— прызнаўся паэт С. Шушкевіч, і ў гэтых ягоных словах нібы і заключаны той галоўны пафас адкрыцця і любавання, з якім нашы паэты апісваюць краявіды Каўказскіх гор. Каўказ і горы ў люстэрку паэзіі — гэта сузіранне велічы, незвычайнага і грандыёзнага дзіва прыроды:

Лроблю я вяршыняў магутны натоўп.
Якая ў іх годнасць і веліч!
*(П. Панчанка)*

Снег, як цуд, на хрыбтах каўказскіх
Так і півуўся ў вочы нам!
Як. мы ўсе на яго глядзелі:
Снег, як цуд, зіхатліва-белы.
*(П. Марціновіч)*

Калі мора дае адчуванне шырыні, бясконцасці прасторы, то горы абуджаюць пачуццё вышыні, пасяляюць у чалавеку ўсведамленне нечага рамантычна-высокага і значнага: «...Нам здаецца так, як у жыцці, Самым блізкім перавал высокі, На які нам трэба узысці!» (А. Сербантовіч. «Перавал»). Горны пейзаж у выяўленні нашых паэтаў — не толькі высокая краса, але і ўвасабленне душэўнага ўздыму, незалежнасці, свабоды. У вершы «На Каўказе» Рамана Тармолы-Мірскага трапна і ўдала знойдзены вобразы каменя, які не дрзмле, непакорных дрэў і клінка для адметнай абмалёўкі краявіду і выяўлення духу жыхароў Каўказскіх гор:

Тут камень не дрэмле —
Вісіць ён альбо ляціць,
Аблокі на дрэвах,
І дрэвам — іх скінуць карціць.
Вось дзень нечакана,
Нібыта ляза далячынь,
Клінком гартаваным
Схаваўся ў ножнах начы.

Горы — гэта таксама і магчымасць скіраваць позірк з вышыні, перанесціся ў часе і прасторы: «І на нейкі міг Здалося мне — я ў Індыі далёкай, А не пасярод Каўказскіх гор сівых», «Я ўбачыў праз радзеючую дымку Той край, дзе па-над Нёманам-ракой Ідуць бярозы з соснамі ў абдымку Зялёнаю, шумлівай талакой...» (П. Макаль. «З вяршынь Каўказа»).

У гарах чалавек зведвае і пачуццё далека не рамантычнае. Тут, на горных сцяжынках, дарогах, пераводах, яго падсцерагаюць

абвалы, палохае бездань. Таму памяць так востра згадвае родныя вобразы, радзіму, блізкіх людзей. Выяўленне ў гэткім плане напружанаэмацыянальных адчуванняў, трывожных думак, заклінанняў не можа не ўразіць:

Над самаю кручай віецца дарога,
І мы на шафёра глядзім, як на бога.
*(С. Грахоўскі)*

То раптам тунелі ў мроку, то прорва
дзвюхвёрстая збоку.
А нашы імчацца машыны,
шумна ірвуць кіламетры,
стаптаўшы,
падмяўшы
пад шыны
хмары, вяршыні
і ветры!
*(А. Вялюгін)*

Не менш вартыя разгляду вобразы стэпу, пустыні і вадаспаду. Для «жыхара азёр і рэчак» (А. Астрэйка) стэп і пустыня — нязвычныя прыродныя рэаліі. Пейзажы, звязаныя з гэтымі вобразамі, выяўляюць адметны прыродна-кліматычны стан, іншую форму прасторавага існавання. Шыр, бязмежнасць, пустыннасць, неабжытасць свету — вось што адчуваеш першае, супастаўляючы вершы Аляксея Пысіна «Перакаці-поле» і Валянціна Лукшы «Сахара»:

Не абысці, не змераць поле
Вятрам у самы доўгі дзень.
У полі перакаці-поле
Уласны даганяе цень.
*(А. Пысін)*

Бясконцая, як белы свет, Сахара
На кантыненце вечнасцю лягла.
Узнёсла-засяроджана вярблюды
Шнуруюць жоўць пустыннай цаліны.
*(В. Лукша)*

У нашай паэзіі адносна разглядаемых вобразаў замацаваны таксама наступныя ўяўленні і асацыяцыі. Пустыня — царства жоўтых пяскоў, стэп — «як шэры прысак зямля», ні там, ні тут няма вады, бедная расліннасць. Галоўны ўладар пустыні і стэпу — вецер: «Бо сухавей — Кашчэй сляпкі — У лютасці шалёны» (Р. Барадулін. «Стэпавы

краявід»), «Скуголіў на пустэчах нема вецер...» (В. Лукша. «Дождж у Лівійскай пустыні»). Натуральна, чалавек з іншага прыроднага асяроддзя пачувае сябе ў такіх умовах няўтульна і адчужана. Найбольш маляўніча-ярка раскрыў свет афрыканскай пустыні В. Лукша. Дарэчы, яго няўрымсліваму пяру належыць неардынарная кніга «Агні далёкіх гарадоў» (1992), якую склалі паэтычныя падарожжы па розных краінах і кантынентах.

Беларускія паэты захоплена апаэтызавалі вобраз вадаспаду. Слых М. Танка вычуў, што «граюць струны вадаспада» («Вадаспад Сіклавіца»). П. Панчанку вадаспад бачыцца «з адвагай гарачай, ...велічны ўвесь» («Сустрэча з Ніягарскім вадаспадам»). Сваё адметнае ўспрыманне прыроднай стыхіі ва У. Караткевіча: «Як страшная з нябёс пагрозных кара... Як звоны срэбных крылаў у агні...», «Якая веліч, сіла і... журбота!» («Вадаспад Учан-су»). Вадаспад выклікае ў беларускай душы эмацыянальную ўздымнасць пачуцця.

Пры ўсёй пашане да творчасці многіх паэтаў, хацелася б сказаць, што асабліва значны ўклад у эстэтычнае адлюстраванне прыроды замежжа зрабілі М. Танк і Р. Барадулін — паэты, на творчым рахунку кожнага з якіх больш за паўсотні экзатычных пейзажных карцін, малюнкаў, эцюдаў. У іхніх творах мы сустракаем каларытныя выявы краявідаў Прыбалтыкі, Сярэдняй Азіі і Закаўказзя, Балгарыі, Венгрыі, Чэхіі, Францыі і іншых еўрапейскіх краін, Чылі, Афрыкі, Амерыкі, Японіі, Кітая... У сучаснай паэзіі ідзе адкрыццё самых далёкіх мацерыкоў і краін, у тым ліку і тых, пра якія яшчэ нядаўна пісалася мала або зусім не пісалася. На пярэдні план выйшаў уласна эстэтычны прынцып адлюстравання свету. Так званыя «падарожныя» ці «экзатычныя» вершы пры гэтым яднае даволі тыповы і адметны выяўленчы прынцып: экзотыку адкрывае вока і сэрца беларуса. А. Лойку ў Індыі пальма ўбачылася сястрой нашай папараці: «Разложысты атлас Лістоў-далоняў вострых... Яны віталі нас, Як папараці сестры» («Пальмы»). Зрок Р. Барадуліна таксама праводзіць вобразныя паралелі з родным светам: «Раніца — Шэрая перапёлка Ад расы крыло абтрасае...» («Сустракаю пекінскую раніцу»). Для сённяшніх паэтаў, як падаецца, больш спрыяльныя часы для вандровак, знаёмства з вялікім светам. Таму ёсць падставы гаварыць пра далейшае актыўнае і паўнацэннае развіццё беларускай лірыкі пра прыроду замежжа.

## «ЗЯЛЁНАЯ КНІГА Ў ВОКЛАДЦЫ ЗОРНАЙ»
## (Асноўныя пейзажныя тэмы, вобразы, матывы: частотны паказальнік)

Паэтычная кніга Прыроды, калі яе выдаваць, складзе не адзін вялікі том. Яе поўны змест, пералік твораў зойме дзесяткі, калі не больш за сотню старонак. Але справа ў тым, што творы бываюць розныя: выдатныя, проста добрыя, і ёсць у мастацкім плане не зусім яркія і дасканалыя. Пры складанні нашага частотна-тэматычнага паказальніка ставілася мэта як мага паўней ахапіць увесь змест кнігі Прыроды, яе шматстайную сістэму пейзажных тэм і вобразаў.

Зразумела, колькасны, частотны паказчык можа красамоўна пасведчыць пра галоўныя, сэнсаўтваральныя вобразы ўсёй паэзіі і, у прыватнасці, творчасці нейкага асобнага мастака слова. Так, тэма вясны ў беларускай паэзіі з'яўляецца дамінантнай, па-мастацку значнай: яна налічвае каля 1000 твораў. Ці звернемся да частотнай характарыстыкі вобразаў паэзіі М. Танка. Вясновых вершаў у яго 49. Супаставім гэтую лічбу з колькасцю твораў, прысвечаных паэтам іншым порам года: восень — 42, зіма — 27, лета — 9. Як бачым, тэма вясны ў творчасці М. Танка пераважае, мае важнае сэнсава-выяўленчае значэнне.

Праўда, лічбы лічбамі, але яны не заўсёды даюць вычарпальны адказ на пытанні, якія нас цікавяць. Таму неабходна бачыць, што стаіць за гэтымі лічбамі: лёс і стан душы паэта, мастацкі змест твора, яго пафас, вобразна-выяўленчы каларыт. Кожны мастак слова — гэта індывідуальнасць, і падыходзіць да разгляду ягонай творчасці з пазіцый лічбаў будзе не заўсёды апраўдана. Тым не менш частотная характарыстыка — аснова для цікавых назіранняў, супастаўленняў, пэўных разваг і высноў. Складаючы паказальнік пейзажных тэм, думалася пра тое, што ён дасць матэрыял і накірунак іншым паспрабаваць асэнсаваць духоўна-вобразны змест беларускай паэзіі, індывідуальна-непаўторны свет таленавітых майстроў слова. Хочацца думаць, што да прачытання старонак паэтычнай кнігі Прыроды далучацца найперш тыя, хто сёння з апантанасцю вучыцца ў сценах нашых школ і ВНУ і нераўнадушны да паэтычнага слова, красы роднай зямлі.

Матэрыялам для частотна-тэматычнага паказальніка паслужыў багаты фактычны матэрыял. Распісана практычна ўся беларуская паэзія: намі разгледжана 10 320 твораў звыш 150 паэтаў, імёны якіх уключаны ў біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі» (Т. 1-6. Мн., 1992-1995). Статыстычны аналіз паэзіі беларускай эміграцыі

праведзены асобна. У поле зроку трапілі зборы твораў і кнігі выбраных твораў нашых паэтаў, шматлікія зборнікі, а таксама наступныя выданні: Беларуская дакастрычніцкая паэзія. Мн.: Навука і тэхніка, 1967; Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя. 2-е выд. Мн.: Вышэйшая школа, 1988; Анталогія беларускай паэзіі. Т. 1-3. Мн.: Мастацкая літаратура, 1992; Ростані волі: З заходнебеларускай паэзіі. Мн.: Мастацкая літаратура, 1990; Зорка Палын: Творы беларускіх паэтаў пра чарнобыльскую трагедыю. Мн.: Мастацкая літаратура, 1993; Туга па Радзіме: Паэзія беларускай эміграцыі. Мн.: Мастацкая літаратура, 1992; Ля чужых берагоў: Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменнікаў. Мюнхен: Выдавецтва «Бацькаўшчына», 1955.

Асноўным крытэрыем адбору твора стала яго мастацка-вобразная характарыстыка, разгорнутасць у ім тэмы ці матыву. У статыстычны падлік не ўключаліся вершы з невялікімі пейзажнымі ўкрапінамі. Пэўная цяжкасць узнікала пры вызначэнні жанравай прыналежнасці некаторых твораў, бо нярэдка пейзаж і пейзажныя вобразы суседнічаюць, перасякаюцца, спалучаюцца з іншымі тэмамі і матывамі: садыяльнымі, маральна-этычнымі, патрыятычнымі, экалагічнымі і інш. У такіх выпадках бралася пад увагу мастацка-выяўленчая значнасць у творы вобраза прыроды ці пейзажнага элемента. Калі ж у тэксце абедзве тэмы сэнсава значныя, то вершы патрапілі ў розныя тэматычныя спісы: скажам, на тэму вясны і на тэму раніцы. Не ўключаліся ў падлік творы з выразным ідэалагічным зместам, дзе, да прыкладу, месяц май ходзіць з чырвоным сцягам, а восень паліць кастры рэвалюцыі. Тым не менш паасобныя строфы нясуць мету свайго часу. Пры характарыстыцы частаты вобраза з-за эканоміі кніжнай плошчы не заўсёды, на жаль, названы ўсе аўтары, за што просім прабачэння. Лічба перад імем паэта ўказвае на колькасць твораў на тую ці іншую пейзажную тэму.

Структура размяшчэння тэм і вобразаў падказана самой сістэмай пейзажных і геаграфічных каардынатаў нацыянальнай прыроды і беларускай паэзіі. У раздзеле, прысвечаным краінам свету, экзатычнаму пейзажу, частотна-колькасныя паказчыкі прыводзяцца не заўсёды, паколькі тут ставілася іншая задача, а менавіта: даць інфармацыю пра тое, хто з нашых творцаў паэтычна адкрываў і абжываў ландшафты ды вобразы замежжа.

Частотна-тэматычны паказальнік пейзажных тэм і вобразаў беларускай паэзіі — адна з першых спробаў такога плану. Вельмі каштоўным у гэтым сэнсе прыйшоўся вопыт рускага філолага М. Эпштэйна і нашых даследчыкаў Н. Мажэйкі і А. Супруна, якія ўжо

